Уладзімір Клімовіч

# ТОЙ, ХТО БУДУЕ ГОРАД



ПЕРШАЯ КНІГА ПРАЗАІКА

Уладзімір Клімовіч

# ТОЙ, ХТО БУДУЕ ГОРАД

*Апавяданні*
*Трагедыя-прыпавесць*

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1997

# МУЗЫКАЎ ХЛЕБ

Іграць на вяселлях я пачаў даўно — мусіць, гадоў з дванаццаці. Памятаю, як бацька позняй восенню прывалок аднекуль у хату самаробныя прычындалы. Гэта быў вялікі басовы барабан, увесь у такіх дзівосна павыкручваных металічных штырах. Розныя па дыяметры, форме, даўжыні, яны тырчалі ва ўсе бакі. На гэтыя штыры чапляліся і замацоўваліся талеркі, барабанчыкі з навешанымі на іх бразгатулачкамі, педаль для нагі... Словам, цэлая сістэма, распрацаваная нейкім улюбёным у музыку (або ў грошы) мясцовым энтузіястам-аматарам.

— Болесь спіўся дарэшты. Псуе ўсю музыку. За зіму навучышся барабаніць і з вясны пачнеш з намі граць. Ужо ж добры конь!

Наконт «каня» я не пакрыўдзіўся. Ведаў бацьку: яго хлебам не кармі, а дай пакпіць ці нязлосна пажартаваць.

Зіма на вёсцы — пара адпачынку. Сапраўды, прыйшоў дамоў з працы, управіўся з гаспадаркай — і ты вольны. Часу ў бацькі хапала, і мы рэпеціравалі ўдвух. Ён жа ў мяне стары музыка — змалку прыліп да гармоніка. Па ўсёй ваколіцы ніводзін кірмаш, вечарынка ці скокі не абыходзіліся без яго. Ганарыўся, што аднаго разу па яго прыязджалі ажно з таго боку Ліды.

Доўгімі зімовымі вечарамі я ўладкоўваў пасярод

пакоя барабан, навешваў на яго ўсё неабходнае, выштукаванае майстрам, падсоўваў да напятай скуры булаву, ставіў на педаль нагу і з заміраннем браў у рукі лакава-арэхавыя палачкі... Маці з малодшай сястрой ужо сядзелі на ложку ў чаканні дармовага канцэрта. З печы, выткнуўшы галаву, як шпак са шпакоўні, зырыў брат. Бацька падазрона акідваў усё сямейства вачыма і затрымліваў позірк на мне.

— Як махну галавой — давай!

Ён расцягваў мяхі, выбіраў пальцамі ўступ да полькі і трос чубатай галавой. Гэта было сігналам, і я пачынаў «даваць». Да канца першага калена ў польцы мы не даходзілі. Бацька, збялеўшы ад злосці, абрываў мелодыю:

— Хто так іграе? Бот дурны! Не можаш патрапіць у такт? Чаму ў цябе нага сабе, а рукі сабе лупяць?! Ты што — палачкі трымаеш ці фігі шчэміш? Хто так барабаніць?

— Я барабаню...

—?..

Маці з сястрой больш ужо не маглі трываць і рагаталі, аж трэсліся іківаліся з боку ў бок. А на печы верашчаў Юрасік. У блакітных бацькавых вачах з'яўляліся смяшынкі. Але ён стрымана, каб не засмяяцца, цадзіў праз зубы:

— От сямейка... Давай адною нагой.

Пад акампанемент баяна я вычыгількаваў польку адною нагой, штосілы ціснучы на педаль. Бацька на хаду мяне папраўляў:

— Моцную долю аддзяляй... І не гніся ў крук, як Стэпка Юзікава... Не адставай.

Лепш атрымлівалася з вальсам. Там не трэба было так хутка лупіць булавой, рухава валодаць палачкамі. Дый рытм мне скарыўся без асаблівай упартасці. Калі збольшага навучыўся, я нават зрэдку пачынаў рабіць пераборы з аднаго барабанчыка на

другі. Тады, седзячы за баянам, бацька задаволена пакрэктваў.

За зіму я налаўчыўся трохі барабаніць і польку. Сам прыдумаў новы метад: іграў «канём». Падрабляў палачкамі на барабанах, як бярэ наўскапыта конь. Здаецца, выходзіла няблага.

Вясною, як ужо добра пацяплела, пад вечар, мы выходзілі на падворак. Я садзіўся на лаўку, бацька выносіў сабе з хаты крэсла.

— Няхай людзі ведаюць,— з гонарам казаў ён,— што і мы не ўломкі.

Неўзабаве прыходзіў сусед — дзед Іван. Яго добра пакруціла і пакамячыла жыццё. Здароўе забрала, аж ногі пачалі аднімацца. Але стары заставаўся аптымістам. Спыняўся каля нас, усміхаўся:

— Вечар добры, залатыя хлопцы. Я думаў, вяселле ў мяне якое пад бокам, а я нічога не ведаю. Так іграеце, што ногі самі аж падскокваюць.

— Яшчэ няма каго жаніць,— усміхаўся бацька, скоса пазіраючы на мяне.

— Чаго ж? Дзяцюк вунь скора вусы сабе адгадуе. Пэўна, дзеўкі ў галаве адны. А ты яму гэты бубен у рукі даў, быццам каню на шыю хамут павесіў.

Я чырванеў ад такіх жартаў, а стары садзіўся каля плота на кукішкі і даставаў з кішэні «Беламорканал», пасунуўшы на патыліцу зашмальцаваную кепку.

— Ну, то добра, залатыя хлопцы. Упішыце мне гэтага... моднага шэйгіса... каб мае ногі сапраўды затрапяталі, як уюны на патэльні...

Мы «ўпісвалі» па заказу дзеда Івана якую-небудзь папулярную трасучку. Ад вялікага старання я абавязкова выбіваўся з рытму. Бацька кісла крывіўся, а стары задаволена пляскаў у далоні, выпускаючы праз нос сіняваты дым.

Неяк на такі канцэрт да нас завітаў дзядзька

Субач з таго боку ракі. Ён працаваў млынаром, трохі горбіўся, і левае вуха ў яго было чамусьці большае за правае разы ў два. Ён прыкаціў на падворак на старым веласіпедзе. У пярэднім коле сядзела здаравенная «васьмёрка» — аж кола ледзьве ўлазіла ў вілку.

— Здаровыя былі! — прытармазіўшы, забасіў Субач.

— О, Коля! — паставіў на табурэтку гармонік бацька.— Здароў, браце.

— Гарна пілуеце, мужычкі! Аж у нас за Лебядою бабы ў скокі пускаюцца.

— А, памаленьку трэніруемся,— махнуў рукою бацька.

— А гэта хто? Няўжо сын такі вымахаў?

— Мой балбес. А ні да машыны ён, а ні да трактара, як усе нармальныя дзеці. Дык вось, кажу, няхай хоць граць навучыцца — за плячыма не насіць. А што ты добрага скажаш?

— Сына да войска забіраюць. Хацеў, каб ты са сваім «мармонікам» падышоў.

— А калі?

— У гэтую суботу праводзіны робім. Радню пасклікалі, суседзяў, хлопцаў з дзяўчатамі...

— Добра, Коля...— Бацька нешта прыкінуў, падлічыў.— Гадзін у шэсць вечара пад'едзем.

— Выратаваў ты мяне! — Субач доўга трос бацькаву руку.— Значыць, згодны?

— Лічы, што так.

— А то жонка спакою не дае. Найдзі ёй музыкантаў, хоць ты вочы пад лоб пастаў.

— Вясёлая ў цябе жонка! — хітравата прыжмурыўся бацька.

— Мне ад гэтай весялосці аж пашчэнкі зводзіць.

Млынар скрывіўся, успомніўшы жонку, тузануў сябе за вуха і раптам пасур'ёзнеў:

— Цяпер скажы мне, Аркадзік, колькі ты бярэш грошай. Колькі скажаш, столькі і заплачу. Грошы ў мяне ёсць.

— Ат, Коля,— адмахнуўся бацька,— мы табе і бясплатна адбухаем. Сын во першы раз будзе барабаніць...

Субач аж абразіўся:

— Ты што, здурэў?! Што мне людзі скажуць? Прахвост ты, скажуць, Коля!

Але бацька стаяў на сваім:

— Не трэба! Мы з табой пасля расквітаемся. Ячменю які мяшок цішком змелеш...

— Пасля будзе пасля! А тут людзі гарэлку піць будуць, а ты пацець мусіш. Хоць барыш які вазьмі.

— Барыш? Які тут барыш?

Бацька задумаўся, чэмхаючы патыліцу. Раптам з хлеўчука пачулася ўзбуджанае сакатанне чубатак.

— І што за навала з гэтымі пацукамі,— маці подбегам кінулася адчыняць дзверы ў хляўчук.— Папалохаюць усіх курэй.

І тут бацька ўзвіўся, у вачах з'явілася ўсмешка:

— Добра. Вазьму барыш!

— Ну вось. А то — за так, за так... Што мы, не людзі? — бубніў Субач.

— Толькі ведай: ты сам напрасіўся, і я з цябе ўжо не злезу.

— Не палохай. Які табе барыш?

— А ці жывы твой чорны, з белымі лапамі кот?

— Ну, жывы... Дык і што? — здзівіўся млынар.— Тых катоў у мяне цэлы падворак. Толькі спаць па начах не даюць.

— Вось ката я ў цябе і вазьму за барыш.

Ад здзіўлення Субач вытрашчыў вочы і кашлянуў у кулак.

— Якога ката?.. Васіля?..— недаверліва перапытаў ён.

— Я не ведаю, як яго завуць — чорнага, з белымі лапамі,— бацька ўсміхнуўся.— І хоць ты пэнкні тут, а аддасі!

— Дзівак ты, Аркадзік,— мармытаў млынар, закідваючы нагу на свайго звасьмёранага «каня»,— я яму дзела кажу, а ён смяецца.

— Бяру ката, і больш нічога,— стаяў на сваім бацька.

— Ну, добра,— нарэшце здаўся Субач,— я табе ўвесь свой кацячы вывадак аддам. У мяшок пасаджу і аддам. Заапарк зробіш... То да суботы.

Субач паехаў проста па сярэдзіне брукаванкі, а бацька яшчэ доўга стаяў і, смеючыся, глядзеў яму ў спіну...

У суботу, пагрузіўшы інструменты ў спісаны калгасны і выкуплены бацькам «уазік», мы выбраліся да Субача.

— Ладны барыш мы вытаргавалі,— круціў абаранак і цмокаў языком бацька.— Усім нашым пацукам — хана. І суседскім таксама. Я ўжо не кажу пра мышэй. Душыць іх, гадаў, і не есць: у рад складае штабелямі. Скажы ты, што за звер такі! Напэўна, грэбуе імі. Але ж душыць! Я табе кажу, што за ноч нашым пацукам капец. А вучоны які! У хаце не напаскудзіць, дзверы сам лапай адчыняе. Гаспадар!

Мяне ж хвалявала зусім іншае. Я першы раз павінен быў, як казаў бацька, іграць «на людзях». І хоць мы ехалі не на вяселле, а на праводзіны, мяне чакаў сапраўдны экзамен.

Субач сустрэў нас каля шырока расчыненых варот.

— Зарулі с-свой бр-ранявік пад хлеў,— казаў ён непаслухмяным языком, па-гаспадарску расставіўшы ногі.— Цацкі выгружай — і ў хату, пакуль ёсць што піць. Гарэлка ого-го атрымалася. Я й сам прычасціўся, і ў гасцей язык кантам стаў. Чуеш,

як шумяць? Спяваць хочуць. Зараз пачнуць гарлапаніць.

З расчыненых насцеж акон было чуваць, як, убачыўшы нас на падворку, загуло застолле.

— Ну што, сыне, пакажам ім, як Клімкі з-за ракі граюць?

Я ўздыхнуў і пацягнуў у хату барабан...

Дамоў мы прыехалі позна ноччу. Бацька ледзь дабудзіўся мяне.

— Уставай, прыехалі.

Я ўсхапіўся. Успомніў скокі нейкай бабулькі, расчырванелыя твары, застольныя песні, незлічоныя «сто грам на дарогу» і як я, урэшце, не дачакаўшыся бацькі, залез ва «ўазік» і заснуў там.

Я ўзяў з задняга сядзення палатняную торбу.

— Ды глядзі, каб барыш не ўцёк!

Кот глуха зашыпеў і выпусціў праз торбу кіпцюры.

Мінуў тыдзень. Неяк вечарам, выпісваючы колам усё тую ж васьмёрку, каля нашай хаты спыніўся Субач. Твар у яго быў пакрыўджаны і злосны.

— Чаго пад нагамі круцішся? — забурчаў ён, убачыўшы мяне.— А стары дзе?

— У хаце...

Млынар злез з веласіпеда і пашкандыбаў да ганка. Праз паўгадзіны я зайшоў у хату. Бацька сядзеў з ім за сталом.

— Аркадзік! — сцішана і неяк недарэчна прасіўся Субач.— Вярні ката, Аркадзік... Аддай Васіля. Жонка загрызе, калі прыеду з пустымі рукамі. Кажа: столькі гадоў жыў з намі... Ён жа як чалавек для яе. Дый сам я... Сына ў войска выправіў, Васіля табе аддалі... Асірацелі мы... Удвайгу засталіся. Аркадзік, вазьмі грошы, аддай Васіля.

— Схавай ты гэтыя паперкі назад, Коля...

Бацька ўбачыў мяне, кіўнуў галавою:

— Злаві ката.

Кот яшчэ не паспеў прыжыцца і непакоіўся, чуючы гаспадара, а саскочыць з печы баяўся.

— Такой бяды, сыне! — сказаў бацька, калі млынар знік за дзвярыма, трымаючы ў руках, як дзіця, Васіля,— такі наш, музыкаў, хлеб. Мне яшчэ мой бацька казаў: «За сабою кінеш — перад сабой знойдзеш».

А я стаяў, нібы аглушаны, і хоць ката было шкада, я, напэўна, упершыню за ўсё маё, тады яшчэ дванаццацігадовае, жыццё думаў: як добра, што на свеце ёсць такія людзі, як мой бацька.

# КАПЭЛА ВЕСЯЛОСЦІ

Як ты ні круці-вярці, але ўсё ж такі самае вялікае свята і вельмі адметная падзея на вёсцы — гэта вяселле. Тыя гаспадары, у якіх сынам прыперла жаніцца альбо дочкам засвярбела замуж, спярша ў скрусе чухаюць патыліцы — толькі дзеля выгляду, затым асцярожна спрабуюць адгаварыць дурное дзіцятка: маўляў, пажыві які час вольным, мо розуму трохі прыдбаеш. Калі ж угаворы не дзейнічаюць, то бацькі доўга і не распінаюцца, а даюць нашчадкам парады: маці — свае, бацька — свае. Пасля таго гаспадар падыходзіць да стала, за якім на вячэру звычайна збіраецца сям'я, і грукае па ім кулаком: «Будзем рабіць вяселле!» Спачатку ад вяскоўцаў гэта трымаецца ў сакрэце. Ведае толькі самая што ні ёсць блізкая радня. Але ж хіба ты ад людзей схаваешся, калі на падворку раптам смаляць падсвінка, сякуць курэй і цэлымі скрынкамі валакуць у склеп сітро, віно і піва, а па начах гаспадыня цішком цягае ў дом са студні ваду і з коміна пэхкае сіняваты дымок?! Вяскоўцы, вядома, пачынаюць чакаць таго дня, калі пачнецца гулянка, калі прыедуць музыкі і пацячэ дармовая гарэлка...

А ў прызначаны дзень да дома жаніха сыходзяцца запрошаныя ім хлопцы. Гэта — дружына, якая дапаможа яму ўтаймаваць нявесту і плойму дзяўчат. Хутчэй за ўсё толькі дзяўчат, бо нявеста, як гэта

звычайна бывае, ужо ўтаймаваная. Жаніх троху нервуецца — не кожны ж дзень жэнішся. Сноўдае гаспадыня з цёткамі-кухаркамі: гатуе стол для дружыны. Калі ён аж ломіцца ад смакаў, гаспадар выстаўляе прыпацелыя графіны з гарэлкай. Акрамя дружыны на падворку таўкуцца суседзі і бацькі хлапцоў, каб паглядзець, як будуць ад'язджаць да маладой, і вызначыць, ці ўсё па-людску зрабіў гаспадар. Так праходзіць нейкі час. Ніхто моцна не размаўляе, але і не маўчыць. Усе чакаюць музыкантаў, бо без марша за стол не сядзеш. Але іх яшчэ няма.

— А ці здалёк жа музыкі? — нарэшце пытае нехта ў гаспадара.

— З таго боку горада гадзіў малады,— на хаду кідае ён, цягнучы ў дом лаўку.

— Пазняцца нешта...

Пазняцца! На вяселлі музыкі заўсёды галоўныя. Нават сват у іх пад пятою, бо баіцца, каб тыя ў яго грошай шмат не выцыганілі. Таму музыкі проста крыху затрымліваюцца, як звычайнае начальства. Але вось на вуліцы ля дома спыняецца аўтобус, і з яго выскокваем мы: першы — бацька з баянам на плячах, другі — Лёнік, расшпіляючы акардэон, трэці — Стась са скрыпкай, і апошнім я выцягваю свой гаротны, аблезлы барабан. Гэта наш, як я кажу, джаз-банд. Але бацька называе нас крыху інакш — капэлаю.

*Для даведкі: «Джаз-банд», або «капэла»,— гэта гурт ці калектыў аматараў-энтузіястаў, якія валодаюць пэўнымі музычнымі струментамі, пачуццём гумару, маюць вострыя языкі, могуць узняць настрой і ў вольны час займаюцца абслугоўваннем вяселляў. Музыканты-прафесіяналы ў такі калектыў звычайна не прымаюцца, таму што моцна адрозніваюцца ад астатніх удзельнікаў ва-*

*лоданнем струмента. «Д.-б.», або к.»,— гэта проста хобі.*

...Але бацька называе нас крыху інакш — капэлаю. Ну і няхай сабе. Ён мае на тое поўнае права, бо з'яўляецца ў нашым гуртку мастацкім кіраўніком.

Да нас ціхенька падбягае гаспадар:

— Хлопцы, давайце рэжце, часу ж няма.

— Ціха! — кажа бацька і па-змоўніцку яму падміргвае.— Цябе як зваць?

— Юзік...— бянтэжыцца дзядзька.

— А мяне — Аркадзік! — Бацька,— шчыра ўсміхаючыся, працягвае Юзіку руку.— Кіраваць парадам буду я, добра?

— Ну... няхай сабе, кіруй, толькі ж... грай.

Бацька рагоча і азіраецца на нас. За гэтыя хвіліны, што ён выгадаў у гаспадара, капэла падрыхтавалася граць, Лёнік нарэшце расшпіліў мяхі акардэона, Стась наканіфоліў смык, а я сабраў сваю пераносную барабанную ўстаноўку. Тады бацька аглядае падворак і, убачыўшы дружыну, крычыць ёй:

— Ану марш за стол!

І мы ўчатырох рэжам марша.

Малады, сват, хлопцы і астатнія, хто выбіраецца да нявесты, шмыгаюць за доўгі стол. Мы таксама пакінулі свае струменты, садзімся на самы край, каб хутчэй выскачыць, калі гэта спатрэбіцца. Сват, перавязаны белым вышываным рушніком, устае з чаркаю ў руках і збянтэжана пачынае мармытаць:

— Ну то, госцікі... каб добра ехалася нашаму маладому... да жонкі свае, давайце вып'ем...

У хаце, вытрашчыўшы вочы і саўсім не саромеючыся, стаяць вяскоўцы. Таму хлопцы, скасіўшыся на іх, наліваюць у чаркі патрохі — не дай бог, яшчэ абгавораць, што з першых хвілін вяселля яны гарэлку шклянкамі глушаць. Я больш налягаю на сітро

і смажаныя хрумшчыкі. Насупраць мяне іх якраз цэлая талерка. Бацька, Лёнік і Стась смакуюць гарэлку.

— О, агонь! — бацька крывіцца і насаджвае на відэлец вахлюпасты галубец.— Пастараўся Юзік.

Лёнік перакульвае кілішак і толькі зяхае ды крэкча. Стась з адцяжкаю цэдзіць гарэлку праз зубы, і на лысіне ў яго паступова збіраюцца кропелькі поту. Сват зноў устае з чаркаю ў руцэ і хоча выказаць нейкую думку. Але ад хвалявання блытае словы. Так і не зразумеўшы, чаго ён хоча, хлопцы выпіваюць другі раз.

— Штосьці сват ніякаваты троху,— кажа Стась і выцірае насовачкай лысіну.— Дапамажы ты яму, Аркадзік.

— Счас, Стасёк,— бацька выпівае маю шклянку сітра, плюхае туды гарэлкі і выходзіць з-за стала.— Хлопцы! Прыедзем да маладой, хапайце кожны сабе па дружцы, якая каму спадабалася. Так! Выпілі мы на левую нагу, выпілі мы на правую, а цяпер трэба для ўстойлівасці па цэнтру і — у дарогу. Жаніху ж карціць нявесту ў вэлюме ўбачыць. Так! А цяпер налівайце па поўнай.

Дружына ўвачавідкі весялее і налівае цяпер сабе паўнюткія кілішкі, маўляў, нікуды не дзенешся, загадалі. Стась тым часам набраў цэлы рот ежы і толькі ледзьве варухае пашчэнкамі.

— Ай-яй-яй,— дакарае яго бацька.— Хто ж так есць?! Стась! Мы ж на людзях сядзім.

Скрыпач задзірае галаву, каб з рота нічога не выпала, і адказвае бацьку так:

— Нешта... не жуе-эцца.

— Ну, то глытай, толькі ж не ганяй у роце ад шчакі да шчакі.

Стась зноў задзірае галаву і на гэты раз ставіць бацьку перад бясспрэчным фактам:

— Удаў я, ці што?

Не знайшоўшы, што сказаць, бацька хапае баян і грае марша. Да яго далучаецца Лёнік, і вымушаны ўзяцца за скрыпку Стась. Я са сваім барабанам не лезу да іх, таму што ў доме і так няма дзе павярнуцца. Дружына выпівае па трэцяй, амаль не закусвае, устае і абыходзіць вакол стала тры разы. Такі звычай.

У аўтобус, як заўсёды, я залажу апошнім. Талерку ўручаю бацьку, Лёніку і Стасю — другія барабанчыкі, а сам нясу перад сабой самы вялікі — басавы. Добра пасігналіўшы на развітанне, наш вясельны эскорт з аўтобуса і легкавушак, якія вязуць свата і жаніха, узнімаючы клубы пылу, імчыць да нявесты.

— Вяселле на адзін бок. Толькі забяром маладую і зноў сюды. Абы заўтра не ляпнуцца,— кажа бацька і заклапочана чэмкае патыліцу.

*Для даведкі: «Ляпнуцца» — не сыграць на заказ якую-небудзь песню ці мелодыю. Музыкі ў такім выпадку звычайна круцяцца, як вюны на патэльні. Калі не ўмеюць граць таго, што просіць заказчык, то хоць языкамі выцінаюць патрэбную мелодыю, але ніколі не прызнаюцца, што не змогуць яе сыграць.*

— Абы толькі заўтра не ляпнуцца,— кажа бацька і заклапочана чэмхае патыліцу.

— Не ляпнемся,— запэўнівае яго Лёнік,— я апошнія два тыдні толькі тым і займаўся, што новыя песні вучыў.

Бацька весялее і на радасцях цэлую дарогу гарлапаніць з дружынаю песні. Пакуль яны дзяруць горла і да вёскі, дзе жыве маладая, яшчэ блізкі свет, я паспрабую вам коратка ахарактарызаваць кожнага ўдзельніка нашай капэлы.

Бацька (баян) — вясельны зубр. Змалку як прыліп да гармоніка, так да гэтага часу ніхто яшчэ

і не змог адарваць. Ведае так многа, што ўжо і сам забыўся, што ён дакладна ведае. Звычайна, у выпадку неабходнасці, яно само ўсплывае аднекуль з нетраў яго неабсяжнай, шчырай душы. Для яго не існуе незнаёмых людзей. Амаль у кожнага з ім знаходзяцца агульныя інтарэсы. Заваёўвае людзей непадкупнай шчырасцю, весялосцю, а бывае, што і непасрэднай дзіцячай наіўнасцю. Так як за плячыма ў яго не адна сотня вяселляў, то ў капэле спецыялізуецца ў асноўным на старадаўніх песнях. Каранасты. Мае блакітныя вочы і непаслухмяны чуб. З'яўляецца мастацкім кіраўніком капэлы. Працуе шафёрам. Карэнны беларус.

Лёнік (акардэон) — правая бацькава рука. Спецыялізуецца ў асноўным на сучасных песнях і мелодыях. Спявае надтрэснутым гучным голасам. Тэхніка валодання струментам не горшая, чым у бацькі, але яму крыху бракуе лёгкасці ў абыходжанні з вясельнікамі. Нядаўна ажаніўся сам. Высокі. Худы. Мае рэдкія рыжыя вусы, што двума рагамі загінаюцца ўніз, як у татарына, доўгую шыю і нязграбныя моцныя рукі. Падобны да гусака. Жыве ў суседняй з намі вёсцы. Працуе ў горадзе, у пажарнай ахове. Абруселы беларус.

Стась (скрыпка) — таленавіты музыка. Выконвае на заказ многа сольных нумароў. Тэхніка валодання струментам самая высокая ў калектыве. На добрым узроўні выконвае класічныя творы. Толькі з пачуццём гумару небагата. Спецыялізуецца «на падхопе» — пачуўшы адзін раз мелодыю, тут жа, амаль прафесійна, грае яе на скрыпцы. Заваёўвае вясельнікаў тым, што пры дапамозе гумак і калкоў прымацоўвае да скрыпкі губны гармонік і нейкім цудам паспяе граць на скрыпцы і на гармоніку адначасова. Прыдае капэле непаўторную арыгінальнасць. «Душа нашага гуртка»,— як сказаў пра яго бацька. Ваўкаваты.

Мажны. Сутулы. Мае блішчастую лысіну і дрэнны зрок, які пагоршыўся ад таго, што ўсё жыццё, трымаючы скрыпку пад барадой, косіцца на струны. Акуляраў не носіць. Жыве ў Шчучыне. Там жа і працуе прыёмшчыкам на пункце шклатары. Апалячаны беларус.

Я (барабан) — маю самую кароткую музычную біяграфію. За плячыма ўсяго толькі добры дзесятак вяселляў. Трывала замацаваўся ў калектыве нядаўна. Дагэтуль іграў прыхваткамі, але дома трэніраваўся штовечар. Бацька мною ганарыцца і называе сваёю «левай рукой». Вельмі ўражлівы і цікаўны хлапчук. Жывём з бацькам у вёсцы. Вучуся ў школе. Лічу сябе шчырым беларусам.

P. S. Усе ўдзельнікі — самавучкі.

...Шафёр дае доўгія зычныя сігналы. Гэта наш вясельны эскорт урываецца ў вёску. Равуць сігналамі машыны, спуджана ўцякаюць з-пад колаў куры і астатняя дробная вясковая жыўнасць. З дамоў выскакваюць людзі, каб палічыць, колькі і якіх машын прывёз за сабой жаніх. І лекаціць, лекаціць недзе сэрцайка ў нявесты. Мае калегі ўжо выйшлі з аўтобуса і выдаюць марша, а я збіраю па частках барабан. Цэлая плойма дзяўчат не пускае дружыну ў дом. Адна, напэўна, самая галоўная, працягвае хлопцам трохлітровы слоік вады.

— Вось тут,— кажа яна, хітравата зыркнуўшы на хлопцаў,— вада, у якой маладая мыла свае прыгожыя ногі. І трэба ж такому здарыцца, што ўпусціла яна на дно сярэбраны ключык ад свайго сэрца. Дык вось, хлопцы, пакуль не дастанеце яго, маладой вам і вашаму жаніху не бачыць.

Дзявацца няма куды, і дружына п’е, перадаючы слоік з рук у рукі. Але дзе ж ты вытрубіш гэтыя тры літры, хоць і гурмой? На дапамогу зноў прыходзіць бацька:

— І чаму гэта ваша маладая гарэлкай ногі не мые?! То я адзін цэлы слоік выдуў бы.

— Мые і гарэлкай,— знаходзіцца дзяўчына,— але яе мы будзем піць разам, за сталамі.

— Але ж і хітрая ты, дачушка!

— Якую бацькі зрабілі.

— Паглядзіце, хлопцы, які язык мае! Востры, што каса, хуткі, як мянташка — што ні кажы, а падвешан добра. От некаму пападзецца дружка! Як жа цябе зваць?

— Наталля, ну і што? А вас?

Падворак стаіўся. Людзі слухаюць перамовы і пасмейваюцца.

Бацька азіраецца на нас:

— Мяне?

— Давайце, давайце знаёміцца. Не ўпірайцеся,— шумяць дзяўчаты.

І бацька выдае:

На Расіі я — Аркаша,
Для палякаў — Тадзік,
У яўрэяў я — Абраша,
А для вас — Аркадзік!

Увесь падворак гучна рагоча з бацькавых вершаў, а ён ставіць кропку і падае каманды:

— Сват, даставай цукеркі, шукай сваццю! Хлопцы, хапайце дзяўчат, пакуль не паўцякалі, частуйце хто цукеркаю, хто буськаю! Дзяўчаты, прышпіляйце малайцам за гэта кветкі. І ўсе разам — марш за стол!

Я выпускаю залівісты перабор па барабанах і звяртаю на сябе ўвагу дзяўчат. За мной уступаюць бацька, Лёнік і Стась. Калі ўсе паселі, да нас падбягае гаспадыня:

— Музыканцікі, кідайце гэтыя бандуры, ідзіце, паешце хоць чаго.

— Ты за нас, цётка, не хвалюйся,— бацька зводзіць мяхі.— Гасцей глядзі спярша. А мы самі сябе дагледзім. Дый не галодныя яшчэ.

— Не галодныя! — Гаспадыня пляскае рукамі і паказвае на Лёніка.— Во, глянь, твой музыкант. Грае добра, а адна скура ды косці — такі худы.

— Затое жылісты,— адбіваецца Лёнік.

Да стала мы ўсё ж ідзём, і бацька гаворыць першы ў гэтым доме тост:

— За добры пачатак і за выдатны ў маладога канец!

Дзяўчаты чырванеюць, а нявеста апускае вочы. Вытрымаўшы патрэбную хвіліну маўчання, бацька весела дадае:

— Ну, вяселле ж та ў маладога скончыцца.

Застолле смяецца, а бацька, убачыўшы, што яго жарт зразумеўся людзьмі, з задавальненнем куляе кілішак...

І зноў шаферы ціснуць на сігналы, а мы на клавішы і струны. Павялічаны яшчэ некалькімі легкавушкамі з боку маладой, вясельны поезд імчыць у цэнтр саўгаса, каб распісаць маладых. А там яшчэ нейкае вяселле распісвацца прыехала. Мы выскокваем першымі з аўтобуса і расцягваем мяхі. Музыканты з таго вяселля стаяць побач, і адзін з іх скептычна нас ацэньвае так:

— Індзейцы прыехалі.

*Для даведкі: «Індзейцы», або «абарыгены»,— так тыя, што граюць вяселлі на саксафонах, электрагітарах, камп'ютэрах, называюць музыкаў з народнымі інструментамі. Адны з другіх пры сустрэчы заўсёды пасмейваюцца. На жаль, электронная музыка ўсё часцей і часцей пачынае выцясняць з вяселляў народных самародкаў. Пры сустрэчы з электроншчыкамі бацька становіцца абыякавы да ўсяго, а Стась чырванее ад злосці.*

— Індзейцы прыехалі. Каб было куды падключыцца, зараз за пояс заткнулі б.

На што Стась бярэ смык пад паху, круціць са сваіх тоўстых пальцаў здаравенную дулю і суне хлопцу пад нос:

— На, сынок! У свой час я такіх, як ты, трох мог за пояс заткнуць.

Адпор дадзены належны, але электроншчыкі яшчэ фраярацца:

— Пілуйце, пілуйце на сваіх хромках.

Уступае бацька:

— Хромкі не хромкі, а дзе сталі — там і зайгралі. А вось што вы будзеце рабіць, калі раптам ток прападзе? Вось і цяпер на вуліцы, бачыш, няма куды падключыцца. Хоць ты на слуп лезь, да правадоў. Думаеш, у цябе ў руках цяпер струмент, гітара? Лапата ў цябе, а не гітара.

Пакрыўджаныя хлопцы адыходзяць убок, а бацька не сунімаецца:

— Ты ведаеш, Стась, уключыць камп'ютэр свой, адыдзе, сядзе на лаўку, засмаліць папяросу і слухае, як там гэты робат барабаніць. Ці ігра гэта?! То лепей магнітафон адразу ўключыць — ды і ўсё. І маўчаць на вяселлях, як вады ў рот набраўшы! Ці ж гэта музыкі?

У будынку шлюбаў жаніх з нявестаю становяцца мужам і жонкай. Развярнуўшыся, наш эскорт едзе ў горад, каб сфатаграфавацца.

— Хаця каб «вінцукоў» шмат не было,— выцягваючы сваю гусакаватую шыю да бацькі і азіраючыся на вясельнікаў, што трасуцца з намі ў аўтобусе, шэпча Лёнік.

*Для даведкі: «Вінцукі», або «лёлікі»,— найбольш надакучлівыя вясельнікі, якія, празмерна выпіўшы, чапляюцца на гармонікі, лупяць нагамі ў барабан, вырываюць*

*у Стася з рук смык, каб пасунуць ім бліжэй да сябе патрэбную талерку на стале. «В.», або «л».», віснуць на руках, лезуць у вочы і замінаюць граць.*

— Хаця каб «вінцукоў» шмат не было...

— А, няхай сабе,— кажа бацька,— з імі вяселей...

У вёску да маладога прыязджаем зацемна. Увесь падворак запаланілі вяскоўцы. Каго клікалі на гулянку, каго не — усім цікава зыркнуць на маладую, ацаніць і сказаць сваё слова. Над варотамі, на даўгюткіх жэрдках нацягнута папера, а на ёй крывымі літарамі выведзена: «Жадаем счасця!» Хоць з памылкай, але гэты непазбежны вясельны лозунг прыцягвае ўвагу. Мітусіцца на падворку Юзік, сват цягне дружкоў з дружкамі ў хату, сваццця рассаджвае гасцей, што прыехалі з боку нявесты, за стол, гаспадыня запрашае сваіх вясельнікаў — а ў нас з-пад пальцаў выплывае ўсё той жа марш.

Госці п'юць, ядуць, слухаюць зразумелыя і не зразумелыя ім тосты і з кожнай хвілінай усё мацней гамоняць. Бацька бярэ баян, ідзе да сталоў.

Ка-сіў Ясь ка-ню-шы-ну...
Цячэ-э-э ва-ада-а ў яро-о-ок...
Ко-олькі-і ў не-эбе зор...
За-свя-ці-ла-а сонц-а, за-аспя-ва-лі пе-еўні...
Ты ж мя-не-е пад-ма-ну-ла...
А я-а ля-гу-у, пры-ля-агу-у...

Адведаўшы гарэлкі, вясельнікі выдаюць цэлы фантан песень. На змену бацьку ідзе Лёнік. Праз хвіліну ўжо застолле раве:

На-ра-дзіў-ся ў сту-дзе-ні — уста-вай, на-лі-вай!
На-ра-дзіў-ся ў сту-дзе-ні — уста-вай, вы-пі-вай!
Пі да дна, пі да дна — мы наль-ём яш-чэ ві-на!
Пі да дна, пі да дна — мы наль-ём яш-чэ ві-на!

Лёнік праходзіць поўны гадавы цыкл. Расчырванелы і ўзмакрэлы, ён гукае капэле:

— Ну, вы ідзіце ў клуб, а я зараз слана прывяду.

— Давай, Лявон,— бацька хлэпае яго па плячы.— Нам во Юзік з сабою ў клуб гарэлкі ўліў, сітра, каб горла прамачыць у перапынку. Так што ты не хвалюйся наконт гэтага.

Дарогаю бацька дае Стасю апошнія ўказанні:

— Ты лішне не рвіся, Стасёк, шмат не выдараблівайся. Усё роўна цябе слаба чутно з-за нас. Ты, галоўнае, музыку падмаслі крыху, і досыць.

— А то я не ведаю,— бурчыць скрыпач,— мае струны тваіх мяхоў ніколі не перакрычаць.

Клуб у гэтай вёсцы нявельчанкі. Добрую яго частку заняла моладзь, якая, згледзеўшы нас, загудзела. Я здымаю з плеч барабан, перакідваю ўбок рэмень, забіраю ў бацькі барабанчыкі, а ў Стася — талерку, і мая ўстаноўка падрыхтавана.

— Так,— распараджаецца бацька і штырхае мяне ў бок,— ты сядай пад маю левую руку, каб чуў бас, а ты, Стась, пад правую, каб чуў голас.

Мы не спрачаемся.

— Што будзем скакаць, рабяты? — пытаецца наш кіраўнік у моладзі.

— Шэйк, шэйк! «Каракум»...

— «Каракум» вам будуць крыху пазней, а зараз я вам сыграю тое, што вы, напэўна, яшчэ не чулі. Шэйк з фільма аб чэхаславацкіх партызанах «Па следзе тыгра». Называецца «Бэла, чаў!».

Хлопцы і дзяўчаты, як гэта звычайна бывае, кісла крывяцца — ім у школе гэта вайна абрыдла, а бацька махае мне галавой. Я мацней сціскаю палачкі, выдаю доўгі перабор па ўсіх маіх прычындалах і ў канцы стаўлю кропку ўдарам па талерцы. Да мяне імгненна далучаецца бацька, а да яго Стась. Бацька ўстае і спявае звонкім голасам:

А я сягоння прачнуўся рана.
А, Бэла, чаў! Бэла, чаў! Бэла, чаў, чаў, чаў!
Іду я ў горы, іду высока,
І для цябе букет нарву.

Памалу хлопцы выходзяць, становяцца ў круг, цягнуць за сабой дзяўчат... І вось ужо ўвесь клуб таўчэцца ў модным танцы і з цікавасцю зыркае на такіх неспадзяваных музыкаў.

У дзвярах з'яўляецца галава «слана» на чале з Лёнікам. За ім заходзяць маладыя і вясельнікі. Бацька зводзіць мяхі:

— Тут вось я глядзеў, глядзеў і асачыў у маладой адзін фальш,— усе сціхаюць і прыслухоўваюцца,— ногі не аднолькавыя... Адна правая, другая левая. Давайце мы зайграем полечку — няхай яна паскача, а мы паглядзім: ёсць фальш у нагах ці не.

Раптоўна з месца ўсхопліваецца Стась і з нейкай нагоды аб'яўляе на ломанай польскай мове:

— Ешчэ една полечка для згоды молодзёжы!

Капэла ўпісвае польку. Недзе якраз пасярэдзіне гэтых скокаў, калі разам з вясельнікамі круціцца ўвесь клуб, рэзка сціхае музыка. Лёнік выцягвае шыю і апантана выкрыквае:

— Руска полька з падкіндэсам!

Скокі працягваюцца. Стась лічыць сябе шляхцюком і, пакрыўджаны на Лёніка, раздзімае свой чырвоны нос. Калі полька скончылася, бацька, смеючыся, кажа вясельнікам:

— Не важна, гралі мы ці сварыліся — галоўнае, што разам спыніліся.— І адразу ж дадае: — Яўрэйскі народны танец «Сем-сорак».

Так скокі цягнуцца довідна. Яшчэ вясковыя хлопцы ўздымаюць маладых «на ўра!», за што сват фундуе ім гарэлкаю. Яшчэ вясельнікі некалькі разоў вяртаюцца да вяселля, каб узняць настрой і прычасціцца. Яшчэ... Чаго толькі не бывае за гэтым «яшчэ»

на працягу ночы. Але адзін момант для нас самы прыемны. Змаўкае клуб. Змаўкае вёска. Мы ўчатырох ідзём па вуліцы да вызначанай нам бабулькі, каб пераначаваць. Пачынае віднець. Гаспадыні прачынаюцца — трэба даіць кароў, хутка ў поле. І цішыня!.. Толькі дзе-нідзе цурчаць у вядро звонкія струменьчыкі малака з цёплага вымя. Звычайна, адчуўшы гэтую цішыню, Стась пачынае брахаць.

— А каб ты не дачакаўся! — крэкча бацька, бо ведае, што зараз у сабачым брэху зойдзецца ўся вёска.

Бабулька сустракае нас каля веснічкаў і вядзе ў хлеў. На духмяным сене нам пасланы дзяружкі, пакладзены падушкі і коўдры.

— Вось гэта адпачынак! — кажа Лёнік, сцягвае нага аб нагу чаравікі і адразу, з парога, куляецца ў сена.

Мы за ім...

Другі дзень вяселля для нас самы адказны. Вясельнікі спяць доўга і збіраюцца за стол недзе толькі апоўдні. Капэла сустракае кожнага з іх на падворку музыкай. І як толькі ўсе ў зборы, Юзік дае каманду свату, сват нам, а мы гасцям:

— Просім, госцікі, у дом.

І госцікі бокам-бокам, ланцужком-ланцужком абсядаюць сталы. Як толькі кілішкі апаражніліся разы са тры і госці заўважна павесялелі, бацька знаходзіць гаспадыню і шэпча ёй на вуха:

— Родненькая, нам патрэбна талерачка, каб толькі не большая памерам і не чужая, а свая, ваша, і хусцінка да яе. Будзем граць «Добры дзень!».

*Для даведкі: «Добры дзень» — глядзіце ніжэй.*

— Будзем граць «Добры дзень».

Гаспадыня мітусіцца, грукае сподачкамі... Нарэшце бацька атрымоўвае, што яму патрэбна, бярэ на грудзіну баян і недзе паміж яго мяхамі і сваім жыватом хавае талерку.

— Так, сыне, барабан рыхтуй.

— Гатоў. Я яго каля печы, у куце прымастаколіў.

— Добра. Ты пачынай, а я падхаплю... Стась, што ў цябе?

— Смык наканіфоліў, гармонік прымацаваў.

— Лёша?

— Усё ў парадку.

— Ну што, хлопцы, з «до-мажора»?.. Да чорта!

І мы ўчатырох урываемся ў пакой да вясельнікаў. Я адразу ж з палачкамі ў руках скачу за барабан і, заглушаючы вясельны гоман, выдаю нейкі раптоўны імправіз па ўсіх маіх бубнах. Стась дзьме ў гармонік і цягне смыком па струнах. Лёнік з бацькам для пэўнасці бяруць некалькі акордаў. Пасля такога кавардаку я гукаю з-за барабана:

— Ледзі энд джэнтльмены, дамы і гаспада!

— Дарагія госці, запрошаныя і наша паважаная моладзь! — падхоплівае мяне наш мастацкі кіраўнік.— Сёння мы сабраліся тут усе разам, каб павіншаваць нашых маладажонаў і адзначыць стварэнне яшчэ адной сям'і. У нас, у беларусаў, ёсць такі звычай — «Добры дзень!». Што гэта такое, я зараз тым, хто не разумее, растлумачу. Тут з вас большасць людзей сямейных, і вы, вядома, ведаеце, якім складаным бывае першы год сумеснага жыцця. Тым больш у наш хуткі час. Дык вось: бацькі маладога вырашылі купіць ім рухавік, бацькі маладой — кузаў, ну, а нам трэба ўсёй гурмой скінуцца на колы — і будзе ім машына! Паважаныя госцікі, заказвайце нам песні, мы будзем граць, а вы кладзіце грошы. Усе яны ідуць у карысць маладых,— бацька дастае з-за баяна

талерку з разасланай на ёй хусцінкай і кладзе паверх лустачку хлеба.— Пачнем з кіраўнікоў нашага свята — са свата і сванькі. Добры дзень табе, сваток! А госцікаў прашу ўстаць — для свата і свацейкі іграем «Многае лета».

Усё застолле шумна паднімаецца і гундосіць:

— Многае, многае, многае лета, многае лета!

— Ну, сват, ты першы, ты галава,— кажа бацька, калі застолле села і сцішылася,— табе і прыклад паказваць.

Сват заказвае песні для сябе, для свацейкі, кладзе на талерку грошы. Але бацька яго не адпускае:

— Мы зайграем казачок, а сват няхай паложыць траячок.

Але «галоўны», напэўна, чакаў падвоху ад капэлы і таму ўпэўнена дастае і кладзе яшчэ тры рублі.

— А для сваццi рэзнем полечку, а сват дадасць пяцёрачку! — гукае Лёнік.

Свату няма куды дзявацца. Трэба ж паказваць прыклад.

— Далей мы пойдзем так,— тлумачыць бацька,— будзем абслугоўваць пару з гэтага боку стала і пару з гэтага. Квадратна-гнездавым метадам — як Хрушчоў кукурузу садзіў.

Госці пачынаюць заказваць:

— Пра тое, чаго немец баяўся.

І мы іграем «Кацюшу».

— Чаго ў мяне ў хляве няма.

І мы іграем «Касіў Ясь канюшыну».

— Як чорт з няволі вяртаўся. З падскокам!

І мы граем амбэрка...

Так капэла абслугоўвае кожнага вясельніка.

Урэшце ўсё скончана. Апошнімі заказваюць песні бацькі маладых.

— Ну вось,— бацька бярэ талерку з кучай рознакаляровых паперак і ўрачыста нясе да свата.—

Калі ласка, грошы падлічыць і трохі нам на талерку палажыць. За нашу музычную ўхватку сват не пашкадуе дваццацьпятку?

Сват кладзе некалькі паперак на талерку, звязвае рогі ў хусцінцы і перадае гэты пук грошай маладому. А талерку нам.

— Мы б'ём на шчасце гэты посуд,— смеючыся, кажа бацька.— Няхай на колькі частак яна разляціцца — столькі народзіцца ў вас дзяцей.

Талерка ўшчэнт разлятаецца дробнымі кавалкамі. Капэла адразу рэжа туш...

«Добры дзень» скончыўся. Вясельнікі выходзяць на падворак, пакуль прыбяруць сталы для дарэння. Мы выносім да іх свае прычындалы. Да капэлы падскоквае расчырванелая цётка. Яна трапечацца на месцы, калыхае цяжкімі клубамі і спрабуе спяваць частушкі. Лёнік з бацькам падыгрываюць, але яна настойліва збіваецца з такта, і атрымліваецца, як той казаў, ні ў плот, ні ў гарод, ні ў Чырвоную Армію. Нашых музыкаў ад пакутаў выратоўвае Стась. Счакаўшы, калі цётка скончыла частушку, ён спявае сваю:

Ах ты, сіся, не трасіся,
Прыйдзе ночка — паддасіся.

У збянтэжанай цёткі блытаюцца ў галаве ўсе яе словы, а Стась спакойна бярэ пад бараду скрыпку і пачынае граць з астатнімі. Адзін вінцук стаяў воддаль, усё зырыў на нас і ўрэшце, хістаючыся, падышоў да бацькі і зароў на ўвесь падворак:

— На халеру вы тут па-атрэбныя?!

Не думаўшы доўга, бацька адказаў сваёй прымаўкай. Хутчэй астатнім вясельнікам, чым яму:

— Ну, з музыкі хлеб невялікі, а з гулякі — ніякі.

Так нейкі час госці сноўдаюць па падворку, скачуць, плёнтаюцца адзін у аднаго пад нагамі. Аж

пакуль Юзік не прыйдзе і не шапне нешта на вуха бацьку. Бацька адразу ж устрапянецца, звядзе мяхі і аб'явіць:

— Як нехта казаў: дарыць — хай яно згарыць! Але ж час прыйшоў, трэба і падарыць, бо многім яшчэ ехаць блізкі свет дамоў. Таму просім вясельнікаў у дом. Сват падрыхтаваў гарэлку, а сванька — каравай.

Госці чарадой падыходзяць да стала. Кожны дорыць нечым альбо, найчасцей, кладзе грошы. Сват налівае кілішак гарэлкі, а сванька адразае ковал пірага. Але самае цікавае ў канцы. Амаль што разгортваецца цэлы спектакль.

— От,— кажа бацька,— цяпер раздолле «баранэсам»!

*Для даведкі: «Баранэса»... ад словазлучэння «баранаваць языком».*

— От,— кажа бацька,— цяпер раздолле «баранэсам».

І праўда. Дораць хто чым можа. І жартам, і ўсур'ёз. Абы толькі сват наліў гарэлкі, а сванька дала пірага. Дораць усякім:

— Дугою, каб не цягаўся за другою.

— Паперам, каб быў сын інжынерам.

— Грашыма, каб не было сінякоў пад вачыма.

— Медзякамі. За кожны цок — адзін цмок.

— Папяросы, каб былі сыны ўсе матросы.

— А вось пярынка, каб нарадзілася дзяўчынка.

— Трохі грэчкі, каб пазбеглі ўсякай спрэчкі.

— Дыван, каб муж сядзеў, як пан.

— А я адрэзу на сукенку — жонка будзе, як паненка.

— Плугам, каб не стаў ты валацугам і для нас застаўся другам.

— А я крыху махоркі, каб чыхалі, як ваверкі.
— Шыну, каб купілі вы машыну.
— Цэпам, каб каталіся з прычэпам.
— Лусту хлеба, каб жылі як трэба.

Мы сядзім побач і граем туш. Калі вясельнікаў у пакоі таўчэцца меней і амаль усе падарылі, устае бацька і гаворыць:

— А цяпер будуць дарыць музыканты.

На нас вытарашчваюць вочы. Ніхто яшчэ не бачыў, каб музыкі калі-небудзь дарылі на вяселлі маладым. Бацька падыходзіць да стала і дастае з кішэні бутэльку піва:

— Дару бутэльку газу, каб маладому ад маладой ніколі не было адказу!.. А гэта — пук бавоўны, каб праз пэўны тэрмін быў жывоцік поўны!

Затым бацька дастае пяцірублёвую паперку і прыгаворвае:

— Дару паперку на чатыры канты, каб у вас былі чатыры сыны і ўсе музыканты.

Гэта апошні вясельны акорд. Пасля дарэння, хто не спяшае дамоў, яшчэ раз сядаюць за стол. Мы складаем свае цацкі. Гаспадар разлічваецца з бацькам. Бацька — са Стасем і Лёнікам.

— Ну што, хлопцы, адбухалі?
— Ды то ж...
— Як рукі?
— Ой, у мяне ледзьве відэлец трымаюць,— паведамляе Стась.
— Адчуваецца,— Лёнік варушыць пальцамі.
— А ў мяне — во,— бацька адцягвае рукаво на левай руцэ і паказвае шырокі чырвоны пухір.— Можа, рэмень замяніць, ці што?
— Вядома, замяні, а то некалі адпілуеш руку і сам не заўважыш.
— Пасправую, хоць... Ну што, хлопцы? Да наступнага разу! Дзякуй, браткі.

Стась ідзе на аўтобусны прыпынак, каб заехаць у Шчучын. Лёнік, закінуўшы акардэон на плечы, шнуруе на шашу. Яму з раніцы — у каравул. А нас з бацькам на машыне давозяць да суседняй вёскі. У знаёмых бацька пакідае нашы струменты, і мы ўдвух тэпаем нацянькі праз лес дамоў. Раптам усхадзіўся вецер. Ужо добра сцямнела. Мы ідзём каля старажытнай царквы. Недзе там, на яе стромым даху, адарваўся жалезны ліст. З кожным подыхам ветру ліст моцна грукаецца аб дах і здаецца, што ў царкве гаротна ўздыхае нейкі святы. Уваходзім у лес. У мяне ў руках торба. Там кавалак пірага для малодшага брата і боўтаецца бутэлька вясельнай гарэлкі. Дарогі не відаць — цёмна, хоць выпары вочы. Нават не бачу бацькавай постаці. Толькі чуваць яго ціхія крокі.

— Ну вось, сын,— раптам гучыць над вухам яго стомлены і крыху млявы ад гарэлкі голас.— Граць я цябе навучыў. Трымацца на людзях, здэцца, таксама. Весяліць гэтых людзей... А цяпер навучу, як ноччу ў лесе хадзіць... Паглядзі ўверх. Бачыш — дзе хвойкі не сходзяцца вершалінамі, дзе зоркі мігаюць — тут і дарога, значыцца, ідзе. Сюды і кроч.

Так, углядаючыся ў шматкі неба, мы ідзём з бацькам праз увесь лес, аж пакуль паміж парадзелых ствалоў не заблішчаць далёкім вабным святлом кволыя агеньчыкі нашай вёскі.

# БАЦЬКА

— Эх, Воўка, Воўка... Што ж нам рабіць?

Зрэдку, калі бацька добра пакаштуе гарэлкі, ён звычайна, напэўна, сам таго не заўважаючы, ставіць перада мною рытарычныя пытанні. Пытанні, на якія ў мяне не было і няма адказу. Бацька ідзе на кухню. Хістаючыся, усаджваецца на крэсла. Яно стаіць паміж сталом і ложкам. У майго бацькі дзіцячая звычка: ён залазіць на крэсла з нагамі. Тады яго босыя ступні тырчаць у бакі, а бацька, абапёршыся локцямі на калені, сядзіць і калываецца з боку на бок.

— Што ж нам рабіць? Людзі мруць, як мухі... Глянь, за гэты год злажыла колькі: і Зайчыка, і Лейтэнанта, і Уладзіка, і Лісаіху... Няма. Былі людзі — і няма іх.

Ён падманліва глядзіць на мяне:

— Сынок, прынясі яшчэ чарачку...

Падвыпіўшы, ён аддае мне ўсю гарэлку, якую мае. Бацька баіцца, што не вытрывае і нап'ецца да бяспамяцтва.

— Не нясі, Вова. Зноў будзе на нервах граць, як на басэтлі,— уздыхае маці.

— Цыц,сказаў! — бацька грукае па стале шурпатай, з бруднымі пазногцямі рукой.

Я іду па гарэлку, бо добра ведаю свайго бацьку. Ён яе выпівае залпам, адным глытком, кісла

крывіцца і спрабуе патрапіць у ружаваты скрыдлік сала на талерцы:

— Як тут людзі жывуць, не ведаю... Як яны яшчэ трымаюцца...

Бацька кідае на стол відэлец, запускае пальцы абедзвюх рук у сіваватую, але густую чупрыну і зноў пачынае калывацца з боку ў бок.

— І на якую халеру мне такія пакуты, га? Ох, маці мая... Не пусціла ў горад. Хацеў жа, хацеў, як толькі ажаніўся. Не, кажа, хто мне тут памагаць будзе? Дурань быў, паслухаў! І пакутуй цяпер тут усё жыццё,— ён брыдка лаецца і глядзіць на мяне.— Каб нагі твае тут не было!.. Не хачу, каб ты каштаваў. Гэты яблык горкі.

У мяне пасля сесіі канікулы, і я рэдкім госцем наведаўся дамоў. Вольная цэлая нядзеля. Думаў, можа, дапамагу бацьку ўправіцца з якой-небудзь работай. Але ён, згледзеўшы сваё старэйшае дзіця, ці то ад радасці, ці то ад скрухі запіў.

— Дзе ж гэта бачна? Вунь у магазіне сітро штабялямі стаіць. У два разы больш каштуе, чым бутэлька малака. У два разы! Вада і цукру шчопцік... А паспрабуй ты накасі, высушы, прывязі, запхні на гарышча гэтае сена, падой карову... Пакуль тое малако ў магазіны стане! Не магу. Крыўдна так, што... Яны думаюць, карову вызімаваць — проста? Шчасце яшчэ, што не ў калгасе працую, а на завод езджу. Усё ж два дні дома, калі з ночы. Гаспадарку так-сяк прыглядзець можна. А во суседзі без выхадных на гэтай ферме корпаюцца. У-у... Хіба гэта жысць? Што яны маюць за свае пакуты, што? Прынясі яшчэ чарку. Жыва!

Бацька бачыць, што я без вялікай ахвоты іду яму па гарэлку, і таму ўзвышае голас. Маці ўздыхае, ідзе ў другі пакой.

Ён зноў выпівае, кісла крывіцца і больш не закусвае.

— Бывала, калі вёска выходзіла правясці нябожчыка да крыжа, уся вуліца была ў людзях: і маладыя, і старыя, і малыя... Цяпер жа пляцецца за труною жменька кволых дзядкоў і бабак, што ўжо дажылі свой век. Эх, Воўка, Воўка! Сядзі там у горадзе і не рыпайся сюды. Будзеш жыць як чалавек. Хлопцы на рабоце з мяне смяюцца. Яны змену адпрацавалі і дамоў. Пазакідаюць ногі на дыван, тэлевізар глядзяць. А я з той змены сюды, на другую... Што рабіць, каб хто падказаў? Каму гэта я ўсё будаваў?

У нас неблагая гаспадарка. Цагляны, расфарбаваны мною дом, бадай што адзіны на ўсю вёску. У гаражы стаіць спраўны «ўазік», моцны хлеў, соткі, карова, свінні... Апошнім часам бацька пачаў угаворваць малодшага брата. Ён ходзіць у другі клас і зусім не здатны да навукі. «Русланчык,— аднойчы, чуў я, бацька шаптаў на вуха малодшаму,— ты многа не вучыся. Смех з гэтай навукі — павывучваюцца і жыць няма за што. Я машыну на цябе перапішу, хату... А ты пасля васьмі на шафёра ідзі. Знойдзеш сабе жонку, прывязеш вунь у другую палову хаты і жыві, хоць зажывіся. Яшчэ старэйшыя будуць да цябе прыязджаць з горада, пачакай-пачакай. Будуць кумпячка прасіць, паляндвічкі... Работу табе знойдзем. Ты ж не дурны!..»

Бацька прыціх, упусціўшы галаву на квадратныя, мазолістыя далоні. Мне здалося, што ён заснуў, і я пачаў прыбіраць са стала.

— Калгас наш расфр... Разганяць...— раптам чую яго цягучы п'яны голас.— Палавіну да аднаго саўгаса, палавіну да другога. Адны ўбыткі, даўгі... А хто вінаваты? Г-гэтыя калгаснікі, што с-свету не б-бачаць? Не... Д-давялі д-да ручкі, д-дабілі. Не едзь сюды, сын, н-не едзь!.. Толькі ж мяне не з-забывай. Я цябе г-гадаваў, с-сука!.. У-у людзей адна

ўцеха... гарэлка... не-не магу-у...— бацька глядзіць на мяне.— Што ты там грамзоліш усё, пі-йсака? Я ве-ведаю...

Ён працягвае да мяне сашчэмленыя ў кулакі рукі:

— Пра гэта н-напішы, д-душа баліць, і ўсё... усё... Во, в-во-о!.. Прын-нясі!..

Бацька глядзіць мутнымі вачыма на мяне, і па твары яго коцяцца дзве такія ж мутныя слязіны. Я прыношу паўчаркі гарэлкі. Ён п'е, і сінявper кроплі сцякаюць па губах, капаюць на майку. Бацька ставіць кілішак на стол і п'янее ўмомант. Я закідваю яго руку сабе на шыю і цягну да ложка. Ён слаба перастаўляе нагамі і нават супраціўляецца. Кладу... Распранаю... Накрываю коўдрай. Бацька расплюшчвае вочы і раптам глядзіць амаль цвяроза:

— Воўка, часы н-настаў. Заўтра н-на р-работу.

— Добра. Спі.

Праз хвіліну ён засынае, а я настаўляю будзільнік: бацьку трэба падняцца ў шэсць гадзін раніцы і паспець на прыгарадны цягнік. Заўтра вечарам ён зноў вернецца з работы, зноў стомлена сядзе на крэсла паміж ложкам і сталом, зноў папросіць пахмяліцца... І зноў пачне задаваць мне рытарычныя пытанні, на якія ў мяне не было і няма адказу.

# ВАЛЕТАВЫ РАДАСЦІ

Гэта хачу вам гісторыю расказаць. Жыў-быў хлопец. Звалі яго Валік. Быў ён крыху прыдуркаваты, і таму прычапілася да яго новае імя — Валет. Меў Валет старэйшага брата, дык збіла таго машына на шашы і ўцякла. Недарэчнасць атрымалася: прыдуркаваты застаўся, а разумнага не стала. Была ў Валета і маці — Фроська лысая. Заламалі яе старасць і хваробы, памерла, не прыйшоўшы да памяці. І была ў Валета нават жонка, дык і тая задушылася ад гарэлкі. Эх, шкадаваў ён Маню, добрая была жонка: сама мажная і карміла ўдосталь. Дарма што, выпіўшы, давала ў бакаціну таўхалёў, прыгаворваючы:

— З'еў!.. З'еў жытку маю, прыдурак лагерны!..

Маня выйшла за Валета састарэлай маладзіцай, згубіўшы ўсялякую надзею завабіць да сябе іншага мужчыну. Ну, дык знайшліся людзі, сасваталі іх, калі не стала ў Валета ні брата, ні маці. Гопнулі Валета ў воз нядзелькаю боскаю — і суседзі дзяружкай саматканай нават салому абаслалі. Два тыдні памагаў Валет Сеньку бульбу выбіраць, а Сенька не паскупіўся дый ціскануў графін гарэлкі для сватоў. Прымастаколіўся на драбінах, хлэп — маладому паўшклянкі, каб адважнейшы быў. І Стэпка ўкулілася, хустку квяцістую завязала і, як заўсёды, да месца ці не да месца: «Распрагайце, хлопцы, коні!..» Слаўка Комік за фурмана ўсеўся, свіснуў з пальцаў,

сцебануў кабылку пугай — тая і панесла вазашак наўскапыта грэбляй да Сяла.

А Валету што? Валету весела, цікава і незвычайна: кабылка гэтак скача, што аж зямля з-пад капытоў праз галовы ляціць. Стэпка песню гарлапаніць, перад самым тварам Сенькаў кулак рыльца графіна абшчаперыў, матляецца з боку ў бок. Комік пугай свішча, і гарэлка па ўсім целе кроў ганяе... А калі ўявіў Валет, што Сенька не графін, а Стэпку пяцярнёй за шыю сціснуў і тая гэтак горла ад страху дзярэ, дык увогуле зайшоўся ад смеху.

Прыехалі ў Сяло, сёстры Маню падпаілі ўжо добра. Стаіць Маня, за ляскі трымаецца і спрабуе з плотам «вальцы» скакаць. Стэпка з воза: «У нас стралец, у вас куніца». Сенька з графінам — сясцёр частаваць. Слаўка Комік за Валета ды — шмыг да Мані... Карацей, назаўтра іх у сельсавеце распісалі. Сёстры хутчэй Манін «скарб» да Валета пераправілі: куфар габляваны, шафу-самадзелку і свінню лапавухую. Абы з рук — жыві сабе, сястрычка.

Ну, вядома, Маня працвярэзілася і з пахмелля адлупіла мужыка свайго законнага. Добра адлупіла: качаргой па хлябах. Хоць гэтак выліла сваю крыўду на жыццё. Пакляла Маня сясцёр, якія гэтак проста з котлішча бацькоўскага яе выпхнулі, і змірылася з тым, што лёс наканаваў. Толькі гарэлку піць мацней пачала. Дый няшмат і пражыла за мужыком. Яшчэ здаровай бабай была, калі на ферме каля жолаба скулілася. Ногі ад хмелю ўжо трымаць не маглі — во як упілася. На ранку толькі яе асачылі. Пераварнулі Маню, а Маня ўжо халодная. Гарэлка яе спаліла, значыць, тая, што ў сябе ўліла. Нічога, лёгка памерла: гэткая, кажуць, смерць — салодкая... Можа, і салодкая тым, хто п'е.

Вось так і застаўся Валет адзін. Асірацеў ён і худзець пачаў. Прыбіўся да яго знячэўку аблезлы

кот Дзёмка. Дык Валет мурчыка не прагнаў. Дваім худзець весялей, няхай жмурыць на ўслончыку вочы свае жоўтыя...

Напэўна, высахлі б яны — Валет і Дзёмка — да адных шчылепаў, каб Салаўян, сусед праз вуліцу, не пашкадаваў. Выправіў ён Томку, дачку на выданні, вячэру аднесці небаракам. Увайшла Томка ў хату — ні ражна не бачна. Толькі дзве пары вачэй блішчаць: з услончыка — Дзёмкавы, а з ложка — Валетавы. Запаліла Томка газоўку, што на сцяне вісела, і давай іх вячэрай карміць: першаму — кашы прысквaранай наклала, другому — малака цёплага наліла. Цікуе Томка, як суседзі спрытна ўвіхаюцца, кожны над сваёй талеркай: хлопец пашчэнкамі такты адбівае, кот языком мелодыю выцінае. Наеліся яны, Валет бараду абцёр, Дзёмка вусы аблізаў. Адзін на аднаго ўглядаюцца. Дзяўчыне ўжо б дамоў бегчы, а яна марудзіць. Зашчапку бліскучую расшпіліла і валасы смаляныя па плячах рассыпала. Прыхінулася да сценкі ў шаўковым халацiку, вачыма страляе. Цікава ёй тут — не была ні разу, хоць і жыла побач гэтулькі гадоў. Ну, «гэтулькі» — можа, й перабольшана, а калі папраўдзе, дык дзесяткі са два і набралася б ёй. У прыцемку ад газоўкі ўсё Томцы цікавым здаецца: і даўно не беленая печ, падобная да параненага мядзведзя, які ўзняўся на заднія лапы; і ў куце чорны, ні на што не прыдатны цэбар, прыкрыты зрэб'ем, гэтак нагадвае мацёрага лесуна з матуліных казак; і нават стол, за якім сядзіць сам «гаспадар» — не што іншае, як худая Федзькава кляча Цэўка... Раптам засланка з печы — гэць і бразнулася вобзем: Дзёмка з сытасці хацеў на прыпечкі ўзабрацца. Томка ад перапуду да Валета скочыла, прытулілася моцна. Быццам ток прайшоў паміж хлопцам і дзяўчынай. Аж залекацеў Валет ад дотыку пругкіх дзявочых грудзей. Томка праз хвіліну

ачомалася ад страху і таксама самлела. Упершыню цела мужчынскае, якога краналася яна толькі ў снах дзявоцкіх, было такое рэальнае, такое блізкае. Казачны прыцемак дыхнуў дагэтуль невядомым рэхам жаночых пачуццяў. Нячутнымі дотыкамі ахутала Томку лёгкая, пяшчотная млявасць, ускружыла галаву. А ў Валета вусны то расцягваліся ў незразумелую ўсмешку, то сціскаліся да белых плямаў. І пальцы камячылі, камячылі зрэбную кашульку. Томка чула, як тахкае ягонае сэрца, а ўставаць не спяшалася. Доўгая пасма валасоў казытала Валету шчаку, і з кожным дотыкам адчуваў хлопец, як расце, шырыцца ў грудзях прага маладога, падатлівага цела. Абняў няўмела Валет Томку рукамі заскарузлымі, прыціснуў да сябе гэтак, што аж костачкі дзявочыя хруснулі, і паклаў яе на ложак рэзка. Глядзіць Томка на хлопца і не міргае. Усё плыве перад ёй, быццам у сне. А тут Салаўян брамкай як грукне праз вуліцу, як загукае: «Ідзі, дачка, хутчэй на вячэру!» Томка з абдоймаў высвабадзілася, да сенцаў дабегла, абярнулася:

— Страшна ў цябе,— халацік паправіла.— Пайду. Заўтра з раніцы па грыбы выбіраюся... Адна,— стрэльнула вачыма, пачырванела...

Усю ноч не спаў Валет. Як толькі Томка пабегла, Дзёмку на вуліцу выгнаў і пластом на ложак упаў. Мроілася яму: то нябожчыца Маня з расчырванелым свіным рылам усё наравіла ці ўкусіць, ці пацалаваць; то нейкае страшыдла з калматымі лапамі скакала па хаце з кута ў кут; то пад ложкам хтосьці соп і кратаў за дзяругу. Не спаў хлопец. Ляжаў, стаіўшыся. А як толькі певўні прачнуліся спеўкі правадзіць — раз, другі,— як пасвятлела за акном і прывіды пахаваліся, пачаў прыслухоўвацца ён да вуліцы: выгналі ў поле кароў, пратарахцела фурманка, нехта цяжка патупаў да фермы... І нарэшце — лясь!..

Салаўянава брамка. Ускочыў Валет і хутчэй да акна. А Томка, не спяшаючыся, у боціках гумавых да лесу кіруецца. Выбег Валет з хаты — яшчэ і не развіднела добра. Толькі-толькі сонца пацягваецца. Ён за Томкай хуценька — шусь. Як ёсць — босы, у картовых портках, пацёпканай кашулі, кудлаты і вочы прагныя — агнём! Томка на сцежку ступіла. Абапал жыта буяе акурат у чалавечы рост. Каласы вусамі мокрымі яе чапляюць, што кавалеры, праходу не даюць. І Валет шнуруе за Томкай. Раніцай холадна басанож — раса ногі ломіць. Але ж кроў у хлопца гарачая, ды сэрца ўсхваляванае кроў гэтую па ўсім целе бруіць. Крочыць ён за Томкай утрапёна, а сцежка віхляе: то пакажа дзяўчыну, то схавае за жытам. Ішоў Валет і раптам спыніўся, здзівіўшыся: няма дачкі Салаўянавай. Прапала. Аж бачыць: раса пазбіваная з каласкоў прымятых і сляды свежыя. Знаць, гумавыя боцікі ў бок ад сцежкі сышлі. Ірвануўся Валет, жыта сабой разбіваючы, і хутка Томку ўбачыў. Стаіць дзяўчына сярод каласкоў, кошык з рук выпусціла, вочы заплюшчыла і да Валета прагне. Узяў хлопец яе за рукі, абняў скавана... Ніхто з іх не памятаў, ХТО яны, ДЗЕ яны, НАВОШТА яны. Гэта быў толькі танец — цудоўны, дзіўны танец пачуццяў, жадання, цела...

І зашаптала, усхадзілася жыта; і раптоўна вырасла яно гэтак, што закрыла над імі амаль усё неба...

Удзень прыпякала сонца, і Валет ні з таго ні з сяго зелле пачаў вырываць, што ў двары павырастала. Ведама, як Маню ў зямлю пахавалі, дык нічые рукі бур'ян за чуб і не траслі. Узбуяла зелле роўна з плотам. Ходзіць Валет па двары, карчуе лебяду з палыном ды складае ў кучы, каб сонца ўсе сокі атрутныя выпіла. Але тут раптам Салаўян як закрычыць на

некага раззлавана з парога, дык Валет адразу ў хату — на ложак скочыў, дзяружкай прыкрыўся. Ні жывы ні мёртвы. Так і праляжаў да самага вечара, баючыся ў акно зірнуць ці з хаты выйсці. Чакаў, што Салаўян разгневаны прыйдзе, уведаўшы пра дачку, ды рэбры пераломіць.

А ўвечары, і праўда, дзверы ціхенька — рып... І крокі ў прыцемку асцярожныя, але ўпэўненыя. Штосьці грукнула аб стол, на ўслончыку Дзёмка замуркаў паблажліва. Каля ложка крокі спыніліся, нехта прысеў зусім побач. Валет пачуў, як мякка хруснулі калені, і раптам у самае вуха гарачы шэпт:

— Куды ж ты схаваўся, Валік?..

— Томка?!

— Усё добра, усё вельмі добра. Не бойся, Валік...— шаптала яна гэтак, адчуваючы, што губляе над сабой уладу.

Рукі яе хлопца пяшчоцілі, краналіся твару... Валет парыўна схапіў Томку і няўмела пацалаваў моцна, прыціснуўшыся да яе...

Больш змагацца з сабой дзяўчына не магла. На яе напаўзла нібы салодкая дрымотнасць, і здалося Томцы, што цела яе птушкай узняслося да самай столі, а пасля ціха апусцілася на ложак...

Салаўянава дачка прыходзіла да Валета часта: насіла вячэру амаль кожны вечар. А як бацькоў дома не было, то і ўдзень хуценька — скок праз вуліцу да хаткі збуцвелай. І ніхто не ведаў, што творыцца ў Валетавай душы, што адбываецца з Томкай. Пэўна, няўцям было б вяскоўцам, каб даведаліся, што паміж гэтымі да смеху рознымі людзьмі свая таямніца цепліцца. Няхай сабе і не такая значная, але аб'яднаць і парадніць здольная.

Толькі неяк Томка прапала: не прыходзіла два тыдні. І на трэці не з'явілася. Занепакоіўся Валет, занерваваўся. Пачаў па двары бадзяцца без дай

прычыны, бляшанкі з-пад кансерваў футболячы. Дзёмка вочы згаладалыя на нягеглага гаспадара свайго ўперыў у чаканні якой-небудзь стравы. Але так нічога і не ўбачыў сытнага: пацёгся на ферму спажывы шукаць. Валет, ходзячы па двары, Салаўяна ўгледзеў — той чагосьці кешкаўся на сваім падворку. Быў памкнуўся загаварыць з суседам, але наткнуўся на свірэпы погляд знячэўку. Ну, дык хлопец бокам, бокам ды хутчэй у хату ўскочыў. А з вуліцы камень — «дзынь» у акно і заскакаў па падлозе. Валет ад жаху анямеў, на печ ускочыў, да падмурка халоднага прыціснуўся, рыззём прыкрыўся. Прасядзеў ён гэтак да раніцы: хлебныя скарынкі грыз, да зданяў прыслухоўваўся. А ўранні, як трошкі развіднела — енк, віск, валтузня. Валет з печы ды паціху да акна — зірк, а Салаўян свінню закалоў, смаліць пачынае. Заскакаў хлопец па шкле бітым, боль у нагах адчуўшы. Прыгледзеўся, а са ступняў кроў сочыцца. Згроб ён шкло пад ложак, пабітае акно завесіў дзяружкай, камень падняў. Выйшаў з хаты, сеў на кучу зелля сухога, ногі да сонца выцягнуў. Няхай гоіць сонейка раны, боль забірае. Няхай...

І прыйшоў той дзень, калі да Салаўяна пад хату прыехалі некалькі легкавушак. Запаланілі вуліцу людзі ва ўборах розных ды гарнітурах. Гоман паўсюль, смяшкі, музыка. І ўбачыў нарэшце Валет Томку праз выбітую шыбіну ў акне: выйшла яна з дому ва ўсім белым. І бель гэтая ў Валета на твары адбілася. Вывелі Томку два хлопцы пад рукі, у машыну пасадзілі. А хлопца нейкага, зусім зялёнага, як шчыгла, дзеўкі да другой машыны падвялі. Здалося Валету, што плакала Томка. Плакала, і таму гэтак вочы ў зямлю апусціла. Машыны, сігналячы, ад'ехалі. Людзей паменшала: якія з'ехалі, а якія да Салаўяна падаліся.

Адскочыў Валет ад акна, як уджалены, заміту-

сіўся, забегаў па хаце, быццам у клетцы. Дзёмка з услончыка азваўся, дык такога выспятка ўляпіў Валет, што ўслончык дагары нагамі перакуліўся, а кот у падпечак зашыпуліўся. Зваліўся хлопец на ложак, выцягнуўся стрункай і зніякавеў, скіраваўшы погляд абмярцвелы ў столь. Так і праляжаў да цемнаты... А ўвечары машыны, равучы, зноў папрыязджалі. Зноў музыка, крыкі, рогат... Нават і не варухнуўся Валет. І толькі калі на вуліцы аціхлі галасы і ў доме Салаўянавым напята вокны парасчынялі, каб ад скопішча народу духата гасцей не заела, падняўся Валет і на падворак выйшаў. Галаву ў плечы ўвабраў, пераступаючы з нагі на нагу: зямля ж халодная, восень студзіць. Прыгрэўся ён трошкі і пачаў бур'ян сухі пад сцены цягаць. Перацягаўшы, сядзеў на парозе колькі часу. Стрэмка ўбілася ў далонь, выкусваў. Пасля зайшоў Валет у хату. Намацаў у цемнаце газоўку, з цвіка зняў і выкруціў у ёй галоўку.

— Ідзіце прэч,— цяжка дыхаючы, шаптаў Валет,— ідзіце адсюль. Няма вам тут больш месца.

Ён падбег да дзвярэй і штосілы ўдарыў нагой пад клямку. Расчыніліся дзверы расхрыстана, аб сцяну бразнуліся.

— Ну, ідзіце адсюль,— як не плакаў Валет,— ідзіце. Годзе, пажылі пры Фросьцы яшчэ.

Валет хадзіў па хаце з кута ў кут і прыслухоўваўся да шоргатаў розных. Але было ціха, толькі з печы зашыпела штосьці зласліва.

— Каму сказаў? — размахнуўся Валет і крыжнакрыж плюхнуў газай на адну сцяну, на другую.

Запахла салодка нафтай, а хата ажыла галасамі. Быццам кашлянула маці на печы, уздыхнуў брат старэйшы. А ў куце з'явілася Маніна постаць, руку працягнула: «Налі чарачку».

— Прэч,— Валет лінуў газай на яе, постаць

знікла, але з кута качарга вывалілася і доўга скакала на падлозе чараснікам, быццам хто смяяўся здзекліва.

Валет са стала схапіў пачак патрушчаны запалак і выбег з хаты.

— Ідзіце прэч! — Ён счакаў хвілю і рыўком зачыніў дзверы.

«Ты казала, што ў аўторак»,— ад Салаўяна песня чулася.

На вуліцы стаялі дзеці, зазірнуць у вокны спрабавалі. Валет з цемры выдаўся і крэкнуў гучна. Дзеці спуджана кінуліся ў другі бок вёскі. Ён абышоў хату і паабліваў ссохлы бур'ян рэшткамі газы.

Пасля пастаяў, сапучы, і яшчэ раз абышоў, кідаючы ў цемры пад сцены, быццам зорачкі, запалкі. За ім паціху агністы шлейф займаўся. Адбегся Валет далей у цемру і стаў чакаць. Агонь сухое трухлявае бярвенне лізаў прагна, учэпіста, падскокваў да страхі саламянай. Валет зачаравана глядзеў на гэткі цуд. Ён убачыў, як на вуліцу выйшаў ад Салаўяна нейкі чалавек, спыніўся ўтрапёна і з лямантам кінуўся назад. Праз момант высыпаў з дому цэлы натоўп. І Томка выбегла. Валет бачыў яе выразна: у сукенцы белай, паміж сполахамі агню і покрывам ночы. Хтосьці з вядром падскочыў, выліў ваду на зруб — і знаку ад гэтага не з'явілася. І раптам пачуў Валет, як нехта ў хаце заенчыў нема. Дзёмка!

Валет з цемры выбег і да дзвярэй кінуўся. І аглух ён раптам. Ні трэскату агню, ні крыкаў людзей не чуў. Было ўсё, быццам у сне, запаволеным. Кожны крок аддаваўся, як сэрца ўдар. Валет убачыў, што крычыць Томка і таксама запаволена, быццам у сне, бяжыць яму напярэймы. Убачыў, як зароў

Салаўян на хлопца зялёнага. А ён, шчыгол, адно вачыма лыпае. І кінуўся Салаўян, растапырыўшы рукі, за Томкай. Ухапіўся за яе, штурхануў, упаў сам, і ў руках толькі белы вэлюм застаўся. Томка некалькі крокаў ступіла, і абцасы высокія падвярнуліся, укленчыла, рукі да Валета выцягнула, учапіцца спрабуючы:

— У нас будзе дзіцятка! — Вусны бязгучна словы выпісалі.

Валет дабег. Запаволена прыкрыў твар кашуляю, ірвануў дзверы на сябе — Дзёмка куляй у прасвет выскачыў. І ўздыхнуў нехта радасна, і ўспыхнула знутры хаты, быццам стрэліў хто, і Валета адштурхнула штосьці цяжкое, смуроднае. Адкаціўся ён, падняўся на ногі і зноў пабег у цемень...

Стаяў ён воддаль і глядзеў, як з іскрамі праз комін высока чорны слуп дыму ў неба зорнае шугае. Паціху да яго гукі пачалі вяртацца: крычалі людзі, вёдры бразгалі, трашчалі галавешкі... Раптам нехта ў нагу тыцнуўся. Здрыгануўся Валет, а гэта Дзёмка, мурчык верны з вусамі абсмаленымі. Укленчыў Валет, узяў яго на рукі і знерухомеў.

З начнога неба да іх засяроджана прыглядаліся зоркі глыбокія.

# КАЦЯНЯ

Яна была ўжо навучана жыццём. Гэтая навука стала для яе горкай. Двойчы яна была цяжарная, двойчы ў яе з'яўлялася патомства, і двойчы, калі гаспадар знаходзіў кубло, у яе заставалася толькі адно кацяня.

Першы раз — не стала дваіх, а другі — траіх сысункоў. Дарэмна пасля стагнала яна ў роспачы і гукала сваіх дзяцей. Таму, адчуўшы, што зацяжарала зноў, кошка занепакоілася і пачала шукаць бяспечнае месца, дзе можна было б акаціцца і да пэўнага часу схаваць патомства. Неўзабаве такое месца знайшлося. У хлеўчуку, на вышках, яна агледзела сабе цёмны кут, дзе амаль ніколі не выбіралася сена. Кошка адшукала вялікую дзірку паміж страхой і зрубам. Пасля, калі ў яе нарэшце з'явіліся кацяняты, яна ні аднаго разу не ўскочыла на драбіны, што былі прыстаўлены да лаза на вышкі. Напіўшыся цёплага малака, якое гаспадыня спраўна налівала ёй адразу, з-пад каровы, кошка нейкі час сядзела на падворку, жмурыла зыркія вочы і толькі калі заўважала, што за ёй не сочаць, паціху пралазіла паміж ляскамі ў агарод.

Яна прадзіралася вядомымі толькі ёй, амаль не існуючымі сцежкамі праз густы пахучы маліннік да бульбянога поля. Там шмыгала ў высокі разгалісты бульбоўнік і, зрабіўшы круг па разорах, падыходзіла да счарнелай сцяны хлеўчыка...

Гэты раз яна акацілася трайнёй. Двое кацянят былі падобныя да яе — такія ж цёмна-шэрыя рысачкі з белымі плямамі на грудзях, а трэцяе — мела суцэльна рыжую афарбоўку. Сысункі былі яшчэ сляпыя, але ўжо мацнелі. Пасля кармлення кошка нячутна, каб не парушыць іх салодкі сон, выходзіла на паляванне.

Так ішоў час. Набліжалася хвіліна, калі гэтыя пушыстыя камячкі, з пляскатымі мордачкамі і яшчэ ледзь заўважнымі вушамі, меліся ўпершыню глянуць на свет. Маці чакала той шчаслівай хвіліны. І чым больш цягнулася чаканне, тым часцей ёй здавалася, што цяпер усё будзе добра, усё абыдзецца. Ніхто не зачэпіць яе дзяцей. А калі падрастуць, яна аднойчы выведзе іх, яшчэ няўцямных і дураватых, на паляванне ў жыта. З такімі кашэчымі сакрэтамі і думкамі кошка засынала кожную ноч. Яна адчувала, як цісну́цца да жывата кацяняты, і соладка плюшчыла вочы.

Ды неяк праз сон яна пачула шорах. Яе цела страпянулася і замерла: на вышкі па драбінах лез чалавек. Яна не бачыла яго, бо змайстравала кубло глыбакавата ў сене. Вось рыпнулі дошкі пад яго рукамі, вось ступіла адна нага, другая, і ўсё замерла. Чалавек стаяў і прыслухоўваўся. Кошка чула, як ён дыхае, як шморгнуў носам.

— Кыцы-кыцы-кыцы...

Яна пазнала сына гаспадара. Ён быў яшчэ малы і, бывала, злавіўшы, лашчыўся да яе і цягаў на руках. Але цяпер кошка не азвалася.

— Кыцы-кыцы-кыцы...

І раптам прачнулася, запішчала і пачало шукаць цыцку рыжае кацяня. Кошка лізнула яго ў нос, ухапіла зубамі за каршэнь, але позна — дзіцячая рука намацала яе спіну, слізнула па кацянятах. Кошка страціла спакой...

У той дзень яна нікуды не адлучалася, была з дзецьмі. І толькі назаўтра, калі ў сасках не стала малака, саскочыла ў бульбоўнік і, азіраючыся, пабегла ў жыта. Трэба было чымсьці пажывіцца і адшукаць новае месца, куды б можна было перанесці кацянят.

А з хаты тым часам выйшаў гаспадар. Ён дзелавіта забіў цвік у адарваную ляску, паклаў малаток і палез на вышкі. Там адразу знайшоў кацянят, дастаў іх з кубла і паклаў на калені. «Та-ак,— разважаў ён.— Адно пакінем сабе... адно прасіў сусед, бо ў яго паздыхалі... Ну, а гэты лішні». Ён паклаў на месца дваіх, тых, што здаліся яму прыгажэйшымі. Трэцяга, рыжага, узяў з сабой. На падворку прыхапіў лапату і скіраваўся за хлявчук. Гаспадар не бачыў, што за ім крадзецца, сочыць сын. Малому надта ж было цікава, як гэта пазбаўляюцца ад кацянят. Бацька выкапаў ля сцяны ямінку, кінуў туды кацяня і таропка засыпаў яго зямлёй, прытаптаў зверху...

Праз некаторы час хлапчук уважліва глядзеў на свежы кружок чарназёму, нарэшце прыклаў да зямлі вуха. Раптам ён адчуў, што зямля пад яго шчакой варушыцца і прыўзнімаецца. Хлапчук абамлеў ад нечаканасці, пачаў разграбаць рукамі чарназём... Кацяня было жывое. Яно млява варухнулася, выпускаючы тонкія кіпцікі, ціха пікнула. І яшчэ яно глядзела. Першы раз кацяня зірнула на свет са сваёй магілы. Хлопец не ведаў, што рабіць. Паспрабаваў закапаць кацяня зноў, але, сыпануўшы на яго дзве-тры жмені зямлі, зразумеў, што закапаць не зможа: знайсці ў сабе моц паставіць крыж на чыімсьці жыцці ў яго не ставала сілы. Ну што ж (я паўтараю), хлопец быў яшчэ зусім малы, і падобны ўчынак здаўся яму дзікунствам. Ён схаваў за пазуху гэтую слабую істоту і зноў палез на вышкі.

Там ён паклаў Рыжага да двух яго братоў і, уражаны тым, што адбылося ў яго жыцці, пайшоў у хату.

Кошка з'явілася вечарам. Яна спрытна скокнула на сцяну і, набліжаючыся да кубла, гучна муркнула, азываючы дзяцей. Усе трое былі на месцы. Толькі ад Рыжага моцна пахла зямлёй. Па чужых пахах кошка разабралася, што нядаўна тут быў і сам гаспадар, і яго сын... Калі гаспадар бачыў кацянят і пакінуў іх на месцы, значыць, так і будзе — усе будуць жыць. І кошка паверыла ў лепшае.

Пайшлі дні. Кацяняты асмялелі, пачалі распаўзацца па вышках. Часам яны падыходзілі да лаза і, гледзячы ўніз, выцягвалі свае худыя шыі. Тады кошка надзяляла іх мацярынскімі выспяткамі, адганяючы прэч. Пачыналі кацяняты гуляць — падымалі страшэнны вэрхал, і кошку гэта непакоіла, але зрабіць што-небудзь істотнае, каб суняць іх, яна не магла: у маладых цельцах нараджаліся спрытнасць і сіла — галоўныя якасці для звера. Дзеці раслі. Яны патрабавалі ўсё больш малака. А котчыны цыцкі высыхалі і пачыналі балець. Трэба было весці кацянят і паказаць гаспадыні, каб налівала малака на ўсё сямейства. Але кошка марудзіла. Клопат аб дзецях і заўсёдны страх перад чалавекам стрымлівалі. Ды ўсё атрымалася інакш.

Аднаго разу, счакаўшы, калі маці пойдзе ў жыта, кацяняты зноў пачалі дурэць. Рыжы заўважыў, што Рысачка загледзелася ўніз, і хацеў знянацку на яе наскочыць, спалохаць. Тая скокнула ўбок, а ён, не ўтрымаўшыся, зваліўся з вышак. У хлеўчуку якраз быў гаспадар. Можа, нічога б і не здарылася, каб упала другое кацяня. Але зваліўся якраз ён, Рыжы. Гаспадар здзіўлена выпучыў вочы, пастаяў хвіліну, зачыніў дзверы, і кацяня пачула яго крокі за хлявом. Потым ён пайшоў у хату, адкуль неўзабаве з енкам выскачыў сын і пабег некуды на вуліцу.

— Я т-табе, смаркач! — кінуў гаспадар услед сыну, адчыніў дзверы і зайшоў у хлеў.

Рыжы фыркнуў, але не паспеў ён агледзецца, як апынуўся пад фуфайкай.

Гаспадар ішоў вуліцаю. Ён трымаў кацяня на руках і з надзеяй пытаўся ў стрэчных вяскоўцаў:

— Мо коцік патрэбны?.. Я закапаў яго, а дурань мой дастаў з таго свету... Цяпер жа ў зямлю не пасадзіш: глядзіць у вочы... Грэх. Нясу да Лужка... Дык, можа, забірай? Коцік ладны ўжо, малако хлебча...

Ніхто Рыжага не браў, бо гэтага дабра хапала ў саміх. Гаспадар расчаравана апускаў галаву і ішоў далей. Лужком называлі выкапаную бульдозерам яму. Туды з часам налілося дажджавой вады, і ўтварылася глыбокая вялізная лужына з зарослымі травой буграмі насыпанай па баках зямлі. Гаспадар узышоў на бугор, выразна адчуў, як грэе малое цельца яго шурпатую руку, размахнуўся і шпурнуў кацяня як найдалей ад берага. Тут жа рэзка павярнуўся і таропка збег уніз...

Кацяня боўтнулася ў ваду. Колькі разоў, як паплавок, знікала з паверхні і зноў паяўлялася. Да берага было далёка. Надта далёка. Але Рыжы працаваў усімі чатырма лапамі і ў роспачы глядзеў на пацямнелы бераг. Ён адчуваў, што слабее, што яго незагартаваныя мускулы не вынесуць да выратавальнай сушы. Ды надта ж хацелася жыць. Жыць! І ён з апошняй сілы плыў, рассякаючы лапамі заброснелую цёплую ваду. Бераг адчуў нечакана — і зорка кашачага шчасця слаба бліснула яму яшчэ раз. Было досыць плытка. Кацяня не спынілася і не перавяло дух. Яно, ледзьве дастаючы лапамі глістае дно і цягнучы з вады шыю, падалося на сухое. Рыжы зваліўся, пакінуўшы ў вадзе заднія лапы. Пярэднія ляжалі на траве... Колькі цягнулася небыццё, ён не

ведаў. Ачуняў ад холаду. Было цёмна, і хацелася есці. Вёска ў начным мораку разанула па вачах зыркасцю вокнаў. Ён узняўся на лапы і, ківаючыся з боку ў бок, пацёгся да хатаў. Там быў паратунак, і недзе там, напэўна, яго шукала маці. Самая блізкая пабудова вабіла насцеж расчыненымі дзвярыма, мнагалюддзем і той гаманлівай весялосцю, якая чулася нават здалёк. Рыжы падняўся па халодных цэментных усходах, пакідаючы на іх сляды сваіх лап. Ён зайшоў у нейкі калідорчык, адчуў пад кіпцюрамі цёплае дрэва дашчанай падлогі і стаіўся ў кутку, цікуючы за людзьмі. Яны сноўдалі туды-сюды. Дзяўчаты выходзілі ў начную цемень, звонка смяяліся і зноў беглі назад. Хлопцы курылі і таксама вярталіся ў будынак. Зусім побач кацяня ўбачыла дзве пары ног.

— Людка, мілая, пойдзем прагуляемся...

— Куды?.. А хто за мяне скакаць будзе?

— Наскачашся яшчэ!

— Пусці!.. Сказала, пусці!..— Ногі ў белых басаножках адпіхнулі тыя, што былі ў чаравіках з развязаным шнурком.

Рыжы падняў галаву. Хлопец, абуты ў чаравікі, быў адзін, стаяў і тузаў сябе за чуб. Кацяняці здалося, што ў гэтага чалавека можа быць малако. Яно ціха мяўкнула. Хлопец глянуў пад ногі, прысеў і схапіў Рыжага. Так ён і зайшоў у клуб з кацянём, падняўся на сцэну і кінуў Рыжага на калені здаровому прылізанаму дзяцюку, які аблёгся спінай на грубку. Здзекліва сказаў:

— На, бяры!.. Выкуп табе... І адчапіся ад Людкі, бо ўсе рэбры пералічу...

Чубаты вытрымаў запытальны позірк прылізанага, скочыў са сцэны і пайшоў да астатніх хлопцаў і дзяўчат. Дзяцюк прыўзняў кацяня, зазірнуў яму ў вочы. Затым ухапіў за шыю і пачаў душыць.

Ён сціскаў свае клешчы ўсё мацней і мацней, з цікавасцю ўглядаючыся ў затуманеныя вочы кацяняці... Апошняе, што ўбачыў Рыжы, гэта як раптам неверагодна заміргалі каляровыя лямпы. І яшчэ аднекуль з'явіўся гаспадар. Ён ішоў да Рыжага аголены, з поўнымі цыцкамі малака — яно аж сцякала на пульхны жывот. А дзяцюк усё глядзеў кацяняці ў вочы і, напэўна, нічога там не ўбачыў, бо твар яго стаў злым, увесь перасмыкаўся.

Прылізаны грэбліва скрывіўся і шпурнуў знежывелае кацяня ў залу. Яно мякка шлэпнулася на пыльную падлогу. Рыжы ўжо не чуў ні болю, ні як завіскаталі дзяўчаты. Не бачыў ён і таго, як чубаты хлопец стаяў воддаль і толькі моўчкі шчаміў кулакі, а падысці да прылізанага баяўся. Не бачыў Рыжы, як устаў з крэсла хударлявы хлапчук, як узяў на абедзве далоні яго, Рыжага, і вынес з клуба, паклаў на росную траву. Гэты самы хлапчук падняў з зямлі востры камень і, тулячы яго да нагі, вярнуўся назад, падняўся на сцэну. Там ён ціха, са спіны, наблізіўся да дзецюка з прылізанымі валасамі, замахнуўся... Але стукнуць не паспеў — сябрук прылізанага адным ударам збіў яго з ног. Скокі спыніліся. Клуб зачынілі, а хлапчука выцяглі на падворак і нудна білі. Апошняе, што ўрэзалася ў свядомасць, калі ён ляжаў на траве, была нага ў расшнураваным чаравіку: чубаты помсціў слабейшаму за сваё зняважанне.

Яны так і засталіся ляжаць удваіх: кацяня па адзін бок сцежкі, а хлопец — па другі. На самым досвітку прыехала на фурманцы нейкая цётка. Яна з плачам укуліла хлапчука ў воз і кудысьці памчала. Калі ўзышло сонца, да клуба прыйшла і кошка. Яна доўга сядзела ў кустах. А пасля, асмялелая, наблізілася да адубелага кацяняці. Нюхнула, лізнула ў нос сваё дзіця і ціха села побач...

# ГУЛІС

Яго называлі так усе. У вочы і за вочы. Найбольш за вочы, хоць ён ніколі не сердаваў. Вяскоўцы не ведалі сэнсу гэтага слова і не памяталі, з якой нагоды яно прычапілася да чалавека. Але, тым не менш, «г» чамусьці вымаўлялі як узрыўное. І гэта дзіўна. Бо ён заўсёды быў ціхі і мяккі, вечны працаўнік. Гэта калі цвярозы, калі выпіваў — станавіўся яшчэ і сентыментальны. Але апошняе здаралася рэдка. Толькі па святах. Тады ён ішоў праз усю вёску да Цімкавага хутара. Часцей вечарам. Гуліс меў сваю моду ў вопратцы: зіхцелі наваксаваныя ялавыя боты, суконнае галіфэ і белую кашулю на паясніцы перахопліваў шырокі рэмень. Гэта быў мажны ў плячах, каржакаваты, з сумнымі вачыма чалавек. І калені ў яго, калі ішоў, заўсёды крыху падскоквалі ў бакі.

Людзі казалі:

— Унь, глядзіце, Гуліс зноў на хутар паклыпаў.

Ці:

— Наш Гуліс, мабыць, ніколі не састарыцца.

А Гуліс, злёгку прыпадаючы на левую нагу, ішоў да Цімкі. Там яму было лёгка маўчаць і лёгка ўспамінаць, там была двухрадка. Там яго разумелі.

Цімка ўжо чакаў госця і нікуды з дому не адлучаўся.

— Добры вечар, Цімка! — вітаўся Гуліс.

— Добры, Віця! — адказваў Цімка.
— Са святам цябе.
— І цябе.
— Ну, як справы? Здароўе?
— Так сабе. Дзякуй, а ты? Бульбу выкапаў?
— Пару баразён засталося. Калі дасць Бог, на гэтым тыдні даб'ю.

Яны сядалі за стол. Гуліс даставаў з кішэні галіфэ бутэльку. Цімка пачынаў гатаваць стараха-ласцяцкую закуску.

— Нічога не трэба,— казаў Гуліс.— Чаго ты круцішся, як вавёрка?
— Ціха-ціха, кавалерыя. Я лепей ведаю.

Цімка прыносіў карасінавую лямпу. У яго засталася такая звычка — па святах сядзець пры лямпе. Ён падкручваў кнот, запальваў і вешаў лямпу на цвік, убіты ў сцяну.

Налівалі па першай. Гуліс выпіваў і не закусваў.

— Паеш чаго.
— Не хачу, Цімка... Прынясі хромку.

Цімка прыносіў двухрадку. Старую і пашарпаную.

— Пакуль гэтыя памідоры не з'ясі, іграць не буду.
— Ну што ты, як дзіця?
— Я сказаў,— хмурыў ён лоб.— Ты ж у гасцях. Паспрабуй, а то пакрыўджуся. Я, можа, спецыяльна для цябе гатаваў.

Гулісу даводзілася з'ядаць памідоры.

— Ты ведаеш, лепш нават, чым у маёй старой атрымліваецца,— цмокаў ён, каб задобрыць сябра.

Цімка быў задаволены.

— Што граць?
— Давай «Бярозы».

Цімка прыстасоўваўся да гармоніка і асцярожна даваў уступ.

Шу-ум-ны-я-а бя-ро-о-зы па-бя-ліў ма-ро-о-о-оз...—
працяжна і з падвываннем вёў басам Гуліс.

Цімка дапамагаў. У яго было меней фальшу, але голас гучаў прастуджана і сіпла. Калі вочы ў Гуліса пачыналі поўніцца слязамі, Цімка адразу ж зводзіў мяхі.

— Стой! Мы пры гэта ўжо спявалі.

— Ну, давай яшчэ раз...

Эх, пай-ду-у я ў по-ле-е
Як бы на-а вай-ну-у!
Шу-ка-ю-чы во-лю-у,
Ша-абліч-кай мах-ну...

Непрыкметна песня скончвалася. Гуліс нерухома сядзеў, абхапіўшы галаву рукамі, а Цімка браўся за бутэльку:

— Ну што? Зноў успаміны адолелі? Кінь ты, лепш давай пасля песні горла прапаласнём. Па грамульцы, га?

Гуліс маўчаў. Цяпер з яго цяжка было выцягнуць слова. Цімка гэта разумеў і піў адзін.

— Цябе калі-небудзь... расстрэльвалі пад музыку? — раптам сцішана казаў Гуліс.— З кулямётаў. Цэлы эскадрон. А ў цябе толькі шапка ды карабін за плячыма. Кулі ляцяць, ляцяць у твар, нікуды ад іх не схавацца. І нага ў стрэмі пад забітым канём,— ён закрываў вочы дрыготкай рукой.— І патэфон, патэфон са «Славянкай», Цімка!

А Цімка ўжо сыпаў жменяй акорды. Ведаў: для Гуліса цяпер адзіны паратунак — «Развітанне славянкі»...

Памёр Гуліс знянацку, нават крыху загадкава. Аднойчы, напрадвесні, калі стаў паціху асядаць на палях снег, нейк на досвітку ён разбудзіў сваю старую, каб яна схадзіла на хутар па Цімку. Старая доўга не згаджалася, абяцала, што пад старасць гадоў здасць Гуліса ў дурдом, але ўсё ж пайшла...

Назад яна вярнулася адна, без Цімкі, той недзе гуляў на хрысцінах у суседняй вёсцы. Усе праклёны і лаянка, якія накіпелі, пакуль Гулісава жонка ішла на хутар і з хутара, не паспелі зляцець з яе вуснаў. Гуліс ляжаў на ложку і не міргаючы глядзеў у столь...

Пасля, як пацяплела і пырснулі лістотай дрэвы, Цімка колькі разоў прыходзіў на могілкі да Гуліса з двухрадкай. Садзіўся на пафарбаваную лаўку і доўга ўглядаўся ў фотаздымак на помніку, быццам размаўляў ці выпытваў што. А пасля ціха, каб не парушыць адвечнага спакою могілак, пачынаў іграць «Шумныя бярозы».

# ПАЎЛЮК

Дзеці яго баяліся. Звечара, калі капрызлівы сынок ці дачушка ніяк не маглі заснуць, бацькі звычайна казалі:

— От зараз як надакучыш, то пайду Паўлюка паклічу — няхай пакажа табе свой пазногаць.

І малое, прыціхшы, хавалася пад коўдру.

А дарослыя з Паўлюка пасмейваліся. Жыў ён на хутары адзінокім пустэльнікам. Некалі хутар быў людны. Але з часам хутаране выбраліся ў вёску. Ад іх заможных сяліб засталіся толькі каменныя муры. Паўлюк перабірацца да людзей не захацеў. Вось і жыў ён адзін, пры карасінцы, сярод тых кінутых падмуркаў. Хатка яго стаяла на самым узлессі, вокнамі на вёску. Непадалёк з лесу выходзіла дарога. Угледзеўшы, што па дарозе нехта ідзе, Паўлюк зачыняў свой будынак і ўцякаў у лес. Ён і так не быў гаваруном, а калі застаўся на хутары адзін, дык наогул зрабіўся маўчуном.

Гаспадаркі ў Паўлюка не было: ні свіней, ні курэй, ні нават сабакі ці кошкі. А дзверы ён не зачыняў на замок — проста падпіраў знадворку калом. Жыў пустэльнік запушчаным бабылём, таму ў хаце панаваў вечны гармідар. Можа, пагэтаму і ўцякаў у лес. Набожная бабуля мне расказвала, што некалі ў маладосці Паўлюк быў надта ж прыгожым хлопцам. Вясковыя дзеўкі за ім так і млелі. Але аднаго

разу ці купіў, ці знайшоў ён чорную кніжку. Такую, па якой вучацца ўсе варажбіты. Паўлюк прачытаў тую пісаніну і ў самым канцы заўважыў надпіс літарамі, што трэба абавязкова некалькі разоў прачытаць кнігу з канца да пачатку. Ну, вядома, малады хлопец тады плюнуў і не зрабіў гэтага. А праз колькі год у яго не стала бацькі. Хутка памерла маці. Застаўся ён за гаспадара. А ў гаспадарцы адзін чалавек не работнік. Паўлюк прадаў карову, пачаў добра выпіваць. І дзяўчаты паглядаць на яго раптам перасталі. Праўда, гарбатая Стэпка часам зазывала яго і нават пакідала пры сабе на ноч. Але тут сам Паўлюк не меў моцнага жадання звязваць з ёй усё жыццё. І, урэшце, застаўся адзін на тым хутары, ашалелы ад адзіноты. Так казала бабулька. Напэўна, тым часам Паўлюк пачаў ужо дзяцінець. Я калі-нікалі бачыў яго на прыступках вясковага магазіна. Звычайна Паўлюк быў мурзаты, у абношаным зрэб'і, сядзеў і еў хлеб, які яму бясплатна давала магазіншчыца. Было, што Паўлюк кідаў скарынкі галубам, няўцямна глядзеў, як яны дзяўбуць хлеб, і пры гэтым хітаў калматай галавой, выдаючы дзіўныя, сіпячыя гукі. Вялікі палец на яго правай руцэ быў роўны з астатнімі, бо з пальца тырчаў вялікі, жоўты ад нікаціну пазногаць. Менавіта гэтага пазногця больш за ўсё і баяліся дзеці.

У шэрай Паўлюковай барадзе заўсёды было поўна драбнюткіх трэсак,ігліцы і нежывых мурашак. Порткі Паўлюк падвязваў вяровачкай. Яе кутасікі з вузлякамі на доўгіх канцах матляліся збоку, недзе аж ніжэй каленяў. Апошнім часам Паўлюк нідзе не рабіў, і было дзіўна, як ён жыве, дзе бярэ грошы. Ды ён іх нідзе і не «браў». Усе яго клопаты зводзіліся да таго, што вясной, як толькі пацяплее зямля, ён спяшаўся пасадзіць пад лапату невялікі загончык бульбы. Увосень бульбу старанна выбіраў і сыпаў

у падмосце. А яшчэ сушыў грыбы. Можа, ён і яшчэ што нарыхтоўваў, не ведаю. Але затое мне дакладна вядома, што нават у пиліпаўку Паўлюк паліў у сваёй лядачай хаціне раз у тыдзень. Добра напаліць печ і цэлы тыдзень жыве спакойна. Я нават магу палічыць. Значыць, першы дзень ён спаў у святліцы, або, як кажуць, на вялікай хаце. Вядома, спаў заўсёды апрануты. Потым пераходзіў на кухню і спаў там ля самага прыпечка. На трэці дзень браўся на печ, дзе мог затрымацца на дзве, а то й на тры начы, у залежнасці ад надвор'я. Калі ўдаралі маразы — выграбаў попел, даставаў з печы чыгунок з бульбаю і лез туды сам. Таму і хадзіў зімою ўвесь у сажы. Бедны, бедны Паўлюк! Што ён перадумаў, пакуль быў пустэльнікам і самотнікам? Чаму засмучаўся і чаму радаваўся? Невядома. Гэта канула разам з ім у вечнасць.

Аднойчы позняй восенню ў вёсцы было вяселле. На падобныя гулянкі Паўлюк прыходзіў заўсёды. І гэты раз не ўседзеў у лесе. Ён, зрэшты, не лез у вочы гасцям. Звычайна гаспадар заўважаў згорбленую фігуру Паўлюка, падыходзіў да яго і наліваў чарку гарэлкі, даваў паесці. Паўлюку больш нічога і не патрэбна. Шчаслівы, ён адразу адыходзіў убок і плёўся дахаты. Так, Паўлюк нікому не замінаў, бо жыў адзінотна, наводшыбе, нікога не крыўдзіў, бо сам быў пакрыўджаны жыццём, нікому не зайздросціў, бо не ведаў, што гэта такое, не быў сквапны, бо нічога не меў. Людзі з яго насміхаліся. Хіба ж можна так жыць — вечным пакутнікам? А самі кралі калгаснае зерне, сварыліся з суседзямі, трэсліся над кожнай капейкай. Дзівакі — яны называлі яго пакутнікам!

У той вечар ён таксама выпіў і, напэўна, скіраваў бы дамоў, на спачын, але па дарозе прылёг на поплаве ля стажка саломы, закурыў... Ноччу

стажок загарэўся. У доме жыла старая Нінуха. Але, на шчасце, а хутчэй і на няшчасце, у яе заначаваў брат. Раз'юшаны мужчына выскачыў з дому, убачыў побач з агнём Паўлюка і схапіў у рукі кол... Так кажуць вяскоўцы. Напэўна, яны маюць рацыю, бо на ранку Паўлюк ляжаў непадалёку ад чорнага папялішча з асмаленай барадой, і з рота ў яго цякла кроў. Вяскоўцам адразу стала вядома, што на поплаве памірае Паўлюк. Больш жаласлівыя ішлі да яго, лічылі пульс, мералі тэмпературу... Словам, рабілі ўсё, што можна, толькі не тое, што патрэбна. Нарэшце нехта здагадаўся выклікаць «хуткую дапамогу». Яна прыехала праз гадзіны дзве. Паўлюк усё гэтак жа ляжаў на голай зямлі. Мужчына ў белым халаце палічыў пульс, нешта паслухаў праз трубку і паставіў дыягназ:

— Безнадзейны. Рыхтуйцеся хаваць.

І «хуткую дапамогу» як карова языком злізала, умомант знікла з вёскі. Вяскоўцы сумеліся: у Паўлюка не было ніякай радні. Але ў такія моманты вёска жыве адной сям'ёй. Даруюцца ўсе абразы і крыўды. Трунар узяўся рабіць труну, двое мужчын пайшлі капаць дол, а жанчыны гуртам занеслі Паўлюка ў дом да Нінухі. Ён пажыў да вечара. Вяскоўцы пры сустрэчы пыталіся адзін у аднаго:

— Ці памёр Паўлюк?

— Ды не, яшчэ дыхае.

— Магілу выкапалі, труну згаблявалі — во будзе смеху, калі адыдзе.

Ён не адышоў. Яго памылі, прычасалі. Нехта даў кашулю, нехта не пашкадаваў суконнае галіфэ, знайшліся й боты...

Я глядзеў на труну, і мне здавалася, што там ляжыць не Паўлюк, а зусім іншы чалавек. Так яго і пахавалі. Без ніякай экспертызы. Насыпалі зверху ўзгорак жоўтай ліпкай зямлі і паставілі крыж.

Нядаўна давялося быць на могілках, і я ўжо не змог адшукаць магілу нашага апошняга хутараніна. З часам крыж струхнеў, зямля асела.

Вось і ўсё.

Толькі... Толькі чаму праз столькі гадоў я не магу забыць гэтага чалавека? Можа, што не бачыў ні ў кога з людзей такіх вялікіх пазногцяў? Ці можа, што яшчэ не сустрэўся мне чалавек з такімі добрымі і сумнымі вачыма?

# МУХА

Я сеў за стол і разгарнуў тоўсты сшытак, які не разгортваў больш за тры месяцы. Увесь гэты час мне нічога не пісалася. Трашчала галава ад бясконцых пошукаў тэмы, сюжэта, вобразаў... Урэшце, калі я спрабаваў думаць пра новае апавяданне, у маёй свядомасці круціліся нейкія рваныя фразы з даўно прачытаных кніг і часопісаў, «таўкліся», быццам камары, асобныя словы... А калі я, ні на што не зважаючы, усё ж такі імкнуўся нешта з сябе выціснуць, у галаве хтосьці пачынаў рагатаць. Тады рэха гэтага вар'яцкага рогату даймала мяне цэлы дзень. Аднак [redacted] не баяўся з'ехаць з глузду, бо ведаў, што рана ці позна, а ў кожнага чалавека можа наступіць такі перыяд. Колькі дзён [redacted] прымушаў сябе чытаць лёгкія дэтэктыўныя аповесці, глядзець тэлевізар і складаць красворды, а пасля, нарэшце, дастаў з паліцы сшытак і сеў за стол. Я цвёрда вырашыў напісаць за сённяшні дзень апавяданне. Я засяродзіўся, аблёгся на спінку крэсла і заплюшчыў вочы. Я сказаў сабе: «Касабокі Вітаўт!» І ў дрыготкім тумане маёй фантазіі, праз малочнае мроіва, паступова пачалі акрэслівацца няправільныя рысы і контуры Вітаўта, чарнявая чупрына з першай сівізной, нахабная ўсмешка... Мой новы герой быў яшчэ недасканалы і чакаў сур'ёзнай дапрацоўкі.

І тут на падваконне аднекуль выпаўзла і нудна

заскуголіла на ўвесь пакой адагрэтая сонцам муха. Вобраз Вітаўта мякка скалыхнуўся і пачаў паступова знікаць. Я рэзка нахіліўся над сшыткам і паспрабаваў запісаць тое, што адбілася ў маёй памяці: «Касабокі Вітаўт трымаў млын, які застаўся яму ў спадчыну ад бацькі...» Муха счакала хвіліну, быццам толькі дзеля таго, каб я запісаў у сшытку першы сказ, і застагнала зноў. Вітаўт, у зацярушанай мукой адзежыне, зноў варухнуўся з боку ў бок і ціха прапаў з маіх вачэй. Муха, скуголячы, як галодны сабака, перайшла з ніжэйшай ноты на вышэйшую і раптам змоўкла. У пакоі, дзе я працую, заўсёды ціха. Я аблюбаваў яго таму, што тут не чутно вуліцы, і пакой шырока прасечанымі аконнымі вачніцамі ўглядаецца на сад. Я пачуў, як муха, вяла перабіраючы яшчэ непаслухмянымі лапамі, палезла на шыбіну.

Крыху супакоены, я стоена прыслухаўся да сябе і асцярожна паклікаў: «Гэй, касабокі Вітаўт?..» Млынар з'явіўся не адразу. Толькі праз колькі хвілін я заўважыў, што ён сядзіць каля сваёй хаціны на вялікім камені, не дастаючы нагамі зямлі, і таму здаецца вельмі малым. Увогуле, ён і быў падобны да карліка: сухое пакрыўленае тулава, жылістыя ногі і рукі, вялікая галава. Вітаўт набіваў самасадам люльку, рукі яго трэсліся, і пахучы тытунь сыпаўся на прыпол, гнаўся ветрам. Мой герой быў даўно не голены і нейкі змучаны. Толькі нахабная ўсмешка ўсё яшчэ зрэдку кранала шчаціністы твар. Тады яго слінявыя вусны крывіліся, і ніжняя пашчэнка са з'едзенымі зубамі крыху выдавала наперад. Вітаўт напоўніў люльку, прыкурыў і саскочыў з каменя, глыбока прысеўшы на зямлі. Кульгаючы, ён пацёгся да ветрака, які з рыпеннем, зацята круціў магутнымі крыламі. Я ўзяў асадку і запісаў далей у сшытку: «Млын прыносіў неблагі прыбытак, але такая праца пачала надакучаць Вітаўту...» Муха

звалілася з шыбіны — як мне здалося, гэтак грукнулася, што аж затрэслася падваконне, і нема зараўла. Я спалохана паглядзеў на Вітаўта, але ні яго, ні ветрака ўжо не было відаць. Муха працягвала адлямантаваць. Я ўстаў, падышоў да акна і рэзка адцягнуў убок фіранку. Мая шэльма з візгатам круцілася на спіне, перабіраючы ў паветры тонкімі лапамі. Я прыцэліўся і даў ёй добры шчаўбан. Муха праляцела цераз стол, стукнулася аб сцяну і, адскочыўшы, засталася ляжаць нерухома на падлозе. Нарэшце ў пакоі настала поўная цішыня.

Я зноў падсеў да сшытка і ледзь чутна прашаптаў: «Вітаўт...» Ён стаяў у новай кашулі каля жорнаў і ўдумліва сыпаў з мяха збожжа. Зерне тоненькім цурком ляцела на камяні. Мех апусцеў, а млынар усё гэтак жа скасабочана стаяў над жорнамі і задуменна глядзеў у адну кропку. «І вось — Вітаўт зненавідзеў вятрак, а вятрак зненавідзеў Вітаўта»,— пачаў я, але, злавіўшы слыхам нейкі шум, ускочыў з-за стала. Я ведаў, куды трэба ісці — я падышоў да мухі. Яна перавярнулася на жывот і спрабавала рухацца. Крылы яе, паламаныя і ненатуральна выкручаныя, з шоргатам цягнуліся па габляванай дошцы. Муха паўзла крыху бокам і разпораз «дзяўбла» галавой. Яе заднія лапы не даставалі падлогі. Яна нагадвала штосьці варожае і агрэсіўнае — раптам спынілася, быццам гарбаносы самалёт-знішчальнік перад стартам на ўзлётнай паласе. Мне здалося, што зараз гэтае стварэнне, поўнае нянавісці да мяне, можа ўзляцець і ўпіцца ў твар. Я апусціў на муху абцас...

Уладкаваўшыся за сталом, я з палёгкай упэўнена гукнуў: «Вітаўт!.. Касабокі Вітаўт?!.» Вятрак натужна круціў сваімі крыламі. Млынара побач не было. Камень каля дома таксама пуставаў. Я падышоў да ветрака і папхнуў дзверы. Яны з доўгім рыпеннем

папаўзлі да вушака, ляснуліся аб яго і змоўклі. Я ступіў колькі крокаў у мучны туман і адразу ўбачыў Вітаўта: ён круціўся ў жорнах. Цяжкія камяні прагна ўсмоктвалі хілае цела ў ненасытныя вантробы. Урэшце наверсе засталася толькі галава, якая па сваіх памерах не магла праваліцца ў жорны. Галава, з шырока расплюшчанымі вачыма, круцілася разам з камянямі, быццам дзівілася з моцных сценаў ветрака, якія за шматлікія гады апрануліся ў белае сутонне. Пасінелыя вусны былі расцягнуты ў крывую нахабную ўсмешку.

# БРАНЗАЛЕТ

Даўно памёр стары Піпка, даўно закапалі яго ў сырую зямліцу. І будан ягоны, скляпаны з асобных бярвенняў, дошак і калоў, расцягалі патроху вяскоўцы: каму плот залатаць, каму хлеў паправіць. Засталіся толькі абымшэлы падмурак і смуродныя кучы гнілой саломы з разбуранай страхі. Спадчыну пасля сябе стары пакінуў невялікую: семдзесят рублёў грошай на труну, на порткі і боты, каб было ў чым пахаваць, абярэмак сухіх бярозавых венікаў, якія ён насіў на станцыю і прадаваў каля лазні, два-тры лазовыя кошыкі і процьму розных бутэлек, пагнутых кубкаў і вышчарбленых місаў. Такія рэчы збіраў Піпка на сметніках, бадзяючыся па дарогах, калі рэзаў венікі і насіў іх прадаваць. Збіраў і цягаў у свой будан. У кожнай бутэльцы быў нейкі настой, у кожнай місе ляжалі высушаныя зёлкі: травы, карэнне ці сейныя зярняты. Пасля дзеці і вароны расцягалі гэты набытак, які збіраўся нябожчыкам добрую палову жыцця.

І пусціўся на Піпкавым котлішчы бур'ян, і навастрылі свае калючкі кусты дзікай ружы, і ўспыхнулі ядавітым колерам чэпкія шышкі. Такога дабра тут хапала і пры гаспадару, але ўсё ж тады на падворку ім былі пратаптаны сцежкі. А цяпер настала раздолле для асоту і крапівы, для конскага шчаўя і асцюкоў. Адганялі людзі дзяцей з гэтага месца і самі не

лезлі на падворак без патрэбы. А калі здаралася вяскоўцам праходзіць побач, то мроілася ім, што не памёр стары Піпка, а выглядае з-за кустоў, радуецца дрымучаму буйству зелля навокал і кляне сквапных гаспадароў, якія разабралі яго дабро. Праз некалькі тыдняў найбольш прымхлівыя, крадучыся, прыносілі ноччу назад калы і дошкі, шпурлялі на падворак: няхай бярэ, толькі каб не прыходзіў пасля маладзіковымі начамі, не тыцкаўся брудным зморшчаным тварам у вокны.

Абыходзіла бокам рэшткі струхлелай сядзібы і Марыля. І не таму, што не выпадала ёй апынуцца паблізу,— двор старога быў у самым канцы вёскі, адарваны ад астатніх хат,— а таму, што мела яна на Піпку асабісты боль і злосць. І хоць за пражытымі гадамі боль прытупіўся, а злосць паціху выкіпела, Марылі не хацелася вярэдзіць душу. Ведала яна, ведалі і вяскоўцы, што быў Піпка чарнакніжнікам. Таму і не лез ніхто з ім у спрэчкі, пакуль дажываў стары свае дні, бо так мог прычараваць, што свет нямілы здаўся б. Адна толькі Марыля і счапілася з абадранцам, калі пасунуўся без чаргі па хлеб у магазіне. Ох і выгаварыла яна тады пад гарачую руку, ох і дапякла ж яму! Вядома, бадзяцца цэлымі днямі па лесе, кожнаму пню паклоны біць, нябось, часу хапае, а як у магазіне пастаяць разам з людзьмі, што ад працы вырваліся, каб якую булку купіць, дык няма калі. Праўда, нічога не сказаў тады Піпка, павярнуў галаву, уперыўся абмярцвелымі вачыма на Марылю і зноў патросся да лесу. А праз нейкі час, калі яна ўжо і забылася на тую сварку, вечарам прыцёгся аж на парог па малако. Каровы ён не меў, дык у людзей малаком пабіраўся. Расхвалявалася Марыля: калі чалавек сам прытупаў, чаму ж не пайсці насустрач, чаму не памірыцца? Калі-небудзь, можа, яшчэ кошык спляце. Кінулася

яна ў хлеў, падаіла Чарнуху, прынесла ў вядры шумлівае малако, а Піпкі даўно і след прастыў...

Чарнуха злегла праз месяц. Не дапамаглі ні ветэрынар, ні свае лекі. Забрала хвароба карміцельку Марыліну. Што ты, гэтакая карова была... Невядома, куды было дзявацца Марылі, каб не пасватаўся да яе, запозненай трыццацігадовай маладзіцы, трактарыст, што вярнуўся з заработкаў. Два гады пражылі яны, пражылі і трэці. Быў дастатак, былі і грошы, а не было дзяцей. Ах, як хацелася Марылі паказаць аднойчы мужу прыпухлы жывот, прыціснуцца соладка да моцных грудзей!.. Па начах яна ўпотайкі плакала, адвярнуўшыся да сцяны, а муж, заяўляючыся на абед, сядзеў за сталом і падоўгу глядзеў у акно... Паехаў трактарыст, паехаў далей ў свет, назаўсёды пакінуў востраў, да якога прыбіла яго лодку жыццё. Пасля дайшлі чуткі, што ён другі раз ажаніўся і займеў дачку.

А Марыля зноў засталася адна. За вочы людзі пачалі кпіць і пасміхацца з яе. Марыля гэта ведала. Ведала і сваё новае імя, якое трывала ўмацавалася, калі вяскоўцы ўведалі, што былы муж стаў бацькам,— Ялаўка. Так і жыла Марыля-Ялаўка, згубіўшы ўсялякую надзею на сваё шчасце. Здагадвалася жанчына, чаму агарнула яе хату нядоля, і кляла ў думках Піпку, кляла як магла. Можа, таму і апруцянеў у сваёй бярлозе корч стары. Пасля ягонай смерці не хацела нават глядзець Марыля ў той бок, дзе туліўся чарнакніжнік.

Але неяк давялося ёй на фурманцы праязджаць каля тых мясцін. Побач з Піпкавым котлішчам конь расцугляўся і стаў быццам укапаны, грабянуў капытом зямлю. Марыля сцёбнула яго лазінай па напятых клубах, але конь не крануўся. Яна саскочыла з воза, хацела падцягнуць супонь і раптам заўважыла, як нешта бліснула. Разбуяненае кустоўе

падступала аж да самай дарогі. Марыля нагнулася, расхінула крывыя галіны. На ўтравелай, напэўна, калісьці пратаптанай яшчэ самім Піпкам сцежцы ляжаў сярэбраны бранзалет. Марыля падняла яго, пацерла аб фуфайку і разгледзела лепей. Таўшчынёй з палец, ён меў выгляд скручанай колцамі змяі. Па ўсім было відаць, што бранзалет быў даўнейшы. На змяінай галаве зялёным каменьчыкам бліш-чала адзінае вока.

— Ага, пошкудзь...— Марыля зірнула на падмурак — адзінае, што ўцалела ад хаціны, але з зарасніку тырчаў толькі рог фундамента.— Ага! Не ўдалося забраць у зямельку скарбы свае, га!.. Пачакай, варажбіт паганы, ты ў мяне яшчэ не раз у труне перавернешся. Ой засвярбіць табе там, ой замуляе!..

Бур'ян заварушыўся, і з котлішча запахла смуродам. Марыля рашуча падышла да каня, узяла каля вуха за аброць і пацягнула за сабой. Конь захроп, ашчэрыў жоўтыя зубы, падаўся назад, прысеў і рвануў з месца. Яна ледзьве паспела ўкуліцца ў воз праз высокія драбіны і нацягнуць лейцы. Але расцугляны конь толькі ўзвіўся на дыбкі і наўскапыта панёс яе дарогай у вёску...

Ноччу, калі да хат ад лесу прыпоўз цягучы прыцемак, Марыля зняла са сцяны карасінавую лямпу, запаліла кнот і паставіла яе на ўслончык. Наўперад як легчы спаць, жанчына з распушчанымі па плячах валасамі сядзела ў адной кашулі сярод пакоя і трымала ў руках знойдзены бранзалет. Кволыя сполахі карасінкі блукалі па засяроджаным твары.

— Каб ты, гарбель, сам сабе вочы выпараў, каб у цябе валасы дыбам усталі, каб табе вароны галаву прадзяўблі,— кляла Марыля як умела і круціла ў руках бранзалет,— каб ты не счысціўся, каб цябе ў балота засмактала, каб магільныя чэрві твае косці

тачылі, кроў тваю атрутную смакталі, каб ніхто цябе не помніў, каб на магіле тваёй каменне навярнулі, каб тваё жылы ў вузлякі пазакручваліся і ніхто іх не развязаў, каб тваё мазгі пацукі павыядалі, каб тваё косці ператрушчыліся і каб ты век мучыўся...

Марылі здалося, што за дзвярыма нехта шкрабануўся. Яна прыменшыла кнот, ціха выйшла ў сенцы, паслухала... Нічога не пачуўшы, Марыля вярнулася. Бранзалет ляжаў на стале, і адзінае вока гарэла зялёным агнём. Яна падышла да акна, асцярожна пасунула ўбок фіранку... Дзінькнула шыба, і скручаная валасатая рука ўпілася пазногцямі ёй у твар. На падваконні пстрыкнулі кручкі, ляснулі аканіцы, і нехта цяжкім кулём уваліўся ў хату, з якатаннем пакаціўся на падлозе, падмінаючы пад сябе Марылю, раздзіраючы на ёй кашулю. Яна толькі стагнала, а крычаць не магла, бо рот закрыла рука, ад якой патыхала псінай. Хтосьці шастаў па яе грудзях, жываце, прыціскаўся калючым целам, выварочваў ногі. А калі да самых вачэй прыпаў яхідны твар з драпежным носам і з'едліва расцягнуўся ў шырокую клыкастую ўхмылку, Марыля страціла прытомнасць...

Раніцай яна, растрэпаная, прыбегла да Піпкі на котлішча і шпурнула пад куст бранзалет.

— Цьфу, цьфу, цьфу на цябе,— плявала Марыля і хадзіла туды-сюды, не знаходзячы сабе месца.— Гарбель, гарбель смуродны, каб поўсць на табе курэла!

Яна зірнула пад куст. Там ляжала і грэлася на сонцы гадзюка. Змяя падміргнула Марылі зялёным вокам і папаўзла ў бур'ян. Марыля заенчыла і кінулася з котлішча прэч. Напэўна, у бур'яне хтосьці зарагатаў, бо з шырокіх конскіх лапухоў на зямлю дажджом пасыпаліся бліскучыя кроплі расы.

Праз два месяцы Марыля канчаткова ўпэўнілася, што зацяжарала. Яшчэ праз тры, калі вырас жывот і ўжо не было куды дзявацца ад людскіх вачэй, яна пайшла на раку і ўтапілася. Яе выцягнулі праз некалькі дзён, пасінелую, з-пад нейкай струпехлай карчакі і завязлі ў горад на экспертызу. Блізілася куцця, і малады, але ўжо даволі раўнадушны эксперт спешна агледзеў цела і разрэзаў жывот. «Добры быў бы дзіцёнак,— падумаў ён,— здаровы». Дзіцёнак раптам шавяльнуў вострымі вушамі, расплюшчыў вочы і дробна зарагатаў на ўвесь клыкасты рот. Эксперт выпусціў скальпель і грымнуўся на халодную цэментную падлогу трупярні.

# ЛАЛІТА І КАКТУС

Лаліта прачнулася і зірнула на будзільнік: праз пяць хвілін ён павінен зайграць. Лаліта ўтапіла засцерагальную клавішу на медным корпусе, адкінула коўдру ўбок і соладка пацягнулася ў пасцелі. Яна прывыкла прачынацца за некалькі хвілін перад тым, як пунктуальны электронны гадзіннік выдасць мелодыю «Месячнай санаты», калі ў гэты дзень павінна адбыцца нешта значнае для яе. Лаліта паднялася з ложка, падышла да акна і расхінула шторы. Ранішняе сонца яшчэ халаднаватымі промнямі адбілася на моцна схопленых бігудзямі колцах каштанавых валасоў, заіскрылася ў вачах. Лаліта апусціла павекі з густымі махнатымі веямі і счакала, пакуль вочы прывыкнуць да калючага святла.

Горад ужо даўно прачнуўся, і па вуліцах ліўся бясконцы паток машын, спяшаліся па сваіх справах людзі. Лаліце раптам стала весела і прыемна. Яна з выклікам узняла галаву і кінула ганарлівы позірк на дамы і тратуары: ёй сёння не трэба ісці на працу, не трэба адной бадзяцца пад стромымі хмарачосамі, адчуваючы сябе маленькай казюлькай. Лаліта сёння за свой кошт узяла выхадны. Яна схілілася перад фарфоравым гаршчэчкам, у якім сядзеў рабрысты кактус, прывезены з далёкай паўднёвай краіны. Кактус Лаліта купіла за вялікія грошы. Ён быў зялёны, скрозь у шэрых калючках і меў цуднае імя:

Элісьён. Яна сама прыдумала гэтае імя, бо яно вельмі пахла Францыяй. О, краіна шарму і культу жаночай непасрэднасці! Казачная Францыя, элегантная Францыя!.. Яна вабіла да сябе Лаліту, як у непагадзь мігатлівы маяк вабіць адзінокія караблі. Колькі чароўнай музыкі, крыштальнага звону было ў адных толькі словах: Парыж, Ліён, Верлен...

— Добрай раніцы, Элік! — сказала Лаліта хрыплым пасля сну голасам і коратка кашлянула.

— Прывітанне, Лаліта! — адказаў кактус і пацягнуўся шэрымі калючкамі.

— Ты не замёрз сёння? — Лаліта наблізіла да яго свой твар і дыхнула цяплом.

— Трошкі. Зараз паднімецца сонца, і я адагрэюся... А ты не спознішся на працу? — кактус незаўважна падаўся насустрач цёпламу подыху дзяўчыны.

— Ведаеш, Элік,— яна асцярожна кранула яго вострым пазногцем,— сёння да нас прыйдзе госць, і я буду дома.

Кактус насупіўся і замаўчаў. Лаліта вінавата ўсміхнулася:

— Ты яго яшчэ не бачыў, Элік... Гэта вельмі добры чалавек. Ён забярэ цябе і мяне з сабой у падарожжа. Мы нават з'ездзім на тваю радзіму, Элік...

— Я б хацеў пабыць на сваёй радзіме,— ціха і задумліва прашаптаў кактус.

— Ну вось. Мы там пажывём з табой колькі часу пад гарачым сонцам, і, можа, твае сімпатычныя калючкі нарэшце ўпрыгожыць кветка.

Кактус пачырванеў ад крыўды. Але сказанае было горкай праўдай. Пад халодным сонцам, якое ляніва ўзыходзіла над гэтай краінай, ён, колькі ні намагаўся, ніяк не мог заквітнець. Лаліта не заўважыла, што зрабіла балюча Элісьёну. Дзяўчына ўзрадавалася яго стрыманаму дазволу на тое, каб у кватэры з'явіўся трэці, і, забыўшыся на ўсё, занялася

сабой. Спачатку яна прыбрала пасцель, а пасля падышла да люстэрка і, прыклаўшы доўгі палец да высокага лба, зірнула сабе ў вочы. Здалося, быццам паміж Лалітай, якая стаяла перад люстэркам, і тою, што адбілася ў ім, на нейкі час узнікла мяжа. Але гэта працягвалася толькі імгненне. І Лаліта, якая стаяла перад люстэркам, праз імгненне была ўжо крыху іншай. Яна ўзяла з шафы новую прасціну і паслала на ложак. Затым нацягнула навалачку на другую падушку і, падбіўшы абедзве, паклала іх на ўзгалоўе. Зверху накрыла ўсё коўдрай. Яна адышлася, прыдзірліва агледзела пасцель і, павагаўшыся, завярнула наверх рог блакітнай коўдры. Увесь гэты час кактус моўчкі назіраў за дзяўчынай. Лаліта пераставіла гадзіннік з чырвонага пуфіка, што стаяў каля ложка, на пісьмовы стол. Да прыходу госця заставалася дзве гадзіны. Яна села на мяккае крэсла, паклала на калені белую марлю і пачала здымаць бігудзі. Яе галава, быццам кветка, распусцілася цёмнымі пасмамі валасоў. Лаліта загарнула бігудзі ў марлю і схавала іх у шуфлядку камоды. Яна апранула сваю лепшую сукенку, якая выразна падкрэслівала тонкую фігуру, абула бліскучыя туфлі на высокіх абцасах, прычасалася і нафарбавала лакам пазногці. Пасля, калі да візіту засталося паўгадзіны, яна пайшла на кухню, дастала з маразільніка два гліняныя кубачкі з прыгатаванымі загадзя жульенамі і паклала ў камеру бутэльку чырвонага віна. Лаліта расчыніла газавую пліту, паставіла жульены, запаліла ў духоўцы невялікі агеньчык і пачала чакаць. Самае салодкае пачуццё — гэта прадчуванне чагосьці прыемнага. Але на адным месцы яна доўга не ўседзела, паднялася і паставіла пласцінку. Кватэру напоўніла мелодыя «Месячнай санаты». Лаліта вельмі любіла пласцінку. І менавіта з гэтай прычыны яна некалькі месяцаў назад набыла ў лаўцы элек-

тронны гадзіннік. Аднаго толькі не магла зразумець Лаліта: як здарылася, што Бетховен не нарадзіўся французам.

Роўна ў прызначаны час у дзверы пазванілі. Лаліта страпянулася, кінулася ў калідор адчыняць. Але спынілася, вярнулася назад, узяла ў рукі Эліка, зноў вінавата ўсміхнулася, пераставіла яго на падваконне, а потым шчыльна зацягнула шторы. У прыхожую нехта зайшоў, пачуўся выразны цмок. Нехта распранаўся. Лаліта запрасіла Таго на кухню, паспрабаваць яе лепшых жульенаў, але Той, спатыкаючыся на кожным слове, з акцэнтам пачаў нешта тлумачыць, і кактус з пятае на дзесятае зразумеў, што нешта здарылася не так, і ў падарожжа Ён паедзе адзін, і не ведае дакладны адрас, дзе будзе жыць, і невядома, калі вернецца, а цяпер вельмі спяшаецца... Пасля Ён і Лаліта зайшлі ў пакой, і на змену блытаных слоў аднаго прыйшоў парыўны шэпт абаіх. Больш кактус не слухаў. Элісьён думаў пра іншае...

...Шторы павольна раз'ехаліся ў бакі. Перад акном у расхрыстаным халаце, з адкрытымі грудзьмі стаяла Лаліта. Яна была адна. Лаліта раўнадушна паглядзела на горад, адышла і ўпала на змятую, скамечаную пасцель.

— Лаліта... Лаліта...

Яна ўзняла галаву, агледзелася і зноў апусціла.

— Лаліта, гэта я...— чуўся аднекуль таямнічы голас.

Лаліта прыпаднялася і прыслухалася.

— Лаліта...

Яна падышла да акна, глянула на кактус і ахнула. Ён упрыгожыўся буйной пунсовай кветкай. Па краях лісткоў пунсовы колер пераходзіў у жоўты і белы. Лаліта ніколі не бачыла такіх кветак.

— Гэта... Лаліта... Я для цябе,— кактус хваляваўся, і голас яго дрыжэў.

— Элік...— Лаліта ціха апусцілася перад ім на калені.— Элік, а я не заўважыла... Я зараз.

Яна хутка скруціла ў адзін камяк пасцель і схавала ў шафу, скінула халат, узяла з пуфіка сукенку і нацягнула на сябе. Прычасалася, абула бліскучыя туфлі, беражліва ўзяла ў рукі фарфоравы гаршчэчак і прынесла яго на кухню. Лаліта дастала з духоўкі яшчэ цёплыя жульены, наліла ў фужэры віно.

— За цябе, Элік,— Лаліта ўзняла руку з віном і пяшчотна паглядзела на кактус.

Чырвоная кропля сарвалася з фужэра і ўпала на Элісьёна. Яны сядзелі адно перад адным, ім было прыемна.

Раптам у дзверы гэтак жа пазванілі. Лаліта зірнула на Элісьёна, Элісьён зірнуў на Лаліту. Пазванілі яшчэ раз. Лаліта выйшла ў калідор і адключыла званок. Элісьён расквітнеў яшчэ больш. Лаліта вярнулася на кухню. Для яе Элісьён быў самы лепшы кавалер на свеце. Для Элісьёна Лаліта была адзінай гаспадыняй — іншай ён не хацеў.

# ДРЭВА, ДУШ І ПЕРКА

Гэта быў стары Душ. Ён жыў у такім жа даўнім, з аблезлымі сценамі, будынку. Душу было маркотна. Усё жыццё ён стаяў у абкладзеным пліткай пакоі адзін. Самотная адзінота прымушала цягнуць і без таго доўгую бляшаную шыю да высокага акенца, якое хтосьці напалову тлуста завэдзгаў фарбай. Яму так і не ўдавалася зазірнуць у акно. Усё, што ён бачыў, акрэслівалася невялічкім кавалкам неба. Здаралася, Душ лавіў позіркам імклівыя цені птушак — яны пралятаі побач, і тады весялеў, хоць гэта адбывалася рэдка. Але Душ ведаў, што там, з Таго Боку Сцяны, расце Дрэва. Летам ён стоена прыслухоўваўся да яго таямнічага шэпту, спрабаваў разабраць, пра што гаворыць лістота. І хваляваўся, перажываў, калі з-за рыку блізкай вуліцы было цяжка пачуць гэтую гаворку.

Затое восенню, як толькі пачыналася пара дажджоў, Дрэва дасылала яму свае лісты. Жоўта-чырвоныя, з нясмелай выявай тонкіх жылак, яны прыліпалі да мокрай шыбіны, і ён чытаў... Божа мой, якія гэта былі лісты! Дрэва пісала пра ўсё, здаецца, яно не магло выгаварыцца: і пра тое, што панна Птушка сёлета звіла ў пышнай кроне гняздо, і маленькія дзеткі спачатку пужаліся вышыні, а пасля пырхалі-скакалі сярод голля; і пра тое, што побач паднімаецца малады Каштан і яно, Дрэва, усё ад-

хіляе свае галінкі ўбок, каб не засціць сонца; і пра... Ах, пра што яно толькі не пісала!

Але болей за ўсё ўсхваляваў і крануў яго сэрца той сарамлівы лісток, які правісеў на шыбінцы толькі некалькі хвілін і быў знячэўку забраны Ветрам.

«Мілы мой сябра! — пісала Дрэва.— Я ведаю, што ты чытаеш мае лісты, хоць ні аднаго разочку не чула водгукаў на іх. Якраз менавіта гэтая акалічнасць і прымушае мяне даслаць наступны лісток. Можа, табе ён здасца дзіўным. Хоць я і асцерагаюся зрабіцца надакучлівым, але я адчувала б сябе вельмі кепска, каб не было да каго пісаць. Як і ты, я таксама жыву ў палоне. Мая свабода абмежаваная. Высокія дамы акружылі мяне і бессаромна ўталопіліся ўсімі сваімі вокнамі. Але я ўжо прывыкла не звяртаць на іх асаблівай увагі, бо думкі мае запоўнены чыстым, шчырым пачуццём да цябе, якое расце з дня ў дзень. Я хачу, каб ты ведаў пра яго, мой мілы сябра. І я ўжо не дакараю сябе, што рашылася на гэтакі нясціплы крок і першае зрабіла прызнанне».

...Ноччу яны глядзелі на зорку. Яна, адзіная, выразна свяцілася праз незамаляваную частку акна. Дрэва ведала, што Душ можа ўгледзець са свайго пакойчыка толькі вось гэтую далёкую і мігатлівую зорку, і забылася на іншыя. Моўчкі яны глядзелі на сваю зорку і не заўважалі, што паміж імі вымуравана сцяна...

А назаўтра Душ заспяваў! Яго раптоўна звонкі голас пачула Дрэва і аж затрымцела галінкамі. Так яны і размаўлялі: Душ спяваў, а Дрэва дасылала яму лісты. Вецер, які блукаў па горадзе, здагадваўся пра тыя пачуцці, што нарадзіліся паміж імі, і моцна не дзьмухаў на гэты двор, каб не зносіць убок жаданыя лісты. Неяк поначы, калі ўсе спалі, ён асцярожна прабраўся да будынка і ціхенька адбіў

кавалак шыбіны ў акенцы... «Вось будзе ім падарунак,— думаў Вецер, уцякаючы з двара,— цяпер лісты змогуць залятаць аж у самы пакойчык, і Душ іх зможа перачытваць па некалькі разоў. А Дрэва будзе выразней чуць яго песні!»

Але на ранку праз выбітую шыбіну ўляцела Пёрка і, намачыўшыся, капрызна войкнула. Упершыню за гэтулькі год у пакой завітаў госць. Пачуўшы незнаёмы голас, Душ прачнуўся і ад здзіўлення выцягнуў шыю яшчэ болей.

— Хто вы? — ён міжволі загледзеўся на прыгожую апратку госця.

— Мяне згубіла панна Птушка,— плаксіва скрывілася Пёрка,— я завітала сюды, вымакла і цяпер не змагу лётаць. Давядзецца чакаць, пакуль высахну.

— Прабачце, але ў мяне заўсёды гэтак мокра, бо я размаўляю,— разгубіўся Душ,— а хочаце, я вам паспяваю?

— Не-не-не! Мне ж трэба высахнуць,— запратэставала Пёрка.— Лепей памаўчыце. А каб не было вам сумна, я раскажу, дзе мне давялося пабыць і што давялося пабачыць.

Душ прыслухаўся да Дрэва, але на вуліцы вуркаталі аўтамабілі, і ён нічога не пачуў. Душ уздыхнуў, апусціў галаву і змоўк. А Пёрка пачало расказваць пра дзівосы, якія бачыла, калі лётала з паннай Птушкай па свеце. І раптам Душу стала цікава. Ён захапіўся тымі гісторыямі, той свабодай, якую нехта спазнаў і пра якую сам мог толькі марыць, бо заўсёды стаяў на адным месцы. Дарэмна ўстрывожанае Дрэва дасылала новыя і новыя лісты. Ён не заўважаў іх. А Пёрка ўсё распавядала і распавядала. А Душ усё слухаў і слухаў, не заўважаючы, што паціху да яго падбіраецца ржа, што ў пакойчыку заводзіцца цвіль...

Пёрка скончыла свае аповяды, расправіла сухія пушынкі і незаўважна знікла ў акенцы. Усхваляваны Душ, які на ўсё забыўся, хацеў таксама вылецець у акно, але непрыемна ўразіўся, калі ўспомніў, што прыкуты да месца і што ён — вязень гэтага пакойчыка. Тады Душ паспрабаваў заспяваць, але голас пераела ржа, і засталіся толькі сіплыя хрыпы.

Праз дзень Душ выкінулі на сметнік, а замест яго паставілі новы, які ўпэўнена і спраўна цадзіў ваду праз бліскучыя зубы. Дрэва моцна засумавала і ўвачавідкі пачало сохнуць. Панна Птушка больш не майстравала на яго галінках сваё гняздо. Урэшце Дрэва спілавалі і кудысьці таксама зацягнулі.

І толькі добры дзядзька Вецер у роспачы круціў па двары апалае лісце ці садзіўся на невысокі пянёк, сядзеў нейкі час, быццам скамянелы, а пасля задуменна кучаравіў лісткі маладому Каштану.

# ХАЛОДНАЯ ХЛЮПКАЯ ВОСЕНЬ

Восень... Яна заўжды пачынаецца раптоўна. Спачатку зводдалі кружыць, цікуе, крадучыся за табой. А потым, толькі павернеш галаву — і яна тут як тут: згорбленая, змаршчэлая, глядзіць проста ў твар. Што, ужо?.. Ужо, даражэнькі. Ужо. І трасе пажаўцелымі пасмамі ссівелай лістоты, і губляе з дзіравых кішэняў сіротныя каштаны, няўцямна ўглядаючыся ў свае пачарнелыя, крывыя галіны. Восень. Дажджлівая, хлюпкая восень. Я прыслухоўваюся да нуднай мелодыі няспынных балбатлівых кропляў. Але, акрамя гэтай скоранай нуды, так нічога больш і не пачую. Мне становіцца дрогка. Гэтак жа я адчуваю сябе, калі непадалёку ад кірмашу сустракаю інваліда. Бязногі, ён сядзіць (а можа, стаіць?) на нейкім дашчаным вечку, да якога прымацаваны чатыры вышчарбленыя асфальтам колцы, і жабрує. Людзі кідаюць у шапку медзякі, а ён іх таропка выграбае мазолістымі, парэпанымі пальцамі. Інвалід хавае грошы за пазуху. Можа, у яго там які мяшэчак? Не ведаю. Я не кідаю дробязі ў шапку. Я заўсёды апускаю галаву і праходжу міма. Мне боязна злавіць позірк, якім гэты абрубак лашчыцца да кожнага свайго збавіцеля. «Вось, маўляў, які я дурны. Адурэў і сам сабе ногі адрэзаў, а вам трэба плаціць. Вядома, дурань. Але не крыўдуйце. Не ўсім жа даводзіцца бачыць такога чалавека, праўда? А вы

сёння ўбачылі. Дык, можа, нічога, што страцілі пару капеек... Кіно рубель каштуе, а тут усё натуральна, га?..» Ён глядзіць знізу ўверх калючымі вачыма і супакойвае людзей, быццам не ён, а ўсе яны да самых апошніх дзён сваіх — калекі...

Шэры сум нашых вуліц. Ён ахутвае, шыпуліцца за каўнер, свішча па кішэнях... Здаецца, што кожны стрэчны пафарбаваны ў такую сумную шэрасць. Чамусьці згадваецца гербарый. Чаму?.. Расчырванелы дзядзька недзе расстараўся паперы для прыбіральні, увязаў ружовыя скруткі вяроўкамі і павесіў іх на грудзіну крыж-накрыж. Цэлую скрыню яшчэ валачэ перад сабой. Вядома, ён не падобны да астатніх, бо на гэты момант вельмі задаволены жыццём. Напэўна, такая ж разгубленая ўсмешка панавала на абветраным твары яго дзеда-матроса, які, апяразаны кулямётнымі стужкамі, цягнуў да Зімняга «максім». Захмялелы ад сваёй раптоўнай значнасці, шырока расплюшчыўшы вочы, дзед стоена сачыў праз вузкі прастрэл у максімаўскім шчытку за асветленымі вокнамі палаца, і ад неверагоднасці таго, што адбывалася, у яго нямелі рукі. Наўкол мітусіліся людзі, гучалі незразумелыя песні і загады, нехта пляваў у іконы, стагналі над галовамі новыя, не вядомыя дагэтуль вятры, а праз маленькае, акрэсленае зялёнай фарбай кулямётнае акенца свет здаваўся надзвычай зразумелы і просты...

Восень. Дажджлівая, хлюпкая восень. Соўваюцца рэдкія, заляпаныя граззю машыны. Хрыплае вуркаценне іх рухавікоў аддаецца ў цёмных пад'ездах маўклівых дамоў рэхам тужлівага акорда кімсьці не скончанай сюіты. Я мацней сціскаю чэрань, на які насаджаны венік, і падмятаю апалае лісце разам з растаптанымі згаркамі, сырымі газетнымі шматкамі і астатнім брудам. Чараніска не абчэсанае, але мне выдалі пару рукавіц. Сёння мая чарга мясці.

Толік, напэўна, спіць, калі не зачытаўся. Мы жывём у адным пакоі і ўладкаваліся працаваць смецярамі. Падмятаем прыпынак, які знаходзіцца якраз насупраць інтэрнацкіх дзвярэй. Палова другой ночы. На прыпынак я заўсёды выходжу позна, калі няма прахожых. Але сёння некалькі стомленых чалавек чакаюць запозненага аўтобуса. Працаваць ніхто з іх не замінае. У такі час людзі больш тактоўныя, чым з раніцы. І я з шоргатам выдзіраю венікам з тратуара мокрае лісце. На мне тупаносыя польскія чаравікі, аблезлыя на мысках і з грубым следам пратэктара, латаныя-пералатаныя джынсы, у якіх ужо сорамна паказвацца днём, шырокі брызентавы плашч ваеннага колеру і чорная каракулевая кепка. Гэтую кепку мне калісьці падараваў былы студэнт-чацвёртакурснік Брысь. Мы жылі ў самым вялікім інтэрнацкім пакоі, які значыўся пад нумарам адзінаццаць. Жылі ўшасцёх. Брысь быў добры чалавек. Са мной, першакурснікам, ён размаўляў амаль што на роўных. Часам ён заяўляўся ў пакой «пад мухай» і тады, не распранаючыся, садзіўся на свой адгароджаны шафай ложак і, уціснуўшы галаву ў суконнае, перашытае з марскога шыняля паліто, пачынаў курыць. Ён пускаў дым у рыжыя шчаціністыя вусы, зацята паглядаючы ў акно. Я ведаў, адкуль гэтая зацятасць. Брыся, калі ён пачупаў вучыцца, кінула жонка, забраўшы да сябе чатырохгадовую дачку. Жонка працавала ў атэльс, шыла дарагія футры. А ён быў студэнтам тэатральнага інстытута, і кожны месяц атрымліваў свае сорак рублёў стыпендыі, і кожную раніцу ўставаў раней за ўсіх, шоргаючы тапкамі, ішоў па доўгім вузкім калідоры на кухню, ставіў чайнік, а пасля зноў туліўся да падушкі, соп і кашляў над гліняным кубкам гарбаты. Здаралася, што ён хадзіў да жонкі на спатканне і, узрушаны, вяртаўся назад аж пад самую раніцу. Брысь іграў

галоўную ролю ў п’есе Сухава-Кабыліна «Смерць Талеркіна». Я бегаў у наш вучэбны тэатр, калі там ішоў гэты спектакль, і цішком пазіраў на зацікаўленыя твары гледачоў. Я пагардліва закідваў адну нагу на другую, адчуваючы сябе больш кампетэнтным за астатніх, хто сядзеў у зале, таму што блізка ведаў выканаўцу галоўнай ролі.

На апошні, дыпломны спектакль прыйшла жонка і прынесла Брысю ружы. Расчулены і неразгрымираваны, ён прыбег у пакой, паставіў кветкі ў пусты трохлітровы слоік. Па шэрым, напудраным твары нябожчыка Талеркіна мокрымі сцежкамі збягалі брысёўскія слёзы... Назаўтра ён падышоў да майго ложка і з размаху, аж па самыя вочы, насадзіў на мяне сваю кепку:

— Няхай цябе дзеўкі любяць!..

Восень. Стомленая старая брыдзе ў непагадзь. Слота і вохкае надвор’е раз’елі дарогу, а старой яшчэ ісці-ісці, яшчэ мокнуць і млець, яшчэ пнуцца і ветрыцца — зыбець, аж покуль не дагоніць і не ляжа наперадзе зіхатлівымі россыпамі малодшая сястранаступніца. Тады ўдзеравянее дарога і схаваецца зрэбнае восеньскае рыззё пад белымі шатамі снегу. А пакуль шляху не бачна канца.

На прыпынку нарэшце спыняецца аўтобус. Вадзіцель нехаця расчыняе дзверы, і пасажыры борздка скачуць у пустое чэрава салона. Аўтобус пускае шэры клуб едкага смуроду і кранаецца з месца. Я застаюся адзін. Пастаяўшы, пачынаю зносіць сабранае купкамі смецце ў кантэйнер, што схаваны ад людскіх вачэй за высокай аркай.

— Толя, прывітанне! — раптам чую за спінаю знаёмы голас. Азіраюся. Гэта Лола. Яна кожны раз вяртаецца позна.

— Ён сёння не працуе. Толік у інтэрнаце.

Лола незадаволена хмыкае. Прыдарожны ліхтар

спрабуе зазірнуць ёй у твар, і па шчоках дзяўчыны пырхаюць доўгія цені ад веяў.

— А, гэта ты... Шкада...

— Толік сказаў, што ты сёння будзеш ісці. Я ўзяў цыгарэты.

Мы мастаколімся да пачарнелай, з падгнілымі дошкамі, лавіцы, і я працягваю дзяўчыне каляровы пачак. Доўгімі кіпцікамі яна падчапляе цыгарэту, я запальваю сярнічку. Схаванае ў далонях дрыготкае полымя адбіваецца на засяроджаным твары дзяўчыны. Лола прастытутка. Спачатку яна хадзіла да мараканцаў, а пасля яе перакупіў нейкі кааператар. Яна закідвае адну нагу на другую, і яе поўныя калені прыцягваюць мой позірк. Я не палю, але па звычцы заўсёды кладу ў брызянтовік курыва, калі ведаю, што будзе ісці Лола. Мы сядзім за будкай кіёска. Тут крышачку зацішней. Дзяўчына рукой прытрымлівае расхрыстанае крыссе скуранога плашча, і я заўважаю, што на пазногцях аблупіўся ружовы лак.

— Сёння не збіралася вяртацца. Маці захварэла, давялося.

Лола пстрыкае згаркам. Ён ляціць у паветры адзінокім круцялём забытай феерверкам іскры, потым коціцца па тратуары. Гэтаму, напэўна, да вар'яцтва будзе сумна, бо папярэднія недапалкі я ўсе пазмятаў.

— Пайду лавіць матор,— Лола цяжка падымаецца і з цоканнем сунецца ў бок праспекта.

Я праводжу яе вачыма і зграбаю апошнюю купку. Здаецца, і ўсё. Бяруся за ручку інтэрнацкіх дзвярэй, але нешта мяне не пускае. Успомніўшы, вяртаюся на прыпынак, знаходжу недапалак з чырвоным следам памады на пажаўцелым фільтры і кідаю ў разяўленую перапоўненую сметніцу. Цяпер усё. Вахцёрка спіць на канапе. Я паціху бяру са

стала прыгатаваны для мяне ключ і замыкаю інтэрнат. Пакідаю ў прыбіральні свае няхітрыя прычындалы смецяра, заходжу ў пакой, распранаюся. Толя спіць. Яго круглая лямпа, прыкручаная да абложыны, быццам разгадваючы нейкую філасофскую ісціну, задуменна свеціць у столь. Асцярожна выцягваю ў Толі з рукі кнігу і кладу на крэсла. Уільям Шэкспір сёння аказаўся мацнейшы за майго сябра. Я сцягваю джынсы, скідаю кашулю, выключаю непатрэбнае святло і навобмацак брыду да свайго ложка. Ён гучна рыпіць, не пускаючы да сябе, але хутка супакойваецца. Слухаю вуліцу. Кроплі... Кроплі... Нешта мне мулка, не спіцца. Паднімаю вочы: у акне блукае шчарбатазубая, старэчая ўсмешка восені.

Я адварочваюся да пашарпанай сцяны і з галавой хаваюся пад коўдру.

# НЕ ЖАРТУЙ З КАМПОСЦЕРАМ

Спрытны хлопец незразумелага ўзросту ўціснуўся ў перапоўнены трамвай і пачаў прабірацца па праходзе, бесцырымонна распіхваючы пасажыраў локцямі. Такія хлопцы апошнім часам не рэдка сустракаюцца на гарадскіх вуліцах. Скураныя курткі, шырокія порткі колеру «хакі», квадратныя спіны і брытыя патыліцы дазваляюць ім прытрымлівацца абранага іміджу «крутых дзецюкоў», які высока каціруецца ў пэўным асяродку людзей. Не зважаючы на абураныя позіркі незадаволеных, але маўклівых пасажыраў, хлопец праціснуўся на сярэдзіну салона і ўхапіўся рукой за бліскучы і халодны поручань. Тут было не так цесна: большасць людзей, якія не знайшлі сабе месца, стаялі бліжэй да дзвярэй, каб зручней выскачыць на неабходным прыпынку, і млелі пад манатонныя рытмы трамвайнай гайданкі. Першы прымаразак улёгся на вокнах машыны белымі лапінамі снежнай шаці. Шчасліўцы, якім пашыхавала ўмастаколіцца на сядзеннях, выскрэбвалі і выхуквалі на шыбінах празрыстыя кружочкі, быццам на ледзяным покрыве прабівалі палонкі ў іншы, цудоўны свет. І тады кожнаму хацелася хутчэй зазірнуць у кавалачак чыстага шкла, каб убачыць, што робіцца на вуліцы, вызначыць, у якім раёне горада знаходзіцца трамвай, пакуль такое вочка зноў не пачне мутнець і зацягвацца белым пухам. Трамвай скакаў ад пры-

пынку да прыпынку, і здавалася, што на наступным колы прымерзнуць да рэек і ён не кранецца з месца. Але з металічным скрыпам зачыняліся дзверы, і кругталобая машына, набіраючы хуткасць, сунулася далей.

Хлопец заклапочана адцягнуў рукаво падбітай мехам скуранкі, зірнуў на гадзіннік і зноў ухапіўся за поручань. Пад навіслымі пасмамі янотавай шапкі ў яго хаваліся нахабныя, юркія вочы. Проста перад яго расчырванелым тварам, на жалезнай стойцы аконнай рамы, вісеў даўно пафарбаваны жоўты кампосцер. Гэта быў стары і грувасткі кампосцер. Яго жалезнае цела было пабіта тоўстымі, часцей наўмыснымі драпінамі, якія з'явіліся ад рук нядбалых і легкадумных пасажыраў. Кампосцер нагадваў старога чалавека, на якога свой знаёмы адбітак наклала жыццё, збараздзіўшы маршчынамі твар. Але гэта была яшчэ надзейная прылада для кампасціравання цэтлікаў. Выслізганы незлічонай колькасцю пальцаў, пачарнелы рычаг спраўна апускаўся да ніжняй адмеціны, і кампосцер шчоўкаў тонкімі круглымі зубамі, калі ў глыбокую і вузкую зяпу ўкладвалі паперку.

На скрыжаванні ўспыхнула чырвонае святло, і трамвай нечакана прытармазіў. Хлопец разам з астатнім людам рэзка хіснуўся ўбок па ходу машыны, гучным ударам балюча выцяўся рукой аб кампосцер, калі спрабаваў ухапіцца за поручань і ўстаяць на нагах.

— Дзярмо жалезнае...— зласліва і вельмі выразна прашаптаў дзяцюк, паціраючы прыбітую руку.

Ён быццам выпадкова ўзяўся за рычаг, апусціў яго ўніз і штосілы націснуў далей. Ад натугі твар дзецюка заліла густая чырвань. Праз хвіліну металічны рычаг заўважна прыгарбаўся. Але гэтага такому нечаканаму пасажыру здалося мала. Дзя-

цюк дастаў з кішэні некалькі ключоў, счэпленых драцяным колцам, выбраў самы доўгі і востры. На чарговым прыпынку, калі адны людзі ўваходзілі, а другія сыходзілі, хлопец незаўважна шмаргануў ключом па фарбаваным метале. Драпіна легла на шчаку кампосцера глыбокім шрамам. Хлопцу раптам падалося, што кампосцер прыглушана застагнаў і скрыгатнуў зубамі. Задаволены сваёй помстай, дзяцюк паклаў звязку ў кішэню і яшчэ раз зіркнуў на паласу, якую пакінула вострая дзюбка ключа. Ад яхіднай самазадаволенасці ў яго нават перастала ныць рука.

Але тут хтосьці тузануў яго за плячо, і хлопец пачуў рыпучы голас:

— Пакажыце свой праязны.

Побач стаяў даўгавязы мужчына, трымаючы ў руках жоўтае партманэ, да якога бляшаным ордэнам быў прымацаваны кантралёрскі знак. Праязнога білета ў хлопца не было, не было і разавага цэтліка. Такога хлюпіка, як гэты кантралёр, ён мог пераламаць папалам адным дакладным ударам у пах. Але наперадзе хлопца чакалі важныя справы, і якіх-небудзь эксцэсаў неабходна было пазбягаць, нават не зважаючы на сваю сквапнасць. Да таго ж з другога канца праходу да іх набліжаўся яшчэ адзін кантралёр: каржакаваты мужчына з калматымі кусцістымі брывамі. Дзяцюк нехаця расшпіліў кашалёк і заплаціў штраф. Кантралёр дастаў склееныя абоймай цэтлікі, закампасціраваў адзін і працягнуў хлопцу:

— Не ездзі больш «зайцам».

Даўгавязы пайшоў праходам далей — адзначацца да кабінкі вадзіцеля. А з дзяцюком параўняўся каржакаваты.

— Заплаціў? — сіплым, невыразным голасам запытаўся ён, пакуль бабулька даставала праязны білет.

— Заплаціў! — шыпнуў аштрафаваны і раптам усхапіўся: — Вы б хоць цэтлік мне далі. Я маю права купіць яго за такі вялікі штраф ці не?

— Маеш! — Каржакаваты насупіў бровы, доўга шукаў цэтлік і, калі знайшоў, сунуў кампосцеру ў рот.

— На. Гэта табе на капусту,— хмыкнуў кантралёр і пайшоў да выхаду.

Дзяцюк, злосна сцяўшы сківіцы, сышоў на наступным прыпынку, чамусьці запомніўшы нумар трамвая: «746». Ён спешна забег у свой пад'езд, настойліва і раздражнёва ўціскаў кнопку званка, пакуль маці адчыняла дзверы кватэры. А калі нарэшце яна іх расчыніла, ён, задыхаючыся, выпаліў:

— Мне тэлефанаваў хто-небудзь?

— Так,— маці, стомленая жанчына з акуратна прычасанымі валасамі, шчыльней захінулася ў бахматы халат.— Нейкі мужчына. Сказаў,ператэлефануе.

У гэты момант зазваніў тэлефон. Сын уварваўся ў кватэру, адштурхнуў маці і схапіў тэлефонную трубку. Маці пайшла на кухню, закурыла цыгарэту і ўпусціла галаву на рукі. Да столі пачаў уздымацца клуб сіняватага дыму.

— Слухаю! — крычаў хлопец у трубку.— Алё... Гаварыце...

— Касалапы, ты дзе быў? — маўчанне абарваў цягучы салодкі голас.

І здалося, быццам кожнае слова гэты голас цвіком заганяе хлопцу ў спіну.

— Даруйце... Я... спазніўся. Неабходна было з'ездзіць, а трамвай гэтак павольна...

— Чаму не злавіў таксі?

— Дык... а дзе ж...? пакуль зловіш...

— Сквапнасць фраера згубіла.

Падалося, што голас мяккай пятлёй зацягнуўся ў яго на шыі.

— Значыць, так, Малік,— раптам цягучы тон змяніўся рэзкім і рваным.— Заўтра, а дванаццатай дня. Вуліца Гая, дом шаснаццаць, сёмая кватэра. Насупраць магазін. Мы будзем побач... Заўтра ты не спознішся!

— Вядома, я...— пачаў ён, але трубка азвалася кароткімі гудкамі.

Малік узважыў у руцэ трубку, быццам збіраючыся кагосьці ўдарыць, асцярожна паклаў яе і сеў на канапу. Праз хвіліну ён расчыніў шафу, дастаў пацёрты «дыпламат» з наборнымі замкамі і расчыніў яго. Нутро «дыпламата» акуратна падзялялася на роўныя, абабітыя чорным аксамітам вуземкі. У кожнай было па набору ключоў і адмычак. Адна вуземка пуставала. Малік залез у кішэню, дастаў звязку і паклаў яе на сваё месца. У ягоных руках засталіся два пакамечаныя цэтлікі. Ён міжвольна распрастаў паперкі і прыгледзеўся да кода, які ўтрымлівалі зубы кампосцера. Вочы ў хлопца шырока расплюшчыліся: на першым цэтліку было закампасціравана «КВ-7», на другім — «Гая-16».

* * *

Назаўтра, у прызначаны час, Малік зайшоў у пад'езд шаснаццатага дома па вуліцы Гая і падняўся на другі паверх. На Маліку з-пад расхрыстанага кажушка віднеўся зашмальцаваны камбінезон, а на галаву была нацягнута куцая шапка-вушанка. Малік паставіў перад дзвярыма скураны «дыпламат» і сталярскую, збітую з фанеры скрыню. Са скрыні тырчэлі піла-аднаручка, гэблік, тапарыска сякеры... Ён зняў з рукі грубую рукавіцу, коратка націснуў кнопку званка. З таго боку дзвярэй загучала класічная музыка. Ён нервова пераступіў з нагі на нагу. Нарэшце музыка скончылася, і Малік прыслухаўся.

У кватэры было ціха. Хлопец шчоўкнуў замкамі «дыпламата», прабегся вачыма па вуземках і, знайшоўшы патрэбную, выхапіў з яе адмычкі. Малік яшчэ раз стаіўся, прыслухаўся да гукаў у суседніх кватэрах і, не пачуўшы чаго-небудзь падазронага, уставіў адмычку ў замок, асцярожна правярнуў яе. Дакладным рухам ён прыўзняў дзверы крыху ўверх, а пасля рэзка рвануў да вушака і штурхнуў ад сябе. Штосьці ціха, але ўпэўнена шчоўкнула, і дзверы шырока расчыніліся. Малік, прыхапіўшы інструменты, шмыгнуў у кватэру. У грудзях зайшлося сэрца, калі ён убачыў, у якой раскошы патанае прыхожая. Малік адставіў «дыпламат», адзеў рукавіцу і, дастаўшы са скрыні сякеру ды стамеску, узяўся за няхітрую сталярскую працу...

Праз пятнаццаць хвілін, абцёршы папярэдне грубай рукавіцай дзвярныя ручкі і кнопку званка, Малік выйшаў з пад'езда. На вуліцы, як сапраўдны сталяр, ён закурыў «беламорыну» і крыху дэманстратыўна перакінуў з рукі ў руку «дыпламат». Калі сталяр знік на рагу вуліцы, непадалёк ад дома спынілася машына. Адтуль з невялікім чамаданам, у якім былі спакаваны пустыя валізкі, выйшлі двое. Трэці застаўся за рулём. Двое зайшлі ў пад'езд, падняліся на другі паверх і зніклі за дзвярыма сёмай кватэры.

* * *

Яшчэ праз дзень хлопец сядзеў на трамвайным прыпынку і калупаў нагою вохкі снег. Нечаканая адліга апранула горад у шэрыя і брудныя лахманы. І так жа слотна было на душы ў Маліка. Скіраваўшы ўтрапёны погляд на лакіраваныя чаравікі, якія набрынялі вільгаццю ў мокрым снезе, ён міжволі моцна сціскаў пашчэнкі. Тады на кранутых ледзь заўважнай чырванню шчоках выдаваліся прадаўгаватыя

жалвакі. Тая, далёка не святая, тройца падманула Маліка. Падманула груба і нахабна: сёння з раніцы яму ўсунулі абклееены стосік чырвонцаў. А калі памкнуўся запярэчыць, пстрыкнулі перад носам зэкаўскім нажом. У Маліка быў падобны: крывая ручка, тугая клавіша і выкідное лязо з тытану. І ягоны нож мог бы пстрыкнуць не горай, агаляючы шырокае джала. Але Малік сядзеў у машыне адзін супраць трох і не мог даць гарантыі, што ў кагосьці з гэтых трох няма за поясам зараджанага «ствала» і што яму, Маліку, не прапануюць «панюхаць пораху». Таму ён выкуліўся з машыны, штосілы груknуў дзверцамі. У адказ машына зараўла, прабуксоўваючы на месцы, і Маліка з галавы да ног абдало фантанам густой гразі... Машына паехала, вільнуўшы на павароце, а Малік застаўся з тысячай рублёў. Ды дзе там! Калі ён растрыбушыў пачак, то не далічыўся цэлай сотні.

«Падлюгі! — думаў Малік і таптаў нагою хлюпкі снег.— Пасылаюць мяне заўсёды першага. Арыгінальная нажыўка: самі страхуюцца, а мяне ў пекла, калі што... Дзевяцьсот рублёў... Там барахла аднаго тысяч на трыццаць грабанулі, калі па сліўках браць. А драбяза... Падлюгі! Замок ім раскусі, у кватэры шмон навядзі, усе дзверы парасчыняй, каб адразу торбы пакаваць... А сам паспрабуй вазьмі што-небудзь!» Малік зладзеявата азірнуўся, засунуў руку ў патайную кішэню і беражліва дастаў акуратна складзеныя зялёныя паперкі. Валюта!.. Там, у спальні, стаяла разная камода. Малік вырваў па-жывому замок і не ўтрымаўся, каб не прагледзець шуфлядкі. У ніжняй ён асачыў некалькі амерыканскіх купюр...

З дробным дзынькannем папераджальнага сігналу на прыпынку затармазіў трамвай. І гэтае дзынькanne вывела Маліка з маўклівага задуменнага трансу: ён успомніў, што пара ехаць дамоў.

Малік падняўся з нагрэтай лавіцы, зірнуў на трамвай і знерухомеў. Першае, што кінулася яму ў вочы,— вогненныя лічбы 746. Свежая чырвоная фарба, якой былі яны выбіты на аконным шкле, менавіта гарэла ў халодных промнях зімовага сонца. І сярод шэрых і чорных фарбаў гэтага мокрага і слотнага сусвету, у якім Малік апынуўся і які яму раптам вельмі апастылеў, у вогненна-чырвоных лічбах 746 было штосьці магічнае. Маліку спачатку падалося, што перад ім міраж. Ён ведаў, што гэта такое: калі сярод пустыні ўдалечыні бачыш аазіс ці мрояцца лужыны на асфальце ў сонечнае надвор'е. А пасля ўсё аказваецца прыгожай няпраўдай, намаляванай уласным уяўленнем і фантазіяй. Але тут відовішча не знікала. Малік стаяў і глядзеў. І ў вогненна-чырвоных сполахах ён раптам успомніў гэтыя лічбы — 746, успомніў кантралёраў; успомніў, як выцяўся аб кампосцер, і ўспомніў скамечаныя цэтлікі ў руцэ. Як і ў кожнага «медзвяжатніка», у Маліка развілося шостае пачуццё — пачуццё канкрэтнай сітуацыі. І цяпер штосьці трывожна шавяльнулася на самай глыбіні яго неглыбокай душы. І ведаючы, што ён робіць штосьці не тое, Малік павольна пайшоў да расчыненых дзвярэй. Ён злавіў сябе на дзіўнай думцы, што наўмысна не спяшаецца ўскочыць на прыступкі ў спадзяванні, што дзверы зачыняцца і трамвай паедзе. Але трамвай не спяшаў кранацца. Здавалася, быццам лічбы шапталі: «Зайдзі, зайдзі ў салон, мы будзем імчацца з табой па горадзе, і на бляклых фасадах дамоў, на брудных вітрынах магазінаў, на голых дрэвах, нават на кантэйнерах са смеццем будзе шлейфам заставацца наш вогненны след». А трамвай стаяў з разяўленымі дзвярыма — доўга, вельмі доўга — і, як падалося Маліку, чакаў, пакуль не ўвойдзе ў яго нутро адзінокі пасажыр. Калі Малік паставіў на прыступку нагу, яму падалося, што трамвай прысеў, каб чала-

веку было ніжэй ступаць. І ў гэты момант дзверы з пранізлівым скрыгатаннем сашчапіліся за ягонай спінаю. Трамвай ціха і працяжна засіпеў, соладка пацягнуўся і крануўся з месца, быццам удаў, які, праглынуўшы зайца, папоўз у сваё аблюбаванае месца, каб выцягнуцца на сонцы і ў дрымотнай асалодзе чакаць, пакуль страўнік не пусціць сок, не засвоіць і не пераварыць ласунак.

* * *

Малік выбіраўся на працу. Заўсёды ў такія моманты яго цела і ўсе рухі набывалі кашэчую пластычнасць. І ўвогуле, сам ён пачынаў нагадваць ката, які збіраецца на паляванне. Сёння паляванне абяцала быць асабліва буйным і таму адказным. «У госці» Малік вырашыў пайсці адзін. Яму абрыдлі бясконцая пагарда і падманы з боку былой кампаніі. Абрыдла адчуваць, што яму ўвесь час не давяралі поўнасцю: самы галоўны з кампаніі — Бос, ён ніколі не паказаўся Маліку на вочы. Надаралася толькі, хлопец чуў па тэлефоне яго мяккі цягучы голас. Таму Малік вырашыў сарваць «куш» адзін.

Хлопец адкінуўся на канапу, заплюшчыў вочы і паспрабаваў яшчэ раз прайсціся па звеннях апошніх падзей, з якіх утварыўся цэласны ланцужок. Па гэтым ланцужку Малік рашыўся без падстрахоўкі прабалансаваць над безданню...

Калі Малік апынуўся ў знаёмым трамваі, то заўважыў, што салон амаль пуставаў. Пра штосьці гучна, каб добра пачуць адна адну з-за грукату колаў, размаўлялі дзве жанчыны. Адна раз-пораз узмахвала рукамі, а другая ўвесь час то паслабляла, то

падцягвала вузел на хустцы, які быў завязаны пад барадой. Сухенькі дзядок гартаў газету, а мужчына гадоў сарака маўкліва ўглядаўся ў акно. Трамвай гучна тахкаў коламі і каціўся па рэйках. Малік падышоў да кампосцера і пазнаў яго па сваёй драпіне. Хлопец дастаў з кішэні жменю цэтлікаў, якія пасля штрафу ён прадбачліва набыў у кіёску, уставіў адзін кампосцеру ў пашчу і асцярожна шчоўкнуў рычагом. На цэтліку пазначылася: «ТАНК-35». Малік змяніўся ў твары і закампасціраваў другі цэтлік. Там выбілася «КВ-21». Хлопец стаяў і адзін за другім парыўна кампасціраваў цэтлікі, аж пакуль не адчуў на сваёй спіне чыюсьці руку. Побач стаяў дзядок, скруціўшы газету трубачкай. Ён спачувальна запытаў:

— Прабачце, вам вельмі кепска?

Малік ачомаўся і, сціскаючы ў жмені закампасціраваныя паперкі, выйшаў на наступным прыпынку. Ён і не заўважыў, што трамвай выплюнуў яго, як аб'едзеную костку — быццам удаў, што адрыгвае астанкі звярка, якія не асіліў страўнік.

Апошнія цэтлікі ўтрымлівалі незразумелы код, і хлопец іх выкінуў. Два першыя пяклі яму руку. Няцяжка было здагадацца, што «ТАНК...» — не што іншае, як вуліца Танкавая. А калі гэтак, дык Малік ведаў трыццаць пяты дом. Гэта быў міністэрскі дом, выкладзены з чырвонай цэглы. У хлопца заняло дух.

Праз паўгадзіны Малік стаяў перад каванымі дзвярыма дваццаць першай кватэры і вывучаў замкі. Іх было два. Адзін швейцарскі, а другі звычайны, накладны. Малік пазваніў у кватэру, але ніхто яму не адчыніў. Праз некалькі хвілін ён пачуў, як за дзвярыма меладычна заценькаў тэлефон. Трубку не паднімалі. Некалькі гадзін Малік пратырчэў на пралётцы паміж паверхамі, цішком назіраючы за кватэ-

рай. Нічога своеасаблівага не адбылося: дзверы як былі зачыненымі, так ні разу і не адчыніліся. Калі пачало цямнець, Малік збег па лесвіцы ўніз і шпарка накіраваўся дамоў.

Дома ён патэлефанаваў знаёмаму аўтааматару і папрасіў, каб той дапамог на машыне забраць рэчы ў ягонага сябра. Сябар тэрмінова ад'язджаў у Ізраіль і па гэтай прычыне не мог адразу ўсё з сабой узяць. Плаціў сябар валютай. Аўтааматар згадзіўся. Дамовіліся, што ён будзе з машынай у дванаццаць гадзін ночы побач з домам, дзе жыве Малік...

Хлопец падняўся з канапы і зірнуў на гадзіннік: без пяці хвілін дванаццаць. Малік апрануўся. На гэты раз ён не гуляў у тэатр: не нацягваў кажух і шапку-вушанку, не браў сталярную скрыню. Малік нацягнуў на рукі эластычныя лайкавыя пальчаткі, расчыніў «дыпламат» і ўзяў толькі дзве звязкі ключоў і адмычак. З двара коратка пасігналілі. Малік перакінуў праз плячо аб'ёмную торбу, у якой было некалькі пустых сумак, падышоў да дзвярэй і на хвіліну спыніўся. Ён хлэпнуў сябе па кішэнях, вярнуўся ў пакой, знайшоў у шафе нож з выкідным лязом і толькі тады выйшаў з кватэры...

Калі пад'ехалі да доўгага і высокага, быццам крапасная сцяна, чырвонага дома, Малік дастаў дзве зялёныя паперкі, па дзесяць даляраў кожная, і працягнуў шафёру:

— Гэта ад сябра.

Шафёр схапіў купюры, пакамячыў, драпнуў рыфлёныя каўнерыкі абоіх Гамільтанаў, каб упэўніцца ў іх сапраўднасці, і задаволена паклаў у кішэню.

— Пачакай мяне тут. І вырубі святло, акумулятар пасадзіш,— Малік выйшаў з машыны і ціха прыкрыў за сабою дзверцы.

— Можа, дапамагчы знясці? — памкнуўся задобраны валютай аўтааматар.

— Не трэба,— мякка спыніў яго Малік.— Мы ўдваіх справімся. У сябра хворая дачка, і яму не падабаецца, калі ў кватэры шумна і шматлюдна.

Шафёр зноў сеў за руль і пачаў раўніва прыкідваць, колькі ж даляраў гэты «сябра» заплаціў Маліку...

Хлопец спыніўся перад кованымі дзвярыма і націснуў кнопку званка. Званок ціўкнуў некалькі разоў салаўём і змоўк. За дзвярыма нічога не чулася. Калі пад'язджалі да дома, Малік заўважыў, што ў вокнах кватэры было цёмна. У слабым святле лесвічнага плафона ён дастаў адмычкі і пачаў угаворваць грамоздкі швейцарскі замок. Хоць і нехаця, але ён, урэшце, здаўся і два разы шчоўкнуў, уцягваючы свой стальны язык. Другі замок паддаўся хутка і без асаблівых намаганняў. Малік дастаў з торбы ліхтарык з накіраваным промнем і ступіў у кватэру, ціха прычыніў за сабою дзверы. З прыхожай ён увайшоў у вялікі пакой, напэўна, залу; высвеціў секцыю з арэхавага дрэва, мяккія крэслы, дываны на сценах і на паркетнай падлозе. Прамень выхапіў з цемнаты замежную відэасістэму. Малік зняў торбу і пачаў даставаць валізкі. Ліхтарык ляжаў на невысокім століку і свяціў у бок замежнага тэлевізара. Малік адключыў відэамагнітафон ад манітора і ўсунуў яго ў валізку. Над маніторам неабходна было папацець: ён быў аб'ёмны і меў большую вагу. Малік зверху нацягнуў на яго валізку, падняў і хацеў паставіць на падлогу. Манітор выслізнуў у яго з рук і бразнуўся на паркет. У Маліка запульсавала ў скронях. Ён прыслухаўся, але праз хвіліну ўзяўся за тэлевізар. «Хопіць,— апантана падлічваў Малік,— магнітафон — дваццаць тысяч, манітор — пятнаццаць. Вось каб яшчэ тэлевізар спакаваць...»

У зале ўспыхнула калючае святло. Малік рэзка, быццам апёкшыся, азірнуўся. У дзвярным праёме стаяў поўны мужчына. На ім была майка і шырокія порткі з генеральскімі лампасамі па баках. У адной руцэ мужчына трымаў адкаркаваную літровую бутэльку «Марціні», а ў другой матава блiснула варанёнае дзецішча Макарава. Твар у генерала быў спіты і злосны.

— Я... не перашкодзіў? — мяккім голасам спытаў мужчына і наўмысна вінавата насупіўся.

Штосьці знаёмае падалося Маліку ў напаўраспранутым генерале, але ён ніяк не мог успомніць гэты даўно не голены твар.

— Самаабарона. Шлёпну — і ўсе ўлікі супраць цябе,— рэзка захрыпеў генерал, пырскаючы слінай.

Ён ускінуў руку і шчоўкнуў засцерагальнікам. Здавалася, мужчына з цікавасцю назірае, як у такой нечаканай сітуацыі павядзе сябе злодзей. Ён сузіраў дармовае жывое кіно, дзе сам мог кіраваць рэжысурай! Малік раптам пабялеў, бо ён пазнаў гэтага чалавека, пазнаў па голасе.

— Пачакайце...— замітусіўся Малік, выціраючы слёзы, што ад страху паліліся з ягоных вачэй.— Тут нейкая ідыёцкая памылка. Я не хацеў... Я ведаю, хто вы, і толькі цяпер зразумеў. Вы — Бос.

Мужчына раптам схамянуўся і мацней сціснуў пісталет.

— Так, вы — Бос,— хныкаў злодзей, падпаўзаючы да яго на каленях.— А я — Малік. Малік я... Вы ж мне тэлефанавалі... Ну, касалапы там, і ўсё такое. З хлопцамі вашымі на белых «Жыгулях»... Малік я... А гэта не я, не я. Гэта кампосцер такі. Закампасціраваў...

Генерал раптам гучна дыхнуў кіслым перагарам і зарагатаў, затрос студзяністым пузам. Ён пахіснуўся і развёў рукі ў бакі, каб затрымацца аб вушак

і ўстаяць на нагах. Малік парыўна ўскочыў з каленяў і размашыста ўсадзіў генералу ў жывот шырокае лязо нажа — аж па самую крывую ручку. Мужчына здзіўлена выпучыў на Маліка вочы, у горле штосьці забуркацела. Малік выхапіў з аслабелай рукі бутэльку і ўдарыў ёй генерала па галаве. Абліваючыся салодкім пахучым віном, той цяжка грымнуўся ў прыхожую. Малік кінуўся да дзвярэй. Калі ён браўся за ручку, за спінай прагучаў стрэл. Куля адшчапіла пад самымі дзвярыма вялікую шчэпку...

Малік выскачыў з дома, зняў скураныя пальчаткі, хацеў выкінуць, а пасля перадумаў і запхнуў сабе ў кішэню. Ён дабег да машыны і ўкуліўся на задняе сядзенне.

— Паехалі,— уладна загадаў Малік.

— Куды? — здзівіўся шафёр.

— Дамоў мяне завязі,— ледзь стрымліваў сябе ён.

— А рэчы? — шафёр запаліў святло і абярнуўся.

— Не будзе ніякіх рэчаў! Рэчы ўжо даўно адвязлі! — закрычаў Малік.

Шафёр заўважыў у яго на куртцы кроў, завёў машыну і рвануў з месца. Ён прывёз Маліка дамоў, дастаў з кішэні зялёныя паперкі і працягнуў хлопцу:

— Забяры. Я так не гуляю... Уцягнеш у свае справы — вельмі пашкадуеш.

Погляд у шафёра быў цвёрды, і Малік зразумеў, што ён не жартуе. Малік забраў валюту і пабег на свой паверх. Ён уваліўся ў кватэру, пайшоў у ванную і пачаў змываць з курткі кроў. Са спальні выйшла маці, стомлена зірнула на сына і, нічога не сказаўшы, зноў лягла ў ложак, нацягнула на галаву коўдру. Малік адмыў куртку, пайшоў на кухню і дастаў з лядоўні бутэльку гарэлкі. «А можа, гэта быў не Бос?» — падумаў Малік і наліў сабе першую чарку...

Стаяла глыбокая ноч, калі зазваніў тэлефон. Хістаючыся, Малік падышоў да яго і схапіў трубку.

— Слухаю,— непаслухмяным языком сказаў ён.

— Дабранач,— ён пазнаў голас аднаго з трох, якія прыязджалі на белых «Жыгулях».— Што ты робіш?

— Сплю...— зманіў Малік і адразу працверазеў.

— А, ну тады спі,— як нічога і не здарылася, ляніва сказаў голас.

«Можа, сапраўды гэта быў не Бос?» — зноў мільганула думка, і Маліку вельмі захацелася, каб сапраўды так здарылася.

— Дарэчы,— быццам штосьці згадаў, спахапіўся голас,— які ў цябе рост?

— Метр семдзесят восем, а што?..

— Можаш адразу заказаць сабе труну на метар пяцьдзесят. Мы цябе хутка будзем хаваць, а галаву ў рукі пакладзём... Ну, цікавых сноў табе, касалапы.

Трубка азвалася кароткімі гудкамі ў спацелай руцэ. Малік знямела стаяў на адным месцы, і начная цішыня нябачнымі свердзеламі пачала ўпівацца яму ў чэрап. Хлопец павольна пайшоў на кухню, з рыльца дапіў рэшткі гарэлкі, што заставалася ў бутэльцы. Пасля ён апрануўся і выйшаў з кватэры.

Малік ведаў, куды ісці,— ён пайшоў да трамвайнага дэпо. Яно знаходзілася за некалькі кварталаў ад яго дома. Хлопец падышоў да цэментнага плота, якім было агароджана дэпо, і лёгка пералез на другі бок. Вартаўнік спаў у асветленай шкляной будцы. Ён прывык, што яго тэрыторыю рэдка хто наведваў: хіба п'яніцы, бамжы ды танныя прастытуткі, каб пераначаваць у трамвайным салоне. Малік доўга хадзіў сярод сонных машын, прыглядаўся да іх нумароў, пакуль не знайшоў патрэбную. Трамвай пад нумарам 746 стаяў чамусьці асобна і ў шэрым мораку быў падобны да забытага на рэйках бадзягі. Малік

знайшоў паблізу пагнуты кавалак трубы, прыадчыніў дзверы і ўшчаміўся ў салон. Там хлопец падышоў да кампосцера. Ён вісеў на ранейшым месцы, і глыбокі рот яго быў драпежна апушчаны ўніз. Малік размахнуўся і звонка выцяў кампосцер трубой. Хлопец адразу выпусціў жалязяку, бо яна балюча затрымцела ў руках. Тады Малік учапіўся за поручань і ўдарыў кампосцер нагой. Ён сарваўся з ніжняга шурупа і загайдаўся на верхнім. Хлопец ударыў яшчэ раз, але кампосцер выпісаў «сальта» і зноў загайдаўся маятнікам. Малік упёрся нагой у аконную раму, звар'яцела ўхапіўся за кампосцер абедзвюма рукамі і штосілы рвануў яго на сябе. Верхні шуруп са скрыгатам вырваўся, і Малік адляцеў ад акна з кампосцерам у руках. Падаючы, хлопец ударыўся галавой аб жалезную дугу над спінкай сядзення. Пачуўся глухі ўдар, і штосьці трэснула — гэтак, як трэскае кавун, калі на рынку падае з прылаўка на асфальт...

Раніцай прыціснуў марозік і, калі ў салон увайшоў вадзіцель, лужына крыві замерзла, як каток. Цела хлопца ўстыла і адубянела. Скурчанага, яго паклалі ў «хуткую дапамогу» і накрылі прасцінай. Трамвай жа прыгналі на запасны пуць, доўга са шланга змывалі гарачай вадой кроў, а пасля прыбіральшчыца насуха выцірала праход і сядзенні белымі анучамі. Неўзабаве прыйшоў бурклівы дзядзька, прыкруціў кампосцер да стойкі і, хукаючы на замёрзлыя рукі, крэкнуў:

— Гэтай ламачыне даўно на металалом пара.

Ён тырчма засунуў струменты ў кішэні фуфайкі і пайшоў да выхаду. На яшчэ вільготных прыступках дзядзька паслізнуўся і вывіхнуў нагу.

Трамвай вывелі з дэпо і пусцілі па маршруце. На

першым прыпынку салон напоўніўся людзьмі. Да кампосцера падышла дзяўчынка з пышным кутасом на шапцы. З хвіліну пастаяла, заўважыла на кампосцеры доўгую драпіну, уражана і асцярожна правяла па ёй мяккай пальчаткай. Дзяўчынка ўклала кампосцеру ў рот цэтлік, націснула на рычаг. Яна зірнула на закампасціраваную паперку, і яе твар крыху пачырванеў, расплыўся ў сарамлівай усмешцы: на цэтліку было выбіта: «КАХАЮ ВАС».

# ЧАС, КАЛІ ПЛАВІЦЦА СОНЦА

*З. Р. С.*

Тады я бязмэтна брыў па пясчанай дарозе. Белае сонца плавілася ў зеніце над маёй галавою, і нябачная магма апаўзала на зямлю па кожным промені. У маім роце было суха і салёна, а на зубах патрэскваў пясок. Дарога здавалася такой прамой, быццам нехта гіганцкі ўзяў вялізную лінейку і правёў рысу. Гэтая рыса гублялася за гарызонтам. Свет для мяне не існаваў. Ён адвярнуўся ад мяне, быццам яго і не было. А было жудасна нясцерпнае сонца — яно ўпівалася ў маё цела сотнямі тысяч распаленых іголак-промняў, была адзіная бясконцая дарога, што ляжала пад стомленымі нагамі, і паміж дарогай і сонцам адзінокім пілігрымам цёгся я. У якім накірунку вёў мяне шлях, я не ведаў, але адчуваў, што трэба ісці як мага далей наперад. Там-сям абапал дарогі выкурчваліся з-пад патрэсканай зямлі кволыя хвойкі. Хваравітыя галінкі асуджана ніклі долу. Ветру не было зусім. Таму дрэўцы стаялі анямелыя, быццам высушаныя для гербарыя. Здавалася, што ўсё амярцвела, злілося ў адзін грандыёзны вакуум: сонца, прырода, час... І толькі наперакор усяму я, спатыкаючыся, перастаўляў ногі. Некалькі разоў нясцерпна хацелася павярнуць назад: ісці туды, адкуль ты толькі што прыйшоў, заўсёды лягчэй, чым прабівацца ў нязведанае. Але я ішоў і не палохаўся, а толькі дзівіўся з сябе. Сілы мае губляліся паціху,

амаль непрыкметна — з кожным крокам. З новым пераступам нагі я адчуваў, што слабею. Галава ад сонца пацяжэла і раздзьмулася. Удары сэрца азываліся ў грудзях нудна і працяжна, як усё роўна нехта біў у звон.

Навокал адчувалася нейкая патаемная ўрачыстасць. Быццам бы ўсё маё жыццё, усё папярэдняе існаванне былі нічога не вартыя, у параўнанні з тымі хвілінамі, калі я ішоў па дарозе. Напэўна, яе, гэтую ўрачыстасць, стварала жахлівая спякота. Гэта надавала моцы маёй волі — яна стрымлівала мяне ад спакуслівай думкі залезці пад бліжэйшую хвойку, дзе быў хоць які цянёк, і там стаіцца.

Сцяўшы зубы, я ступаў наперад. Я ўжо не ішоў, а валокся. Пасля мяне ў пяску заставаліся дзве крывыя баразны — ад аслабелых ног. А дарога паранейшаму заставалася аптымісткай: на колькі я прасоўваўся наперад, на столькі яна доўжылася на гарызонце. Я ўжо ведаў, што кожны шлях кудынебудзь вядзе і па канечнай мэце вызначаецца яго вартасць для чалавека. Гэта была мая ўласная выснова, і менавіта для мяне яна ў хуткім часе стала адным з законаў існавання. І раптам мяне адолела сумненне.

«Няўжо я так і не дайду? Гэта будзе недарэчна да смеху — загінуць, так і не зразумеўшы,з-за чаго».

Тут я першы раз страціў раўнавагу і знянацку ўкленчыў, апусціўшы рукі на гарачы пясок. О, як цяжка было мне паднімацца!.. Пасля, калі я падаў бясконца, калі поўз, пераварваючы тулава з аднаго боку на другі, заграбаў пад сябе рукамі і нагамі, каб хоць крыху прасунуцца наперад, мне было значна лягчэй. Бо я ўжо змог перасіліць сябе і прымусіць падняцца. Некалькі разоў я траціў прытомнасць. Напэўна, мяне яшчэ ратавала тое, што забыццё цягнулася нядоўга. Я прыходзіў да памяці і зноў

поўз наперад. І вось, ачуняўшы ў наступны раз, калі апошнія надзеі пакідалі мяне, а мая свядомасць гатова была скарыцца і толькі цела па інерцыі яшчэ імкнулася наперад, я раптам у застылай цішы злавіў вухам нейкі шэпт. Так мне тады здалося. З намаганнем узняў вочы і ўбачыў з боку ад дарогі не скурчаную хвойку, а... бярозу. І я зразумеў, што гэтае дрэўца чымсьці незвычайнае. Я пэўніўся ў гэтым, калі глядзеў, як без ветру шапацяць лісты. Трапятала ўсё лісце, і было ўражанне, што кожны лісток шэпчацца з суседнім, нібы дзеліцца вялікай таямніцай. Да бярозы было метраў пяць. Я, перакананы, што гэта мая апошняя дыстанцыя, мой фінал, як мог пачаў рухацца да дрэва. Цяпер у мяне была канкрэтная мэта. Я не ведаў, што гэта ў выніку мне прынясе, але калі ўзнімаў галаву, скрозь мроіва жоўта-чырвоных плям у маіх вачах узнікала выява сціплай бярозкі з пакрыўленым ствалом. І я цягнуў да яе рукі, сутаргава прыўзнімаў на іх цяжар цела і выцягваў зноў. Аж покуль нешта істотнае моцна не абхапіла маё запясце. Гэта была рука чалавека...

Ён сядзеў стомлены, але не зніклы, прыціснуўшыся да бярозы. На яго падобнай да грушы галаве крыху набакір сядзела папяровая шапка з вострым брылём. У дзяцінстве я сам круціў падобныя ўборы з непатрэбных газет. Твар незнаёмца нагадваў мне азіяцкі тып. Загарэлая скура, звужаныя вочы, моцныя скулы — усё гэта гарманічна пасавала да яго чорных кучаравак.

— Малайчына. Дайшоў.

Ён зняў шапку, адарваў ад яе шматок паперы і, скамячыўшы, выцер ёю пясок з маіх засмяглых вуснаў. Пасля адвярнуўся, і я ўбачыў яго шырокую выгнутую спіну.

— На! — Незнаёмец працягваў мне драўляную конаўку з вадой.

На мой вар'яцкі запытальны позірк чалавек усміхнуўся і кіўнуў галавою кудысьці ўбок. Я прыпадняцца яшчэ не мог, і таму ўстаў ён. А я доўга і заварожана глядзеў, як падземная жыла крынічкі бруіла і выдавалася аднекуль з нетраў на паверхню. У лагодным ззянні, у нячутным плёскаце сонечных зайчыкаў было нешта такое чароўнае, што я ачуняў толькі ад дотыку халоднай конаўкі да маіх рук. Першы глыток мне здаўся балюча-горкім, другі — выратавальным, а трэці — гаючым і бясконцым.

Чалавек паставіў конаўку бліжэй да крынічкі, насунуў мне на галаву сваю папяровую шапку і працягнуў руку:

— Бэн.

Я назваў сябе.

— Ты ўпершыню тут? — запытаў ён і сеў са мною побач.

— Здаецца, так...

— А я другі раз рызыкую. Бачыш — дайшоў і цяпер, хоць гады ўжо не тыя.— Бэн засмяяўся, паказаўшы два рады моцных белых зубоў.

Я маўчаў і не ведаў, што казаць. Ён уважліва паглядзеў на мяне:

— Я цябе разумею. Сам быў такім. Ты яшчэ не сцяміў да канца,— ён стаў на калені і распасцёр рукі.— Ты ішоў з таго боку, а я — з таго. А тут, дзе мы сядзім,— цэнтр. Бяроза і крыніца. Паратунак і палёгка.

Ён зноў зірнуў на мяне і звузіў вочы:

— А ты ледзьве пераадолеў.

Нейкі час мы сядзелі моўчкі. Я крыху ачомаўся і ўжо сам мог чэрпаць ваду. Раптам Бэн здрыгануўся і глянуў мне ў вочы:

— Чуеш?

Я прыслухаўся і нічагуткі не пачуў, акрамя шапацення лістоты. А ў майго таварыша, наколькі маглі

дазволіць яго азіяцкія абрысы, расшырыліся вочы.

— Чуеш?

Ён у нейкім апантаным азарце схапіў мяне за́грудкі і так трасянуў, што я тут жа прасіпеў:

— Чу-уйу...

— Гэта яна, яна тут! Хутка... Лісце! Бачыш — лісце!

Я прыгледзеўся. Мне здалося, што бярозка ўся напружылася, быццам зайшлася ў нейкім чаканні. Яна лекацела, менавіта лекацела кожным лістком. І тут да мяне падскочыў Бэн, схапіў адной рукой за валасы, а другую выцягнуў угору.

— Глядзі! Не бойся сонца! Вачэй, кажу, не хавай. Галоўнае не праваронiць, бо...

Ён спыніўся на паўслове і раптам зашаптаў:

— Божачка... Вунь, крыху далей...

Я ўбачыў. З-пад самага сонца павольна апускалася нейкая кропка, паступова ператвараючыся ў крыж. Яшчэ праз некалькі хвілін я зразумеў, што гэта ніякі не крыж, а дагэтуль не вядомая мне дзівосная птушка. Яна апускалася лёгка і плаўна, нібы казачны паветраны карабель. Яе зіхатлівыя доўгія крылы былі разгорнуты на ўвесь абсяг. Мы стаялі, прыхінуўшыся адзін да аднаго, і я адчуваў, як ірвецца, калоціцца ў Бэнавых грудзях сэрца. Круг за кругам птушка апускалася да нас. Я ўжо разгледзеў у акаёмках прызрыстага пуху яе серабрыстыя цэўкі, цнатліва прыгорнутыя да пер'я.

— Яна...— прашаптаў Бэн.

— Што за яна? — усхвалявана спытаўся я.

— Птушка шчасця.

— Дык... Яна не павінна быць блакітнай...

— Як каму яна здасца,— шапнуў Бэн,— я бачу яе ружовай.

Узняўся моцны вецер. Ён сарваў з бярозкі лістоту. Птушка тым часам зрабіла над намі павольны

круг і першы раз узмахнула крыламі. Паміж імі вогненнай вужакай з'явілася бліскавіца.

— Гра-а-ахх!

Ударыў гром, і тут жа сыпануў дождж. Гэта было дзіва дзіўнае! Ззяла ў небе сонца, гуляў неўтаймавальны вецер, частым дажджом падалі зверху буйныя кроплі... І кружыла, кружыла над намі невядомая мне птушка. Мы з Бэнам у нейкім імпэтным парыве скакалі і абдымаліся, крычалі нешта незразумелае. Нас глушылі грымоты, залівала вадой і сцёбаў вецер. Раптам магутным фантанам узарвалася крынічка. Яе гаючая вада пульсавала ўверх слупком. Я адчуў, як у мяне ўліваецца нейкая моц. Гэтая невядомая сіла літаральна ўварвалася ў мяне і выцесніла адтуль нажытыя пакуты і перажыванні.

Здаецца, тое самае адбывалася і з Бэнам, бо ён стаяў збялелы, учапіўшыся за камель бярозы, і пад успышкі бліскавіцы хапаў ротам паветра...

Усё скончылася так жа імгненна, як і пачалося. Спачатку некуды знікла птушка, а ўслед за ёй супакоіўся вецер і сцішыўся дождж. Толькі асобныя кроплі цяжка падалі з галін. Я зірнуў на дарогу і здзівіўся: хвойкі стаялі вольныя, пышна расхрыстаныя і... квітнелі. Кожная іголка зацвіла зялёнай кветачкай. Шлях напамінаў сабой дзівосную алею. І толькі адна бяроза стаяла з голымі чорнымі галінамі. Крынічка супакоілася і звонка шчабятала. Ля яе сядзеў Бэн і плакаў. Я падышоў, паклаў яму на плячо руку:

— Што здарылася?

— Усё добра. Усё вельмі добра.

— Пайшлі?

— Пайшлі.

Ён падняўся і змахнуў слёзы. А яны гарохам пакаціліся зноў. Тады я выцер яму слёзы. А ён мне. Так мы стаялі і выціралі адзін аднаму вочы. А пасля

засмяяліся — таксама праз слёзы, звярнулі з дарогі проста ў поле і пайшлі побач. Калі ўжо адышліся, пачулі стрэл. Азірнуліся. Гэта пырснула маладой лістотай наша бярозка. Мы ішлі па полі, і да нашых ног ліплі мокрыя камякі чарназёму. Нам было радасна, мы зноў засмяяліся. А пасля свет павярнуўся да нас сценамі горада і ўсміхнуўся расчыненымі варотамі. Ужо там, каля самых сцен, я схапіў Бэна за руку:

— Слухай, а ўвогуле, што гэта было?

Ён хітра прыжмурыўся:

— Зразумееш сам.

Прайшоў час. І мне зноў не па сабе. Я зноў не ўратаваўся. Хіба ж мала іх — заганаў і хібаў, што падсцерагаюць нас на кожным кроку: і сквапнасць, і зайздрасць, і фальш, і здрада... Ад іх цяжка ўратавацца. Таму я выбіраюся ў шлях. Я знайду тую дарогу пад распаленым сонцам, на якую натрапіў выпадкова. Перамагу і яе, і сябе, а дайду. Дайду!

Я сустрэну блакітную птушку, таму што зноў прагну ачышчэння.

# ТОЙ, ХТО БУДУЕ ГОРАД

Цёмнымі вільготнымі начамі, калі да нізкага акна, лыпаючы ў хмарных прастрэлах, схіляецца падслепаватая поўня, я ніяк не магу заснуць і праз цягучую дрымоту кручуся ў мокрым ад поту ложку. Я адкідаю ўбок прасціну і да чырвоных шнараў дзяру ногі, грудзі, жывот:

— Вежы, вежы...

Тады, прачнуўшыся, да мяне кідаецца Эмілія. У нашай халупцы яна спіць побач, на суседнім ложку. Эмілія прыціскаецца да мяне цёплымі грудзямі і гладзіць па спіне. У яе надзвычай лёгкія, пяшчотныя рукі. Яны адганяюць сверб. Эмілія гладзіць мяне і лагодна шэпча на вуха:

— Ціха... Ужо хутка... хутка...

Тыдзень як мы прыехалі ў гэты невялікі пасёлак. Ён абляпіў падножжа пукатай гары, так і не здолеўшы ўзабрацца на яе схілы. Тут спакойна, няма мітусні. Менавіта гэта мне і раіў зрабіць сухаваты лекар. Да лекара мяне зацягнула Эмілія. Я не разгледзеў дакладна, які ён з твару. Чамусьці ў памяць урэзаліся толькі запалыя шчокі і худыя кашчавыя пальцы: імі ён штораз перабіраў па стале. Лекар без перапынку задаваў пытанні, а мне даводзілася глядзець у яго ненатуральныя, павялічаныя акулярнымі шкельцамі, выцвілыя вочы. І адказваць.

— Што вы робіце летам? — ён нарэшце адвёў чэпкі позірк убок.

— Будую горад...

— Ах, той, пра які вы казалі?! — ён зноў вытарашчыўся на мяне і расцягнуў у наўмыснай усмешцы вусны.— Так, так... А можа, лепей было б на пару тыдняў з'ездзіць куды-небудзь на поўдзень, га? Персікі, абрыкосы, лёгкае віно?.. Толькі трымайцеся далей ад шумных пляжаў... Значыць, дамовіліся — пакуль што я прапісваю сонца, горы і вітаміны. Ваш горад можна збудаваць і там. Так што нічога вы не страціце.

— Я паспрабую вырвацца.

— Ну вось і добра,— чалавек з кашчавымі пальцамі ўважліва паглядзеў на Эмілію і адвярнуўся.

Я выйшаў, а Эмілія засталася. Яна дагнала мяне ў завулку праз некалькі хвілін. Мы ішлі моўчкі, і я не пытаўся, пра што з ёй гаварыў лекар. Мне было ўсё роўна.

Пасля... Пасля на сябе ўсе клопаты ўзяла Эмілія: вызначала, куды лепш паехаць, збірала чамаданы, таўклася на вакзале, каб перакупіць у каго-небудзь лішнія квіткі...

У пасёлку мы без цяжкасцей знялі танны пакойчык. Дакладней, нешта накшталт лёгкай хацінкі, якая стаіць воддаль ад вялікага дома, дзе жыве гаспадар. Эмілія сказала гаспадару, што яна мая жонка. Я не пярэчыў, што мы ўвесь час разам...

На золку, калі яшчэ няма спякоты, мы прачынаемся, ідзём да мора. Мы крочым па пасёлку да пустога пляжа і там зварочваем убок. У такую пару мора цнатлівае. Мы ідзём берагам, па мокрых, гладка адпаліраваных каменьчыках, і палахлівыя хвалі ледзь кранаюцца босых ног. Каб схавацца за мысам, нам даводзіцца абысці па дузе шырокую бухту. Толькі тут, за жоўтай стужкай пясчанай касы і вострымі вугламі скальных плячэй, я адчуваю сябе ўпэўнена. Тут ніхто не плавае, бо дно камяністае,

плыткае. Тут адзінотна, можна сабрацца з надакучлівымі думкамі, можна іх утаймаваць ці разняволіць. Тут цесна ад грамады насупленых скал і лёгка ад сіняга бязмежжа мора. Тут и жыву і будую горад. Аднойчы я ўжо амаль узвёў яго, засталося толькі падняць вежы. Але з начы ўсхадзіўся шторм, і збудаванне падчыстую забрала сабе мора. Зрэшты, у мяне няма жадання сердаваць на Нептуна. Дзякуючы яму цяперашні горад лепшы за мінулы. Я прыдумваю новыя вуліцы, масты, новы храм... Эмілія не пярэчыць. Яна дапамагае чым можа. Увогуле, яна толькі падносіць мне ваду, бо, навучаныя вопытам, мы распачалі будаўніцтва шмат далей ад берага. Нам засталося ўзвесці паўночную сцяну, дзве кутнія вежы, абнесці ўсё глыбокім ровам і запоўніць яго вадой. Толькі адкідны мост дазволіць пранікнуць за сцены горада. Я ўпэўнены, што сёння будаўніцтва скончыцца, мы давядзём яго да канца. Давядзём...

У гэтым горадзе буду жыць я. Нікагуткі не пушчу да сябе, акрамя Эміліі. Няхай скачуць каля рова, шчэрацца, моляцца, углядаюцца на сцены... Нікому не адчыню. Тоўстыя сцены, высокія вежы — я вытрымаю асаду... А яшчэ ў мяне ёсць храм. Ен стаіць на самым бачным месцы: высокі і здатны, гатычнага стылю. У храме паселіцца мой Бог. Пакуль жыве ён, буду жыць і я. Нікога не ўпушчу, нікога! Няхай выюць, няхай... Калі палезуць, я буду змагацца. Лепш спярша памерці самому, чым быць сведкам, як бэсцяць твайго Бога. О, я ведаю, што гэта такое... Я ведаю... Гэта ў шмат разоў жахлівей, чым сама смерць... А Эмілія будзе прыходзіць да мяне ў белай празрыстай сукенцы з россыпамі залатых валасоў. Я апушчу ёй цяжкі драўляны мост на тоўстых ланцугах і з грукатам зачыню за яе спінай абітыя жалезам вароты. Няхай енчаць, хай якочуць выдрамі каля сцен! У мяне моцны, трывалы горад. Будаваць

яго дапамагалі прашчуры. Праз сівыя стагоддзі я чую іх далёкі дрымотны шэпт. А прашчуры ведалі толк у будаўніцтве. У іх былі гэтакія замкі! Яны стрымлівалі нашэсці, калі не было здраднікаў. А калі такія знаходзіліся, багі адварочваліся ад людзей. Людзі верылі ў багоў, а багі прапаведавалі еднасць. І калі з тысячы знаходзіўся хоць адзін, спакушаны на золата ці дараванае жыццё дапамагчы ворагу, багі разам з ім праклiналі ўсю тысячу, і ў людзей не заставалася веры ў перамогу. Таму прашчуры сцерагліся спакусы і шчодра палівалі крывёй ворага і сваёй крывёй сцены замкаў і старажытных гарадоў. Так, мае далёкія продкі былі выдатнымі дойлідамі. У храмах жылі іх багі. Прашчуры баранілі багоў — багі аберагалі прашчураў. Напэўна, у гэтым была іх моц...

І ўсё ж такі я сёння яго адолею, гэты бясконцы, цягучы горад! Пайду ў храм і пасялю там свайго Бога. Яму павінна спадабацца новае селішча. Здаецца, святое любіць готыку. У храме больш не будзе такой гучнай пустэчы. Яе зойме мяккая ўрачыстасць. Эмілія ўхваліла мой храм і тоўстыя сцены горада... Так, цяпер засталося выкапаць канаву. Я спускаюся ўглыб як мага больш, абводжу роў вакол горада і злучаю яго рукаво з другім. Эмілія залівае ваду...

Ну, нарэшце, здаецца, усё. З аднаго берага на другі, акурат насупраць варот, ладна кладзецца мост. Усё ж такі я збудаваў гэты горад. Ён упэўнена стаіць на падмурках, узвышаецца гмахамі, маўкліва глядзіць на мяне. Я бачу яго невідушчыя вочы, быццам вочы смяротна параненага воя, які раптоўна атрымаў ацаленне. Я гляджу ў іх. У тых вачах горыч няўдач, падзяка за вернутае жыццё і прага далейшай бітвы. Эмілія... Эмілія, даруй, але спярша адзін я ступлю на мост і знікну за сценамі. Буду бег-

чы па гулкіх вуліцах да храма, каб упусціць у яго Бога. Ён жыве ўва мне, я хачу, каб ён жыў і там. Гэта цэлая цырымонія — усяленне Бога ў храм. У храме ён будзе жыць вечна, калі пры ім з яго верай застанецца хоць адзін чалавек. А пасля, пасля, Эмілія, я вярнуся па цябе. Ты ўвойдзеш у храм і адчуеш, калі пашчасціць, то ўбачыш, а галоўнае — ты паверыш. Табе не здоўжыцца адной — я вярнуся як мага хутчэй. Я пайшоў?.. Мае ногі ступаюць роўна і ўпэўнена. Іду паважна, не спяшаючыся. Усё ж не стрымаўся і пусціўся бягом па крываватых, гладкіх брукаванках... Ледзь-ледзь паспеў выпусціць Бога, як пачуў за сценамі галасы. Прыйшлі?.. Позна! Цяпер горад стаў святым, а мы будзем шмат мацнейшымі ў сваёй веры. Бягу з усіх ног назад. Толькі свішча за вушамі вецер даўніны. Так, Эмілія спраўна чакае мяне каля варот, не адважваецца адна пераступіць цераз парог. А гэта... Хто гэта? Адкуль яны тут узяліся? Іх чацвёра. Загарэлыя твары сведчаць, што сонца лашчыць іх не першы дзень. Трохі павагаўшыся, незнаёмцы накіроўваюцца да нас. Я хапаю Эмілію, уцягваю за сцены, зачыняю вароты і спрабую падняць мост. Аказваецца, аднаму зрабіць гэта не так і проста. Дапамагае Эмілія. Яна хапаецца за другую ручку, і мы кранаем з месца рыпучы махавік. Пад скрыгатанне ланцугоў адзін канец моста адрываецца ад зямлі і павольна плыве ўверх. Праз байніцу я назіраю, што робіцца з таго боку сцен. Незнаёмцы стаяць як укопаныя і ўглядаюцца на горад. Х-хэ, дурні! Прыйшлі з голымі рукамі. Няхай паспрабуюць цяпер зрабіць катапульты, таран... А можа, гэта ўсяго толькі разведка? Га, Эмілія? Дзе ты? Яна сядзіць унізе ля варот і смокча на далоні крывавы мазоль. Запэцканы тварык моршчыцца, крывіцца. Вядома, нешта трэба прыдумаць з гэтым трыклятым махавіком. Я гляджу

ў байніцу і не бачу людзей. Адышлі ці паўцякалі?.. О магутны Божа, я чую іх вясёлыя галасы ля самых сцен! Так і ёсць: яны нейкім цудам пераадолелі мой роў. Разява! Але нічога, нічога... Будзем трымаць асаду. Яшчэ паглядзім, як яны будуць карабкацца на сцены. Наверх, хутчэй наверх! У мяне там для іх усяго хапае: і атручаных стрэл, і вогненнай смалы, і смярдзючай брыдоты... Зараз вам — пару добрых камянёў. Д-давай, лавіце! Ну што, заскакалі! Нябось і вышчарацца больш не хочацца, праўда? Цяпер будзеце ведаць... Х-ха, Эмілія, падзівіся — гэты ліліпут бяжыць да сцяны і замахваецца на яе нагой! Пігмей! Вар'ят! Ён яшчэ... Кавалак сцяны аддзяліўся і асыпаўся, з'ехаў уніз. Кутняя вежа захісталася. Той, што ўнізе, замахнуўся яшчэ раз. Вежа захісталася зноў і моцна нахілілася. Магутны Божа, чаму гэта здарылася?.. Ах, я і забыўся... Я, напэўна, не ўлічыў, што, каб знішчыць самае вялікае, патрэбна ўсяго толькі нешта нізкае. Перад нахабнасцю і подласцю самыя прыгожыя паветраныя замкі лопаюцца, як мыльныя пухіры. Так было спрадвеку. Усё гэтак проста, праўда? Запаволена, быццам у сне, вежа адхіляецца некуды ўбок і знікае з вачэй. Праз момант чуваць грукат: гэта ўшчэнт разбіваецца адна з шасці падпорак маёй рамантычнай надзеі. Я выкідваю белы штандар. Шкада горада, яго, напэўна, яшчэ можна ўратаваць. За сценамі цішыня. Дзіўна, яны чакаюць. Звычайныя варвары ці крыжакі ўжо даўно б чорнай хмарай лезлі да пралому. У мяне свой гонар, і я не выйду да іх праз гэты пралом. Разам з Эміліяй мы апускаем мост. Яго ўжо не прыйдзецца больш паднімаць, бо ўсё роўна ёсць іншы шлях у горад. Я выходжу з-за сцен, прыслухоўваюся, ці на ўсе зашчэпы Эмілія зачыніла за маёй спінай вароты, і толькі тады азіраюся.

Яны ідуць да мяне ад усходняй сцяны. Адзін крыху прыпадае на левую нагу. Мая камяняка патрапіла ў цэль. Мяне абступаюць, а кульгавы раптоўна б'е кулаком пад дых, а пасля, з развароту, локцем у твар. Я валюся з ног і не магу зразумець, ці то гэтак звініць у вушах, ці то лямантуе за патрушчанымі сценамі Эмілія. Мяне паднімаюць з гарачага пяску дужыя рукі. Я гнуся ў крук, хакаю і з рассечанай губы плююся крывёй. Двое трымаюць за рукі, а кульгавы паднімае за валасы маю галаву:

— Ты ў мяне яшчэ парагочаш!..

Я заўважаю, што ў яго перакрыўлены вусны. І не ад злосці, а хутчэй ад болю. Напэўна, камень зачапіў яму косць. Чацвёрты спрабуе разбурыць яшчэ адну вежу.

— Пачакайце...— хрыплю я і не пазнаю свайго голасу. Мы з Эміліяй разумеем адно аднаго без слоў і размаўляем толькі па самай неабходнасці.— Пачакайце... Пакіньце горад... Ён святы.

Хлопец мацней сціскае ў жмені мае валасы і зноў закідвае галаву:

— Гляньце, які поп! Я таксама набожны, бачыш?

Ён адшпільвае ад курткі нейкую бляшку і падсоўвае мне пад нос. Гэта белы металічны крыж, пранізаны наўскасяк вострай зігзагападобнай маланкай.

— Так...— я зноў расчапляю спечаныя вусны,— у кожнага з нас свой Бог, але ўсе мы хрысціяне.

Здаецца, гэты довад на яго дзейнічае. Дзяцюк зноў прышчапляе да курткі свой талісман. Яго сябры адпускаюць рукі, і я кленчу ў пясок.

— Мы не зачэпім тваю забаўку і вунь тую дзяўчыну, калі дакажаш нам, які ты мужчына.

— Што трэба рабіць?

— Бачыш, вунь вешкі... Слабо — туды і назад?

Я не гляджу на мора. Я ведаю, дзе тыя вешкі. Яны азначаюць кантрольную зону для плыўцоў: дзвесце метраў ад берага. Рэдка хто пускаецца да іх «урукапашную».

— Дай слова, што стрымаеш абяцанне,— гэта мой апошні шанц.

Клыпаты крывіцца. Бачна, што для яго гэта крыху абразліва. Ён сціскае пашчэнкі і пагардліва кідае:

— Даю табе слова.

Я ўстаю і плятуся да вады. За мною на пяску застаецца віхлястая сцежка. Я кідаю на аблізаны хвалямі камень сваю адзежу, некалькі разоў удыхаю поўную грудзіну паветра і заходжу ў зеленаватае мора. Спачатку мне даводзіцца ісці па калена ў вадзе, абыходзячы камяні, затым па пояс. Нарэшце імглістае дно ўцякае з-пад ног, і я плыву. Я стараюся плыць спакойна, без лішняй мітусні, каб эканоміць сілы і берагчы дыханне. Я ведаю сваё кволае месца: у мяне слабыя ногі. Рукі маюць сілу, бо яшчэ мае дзяды сціскалі ў іх рукаяці мячоў, а вось ногі вялыя... Стоп! Ніякія яны ў цябе не вялыя. У цябе самыя спрытныя, самыя рухавыя, самыя дужыя ногі на свеце. Так, без панікі і цвярозасць у галаве... Трэба думаць пра іншае... Вада салёная... Раз... два. Удых, выдых... удых, выдых... І не дзіва: на адзін літр — цэлая шклянка солі... Удых, выдых... Аж горкая... Губа баліць, раз'ядае, напэўна. Дыхаць становіцца ўсё цяжэй. Што?.. Удых, выдых... Раз, два... Трымай дыханне. Галоўнае, каб не збіцца... Усё ў парадку. У цябе ж ёсць запасны варыянт. Памятаеш, як добра ты трымаешся на спіне? Хутка не паплывеш, але адпачыць можна... Не завальвайся на бок! Разам: удых, выдых... Раз, два... Назад не азірайся. Толькі наперад. Убачыш, што робіцца на беразе, калі будзеш вяртацца назад. Удых, выдых... Эмілія сядзіць у горадзе. Трымаецца, як тая Ульрыка...

Ульрыка... Чаму гэтае імя не ўцякае з маёй галавы? Ульрыка... Ульрыка... Ага, здаецца, дзесьці ў Скота, калі была асада нейкага замка, Ульрыка ў самы цяжкі для абаронцаў час падпаліла замак знутры і тым самым адпомсціла свайму ворагу — Брыану дэ Буагільбергу, так, здаецца, яго звалі. Усё жыццё была пры ім, чакала помсты. Помніцца, што яны згарэлі разам: паранены рыцар і яго служанка. Старая магла ўцячы з пакоя, але яна наўмысна засталася, каб паглядзець, як будзе мучыцца гэты чалавек, і атрымаць асалоду ад трыумфу нянавісці — нянавісці, якая гэтулькі год запаўняла яе скалечаную душу і выцесніла адтуль усе астатнія пачуцці. Можа, я што і блытаю. Такія даўнія ўспаміны... Раз, два... Удых... Выдых... Рыцары ў цяжкіх даспехах зусім не здатныя плаваць. І ты ўсё жыццё хадзіў у даспехах, а сёння скінуў іх. У цябе вольнае, лёгкае цела... Яно свярбіць ад поту і жалезнага панцыра. Ты плывеш. Уцякай ад свербу! Раз... два... Раз... два... Так, бачу, як наперадзе гойдаецца на хвалях чырвоная пляма... Гэта вешка. Вешка — раз... вешка — два... Ой, мне плыць далёка, аж пад самую Фігію... Р-раз... два-а... Мне далей за вешку, значна далей... Удых... выдых... Прывітанне, Фігія!.. Р-раз... Цоп! Вось яна, мяжа для плыўцоў. Смешная вешка: гумавая фляга, закаркаваная абчэсаным калом. Да флягі прывязана грузіла накшталт якара — вось яна і боўтаецца на месцы, быццам паплавок. Абшчаперыў флягу рукамі, нагамі і адпачываю... Добра, што ветру няма. Мора амаль спакойнае. Адсюль цяжка разгледзець, што робіцца на беразе. Быццам нечага ходзяць... Трэба плыць. Рукі не расчапіць, здранцвелі... Кх-х... кх... Р-раз, два-а... Не, усё-такі на спіну... Неба блакітнае, аж у вочы коле. Ці гэта соль рэжа? Так. Не збівай дыханне. Пратрымацца на паверхні трэба. Хвалі мацнеюць... Вар'яцтва! Што гэта?! Чый

плаўнік?.. Акула?! Дэльфін?.. Яны часта заплываюць аж пад самы бераг. Кажуць, што чалавек побач з імі можа адчуваць сябе ў поўнай бяспецы. Але хто іх ведае? Трэба плыць, пакуль не захлынуўся ад розных уражанняў... Р-раз, два-а... Удых, выдых... Нямеюць рукі. Ногі даўно толькі ледзь боўтаюцца. Я павінен дацягнуць, я павінен... Не круціся ў вадзе. Трымай пазваночнік!.. Трымаю. Як магу. Р-раз... два-а... Удых... выдых... Уддых, выддых... Камяні... Камяні... Яшчэ боязна ступіць, што не адчуеш пад сабою дна. Пару метраў наперад, пару метраў... Натруджаныя ногі прыемна датыкаюцца да глею. Якое цяжкае ўласнае цела, ледзьве рухаюся. Чым меней вады, тым цяжэй. Але паціху выбіраюся да берага. Непадалёк ад сушы сяджу некалькі хвілін, абняўшы слізкі камень... Паднімаю галаву: клыпаты стаіць каля самай вады і глядзіць на мяне. Болей нікога не бачна. Я выпаўзаю з мора на сухое і, напалову аблеплены пяском, застаюся ляжаць. Клыпаты падыходзіць бліжэй. Здаецца, ён прыпадае на нагу менш, чым раней.

— Ты нядрэнна паплаваў,— з яго нага твару амаль сышоў выраз болю.— Мне засталося толькі растаптаць твае пабудовы.

— Абяцаў жа...— горкі смак вады сцягвае пашчэнкі.

— А калі я зараз парушу сваё абяцанне? Ты здолееш мне перашкодзіць?

Я збіраюся з сіламі, ускокваю, хачу схапіць яго за грудзі, але ён лёгка адбівае мае рукі, і ў маёй жмені застаецца толькі белы крыж, з жоўтаю маланкай наўскасяк. Мяне калоціць ад злосці і свайго раптоўнага бяссілля. Я зноў забягаю ў ваду і трасу над галавой гэтай бляшкай.

— Цяпер твая чарга плыць... Даю слова, што не выкіну ў мора.

Клыпатага аж пераломлівае напалавіну ад нейкага дзікага смеху. Ён рагоча і паказвае пальцам у мой бок. Калісьці гэтак смяяліся, праклінаючы ерэтыкоў.

— Напалохаў... Знайшоў ду-урня-а...

Я моўчкі выходжу з вады, кідаю крыж хлопцу пад ногі і саджуся ў пясок спінай да яго і да горада. Я лаўлю вухам кожны крок, кожны зрух паветра. Нейкія хвілі за спінай стаіць цішыня. Пасля я чую, як нешта мяккае падае на пясок. Ён падыходзіць да мяне ў адных спадніках і кладзе побач крыж:

— Не выкідвай.

Ён ідзе да мора, крыху пацягваючы левую нагу і мацней ступаючы на правую. Шумна ўваходзіць у ваду і неўзабаве знікае за камянямі...

Я шкандыбаю ў супрацьлеглы бок і аглядаю горад. Яго больш не зачапілі. Усё на месцы... Вароты расчынены напята. Вось толькі Эміліі не відаць. Я мацаю сцены: яны яшчэ трывалыя. Можна было б выкарыстаць навуку князя Вячкі ў яго апошнім баі, але наўрад ці я змог бы пасля што-небудзь памацаць. Праходжу па вуліцах, набліжаюся да храма. Мой Бог сядзіць згорблены на каменных прыступках і сумна глядзіць на мяне чырвонымі вачыма. Нічога, нічога... У наступны раз я ўзвяду толькі адзін храм і абнясу яго велізарнай сцяной. А дзе ж Эмілія? Я хаджу па горадзе, аглядаю збудаванні, кранаю іх, правяраю на трываласць. Пасля выходжу на бераг і саджуся чакаць клыпатага. Наўкол неахайна раскідана ягоная вопратка. Сонца калючымі прамянямі хіліць мяне ўсё ніжэй і ніжэй да зямлі, каб распластаць на пяску. Металічны крыж б'е ў вочы водсветам гэтых прамянёў. Я чакаю... Я чакаю гадзіну — яго няма... Я чакаю болей — яго няма...

А дзе ж Эмілія?

Я чакаю...

# СІСТЭМА БАСЛІ

## I

Купка маладых людзей стаяла ў пrasторнай светлай зале і з нецярпеннем паглядала на сцэну. Там даўно павінен быў з'явіцца прафесар. Але сцэна пуставала. Было заўважна, што прысутныя пачынаюць хваляваецца. Гэта былі юнакі ў асноўным гадоў дваццаці — дваццаці двух. На іх спраўна сядзелі серабрыстыя касцюмы, а ў руках хлопцы трымалі скураныя бліскучыя партфелі. Юнакі стаялі разам і ціха перагаворваліся, раз-пораз паглядаючы на куліссы. Крыху збоку ад іх, каля расчыненага акна, сядзеў мужчына. Ён прыкметна вылучаўся сярод астатніх. І не толькі больш сталым узростам, вопраткай (вязаны світэр, цёртыя джынсы), але і знешнім спакоем. Гэта было менавіта тое, што прымушала глядзець на яго больш уважліва. Чалавек быў бландзінам. Густыя белыя валасы, з крыху жаўтаватым адценнем, спадалі на плечы. На загарэлым абветраным твары слаба прабівалася іранічная ўсмешка. Мужчыну звалі Габрыэлем. Побач з ім, на паркетнай падлозе, стаяў пашарпаны «дыпламат».

Нарэшце ў зале пачуўся лёгкі ўздых: гэта на сцэну выйшаў дырэктар інстытута прафесар Сім.

— Прабачце, давялося затрымацца. Тэрмінова праглядалі вашы асабістыя справы.

Ён яшчэ хацеў нешта сказаць у апраўданне, але махнуў рукой і лёгка саскочыў на паркетную падлогу.

— Дзеці мае,— Сім адкінуў усякую афіцыйнасць і працягнуў да юнакоў рукі,— падыдзіце бліжэй.

Хлопцы ўмомант абступілі прафесара.

— Ну вось і прыйшоў час развітацца... Што там казаць, ваша група была адной з лепшых на маёй памяці. Цяпер, калі за плячыма пяць год вучобы, я магу з упэўненасцю сказаць, што вы — гонар нашага інстытута. Адсюль і размеркаванне належнае. Траіх з вас забірае да сябе Вольф! Гэта самая прэстыжная фірма ў краіне. На заводах Вольфа ўсяго толькі сорак шэсць працэнтаў камп'ютэрных робатаў. Астатняе трымаецца на такіх, як вы... Восем чалавек запрасіла Трансагенцтва, а тых, хто застаўся, забіраюць на канвеер аўтаматычных ліній. Віншую і чакаю звестак пра вашы поспехі! Не забудзьце забраць на прахадной асабістыя справы.

Прафесар Сім развязаў паскі чырвонай папкі і, называючы прозвішчы, пачаў уручаць запраграмаваныя персанальныя дасведчанні: маленькія цёмныя карткі, абведзеныя залацістай рысай,— дыскеты. Зала непрыкметна пачала пусцець. Калі апошні юнак, схаваўшы ў кішэню картку, зачыніў за сабою дзверы, Сім падняўся па ўсходах на сцэну і ў задуменні рушыў за кулісы.

— Прабачце... Прафесар!

Гэтыя словы выгукнуў Габрыэль. Ён устаў і глядзеў дырэктару ў спіну. Сім спыніўся.

— Вы забыліся, прафесар!

— Даруйце, нешта не прыпомню.

Мужчына падышоў бліжэй да сцяны і адрэкамендаваўся:

— Баслі. Габрыэль Баслі.

Дырэктар ажывіўся і зноў саскочыў са сцэны.

— Баслі? — перапытаў ён і з цікавасцю глянуў на Габрыэля, нешта ўспамінаючы.— Пяць год назад вы спрабавалі паступіць да нас разам з гэтым наборам?

— Так.

— Паказалі на іспытах, што ўмееце шмат чаго цікавага, маеце моцныя веды, але па ўзросту былі пераведзены на завочнае аддзяленне?

— Так.

— Месяц назад вас анулявалі ў спісах студэнтаў за тое, што вы не з'явіліся на практычныя заняткі,— дырэктар зніякавеў і сабраўсяісці.

— Прафесар, я працаваў па спецыяльнасці.

— Як? Ну дык і... На здароўе! Толькі я не магу зразумець, што вам патрэбна ад мяне?

— Персанальнае дасведчанне і рэкамендацыя ў Бюро па працаўладкаванні на права прадастаўлення мне прафесіі вышэйшай катэгорыі.

Прафесар Сім чакаў усяго, толькі не такога нахабства. Але ён быў добра выхаваны чалавек. Да таго ж пасада не дазваляла розных эксцэсаў з яго боку. Было відавочна, што гэты саманадзейны баламут з фарбаванымі валасамі (прафесару чамусьці здалося, што валасы фарбаваныя) хоча знясславіць яго інстытут. Чырвоная рэкамендацыя такому бэйбусу прывядзе да таго, што інстытут перастануць сур'ёзна ўспрымаць. А калі ўлічыць, што Бюро праводзіць свае, дадатковыя, іспыты, то...

— Я не магу даць такую рэкамендацыю, таму што вы не скончылі наш інстытут.

— Завочна — скончыў.

Упэўненасць і мяккі голас Баслі пачалі раздражняць прафесара Сіма.

— Разумееце, ёсць такая народная мудрасць,— узвысіў голас дырэктар.— Двое скончылі кансерваторыю — салавей і верабей. Адзін вочна, а другі завочна. Дык вось: першы пяе, другі чырыкае! Вам вядома, што на завочным аддзяленні даецца толькі пяцьдзесят працэнтаў тых ведаў, якія выкладаюцца на стацыянары?!

— Я распрацаваў сваю сістэму і навучаўся па ёй. Яе вынікі зараз магу прадэманстраваць.

— Выдатна! Як гэта гучыць — сістэма Баслі! Ну што ж, пайшлі да мяне ў кабінет, паглядзім дзеянне новай, вядома, першакласнай сістэмы... Дарэчы, чаму вы ў такім выглядзе? Вам жа выдалі форму.

— Форма вашага інстытута вісіць у нумары. А на мне форма па маёй сістэме.

— Ну-ну... А гэты пачварны «дыпламат» — замест скуранога партфеля?

— Мне з ім проста весялей.

— Тады прашу Вас, Габрыэль Баслі, вынаходнік новых сістэм... Як там вас яшчэ?

І яны ўдвух схаваліся за кулісамі сцэны. Дырэктар быў упэўнены, што праз некалькі хвілін дзяжурная інспекцыя інстытута выкіне Габрыэля Баслі разам з яго сістэмай на вуліцу.

## II

Шэфу было не па сабе. Цэлы дзень ён прасядзеў у кабінеце. З кожнай гадзінай мяккае крэсла здавалася яму больш цвёрдым і нязручным. Некалькі разоў шэф націскаў чорную кнопку, прасіў сакратара нікога не ўпускаць, уставаў і хадзіў па кабінеце з кута ў кут. Гэта трохі развейвала, але праз колькі хвілін даводзілася вяртацца за рабочы стол. Бюро працавала на поўную катушку. Стаяў якраз самы разгар сезона — лета. Шматлікія ўстановы выкінулі са сваіх замшэлых нетраў новыя партыі навучэнцаў. Амаль у кожнага з іх шлях пралягаў праз кабінет шэфа. Было яшчэ дзіўна, як вытрымлівае людскія патокі само збудаванне. З дня ў дзень тры яго паверхі вібрыравалі і гудзелі, быццам вулей. Заставалася толькі сказаць «дзякуй» далёкім продкам: чырвоныя

сцены ўзвёў і вымураваў нейкі знатны князь. Будынак нават ахоўваўся дзяржавай. Шэфавы нервы дзяржава не ахоўвала, а шкада. Шкада, бо яны апошнім часам пачыналі здаваць. Канторская праца раздражняла гэтага чалавека. Шэф быў рамантыкам, у яго была неўтаймавальная фантазія, і менавіта гэта адыграла галоўную ролю ў тым, што калісьці ён згадзіўся застацца малодшым клеркам у фірме з такой празаічнай назвай «Бюро па працаўладкаванні». Клерк на добрым узроўні праводзіў іспыты вышэйшай катэгорыі. Яму гэта падабалася. Напэўна, толькі тым тлумачылася тое, што не было такога іспыту, у якім малады супрацоўнік не прымаў непасрэднага ўдзелу. Зверху прыгледзеліся да яго, і ў хуткім часе Моран Саймі стаў шэфам. Поспех быў відавочны: ад клерка адразу да шэфа. Морана віншавалі, ім захапляліся... І сам Моран паверыў, што знайшоў сабе цікавую прафесію. Але вышэйшыя іспыты з цягам часу сталі вялікай рэдкасцю. Камп'ютэры запаланілі свядомасць людзей. І ў канторы пацягнуліся нудныя, падобныя адзін да аднаго дні. Бывала, што шэф спрабаваў глядзець на сябе збоку. Тады замест сябе ён бачыў звычайнага крата, які за дзень перакопвае мноства ўсялякай паперы. Да Морана Саймі, галоўнага шэфа Бюро па працаўладкаванні, раптам падкралася меланхолія. Адчуўшы гэта, ён хацеў звярнуцца да медыкаў, але пасля перадумаў і пусціў усё на самацёк. Цяпер ён сядзеў за сталом і бясколернымі вачыма глядзеў у акно. З трансу яго вывеў усхваляваны голас асабістага сакратара:

— Э... прашу прабачэння... да вас кліент.

Шэф націснуў кнопку адказу і вяла прамармытаў:

— Заўтра раніцай з дзевяці гадзін. Ужо дзесяць хвілін сёмай... Я стаміўся.

Але сакратар уключыў мікрафон і лагодна, каб не апынуцца ў няміласці, загаварыў зноў:

— Яшчэ раз прашу прабачэння. Мне здаецца, што вы зацікавіцеся... У кліента на руках чырвоная рэкамендацыя на атрыманне прафесіі вышэйшай...

Сакратар не дагаварыў. Бо жалезныя дзверы кабінета з грукатам расчыніліся ў прыёмную. На парозе стаяў пачырванелы Моран. Кліент пры з'яўленні дырэктара ўстаў з крэсла і паглядзеў на шэфа.

— Прашу,— Моран адхіліўся і прапусціў чалавека ў кабінет.

Там шэф спрытна скокнуў за стол. Коратка і суха, быццам стрэліў, запытаў:

— Слухаю?

Мужчына быў гадоў трыццаці. «Завочнік»,— падумаў Моран. Яго здагадка тут жа пацвердзілася, калі ён узяў у рукі чырвоную рэкамендацыю. Апошні раз такую паперку Моран Саймі трымаў год назад.

Тады кліент праваліўся на першым жа іспыце, хоць і быў выпускніком прэстыжнай установы. І гэты наўрад ці дойдзе да другога. Моран нявесела ўсміхнуўся і загаварыў:

— Так, Баслі Габрыэль... Вы прэтэндуеце на... Калі ласка, асабістую справу і персанальнае дасведчанне.

Габрыэль дастаў з «дыпламата» дакументы, Моран заклаў дыскету ў камп'ютэр, і на табло з'явілася неабходная яму інфармацыя.

— Гэта вельмі адказная прафесія,— шэф зноў сеў за стол.— Усё будзе залежаць толькі ад вас. Вашу дзейнасць не будзе кантраляваць ніводзін камп'ютэр, не будзе дапамагаць ніводзін робат. Вы гэта добра ўсведамляеце?

Шэф прыступіў да афіцыйнай часткі. Ён добра ведаў, што яшчэ ніхто не адмаўляўся ад такіх задум.

Але гэты кавалак спектакля трэба было правесці па інструкцыі, каб пасля ў выпадку чаго...

— Значыць, вы, Габрыэль Баслі, робіце свой учынак свядома?

— Так.

— Пастаўце роспіс на гэтым бланку,— Моран падсунуў паперку.

Габрыэль трасянуў белымі валасамі і, не чытаючы, падпісаўся.

— Вам вядома, што мы праводзім спецыяльныя іспыты? Што, толькі вытрымаўшы іх...

— Вядома.

Кліент падабаўся Морану. І нічога, што ён зрэжацца на першай частцы. Шэф пастараецца яму дапамагчы, каб той пакарабкаўся крыху больш.

— У нас практыкуюцца два варыянты. У першым тры іспыты: на веданне сусветнай гісторыі, на трываласць нервовай сістэмы і на спрыт і вынослівасць. У другім варыянце ўсяго адзін іспыт. Але ён ідзе ў комплексе і вельмі сур'ёзны: гэта іспыт на выжыванне...— Моран трохі спахмурнеў, скрывіўся,— таму я стаўлю вам першы нумар.

— Я выбіраю другі,— раптам упэўнена сказаў Баслі.

Нейкую хвіліну ў кабінеце стаяла цішыня. Шэф доўга глядзеў на Габрыэля, а пасля, не адрываючы ад яго вачэй, намацаў яшчэ адну паперку:

— Падпішыце.

Кліент моўчкі падышоў і прабег па бланку вачыма. Было бачна, як моцна сціснуліся яго пашчэнкі. Але ён нічога не сказаў і павольна распісаўся. Моран, бліснуўшы пярсцёнкам, паклаў руку на паперу і падсунуў яе да сябе. Затым ён націснуў на кнопку сувязі, асіплым голасам сказаў:

— Раймі, ты чуеш?

— Так,— адказаў сакратар.

Такі ж ціхі і павольны голас Раймі вывеў шэфа з сябе:

— Працуем па другім варыянце! Аб'яві: гатоўнасць — пяць хвілін. Непасрэдна ў кантакце буду адзін я. І паведамі дамоў, каб мяне сёння не чакалі. Усё.

У дынаміку нешта закашлялася. Нарэшце сакратар ачомаўся:

— Зразумела.

Шэф адпусціў кнопку і перавярнуў пясочны гадзіннік:

— Тут роўна пяць — пясчынка ў пясчынку.

Пясок тоненькім цурочкам пацёк у пустую палавіну шкельца. Чым больш сыпалася пяску, тым відавочней у шэфа станавіўся лепшым настрой. Ён нават пачаў усміхацца, паказваючы жоўтыя пракураныя зубы. Калі палова пяску высыпалася, Моран звярнуўся да Габрыэля і ўдакладніў:

— На другім бланку вы падпісалі сваю згоду з тым, што мая фірма не нясе ніякай адказнасці, калі з вамі што-небудзь здарыцца. А цяпер станьце за гэтую рысу.

На паркетнай падлозе з'явілася чырвоная лінія, дзелячы кабінет на дзве сіметрычныя часткі. Баслі ўзяў у руку «дыпламат» і пераступіў на той бок рысы. Пяску ў верхняй частцы гадзінніка амаль не заставалася. Калі апошняя пясчынка зляцела ўніз, Моран ускочыў з-за стала, гучна зарагатаў і выгукнуў:

— Жадаю поспехаў!

У тое ж імгненне палова кабінета, як здалося Габрыэлю, з лязгатам адвалілася, і ён, узнімаючы фантаны паркетных трэсак, праваліўся ў ваду. Калі Габрыэль вынырнуў, то над акіянам стаяла ноч. Да таго ж быў яшчэ і шторм. Моцны вецер уздымаў вялікія хвалі і шпурляў іх адну наўздагон другой.

Габрыэль нырнуў пад хвалю і апынуўся ля «дыпламата»: той пабліскваў бокам на цёмнай паверхні. У момант, калі чалавек ухапіўся за пластмасавую ручку, іх накрыў дзевяты вал. Але «дыпламат» трымаў, быццам паплавок. Таму Баслі, прыціснуўшы яго да сябе, зноў вынырнуў з вады. Ён расчыніў сваю паклажу, дастаў адтуль скручаную гумавую лодку і, торгнуўшы за шнурок, кінуў яе на неспакойную паверхню. З шыпеннем лодка разгарнулася. Габрыэль закінуў у яе «дыпламат» і ўкуліўся сам. У лодцы ён намацаў пеленг і ўключыў патрэбную частату. Без сумнення, гэта быў Ціхі акіян. Тут Баслі памыліцца не мог. Шкада, што над акіянам плылі хмары і не было бачна зор, каб вызначыць месцазнаходжанне больш дакладна. Але гэта цяпер было не так важна. Габрыэль лёг у лодцы на дно і, гайдаючыся на хвалях, пачаў углядацца ў неба, слухаючы пеленг. Неўзабаве ён убачыў кропку святла. Яна была ледзь заўважнай і з'яўлялася ў рэдкіх хмарных прастрэлах. З-за шуму ветру і плёскату хваляў не было чуваць гуку рухавікоў, але па хуткасці слізгання пражэктарнага промня на паверхні вады Баслі зразумеў, што імчыць антыгравітатар. Ён дастаў з «дыпламата» сігнальную ракетніцу і выстраліў белай. Аслепшы на імгненне ад яркага святла, ён хутчэй намацаў, чым убачыў вяровачную лесвіцу. Над ім турбінамі засвістала машына. Трымаючы пад пахай «дыпламат», Габрыэль палез уверх па лесвіцы. Высокія хвалі сваімі пеннымі грабянямі кідалі лесвіцу з чалавекам з боку ў бок. Таму антыгравітатар падняўся крыху вышэй. Габрыэль быў ля самага борта. Моран, адчыніўшы дзверцы, ужо стаяў напагатове і працягваў яму руку. Калі Баслі апынуўся ў машыне, Моран выбраў вяроўку, з грукатам зачыніў дзверцы і сеў за штурвал.

— Лаві,— шэф кінуў Габрыэлю тэрмас.— Тут гарачая кава.

Габрыэль з задавальненнем наліў сабе духмянага пітва.

— Няблага на першы раз,— здавалася, што Моран цалкам заняты кіраваннем машынай і гаворыць толькі дзеля таго, каб не маўчаць.— Ты пратрымаўся на паверхні больш чым гадзіну... Але скуль у цябе пеленг з ракетніцай і лодка?

— А,— махнуў рукой Баслі, грэючыся кавай.— У мяне тут цэлая сістэма. Дарэчы, дзе мы знаходзімся?

— Побач з астравамі Новай Зеландыі.

Моран скасіўся на «дыпламат» і больш нічога не сказаў за ўвесь час палёту. Габрыэль адчуў, як разыходзіцца па ўсім целе млосная, салодкая цяплынь ад кавы, і незаўважна для сябе пачаў драмаць, прыхінуўшыся галавою да ілюмінатара...

— Будзьце так ласкавы, сэр!

Дзве пары дужых рук схапілі Баслі, як яму здалося, перакруцілі ў паветры і распялі. Ён не паспеў ачомацца, калі ўбачыў ля самага носа груваскі, зацягнуты ў белую пальчатку кулак. Ад удару галава Баслі адкінулася назад і стукнулася аб нешта цвёрдае. У роце адчуўся салёны прысмак. Габрыэль павольна расплюшчыў вочы. Насупраць яго стаяў чалавек у вайсковай форме XVIII — XIX стагоддзяў: трыко, белыя пальчаткі, мундзір, ківер... «Афіцэр. Ніжэйшы чын»,— падумаў Габрыэль і не памыліўся. Афіцэр глянуў на салдат, што трымалі палоннага за рукі, прыціснуўшы да тоўстага дрэва, і гаркнуў:

— У штаб. Жыва!

Салдаты скруцілі Габрыэлю вяроўкай за спінай рукі і прымусілі ісці за афіцэрам. Яны размаўлялі на англійскай мове. Габрыэля Баслі малапрыкметнай сцяжынкай вялі па джунглях. Наперадзе ішоў салдат (ён, напэўна, няблага арыентаваўся), за ім, раз-пораз аглядаючыся на Габрыэля, крочыў афіцэр.

Другі салдат замыкаў шэсце. Пярэдні зачапіўся нагой за парастак ліяны і бразнуўся на зямлю.

— Гэтых бураў трэба павесіць усіх,— ён азірнуўся на Баслі і брыдка вылаяўся.

Габрыэль зразумеў і цяпер толькі ўспамінаў: англа-бурская вайна (1899—1902). Імперыялістычная вайна Англіі супраць бурскіх рэспублік: Паўднёва-Афрыканскай рэспублікі (Трансвааля) і Аранжавай свабоднай дзяржавы (Аранжавай Рэспублікі). У гэтай вайне закраналіся інтарэсы англійскіх манапалістаў, уладальнікаў залатых і алмазных капальняў у Паўднёвай Афрыцы. Палітычныя англійскія колы таго часу — лідэры С. Родс і Дж. Чэмберлен. У кастрычніку 1899 года буры захапілі Чарлстаўн, Нью-Касл, Гленко. Аблажылі Мафекін, Ледзісміт, Кінберлі... Англія два разы высылала падмогу. У лістападзе — снежні 1899 года паход саракапяцітысячнага корпуса на чале з генералам Булерам Р. Х. быў асуджаны на няўдачу. У канцы студзеня 1890 года ў Паўднёвай Афрыцы высадзіўся двухсоттысячны корпус пад камандаваннем генерала Робертса. Яго войскі дэблакіравалі асаджаныя гарады. У сакавіку пала сталіца Аранжавай Рэспублікі — горад Блумбонтэйн, у чэрвені здалася Прэторыя — сталіца Трансвааля.

Габрыэль з палёгкай уздыхнуў. Трапічны лес суцэльнай сцяной застаўся па-за імі. Канваіры ўводзілі яго ў размяшчэнне лагера. Афіцэр доўга пятляў паміж раскіданымі палаткамі і нарэшце спыніўся ля адной вялікай. І знік за брызентавым полагам. Праз хвіліну з палаткі пачулася «ўвясці», і салдаты ўпіхнулі Габрыэля ўнутр. Там, нахіліўшыся над раскладным паходным сталом, сядзеў сіваваты генерал і нешта пісаў у сшытку. Напэўна, гэта быў яго ўласны дзённік. На такіх жа, раскладных, крэслах у палатцы сядзелі іншыя афіцэры.

— Ну дык што? — генерал звярнуўся да Баслі і кінуў на сшытак аловак.

Габрыэль глянуў на яго руку і заўважыў знаёмы пярсцёнак. Моран флегматычна глядзеў з-пад сівых калматых броваў на палоннага і чакаў адказу. Габрыэль не мог гаварыць, бо не ведаў дакладна, які быў месяц. Моран ажывіўся.

— Цябе паслаў Бота? Цікава, што хоча выведаць гэтая смярдзючая свіння?

Афіцэры зарагаталі пры ўпамінанні аднаго з бурскіх правадыроў. Габрыэль маўчаў. Генерал жасліва паглядзеў палоннаму ў вочы, адвярнуўся і загадаў:

— Расстраляць.

Да Баслі падбег афіцэр. Габрыэль уважліва прыгледзеўся да разгорнутага сшытка і пад апошнім запісам разабраў: 28 лістапада.

— Генерал Буль,— раптам загаварыў палонны на англійскай мове. Моран здрыгануўся і паглядзеў на Габрыэля.— У мяне да вас адказнае даручэнне.

— Слухаю!

— Загадайце прынесці мае рэчы.

Моран кіўнуў. Афіцэр выйшаў з палаткі і праз хвіліну вярнуўся з брудным, запыленым «дыпламатам». Баслі расчыніў яго, дастаў адтуль пакет і працягнуў Морану.

— За ўласным подпісам Джорджа Чэмберлена.

Моран адразу спахмурнеў і прабег вачыма па дакуменце, які вывудзіў з пакета.

— Ваша імя?

— Джэф Хэманд.

— Месца жыхарства?

— Лондан. Бейкер-стрыт, сорак пяць.— Што-што, а Лондан Габрыэль ведаў як свае пяць пальцаў.

— Пераапрануць і накарміць,— загадаў Моран і зніякавеў.

— Адну хвіліну! Справа гонару.— Баслі падышоў да афіцэра, які прывёў яго сюды, і выцяў кулаком у пашчэнку.

Афіцэр, задраўшы ногі, выкуліўся з палаткі, а Баслі пайшоў адпачываць...

Яго абудзіў тупы кароткі ўдар. Баслі расплюшчыў вочы і ўмомант аглух ад дзікага рову трыбун. Ён сядзеў каля драўлянай агароджы і, нічога не разумеючы, міргаў. Яго ўдарылі зноў. Ён узняў руку і ўбачыў над сабой гладыятара з палкай у руцэ. Габрыэль ускочыў і ліхаманкава пачаў цяміць, што да чаго. Недалёка, у цэнтры пляцоўкі, выкладзенай плітамі і падобнай на арэну, расхаджваў яшчэ адзін гладыятар, нецярпліва размахваў трызубцам і гэтым выклікаў дзікі гвалт на трыбунах. Без сумнення, Габрыэль знаходзіўся ў драўляным амфітэатры Нерона, пабудаваным спецыяльна для гладыятарскіх баёў. Калі так, то побач з Габрыэлем стаяў ланіста. Гэта значыць — старшыня гладыятараў і свабодны чалавек. Баслі глянуў на сябе і самлеў: на ягоным целе цьмяна паблісквалі танныя гладыятарскія даспехі. Ён агледзеўся. Акрамя фракійскага шчыта і кароткага мяча побач нічога не было. «Дыпламат» прапаў. Ланіста ўсунуў яму меч у адну руку, шчыт у другую, схапіў за локаць і вывеў на сярэдзіну арэны. Людзі на трыбунах аж прыўсталі ад свайго імпэтнага парыву. Словы ланіста патанулі ва ўсеагульным гармідары, а Габрыэль з пятага на дзесятае зразумеў, што ён, Марк Габіній, будзе біцца з вядомым Сколпіем — гладыятарам уласнай світы Нерона. На трыбунах вэрхал працягваўся яшчэ доўга. Раптам усё сціхла. Гэта падняў руку ў белай накідцы той, дзеля капрызу якога збудавалі цэлы амфітэатр. Ланіста пайшоў прэч з арэны, а Габры-

эль павярнуўся да Сколпія і ўбачыў у яго на твары жаўтазубую ўсмешку Морана. Моран быў узброены доўгім трызубцам з рэтынарыямі і сеткаю. Працаўнікі кранулі адзін аднаго сваёю зброяй, прычым Моран здзекліва падміргваў Габрыэлю. Пакуль яны хадзілі па крузе адзін супраць другога, Габрыэль горка ўсміхнуўся і ўспомніў, якімі словамі звычайна заканчвалася гладыятарская клятва: «Даю сябе паліць, вязаць і забіваць жалезам».

Моран пачаў нападаць. Габрыэль абараняўся. Бронзавыя, натрэніраваныя целы гладыятараў пераліваліся, ігралі на сонцы мускуламі. Яны імкліва рухаліся па арэне ад краю да краю і, пасля кароткай жорсткай сутычкі ў цэнтры, разляталіся ў бакі. Моран тут быў мацнейшы, што ні кажы. Ён усё наравіў падчапіць Габрыэля сеткай і дабіць трызубцам. Але Баслі выратоўваў спрыт. Ён рэдка наносіў удары сваім мячом — толькі калі абараняўся. Трыбуны зноў раўлі, і нават сам Нерон прыўзняўся з ложа на балконе. Яны біліся чвэрць мартаўскай гадзіны. Але ўсяму ёсць канец. Моран пачаў цясніць Габрыэля, ён штосьці варажыў сеткай і рабіў выпады трызубцам. Габрыэль адчуў, што ідуць апошнія хвіліны бою, і апантана адбіваўся. Падлавіўшы зручны момант, Габрыэль пайшоў на крайнюю рызыку. У чарговы раз, калі Моран зноў рушыў у наступ, ён з цяжкасцю ўхіліўся ад трызубца, шырока ступіў правай нагой убок, вокамгненна кінуў шчыт і перахапіў левай рукой трызубец. Люд на трыбунах прыціх у чаканні. Габрыэль той жа праваю нагой зрабіў крок да Морана і размашыста нанёс моцны ўдар мячом. У апошнюю хвіліну Моран паспеў падставіць локаць, схаваны ў жалезны даспех. Меч лёг плоскім бокам і прыйшоўся па плячы. Дзякуючы гэтаму Моран уцалеў. Ён пахіснуўся ад удару, але ўстаяў на нагах, зачапіў Габрыэля сеткай за ногі і

падсек... Габрыэль распластана ляжаў у цэнтры арэны, над ім, шумна дыхаючы, з чырвонымі ад злосці вачыма стаяў Моран і трымаў трызубец насупраць шыі. Белыя валасы пераможанага бязладна рассыпаліся па цёмных плямах засохлай крыві, якой былі шчодра заляпаны мармуровыя пліты. Моран чакаў, што пакажуць трыбуны. Здавалася, рымляне выжываюць з розуму. Адны цягнулі рукі з вялікім пальцам уніз — гэта значыць забіць, другія выкідвалі кулакі з вялікім пальцам угору — гэта значыць дараваць жыццё. На трыбунах ламаліся драўляныя поручні, у спрэчках пачыналіся бойкі... Нарэшце, атрымаўшы патрэбную асалоду, устаў Нерон і выкінуў руку пальцам угору. Яму спадабалася тая адчайнасць, з якой змагаўся Марк Габіній. Скол-пій адняў трызубец і, хістаючыся, пайшоў прэч. Да Габінія падбег ланіста і кінуў нешта побач. Габрыэль павярнуў галаву, глянуў на апусцелыя трыбуны, намацаў пластмасавую ручку свайго «дыпламата» і страціў прытомнасць...

Ачуняў Баслі ад нейкага смуроднага подыху. Двухметровая галава з вострымі пашчэнкамі, падобнымі на гіганцкі дзюб, скасабочылася над ім і лыпала вокам. Габрыэль прыплюшчыў павекі, вырашыўшы, што яму мрояцца прывіды. Праз хвіліну ён глянуў назад. Галава перавярнулася на другі бок і ўсё гэтак жа цікавала вокам. Ён азірнуўся. Навокал узвышаліся ненатуральна вялікія дрэвы, калыхаліся суцэльныя зараслі травы. Габрыэля кінула ў халодны пот. Мезазойская эра — ад 230 да 67 мільёнаў год назад. Галава раптам пагрозліва заекатала і пачала паднімацца ўгору. Габрыэль слізнуў позіркам па доўгай шыі. Яна, патоўшчаная ў самым пачатку, вырастала з пачварнага тулава. Магутны хвост з рэдкімі доўгімі шыпамі завяршаў целасклад жывёліны. На вялізным пакатым горбе дыназаўра адра-

сталі ўверх шырокія вострыя плоскасці. «Тры перыяды,— ліхаманкава ўспамінаў Габрыэль,— трыясавы, юрскі і мелавы. Вядома, гэта канец юрскага або пачатак мелавога перыяду мезазойскай эры. Росквіт гіганцкіх рэптылій». Ля Баслі екатаў і чмыхаў дыназаўр. «Вышыня — тры метры з паловаю, даўжыня — прыблізна сем. Бясспрэчна, гэта дыназаўр. Канкрэтней — стэгазаўр. Раслінаедны. Стоп!» Баслі зноў паглядзеў на галаву. Яна нахілілася долу, выскубла добры пук травы і пачала задуменна жаваць. Габрыэль падняўся, узяў у рукі «дыпламат». На самым гарбе дыназаўра, трымаючыся рукой за вострую плоскасць, стаяў Моран. Кантраст быў жахлівы. Моран Саймі быў у чорным касцюме, пры гальштуку. Іскрыліся брыльянтавыя запінкі на белых манжэтах. У другой руцэ Моран трымаў кап'ё з чырвоным дрэўкам. Гэта была каронка Морана Саймі. Ён смакаваў тыя хвіліны, калі на яго разгублена пазіраў Габрыэль.

— Ну, ну! Стаяць, малыш! — Моран ласкава пачэсваў дыназаўра кап'ём па шурпатым баку.— Бачыш, хлопчык яшчэ не падрыхтаваўся, каб ты яго праглынуў. Зараз ён сам раздзенецца, і ў цябе будзе неблагі сняданак.

Габрыэль здрыгануўся ад нечаканасці і крыкнуў:

— Кінь прыдурвацца, Моран! Гэты стэгазаўр раслінаедны. Цеплакроўных ён не есць.

Моран здзіўлена паглядзеў уніз:

— Малыш, нас абражаюць! Нас абазвалі вегетарыянцамі. Ану, малыш!

Моран Саймі з сілаю ўсадзіў кап'ё дыназаўру ў бок. Ручаінка крыві пацякла ўніз. Габрыэль думаў, што ў яго палопаюць барабанныя перапонкі ад такога рыку, які выдаў дыназаўр. Галава з доўгай шыяй крутнулася ў адзін бок, у другі, а пасля ўперылася

ў Габрыэля. Круглыя, жоўтыя вочы наліліся барвовай чырванню, пашча ашчэрвалася... Габрыэль пабег. Яго свядомасць міжвольна рэагавала на тое, за што чапляўся погляд. «Голанасенныя: гінкгавыя, сагоўнікавыя, бенецыты, хвойныя. Платаны, магноліевыя, бабовыя...» Ён як мог прадзіраўся праз гэта буйства дагістарычнай прыроды. Стэгазаўр быў непаваротлівы. Габрыэль пабег у супрацьлеглы бок і выйграў сабе некалькі хвілін, пакуль рэптылія развярнулася. Але хоць стэгазаўр і ступаў павольна, усё ж на адзін яго крок Баслі трэба было бегчы пятнаццаць сваіх. Пачвара ішла як таран. Яна прыгінала цяжарам тушы маладыя хвашчы, фікусы, лаўры... Моран стаяў наверсе, быццам капітан гіганцкага жывога карабля. Калі ён пакручваў у ране кап'ём, засаджваючы яго глыбей, наваколле аж трэслася ад трубнага поклічу, рэхам азывалася далей. Габрыэлю раптам здалося, што на рык стэгазаўра адказаў другі, больш пагрозлівы. Баслі бег да нейкай гары. Яна каменнай сцяной узвышалася наперадзе. Стэгазаўр даганяў. Баслі чуў яго цяжкі смуродны дух. Але чалавек паспеў дасягнуць гары. Ён забег у каменную нару. Яна, як тунель, мела другі выхад у канцы. Было чутна, што дыназаўр спыніўся звонку. Там ён таптаўся, чмыхаў.

— Ну што, малыш? — пачуў Габрыэль голас Морана.— Вось тут твой сняданак. Лезь у пячору і еш... Ну!

Баслі дастаў з «дыпламата» шашку дынаміту, засунуў яе ў горную трэшчыну каля самага ўвахода, падпаліў бікфордаў шнур, адбегся далей. Напэўна, Моран зноў націснуў на кап'ё, бо стэгазаўр зароў, і праз хвіліну яго пачварная галава прасунулася ў нару. Дынаміт узарваўся. Якраз над уваходам ад каменнай сцяны адарваўся скальны пласт і шухнуў уніз. Яго рабро, быццам сякач, перарэзала дыназаў-

ру шыю. Пласт не ўпаў, а застаўся стаяць, прыкрыўшы ўваход. Баслі закурыў цыгарэту, некалькі разоў глыбока зацягнуўся і кінуў недапалак дыназаўру ў рот:

— Прабач.

Габрыэль павярнуўся і пайшоў у другі канец тунеля. Калі ён выбраўся на святло, Моран расчаравана стаяў на вялізнай тушы. Яна білася ў канвульсіях. Безгаловая шыя стэгазаўра круцілася ва ўсе бакі, і з раны, быццам з помпы, фантанамі вылятала кроў. Шыпаваты хвост узлятаў угору і з сілай лупіў па зямлі, знішчаючы ўсё, што трапляла пад яго ўдары. Моран не ўтрымаўся і паляцеў уніз, раздзіраючы сваю дарагую вопратку аб шурпатую скуру дыназаўра. Да яго падскочыў Баслі, дапамог падняцца і адбегся ўбок. Моран збянтэжана глядзеў, як заціхае, супакойваецца мёртвае цела. У руцэ ён трымаў сваё кап'ё.

— Эх...— уздыхнуў Моран.— Шкада, добрая была жывёліна.

Раптоўна з-за гары рэзка ўзнялася плоская галава з ашчэранымі зубамі. Вузкапасаджаныя вочы глянулі на людзей, міргнулі, і галава схавалася зноў. Моран здрыгануўся:

— Хутчэй!

Яны кінуліся бегчы назад. Цяпер прадрацца праз зарасці дагістарычнага лесу было лягчэй. Яны беглі па нядаўніх слядах стэгазаўра. Габрыэль азірнуўся: па каменных выступах скакала новая пачвара. Кінуліся ў вочы кароткі, але тоўсты хвост, гладкая скура, магутныя заднія лапы. Істота так і даганяла людзей— на задніх канечнасцях. Пярэднія, малыя і неразвітыя, бязвольна цялёпкаліся ўверсе, на грудзях. Шыі ў пачвары не было: галава адразу вырастала з тулава. За імі даволі хутка бег наземны яшчар — ігуанадонт. Габрыэль успомніў, што гэты яшчар дра-

пежны, і пабег з усіх ног. Моран ужо стаяў ля шкляногa матавага шара, адчыніўшы круглы люк, і трымаў напагатове кап'ё. Да яго задыхана падбег Габрыэль і з веданнем справы паставіў дыягназ:

— Гэтая крошка пакутуе на біпедалізм[1]... Ты хочаш яе паказытаць?

— Скачы хутчэй у люк! — раззлаваўшыся, закрычаў Саймі.

Габрыэль нырнуў праз дзірку ў цемнату шара, а Моран шпурнуў у яшчара кап'ё. Яно ўбілася ў ніз пяшчотна-шэрага жывата. Яшчар прысеў, нахіліўся галавой да сябе, лёгка, быццам запалку, перакусіў кап'ё і рушыў да шара.

— Гэар-гэарр-гэаррр...

Габрыэлю здалося, што яшчар смяецца. Моран ускочыў у люк і зачыніў века...

## III

Было цемнавата, але яны не запальвалі святла. Шэф, абхапіўшы галаву рукамі, сядзеў за сталом у плаваючым крэсле. Габрыэль стаяў насупраць, ля сцяны. Паміж імі на паркетнай падлозе паступова знікала чырвоная лінія. Саймі адняў рукі ад галавы, зірнуў на кліента:

— Сядай, не стой.

Моран ужо і забыўся, калі перайшоў з ім на «ты». Здаецца, такое інструкцыя забараняла. Габрыэль прысеў. Яны сядзелі і моўчкі глядзелі адзін на аднаго. Моран застыў у выпрацаванай за гады прафесійнай позе. Толькі брыльянтавыя запінкі і залаты пярсцёнак не пасавалі да лахманоў касцюма. Габрыэль сядзеў у тых жа цёртых джынсах і вязаным світэры.

---

[1] Біпедалізм — здольнасць перамяшчацца на задніх канечнасцях.

Так яны сядзелі і маўчалі. Ім было лёгка. Моран раптам здзіўлена ўспомніў, што яму заўсёды было лёгка маўчаць з нешматлікімі сябрамі.

— Цікава, што там яшчэ ў цябе ёсць? — Моран усміхнуўся і паказаў на «дыпламат».

— Нічога,— Габрыэль з паспешлівасцю школьніка, які правініўся перад настаўнікам, расчыніў «дыпламат» і перавярнуў яго дагары.— Нічога, акрамя сістэмы...

Зноў памаўчалі... Моран глянуў у акно. Пачынала віднець.

— Цудоўная была ноч, ці не праўда?

— Праўда.

— Я здорава адпачыў,— шэф падсунуў да сябе кіпу папер і соладка пацягнуўся,— ты вытрымаў усе іспыты. Можаш сёння ісці дамоў, а заўтра прыйдзі да мяне а дзевятай гадзіне. Усё аформім. Гэта вельмі адказная прафесія: без камп'ютэраў, без робатаў. Яна адна з нешматлікіх. Усё будзеш выконваць сам... Ідзі.

Габрыэль моўчкі павярнуўся і пайшоў з кабінета. Моран уздыхнуў, выцягнуў у стале невялічкую шуфлядку і дастаў плазменны пісталет. Ён прыцэліўся кліенту ў спіну, націснуў курок. Жалезныя дзверы кабінета ўзарваліся і аплавіліся ў груду счарнелага металу. Габрыэль стаяў збоку і ўсміхаўся:

— Калыхаю маятнік па новай шкале.

— Ну, ну...— Моран націснуў кнопку на пульце.

У кабінеце з патаемных дзвярэй з'явіліся ўзброеныя супрацоўнікі.

— Пакалыхаешся цяпер? — рагатнуў Моран.

— Паспрабую.— Баслі апусціў «дыпламат» ніжэй і з сілай ірвануў за ручку ўгору.

Дзве створкі «дыпламата» разляцеліся ў бакі. За пластмасавую ручку Габрыэль трымаў буйнакаліберны кулямёт.

— Папярэджваю,— як бы між іншым зазначыў Баслі.— Кулямёт зараджаны вадароднымі кулямі. Шкада вашай канторы.

Моран, пракруціўшы ў галаве некалькі варыянтаў, махнуў супрацоўнікам рукой:

— Адбой.

Людзі прапалі за дзвярыма. Саймі падышоў да Баслі, падфутболіў палоўку «дыпламата»:

— Кажаш, нічога няма, акрамя сістэмы? Авохці!!

І ён пачаў смяяцца, схапіўся за жывот і затросся ў сутаргах. Габрыэль, апусціўшы жалезную цацку руляй уніз, таксама засмяяўся.

— Ідзі, ідзі сюды! — Моран Саймі падбег да стала, адамкнуў сейф і дастаў чорны квадратны пластык.— Давай адбітак.

Габрыэль паклаў правую руку на пластык, з хвіліну патрымаў.

— Хопіць.— Шэф падсунуў Габрыэлю чырвоную паперу.— Вось тут, побач з назвай, пастаўце роспіс, Ваша Ягамосць.

На чырвоным фоне вялікімі літарамі было выведзена: «Смяцяр». Габрыэль распісаўся. «Як гэта добра,— падумаў ён,— працаваць і ведаць, што цябе ніхто не кантралюе».

Моран замкнуў дакументы.

— Пачакай трохі. Пойдзем разам.— Ён падышоў да шафы і пачаў пераапранацца.

Габрыэль убачыў яго худыя плечы, валасатыя ногі, і яму стала смешна. Моран нахіліўся над сталом і нешта хутка накрэмзаў на белым аркушы.

— Пайшлі.

Яны выйшлі з кабінета. Сакратара ў прыёмнай не было. Ён, з чырвонымі ад бяссоннай ночы вачыма, сядзеў ля прахадной. Моран аддаў яму паперу:

— Раймі, вось мая заява аб звальненні. Перадай каму патрэбна.

Сакратар нешта памкнуўся сказаць, але яны ўжо зачынілі за сабой дзверы.

Габрыэль Баслі і Моран Саймі ішлі па ціхай вуліцы. Горад толькі-толькі прачынаўся. Адпачыўшы за ноч, вымураваныя нейкім знатным князем чырвоныя сцены Бюро па працаўладкаванні рыхтаваліся прыняць новых кліентаў.

# ЧАЦВЕРТЫЯ АД РЭГУЛА

У сузор'і Льва, на чацвёртай планеце ад вогненнага Рэгула, захварэла дзяўчынка. Яна ляжала ў сваім цыліндрычным, накшталт каюты старадаўняга касмічнага карабля, дзіцячым пакойчыку і глядзела ўверх блакітнымі вачыма. У іх адбіваўся сум. Пад нізкай столлю, акурат над маленькім ложкам, павольна гайдалася цацка, вельмі падобная да зямнога васьмінога. Цацка нітавалася са столлю пучком тонкіх, амаль не заўважных вокам лесак. Таму здавалася, быццам васьміног калыхаецца на хвалях. Бестурботная ўсмешка на гумавым твары і адзінае вялікае вока, якое хітравата падміргвала, гледзячы ўніз, вельмі падабаліся дзяўчынцы. Ціп-Чак — гэтак яна называла свайго вясёлага сябра, жменя гнуткіх пальцаў-шчупальцаў якога заўсёды была растапыранай. Ціп-Чак быў капітанам карабля. Калі бацькоў не было дома, дзяўчынка гуляла з ім у такую гульню: яна ўскоквала на мяккае крэсла, пад'язджала да круглага акна-ілюмінатара і, гледзячы на цьмяныя выявы шэрых збудаванняў, уяўляла перад сабой вялікі пульт, які міргаў шматколернымі лямпачкамі. Яна чытала пра такія пульты і, больш таго, ведала дакладна, што існуюць такія вялікія, незвычайныя пульты з мноствам рознакаляровых жывых агеньчыкаў.

Дзяўчынка націскала некалькі кнопак на ўяўным пульце, нахілялася да ўяўнага селектара і вельмі сур'ёзна казала:

— Штурман Эльза дакладвае капітану Ціп-Чаку: касмічны карабель «Эльчак» падрыхтаваўся да старту.

Няцяжка здагадацца, чаму менавіта гэтак называўся карабель. І прыдумала яму назву, вядома, сама штурман Эльза. Штурман Эльза! Не, яна ніколі не імкнулася быць капітанам, яна марыла стаць менавіта штурманам самага сучаснага касмічнага карабля і займець чорны касцюм з бліскучымі маланкамі па швах.

Атрымаўшы дазвол ад свайго добрага капітана, Эльза выводзіла карабель на арбіту. Яна была добрай, выхаванай дзяўчынкай. І таму свядома рабіла некалькі віткоў вакол гэтай абрыдлай планеты, каб сказаць на развітанне: «Да пабачэння, сумная планета!.. Я сюды больш ніколі не вярнуся». А пасля штурман Эльза паведамляла Ціп-Чаку новы маршрут і брала курс на Блакітную Гарошыну. Гэта быў самы правільны курс маленькага штурмана — адзіны, якога заўсёды прытрымліваўся «Эльчак». Хітраватае вока васьмінога ў такія моманты ўважліва сачыла за ілюмінатарам, і дзяўчынка адчувала погляд капітана, поўны шчырай надзеі ў свайго спадарожніка...

Цяпер дзяўчынка хварэла. Цяжкая хвароба даўно падсцерагала яе і, нарэшце, займела сабе яшчэ адну ахвяру. У слабым святле твар Эльзы здаваўся васковым. Яна шмат часу ляжала не ўстаючы, і, здавалася, нават вясёлая цацка набыла маркотны выгляд — гэтак ахуталі рабочы барак сум і гора. А ў дадатак яшчэ кампанія не адпускала маці даглядаць хворую дачку: блізілася заканчэнне работ у гэтай частцы паўшар'я, і таму кожны «наёмнік»

быў асабліва неабходны. Планета нехаця паварочвалася да свяціла другім бокам. І адчувальны перапад тэмпературы падганяў кампанію з тэрмінамі. Маці Эльзы давялося звольніцца і перарваць кантракт, якога яны з бацькам дамагаліся шмат часу. Цяпер яна часта прыходзіла ў пакой, садзілася каля дачкі і ў роспачы назірала, як меншае агеньчык жыцця ў гэтым слабым целе, бяссільная што-небудзь зрабіць. Наведаўся і лекар, але толькі асуджана развёў рукамі: нечаканая эпідэмія звaліла некалькі соцень рабочых, і ўсе прэпараты, якія ўмацоўваюць імунітэт, скончыліся. Праўда, міжгалактычная сістэма «Мега» стрэліла капсулай, якая павінна даставіць патрэбныя лекі. Калі яна з'явіцца над Базай і ці ўдала абыдзе гарачае паўшар'е — невядома...

Паўкруглыя дзверы пасунуліся ўбок, і ў дзіцячы пакой увайшлі бацькі. Пасля візіту лекара яны быццам пастарэлі. Маці падышла і села побач з узгалоўем, узяла аслабелую руку дачкі. Некалькі начэй запар жанчына не спала — плакала, і пад стомленымі вачыма з'явіліся падцёкі. Бацьку, высокаму плячыстаму мужчыну, раптам падалося, што ўсё гэта калісьці было: хворая дачка і амаль непрытомная жонка, дзіцячы ложак і цьмяны плафон — даўным-даўно, быццам у напаўзабытым сне.

— Эльза... сёння незвычайны дзень,— сказаў ён і пракаўтнуў даўкі камяк.— Сёння на нашай планеце... яна плыве ў Космас вельмі далёка адсюль... пачынаецца Новы год...

Дзяўчынка павярнула галаву і ўважліва паглядзела на бацьку. Яму спатрэбілася шмат сілы, каб вытрымаць гэты позірк.

— Эльза...— працягваў ён,— у такія дні да дзяцей прыходзіць добры дзядуля і прыносіць падарункі.

Бацька разгарнуў скрутак, які дагэтуль камячыў у руках. І паклаў на ложак чорны камбінезон з бліскучымі маланкамі па швах.

— Вось гэта ён перадаў табе.

Дзяўчынка вызваліла руку з шурпатых матчыных далоняў, з намаганнем прыўзнялася, дацягнулася да камбінезона і зноў аблегла. Яна заплюшчыла вочы і пачала пяшчотна мацаць эластычную тканіну. Вусны яе кранула шчаслівая ўсмешка.

— Штур-ман-скі,— па складах вымавіла Эльза і зірнула на маці іскрыстымі вачыма.

Маці згодна кіўнула галавой, хацела прымусіць сябе ўсміхнуцца, але замест гэтага з выплаканых вачэй па маршчыністых шчоках збеглі дзве скупыя слязінкі.

— Штур-ман-скі,— зноў прамовіла Эльза і зірнула на бацьку.

— Так... і сапраўды... — выціснуў ён і адышоў да акна.

Гэта быў звычайны камбінезон, які выдаюць наёмным шахцёрам. Бацьку давялося адпрацаваць два тэрміны ў адным і тым жа, каб зрабіць Эльзе падарунак.

Цяпер ён стаяў каля круглага акна-ілюмінатара і зацята глядзеў на вялікі горад, ахутаны шэрай дымкай. Здавалася, чырвонае неба нізкімі рванымі хмарамі ціснула горад да паверхні планеты. Востраканечныя збудаванні кідалі з круглых вокнаў цьмянае святло. Мужчына ведаў, што такім жа рэдкім святлом уліваецца ў гарадское свячэнне жыццё гэтага маленькага пакойчыка. І вяртаючыся з шахты, як ні смылелі рукі і як ні нылі ключыцы, ён усё роўна адшукваў сярод іншых акон СВАЁ.

— Мама,— бацька пачуў ціхі шэпт,— а планета, на якой жыве Добры Дзядуля,— гэта Блакітная Гарошына?

— Так, мая дачушка, гэта Блакітная Гарошына,— такім жа шэптам адказала маці.

— І яна таксама плыве ў Космас?

— Плыве... Разам з намі.

— Мама,— счакаўшы колькі хвілін, зноў прашаптала Эльза,— а калі яна дагоніць нас?

Жанчына доўга не адказвала, а пасля павольна, быццам сонная, вымавіла:

— Мы яе дзеці... Няхай дагнала б...

Мужчына, стоячы пры акне, да болю сцяў сківіцы і прыхінуўся лбом да цёплага пластыкавага шкла.

— Не, мама,— штосьці зразумеўшы, запярэчыла сабе дзяўчынка,— лепей мы самі яе дагонім.

Жанчына ўпотай ад дачкі схавала твар у напрацаваныя, вузлаватыя рукі.

— Так,— шаптала Эльза,— нам адно, чаго не хапала, дык сапраўднага штурманскага камбінезона. Ён, напэўна, крыху вялікі, але я падрасту, мама. У мяне... ёсць адзін... адзін... знаёмы капітан... Калі-небудзь... Блакітную Гарошыну... мы дагонім...

Эльза страціла прытомнасць. Маці ўскочыла з месца, укленчыла над ложкам і пачала ўвіхацца каля дачкі. Гумавы Ціп-Чак ашалела гойдаўся па вялікай амплітудзе, быццам сапраўдны капітан карабля, якому было неабходна прыняць правільнае рашэнне. Бацька скамянела стаяў і глядзеў у акно.

Хутка, вельмі хутка над гэтым, абетаваным людзьмі і людзьмі ж кінутым месцам узыдзе вогненны Рэгул, і рэшткі збудаванняў аплавяцца, ператворацца ў пыл. Наўкол будзе толькі аднародная, распаленая гладзь. А База знімецца адсюль і пераскочыць далей, у люты холад. На другім паўшар'і тысячамі кіслародных соплаў разагрэе сабе лапінку паверхні, будзе шахтамі ўгрызацца ў планету, кры-

шыць акамянелую ледзяную пароду і высмоктваць яе на паверхню.

Але ўся гэтая агромністая праца не будзе вартая і патухлай кроплі метэарытнага дажджу, калі аднойчы ад планеты не адарвецца зорны карабель і за яго штурвалам у ,сапраўдным штурманскім камбінезоне з маланкамі па швах не будзе стаяць Эльза, углядаючыся ў цемру блакітнымі вачыма.

# БЕРКУТЫ

*Трагедыя-прыпавесць у дзвюх дзеях*

---

*Амаль кожны дзень сродкі інфармацыі перадаюць прыкметы прапаўшых людзей. Бывае, што некага адшукаюць. Але ў большасці выпадкаў ніхто не ведае, дзе гэтыя людзі, што з імі адбываецца і як іх знайсці...*
*Гэтага не ведае ніхто, акрамя неба.*

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

Фаран, важак чарады.

Томбі, яго сын.

Ушэн, стары мудрэц, філосаф.

Руф, лепшы драпежнік.

Тайка, арліца, вушы чарады.

Сэкэ, арліца, вочы чарады.

Басар, сляпы калека.

Кунар, вольны арол.

Арлы і арліцы.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Вяршыня скалы.
На шырокай пляцоўцы і каменных выступах велічна стаіць чарада птушак. Гэта арлы.
Знешне яны вельмі падобныя да людзей: з рук адрастаюць крылы, размалёваны завостраныя твары, гладка прычэсаныя назад валасы.
Ва ўсіх на поясе па баках вісяць два кінжалы.
Арлы стаяць спінай, акрамя важака чарады Фарана, які знаходзіцца на самым высокім выступе.

Фаран. Браты мае, вольныя птушкі арлы! Кожны з нас ішоў сюды па сваёй сцяжыне: шлях быў далёкі і цяжкі. Але ўсе мы з'яднаны тым, што не змаглі ўжыцца ў грамадстве, якое засталося там, за скаламі. У грамадстве двухногіх! Мы доўга цярпелі іх ману, сквапнасць, здраду... У пэўны час нехта не вытрымліваў і ўцякаў у горы. Сёння галоўнае, што мы ўрэшце знайшлі адзін аднаго. І нас ужо шмат. Пастулова мы змяняем свае аблічча, мы ператвараемся ў беркутаў — моцных незалежных істот... Руф, ты прасіў слова.

Руф *(пакідае пляцоўку і ўзбіраецца на адзін з выступаў)*. Браты мае! На той скале жывуць грыфы. Яны таксама лічаць сябе арламі. Я пагарджаю імі, я ненавіджу гэтых склізнякоў з голымі шыямі! Сапраўдныя арлы не будуць, як груганы, жывіцца гнілой падлай! Не будуць сварыцца за кавалкі мярцвячыны! Сапраўдныя арлы не нападаюць учатырох на аднаго. *(Азіраецца.)* Вось — Басар у пацвярджэнне маіх слоў! У яго перабіта крыло і выдзеўбаны вочы. Тайка пачула яго стогны, і толькі дзякуючы гэтаму Басар тут, побач з намі... Грыфы напалі на яго са спіны.

Галасы з чарады.— Мярзотнікі!
— Гэта ім так не пройдзе!
— Іх трэба правучыць!

Р у ф. Звяртаюся да цябе, важак. Мне здаецца, што чарадзе неабходна аб'явіць грыфам вайну!

Кароткая паўза.

Ф а р а н *(да Ушэна)*. Якія думкі ў мудраца на гэты конт?

У ш э н. Імкнуся верыць у далейшую еднасць чарады.

Ф а р а н. Не разумею, філосаф.

У ш э н. Ты важак. Яны абралі цябе за твой розум. Прымай рашэнне...

Ф а р а н. А што кажа неба?

У ш э н. Яно маўчыць.

Паўза.

Ф а р а н. Што ж... Я не хачу, каб тое, што здарылася з Басарам, паўтарылася з кім-небудзь іншым... Дазваляю чарадзе ўдасканальваць самаабарону... Самая моцная хватка ў Руфа. Яшчэ ніхто не вырываўся з ягоных кіпцюроў. *(Да Руфа.)* У цябе ёсць такія сакрэты, якімі ў бойцы валодае далёка не кожны беркут. Ідзі, сёння тваё месца тут.

Важак саскоквае ўніз і ўваходзіць у чараду.
Руф спрытна ўзлазіць на верхні выступ.

Р у ф *(крыху расчаравана)*. Тады... пачнем!

Чарада ўмомант раздзяляецца на пары.
Кожны застывае ў нейкай адметнай позе.

Р у ф. Надаючы шмат увагі кіпцюрам і дзюбе, многія забываюць пра крылы і гэтым напалову змяншаюць моц свайго ўдару! Хэц-кі!

Ч а р а д а. Хэц-кі!!!

Кожны наносіць такі ўдар, які выцякае з абранай позы.
Пары круцяцца, як у віхуры, змагаюцца.

Руф стаіць наверсе і паказвае чарадзе патрэбныя рухі. Ва ўсім гэтым гармідары не прымаюць удзел толькі Басар — ён сядзіць збоку, абвязаўшы вочы чорнай стужкай, і Ушэн, які, склаўшы крылы, маўкліва глядзіць на Руфа.

Зацямненне.

Той жа кавалак скалы, дзе звычайна збіраецца чарада. Па выступах могуць курчыцца некалькіх сухіх дрэўцаў. На высокім гарбе скалы знаходзіцца Сэкэ. Фаран сядзіць ніжэй.

Фаран. Што бачыш, яснавокая Сэкэ?

Сэкэ. Шмат чаго, важак. Сонца сёння добрае.

Фаран. Што грыфы?

Сэкэ. Сядзяць чарадой. Насцярожаныя.

Фаран *(хмурна)*. Што яшчэ?

Сэкэ. Кунар на паляванне выбраўся.

Фаран. Адзін?

Сэкэ. Адзін.

Фаран. Так... Дзе беркуты?

Сэкэ *(глядзіць у другі бок)*. Вунь — ніжэй па скале. Трэніруюцца. Руф прыдумаў новы ўдар. Магу паказаць... Прыкладна так... *(Паказвае.)*

Фаран *(не гледзячы)*. Што ж... Няблага. Ён, наогул, добры выдумшчык, гэты Руф... Га?

Сэкэ. Ён драпежнік.

Фаран. І драпежнік.

Сэкэ. Важак, мне таксама трэба да чарады. Я хачу вучыць удары разам з усімі.

Фаран. Сачы за наваколлем.

На пляцоўцы з'яўляецца Томбі.

Фаран *(да Сэкэ)*. Дзе Басар?

Сэкэ. З чарадой. Стаіць убаку.

Фаран. Прывядзі яго сюды.

Сэкэ саскоквае з выступу і выходзіць.

Ф а р а н. Што ў цябе, Томбі?

Т о м б і. Бацька, я...

Ф а р а н *(перапыняючы)*. Важак.

Т о м б і. Так, цяпер важак.

Ф а р а н. Тут другія ўмовы. Забудзь пра старое. Зразумеў?

Т о м б і. Зразумеў, важак.

Ф а р а н. Памятай... Ты нешта хацеў мне сказаць?

Т о м б і. Важак, я самы малодшы ў чарадзе. Мне не хапае ўзросту, каб пачаць займацца баявым майстэрствам...

Ф а р а н. Так-так-так...

Т о м б і. Сярод скалаў творыцца незразумелае, і я хачу спытаць тваёго дазволу, каб стаць у баявую пару.

Ф а р а н. Я бачу, у табе прачынаецца сапраўдны беркут... Як ставіцца да гэтага Руф?

Т о м б і. Ён згодзен.

Кароткая паўза.

Ф а р а н. Адну хвілінку...

Важак адварочваецца і знянацку наносіць Томбі ўдар. Томбі падае. Тут жа ўсхопліваецца і спрабуе стаць у баявую стойку.

Ф а р а н *(з усмешкай)*. Табе сапраўды было б карысна павучыцца. Перадай Руфу, што атрымаў мой дазвол.

Т о м б і *(узрадавана)*. Дзякуй, важак!

Ф а р а н. Падыдзі бліжэй! *(Томбі падыходзіць.)* Я веру, што хутка ты станеш адным з лепшых беркутаў чарады. З цябе атрымаецца добры памочнік для важака.

Выцягвае свой кінжал.

Вазьмі. Тут ён заўсёды прыносіў удачу і аберагаў мяне.

Томбі дастае свой кінжал і аддае бацьку.

Томбі. Цяпер мне не страшны ніякі грыф!.. Я пайду, важак?

Фаран (*абдымае Томбі за плечы*). Жадаю табе заўсёды быць упэўненым у сабе — толькі тады перамога застаецца пры табе. Не забывайся пра гэта.

Томбі. Не забуду, важак!

Фаран. І вышэй галаву, беркут!

Томбі выходзіць. З'яўляецца Сэкэ. Яна прывяла Басара.

Фаран. Дзякуй, Сэкэ. Ідзі да чарады. Я пасачу за наваколлем.

Сэкэ (*заклапочана*). Не падабаюцца мне сёння грыфы. Не падабаюцца.

Фаран. Ідзі!

Сэкэ выходзіць.

Басар (*узбуджана*). Дзе, дзе яны?

Фаран. Хто?

Басар. Гэтыя слізнякі з голымі шыямі. Важак, прывядзі мне сюды любога! Только адно прашу — каб жывы быў, каб цэлы... Аддай яго мне, і мы яшчэ паглядзім, хто каго! Мы...

Фаран. Супакойся, Басар!

Басар. Я спакойны, важак. Я спакойны! Але чым адкажуць беркуты на гвалт?

Фаран. Маўчаць не будзем, не сумнявайся.

Басар. Спадзяюся... Мне дык ужо што?..

Фаран. Кепска сябе адчуваеш?

Басар. Я?! А як сябе можа адчуваць сляпы калека?

Фаран. Прабач...

Басар. Не трэба! Навошта здзекуешся, Фаран?

Фаран (*ашаломлена*). Не разумею цябе.

Басар. Не трэба карміць мяне жаласцю! Па-

куль жывы — не дазволю, каб мяне шкадавалі.

Ф а р а н. Хацеў як лепей... Даруй... Я разумею, што табе будзе балюча і непрыемна, але ўсё ж раскажы, як гэта здарылася?

Б а с а р *(рэзка)*. Навошта? Каб пасля пасмяяцца з няўмекі Басара, якога падзяўблі грыфы?

Ф а р а н. Руф сказаў, што іх было чацвёра, а ты адзін. Калі гэта праўда, дык ужо не смешна.

Б а с а р. Я беркут. Я павінен быў адбіцца.

Кароткая паўза.

Ф а р а н. Учора там, у нізіне, я бачыў, як бег мядзведзь. Гэтак бегаюць толькі тады, калі ўцякаюць ад сваёй смерці. Але колькі я ні ўглядаўся — не мог зразумець, што яму пагражае. І толькі пасля, калі апусціўся ніжэй, заўважыў цэлы рой дзікіх пчол. Уяўляеш? Мядзведзь, напэўна, захацеў паласавацца мёдам і забыўся пра пчол. Яны такія дробныя, што зверху нават нябачныя.

Б а с а р. Я заўсёды бачыў пчол. З любой вышыні. Нават Сэкэ зайздросціла мне... Грыфы былі на нашай тэрыторыі. Двое. Дзерлі казла. Ну, памятаеш, мы з Руфам пагналі яго да абрыву, і ён сарваўся.

Ф а р а н. Так.

Б а с а р. Я нагадаў ім, дзе праходзіць мяжа, але яны толькі мацней накінуліся на мярцвячыну і не звярнулі на мяне ніякай увагі. Гэта была натуральная абраза. І я скочыў біцца, каб паказаць, хто тут гаспадар... Я перамагаў... Аднекуль з'явіліся яшчэ двое. Знянацку падляцелі да мяне... Я азірнуўся і... Цемень. Балючая чорная цемень!! Важак!..

Ф а р а н *(сабе)*. Надзіва яны смелыя...

Б а с а р. Што ты сказаў?

Ф а р а н. Хачу спытаць, можа, я магу табе чымсьці дапамагчы?

Б а с а р *(упэўнена)*. Можаш. Помстай... Яна будзе?

Ф а р а н. Мы паспрабуем разабрацца з грыфамі. Хто вінаваты — таго пакараем.

Б а с а р *(узбуджана)*. Важак, іх трэба караць адразу ўсіх!! І неадкладна! Няхай ведаюць!..

Ф а р а н. Але ж на цябе напала не ўся чарада, а толькі чатыры з іх.

Б а с а р. Яны ўсе аднолькавыя!.. У іх агідныя голыя шыі!!!

Ф а р а н. Добра-добра, Басар, супакойся.

Б а с а р. Лепш дапамажыце ўзабрацца на самы верх скалы, каб я добра чуў іх стогны. А супакойваць мяне не трэба. Цяпер для мяне самы лепшы бальзам — гэта помста.

Ф а р а н. Час пакажа... Выздараўлівай хутчэй.

Б а с а р. Я буду чакаць, важак!

Фаран паднімаецца на свой выступ і азірае наваколле. Уваходзіць Т а й к а.

Б а с а р *(уздрыгнуўшы)*. Хто тут?

Т а й к а. Я, Тайка...

Б а с а р. А, ты...

Т а й к а. Можна, я крыху пабуду каля цябе?

Б а с а р *(насцярожана)*. Навошта?

Т а й к а. Хочацца... Мне з табою спакойна і цёпла.

Б а с а р. Што?.. Цёпла?!

Ф а р а н *(крычыць зверху некуды ўніз)*. Я не дазваляў выцягваць абодва кінжалы! Толькі адзін, неабходны для палявання!.. Руф!!.

Збягае з выступу разгневаны. Заўважае Тайку.

Тайка? Пабудзь з ім, я хутка вярнуся!

Т а й к а. Добра.

Ф а р а н. І паглядай зверху за... за наваколлем! *(Знікае з пляцоўкі.)*

Б а с а р *(нервова)*. Цябе прыслаў Фаран?

Т а й к а. Не...

Басар (*сцвярджальна*). Ён падаслаў цябе, каб ты за мной сачыла.

Тайка. Не кажы так. Я сама прыйшла.

Басар. Маніш! Я ведаю!

Тайка (*са слязьмі*). Нічога ты не ведаеш!

Басар (*апустошана*). Лепей, каб ты не пачула мае стогны там, сярод камення, калі на мяне населі грыфы...

Тайка. Што ты кажаш, Басар?! Я цяпер малю неба, што мне тады сустрэўся Руф і ўратаваў цябе.

Басар (*зрываецца*). Уратаваў, каб прадоўжыць мае пакуты?!!

Тайка. Ты сам сабе маніш! Ты не можаш быць пакутнікам, калі цябе... кахаюць.

Кароткая паўза.

Басар (*з болем*). Не трэба...

Тайка (*спяшаючыся*). Трэба. Я хачу, каб ты ведаў!.. Увесь час, як толькі мы сустрэліся, я цябе кахаю... Памятаеш, як мы лёталі ў небе? Мы паднімаліся так высока, што ў мяне забівала дых. Там рабілася дужа холадна і не было чым дыхаць. А пасля мы пікіравалі ўніз, да гэтай скалы — крыло ў крыло, і я была такая шчаслівая...

Басар (*стогне*). Не трэба... Прашу цябе...

Тайка (*плача*). Басар...

Басар. І ты мяне кахала?

Тайка (*крычыць праз слёзы*). Кахала!..

Басар. Навошта слёзы?.. (*Вобмацкам знаходзіць яе, спрабуе супакоіць.*) Ты забудзеш пра мяне, праўда? Забудзеш, і ўсё будзе добра. Я цяпер не такі... Ты робіш сабе толькі балюча, калі думаеш пра мяне... Не трэба. Я вось нават абняць цябе не магу як след... Бачыш — адным крылом толькі. Другое не хоча слухацца.

Т а й к а. Няпраўда. Я і цяпер кахаю.

Б а с а р. Усё будзе добра. Ты адыдзеш... Ну?

Т а й к а. Я сур'ёзна! Я, можа, і не адважылася б табе сказаць, каб тое, што здарылася... *(Умольна.)* Ну... Ну, злітуйся і пашкадуй мяне.

Б а с а р *(пасля хвіліны маўчання)*. Шкада...

Т а й к а. Дзякуй!

Б а с а р. Шкада, што ў мяне няма вачэй і я не магу заплакаць... А можа, гэта й добра — беркут не павінен плакаць. Усё роўна шкада... Я тады... на цябе хоць паглядзеў бы.

Т а й к а. Гэта не галоўнае. Ты адчуваеш мяне побач з сабою — і добра.

Б а с а р. Я не ўбачу, якая ты цяпер.

Т а й к а. Такая ж, як і была. Толькі... больш не адзінокая.

Б а с а р *(задуменна)*. Я не адчуваю сябе кінутым.

Т а й к а. Гэта добра. Гэта вельмі добра.

Б а с а р *(змяніўшыся)*. А чаму ты не пытаеш, што я думаю пра цябе? Ці... ці, можа, ты ўпэўнена, што я прыму тваё каханне, як міластыню альбо... як апошнюю саломку?

Паўза.

Б а с а р *(занепакоена)*. Тайка?..

Паўза.

Тайка! Не маўчы, толькі не маўчы!

Тайка кідаецца да Басара. Абнімае.

Т а й к а. Не кажы больш так ніколі, чуеш?! Ты можаш мяне праклясці, але я ўсё роўна нікуды ад цябе не пайду.

Б а с а р. Даруй... *(Скорана прыслухоўваецца да яе пяшчотаў.)*

На адным з выступаў з'яўляецца К у н а р, вольны арол.

К у н а р. Спачуваю табе, мужны Басар.

Б а с а р *(вырываецца з абдымкаў)*. Хто гэта?..

К у н а р. Я, вольны арол.

Б а с а р. Ты прыляцеў да важака?

К у н а р. У кожнага беркута — сваё неба. Кожны сам сабе важак.

Б а с а р. Кунар, мы з табою заўсёды былі ў добрых адносінах... Я спадзяюся, ты не будзеш улазіць у справы?

К у н а р. У чые справы?

Б а с а р. Даўніх сяброў.

Кароткая паўза.

К у н а р. Ты быў мужным і надзейным беркутам.

Б а с а р. Ужо быў...

Т а й к а. Кунар, што бачна зверху?

К у н а р *(азірае наваколле)*. Чарада трэніруецца... Грыфы кружаць каля сваёй скалы.

Б а с а р *(нервова)*. Гукні ім, што я, Басар, жывы!! Скажы, беркут кліча...

Т а й к а *(супакойвае)*. Нельга табе хваляваціся! Нельга. Давай спусцімся ўніз.

Б а с а р *(зацята)*. Яшчэ паглядзім!.. Паслухаем...

Яны сыходзяць. Кунар застаецца на выступе адзін.
Неўзабаве з'яўляецца У ш э н. Азіраецца па баках.

К у н а р. Вялікага неба табе, мудрэц чарады.

У ш э н *(заўважае Кунара)*. А... Вось ты! Даўно не размаўлялі з табой. Дзе прападаў?

К у н а р. Лётаў да самага хрыбта.

У ш э н. Як-небудзь сустрэнемся, падрабязна раскажаш пра гэты палёт... Дзе ты цяпер спыняешся на ноч?

К у н а р. На Шчарбатай скале... Мудрэц, чаму беркуты трэці дзень займаюцца баявым майстэр-

ствам? Чарада рыхтуецца выцягнуць абодва кінжалы?

Ушэн *(суха)*. Беркуты вывучаюць самаабарону. Грыфы пакалечылі Басара.

Кунар. Мне вядома пра гэта... Але кожны беркут, сталы беркут можа перамагчы любога грыфа, змагацца з двума і адбіцца нават ад трох.

Ушэн. Ад чатырох ён ужо не адаб'ецца. Фаран не хоча, каб такі выпадак паўтарыўся яшчэ з кім-небудзь.

Кунар. І як вы адкажаце грыфам?

Ушэн. Не ведаю... Мне здаецца, што беркуты не адступяцца.

Кунар. Грыфы лічаць, што бойку распачалі вы.

Ушэн *(прагна)*. Скуль ты ведаеш?

Кунар. Наваколле поўніцца чуткамі.

Ушэн. Чаму ж тады яны трымаюцца ўсёй чарадой?

Кунар. Чакаюць наступнага выпаду з гэтай скалы.

Ушэн. Ілгуны!

Кунар. Бедныя грыфы!

Ушэн. Чаму ты называеш іх беднымі?

Кунар. Я ведаю некаторых з той чарады... У параўнанні з беркутамі гэта проста лянівыя, старыя птушкі. Не, іх старыць не час, а лянота і прынцыпы... Мярцвячына ім наканавана самім жыццём.

Ушэн. Яны што — шукаюць толькі падлу?

Кунар. Здараецца, некаторыя ўдарамі крылаў скідаюць у бяздонне дробную жывёлу і тады жывяцца ёй.

Ушэн. Цікава...

Кунар. Але такое бывае рэдка. У сапраўдную бойку са здабычай яны амаль не ўступаюць. Грыфы ёсць грыфы. *(Як бы незнарок.)* Калі табе цікава, я магу распавядаць больш падрабязна пра іх звычкі.

Кароткая паўза.

Ушэн. Скажы, а чым ты жывішся?

Кунар. Палюю... Вядома, чарадой паляваць лягчэй, але я прывык.

Ушэн *(спахмурнеўшы)*. Ну-ну... Ты ж у нас вольны арол. Як яна, воля?

Кунар. Салодкая.

Ушэн. Напэўна... *(Спахапіўшыся.)* Добра пагаварылі.

Уваходзіць Фаран. Заўважае Кунара, хмурыцца.

Кунар. Прывітанне, важак чарады.

Фаран. Прывітанне...

Ушэн *(заклапочана)*. Штосьці здарылася?

Фаран. Пакуль што не... *(Да Кунара.)* Як паляванне?

Кунар. Дзякуй, някепска. Антылопу-паўгодку задраў.

Фаран. Адзін?

Кунар. Мне ж ніхто не дапамагае.

Фаран. Ішоў бы да нас у чараду: былі б і сябры, і дапамога.

Кунар. Дзякуй. Я сам па сабе.

Убягае Руф.

Руф. Прывітанне, Кунар!

Кунар маўчыць.

Ушэн *(Фарану)*. Што чуваць наконт паядынку Басара з грыфамі?

Фаран. Яны былі на тэрыторыі беркутаў. Я ўжо праверыў. Казёл разбіўся на Белым Камені.

Руф *(пагрозліва)*. Адзінотнік, ты са мной не вітаешся?!

Ушэн *(задуменна)*. Па Белым Камені праходзіць мяжа...

Фаран. Астанкі жывёлы ляжаць з нашага боку.

Ушэн. Што збіраешся рабіць?

Фаран. Гэта вырашыць Савет.

Ушэн. Права рашаючага голасу належыць табе, важак... Спадзяюся, вайна грыфам аб'яўлена не будзе?

Руф. Чаму цябе гэта палохае, мудрэц? Ты ж непарушны!

Ушэн. Я не хачу крыві ні з нашага, ні з іншага боку.

Руф. З нашага боку кроў ужо была.

Ушэн. Яшчэ трэба разабрацца...

Руф. У чым?! Мудрэц, табе мала ўлікаў? Вунь, спусціся ўніз, ля падножжа сядзіць самы галоўны доказ. Што яму сказаць? Чым супакоіць? Парай, мудрэц... А можа, пачакаем крышку, паглядзім, што будзе далей?.. Пакуль аднойчы не прачнемся з грыфамі на карку.

Ушэн. Цябе можна зразумець. І ўсё ж... мне страшна.

Кунар. Нічога страшнага, мудрэц... Вайна праглыне і схавае ўсе нашыя грахі.

Кароткая паўза.

Руф *(Кунару)*. Я на тваім месцы трымаўся б далей ад мяне.

Кунар. У свой час я абавязкова выкарыстаю гэту параду.

Фаран *(Кунару)*. З якой нагоды ты ў нас?

Кунар. Хіба мы ворагі?

Фаран. Здаецца, не... А можа, мне толькі здаецца?

Кунар. Як упэўнішся ў адваротным, паведамі праз мудраца, і маё крыло больш ніколі не распасцрэцца над гэтай скалой.

Фаран. Ты жывеш побач з чарадой. Многія за табой сочаць.

Кунар. Я ведаю.

Фаран. Напэўна, нехта з чарады хацеў бы паспрабаваць жыць так, як жыве Кунар... І ўсё ж, як ты апынуўся тут?

Кунар. Выпадкова. Згледзеў Басара з Тайкай і вырашыў даведацца, што ў чарадзе нова́га.

Руф. Які ты стаў цікаўны!

Ушэн. Так, многія, Кунар, сочаць за табой. Нехта хоча далучыцца да цябе, а нехта чакае, калі ты згінеш...

Фаран *(зласліва)*. Яна адкажа перад Саветам за тое, што пакінула выступ у такі час!

Ушэн. Тайка павяла Басара...

Фаран. Усё роўна. *(Узбягае на выступ, глядзіць па баках.)*

Кунар. Я сачыў да гэтага часу.

Фаран *(зверху)*. Ты хто?! Ты з нашай скалы?

Кунар. Не.

Фаран. Чаму мы павінны верыць, што твае дзеянні накіраваны не супраць чарады?

Кунар. Яе турботы і клопаты мне блізкія. Я такі ж беркут, як і кожны з вас.

Фаран. Так, ты беркут. Але ніхто не ведае тваіх думак...

Кунар. Як ніхто не ведае, што трымае ў галаве важак.

Фаран *(ледзь стрымліваючыся)*. Не забывайся, з кім размаўляеш!

Кароткая паўза.

Кунар. Ты мяне пакрыўдзіў, Фаран, і я гэта не забуду.

Кунар саскоквае з выступу і знікае.
Фаран раздражнёна ходзіць па пляцоўцы.

Руф. Смярдзючы груган!.. Ён яшчэ пагражае! Знюхаўся...

Уваходзіць Сэкэ.

Руф *(стомлена прыхінуўся да каменя)*. Я распусціў чараду, важак... Вывучылі яшчэ адзін.

Фаран *(з непрыязню)*. Добра!.. Калі яшчэ раз без майго дазволу выцягнеш абодва кінжалы, забараню трэніроўкі!.. Сэкэ, тваё месца наверсе пустуе. Чаму?

Сэкэ. Важак сам выправіў мяне на трэніроўку да Руфа, а...

Фаран. Хутчэй на выступ!

Сэкэ. Зразумела.

Сэкэ ўзбіраецца наверх.

Ушэн. Руф, скажы, колькі новых udaraў ты вынайшаў?

Руф. За апошнія тры дні — восем.

Ушэн. Плённа працуеш...

Руф. Я б сказаў інакш... Я б сказаў, не плённа, а як тут лепш... Апантана. Во! Галоўнае — у апантанасці. Я так лічу. Была б толькі ідэя.

Ушэн. Яна ёсць?

Руф *(здзіўлена)*. Ну вядома, мудрэц.

Ушэн. Якая ў цябе ідэя?

Руф. Незвычайная... Яна пойдзе на карысць чарадзе.

Сэкэ *(зверху)*. Важак, грыфы лётаюць, як ні ў чым не бывала.

Фаран. Па сваёй тэрыторыі?

Сэкэ. Так. Кружаць парамі.

Руф. Ну вось! Ужо забыліся, што ў нас па іх міласці гора. Яны здзекуюцца з нас!

Ушэн. Можа, яны проста галодныя? Больш не вытрымалі і пачалі шукаць мярцвячыну.

Руф. Мне здаецца, што ты абараняеш грыфаў. Ці, можа, памыляюся? Мудрэц, я апошнім ча-

сам дзіўлюся з цябе. Твая філасофія не падабаецца...

Ушэн (*перабівае*). Асобным беркутам?

Кароткая паўза.

Руф (*павольна з націскам*). Ча-ра-дзе.

Фаран. Займайся сваёй справай, драпежнік!

Ушэн (*пасля маўчання*). Што ж... Я аджываю свой век. Магчыма, я ўжо не даганяю час і ў мяне з'яўляюцца хібы.

Руф. Важак, як толькі цені ад скалаў спусцяцца ў нізіну, я хачу правесці яшчэ адну трэніроўку.

Фаран. Хопіць на сёння!.. Беркуты стаміліся.

Руф. Але...

Фаран. Ніякіх «але»!

Ушэн. Здаецца мне, хутка настануць вялікія дні.

Фаран. Цябе гэта здзіўляе?

Ушэн. Не... Мне толькі шкада чарады, бо кроў пырсне з абодвух бакоў.

Фаран. Усё вырашыць Савет.

Руф. І яго рашэнне будзе справядлівым.

Сэкэ (*крычыць зверху*). Грыфы! Грыфы!! Яны ляцяць!

Фаран. Куды ляцяць, Сэкэ?!

Сэкэ. Да нашай скалы!

Руф (*у роспачы*). Апярэдзілі дурня!.. Ну што скажаш, мудры Ушэн?! Распастры абдымкі і прымай гасцей!

Сэкэ. Ляцяць, ляцяць!!

Фаран (*да Сэкэ*). Упэўнена стой на месцы!.. Руф, пратрымайся некалькі хвілін. Я склікаю чараду! Ні ў якім разе не распачынаць бой!! Ні ў якім разе!

Руф. Добра.

Фаран. Я хутка! (*Выбягае.*)

Ушэн. Неверагодна...

Голас Фарана. Трымайся, Руф!..

Руф робіць некалькі ваяўнічых выпадаў, наносіць тры-чатыры ўдары і выцягвае абодва кінжалы.

Руф. Не па сваёй волі, мудрэц! Абставіны прымусілі... *(Да Сэкэ.)* Дзе Кунар?

Сэкэ *(зверху)*. Не бачна! Руф, яны ляцяць проста на мяне!

Руф. Не хвалюйся, Руф хутка будзе побач. Яны далёка?

Сэкэ. Перасякаюць мяжу!

Руф. Трохі часу ёсць... Колькі іх, яснавокая Сэкэ?

Сэкэ. Уся чарада...

Руф *(не даслухаўшы)*. Нас усяго двое... Ушэн, нам было б значна лягчэй, калі б ты падняўся са мной да Сэкэ.

Ушэн. Я стары мудрэц, мяне нельга чапаць...

Руф. Зразумела... Сэкэ, мы б'емся ўдвайгу! Станем адно да аднаго спінамі і будзем абараняць скалу, пакуль не з'явіцца падмога. Падрыхтуй свае кінжалы.

Руф узбіраецца наверх.

Сэкэ. Уся іх чарада засталася там, на скале — сочыць за намі. А сюды ляціць толькі пара грыфаў.

Ушэн *(са спадзяваннем)*. Я так і ведаў! Не можа такога быць, не можа!!

Руф *(узабраўшыся наверх)*. Яны кружаць каля нашай скалы... *(Гукае.)* Гэй, для вас будзе лепей павярнуць назад!!

Сэкэ. Грыфы выклікаюць нас на паядынак?

Ру́ф *(зларадна)*. На паядынак?! Добра, нахабнікі. Мы не супраць!! У мяне на вас даўно свярбяць кіпцюры!

Выставіўшы наперад крылы, уваходзіць Басар.

Ушэн. Грыфы хочуць нешта сказаць! Яны хочуць паведаміць!

Руф (*з пагрозай Ушэну*). У беркутаў таксама ёсць што сказаць, калі іх выклікаюць на паядынак!

Басар (*ідзе вобмацкам на голас Руфа*). Руф, прыпомні ім Басара!

Руф (*не звяртаючы ні на кога ўвагі*). Усё прыпомню... Хэц-кі!!

Руф знікае за выступамі.

Басар. Гэй, хто-небудзь?! Дапамажыце!.. Я хачу наверх, хачу паслухаць!

Ушэн (*умольна*). Не чапайце грыфаў!! Яны з мірам да нас.

Басар. Не лезь, стары!! Я чакаю помсты. Мяне скалечылі твае грыфы!

Ушэн падбягае, хапае Басара за крыло і цягне за сабою наверх.

Ушэн. Дык ідзі паслухай, як цяпер будуць калечыць другіх! Можа, палягчэе, можа, вылечышся ад паху крыві?!

Убягаюць Тобі і Тайка. За імі ўся чарада.

Тайка. Басар!!

Басар (*узбіраючыся*). Помсты!.. Я прагну помсты!

Чарада ўзбіраецца наверх.

Галасы з чарады.
— Двое грыфаў выклікалі Руфа на паядынак!
— Ён з імі расквітаецца!!
— Якое нахабства!
— Мне падабаюцца смелыя грыфы!
— А мне іх шкада...
— Гэтыя двое — вар'яты!!

Тайка знямогла апускаецца ўнізе, каля выступу, затыкае сабе вушы. Да яе падбягае Томбі, кленчыць побач. Пасля бяжыць наверх да чарады.
На пляцоўку выбягае Фаран.

Чарада (*у экстазе паядынку*). Хэц-кі!! Помс-ты!.. Помс-ты!.. Помс-ты!..

Фаран (*крычыць*). Стойце! Спыніцеся!!!

Важак узбіраецца да беркутаў, абрываецца, коціцца ўніз, ускоквае і зноў лезе наверх. Усе беркуты сочаць за боем, і толькі адна Тайка сядзіць, прыціснуўшыся да скалы ўнізе, і няўцямна глядзіць на важака.

Зацямненне.

Той жа выступ скалы. Тая ж пляцоўка.
Томбі і Тайка прытаіліся ўнізе.
Ушэн, моўчкі прываліўшыся да скалы, нерухома сядзіць крыху вышэй.
Сэкэ на самым версе пільна сочыць за наваколлем.

Тайка. Холадна... Усе разышліся.

Томбі. Холадна... Ты дрыжыш (*Прыціскаецца да яе, абдымае.*)

Тайка. Не трэба... Мне ўжо цяплей. (*Адводзіць яго крыло.*)

Томбі. Не выдумвай. (*Абдымае зноў.*)

Тайка. Мне праўда трохі лепей... Толькі калоціць усю... Каб не захварэць...

Томбі. Цяпер небяспечна хварэць.

Тайка. Чаму менавіта цяпер?.. Таму што набліжаюцца сіверныя вятры?

Томбі. І гэта таксама... Калі будзе моцнае сонца і разагрэюцца скальныя слёзы — абавязкова знайдзі іх і выпі. Хвароба адразу адступіць.

Тайка. А дзе іх шукаць?

Томбі. Ушэн павінен ведаць.

Тайка. Дзякуй...

Кароткая паўза.

Томбі, скажы, чаго ты ўвесь час за мной ходзіш?

Томбі. Я?.. Я не хаджу, проста так атрымліваецца... Табе, напэўна, здаецца.

Тайка. Наадварот... У тым, што мне гэта не здаецца, зараз можна ўпэўніцца яшчэ раз.

Томбі. Проста холадна, вось я і...

Тайка. Ты пачырванеў. Гэта гаворыць само за сябе.

Паўза.

Томбі. Горача...

Тайка. Ты даўно з'явіўся ў чарадзе?

Томбі. Даўно. Яшчэ дзіцем аднойчы бацька ўзяў мяне з сабою ў горы, і мы больш не вярнуліся да людзей.

Тайка. Тады важаком быў Ціс?

Томбі (*уздыхнуўшы*). Так, Ціс.

Тайка. Яго я не застала. А цяпер важак — Фаран. Ты, напэўна, выдатна сябе адчуваеш?

Томбі. Чаму табе так здаецца?

Тайка. Можаш ганарыцца бацькам. А ён у сваю чаргу будзе цябе апякаць.

Томбі. Як складна...

Тайка. Нейкі ты дзіўны, сын нашага важака. Не шкадуеш, што з'явіўся ў чарадзе?

Кароткая паўза.

Томбі. Я амаль не памятаю тое жыццё. Нічога не помню, акрамя...

Тайка. Не бойся, я буду маўчаць.

Томбі. Акрамя... дзяўчынкі... Мы жылі па сусед-

ству. У адным двары... У яе была блакітная стужка ў валасах і зялёныя, як у яшчаркі, вочы. Здаралася, што мы разам пускалі паветраныя шары... Яна, напэўна, вырасла цяпер.

Тайка. Сумна і прыгожа...

Томбі. Ты яшчэ не ведаеш... Кожны раз, калі я бачу цябе, успамінаю тую дзяўчынку.

Тайка. Разумею. Гэта цяжка?

Томбі. Не. Я ўвесь час імкнуся быць побач з табой.

Тайка. Дзеля ўспамінаў?

Томбі. Не толькі. Мне падабаецца глядзець, як ты ходзіш, як лётаеш... Бывае, што мне хочацца цябе ад каго-небудзь бараніць. Мне здаецца... ты такая слабая.

Тайка. Я шмат за цябе старэйшая... *(Усміхаецца.)* А ты — бараніць.

Томбі. Не ведаю.

Тайка. У цябе такі ўзрост. Складаны. Хутка гэта пройдзе.

Томбі. Чаму пройдзе? Мне ж так хораша з табой. Нават проста сядзець.

Тайка. У цябе пройдзе. Трэба, каб прайшло... *(Сабе.)* Няўжо я магла б стаць нявесткай важака?

Томбі. Тайка, я...

Тайка. Ты... мяне кахаеш?

Томбі згодна ківае галавой.

Пацалуй мяне, вельмі цябе прашу.

Томбі нязграбна цалуе.

Яшчэ, яшчэ цалуй!

Томбі цалуе Тайку. Яны сядзяць так, што Ушэн іх не бачыць.

Томбі. Тайка, ты цяпер будзеш маёй?!

Тайка. Дурненькі... Гэта яшчэ не ўсё. Ты ніколі не спрабаваў паднімацца да самай ледзяной вышыні? Мы паднімемся разам і спікіруем да якой-небудзь скалы, схаваемся ад чарады. Мы правядзём там сваю ноч. І нікога не будзе побач, акрамя нас і жоўтага вока месяца... Ты мяне хочаш?.. У тую ноч, пры адной умове, я стану тваёй.

Томбі *(цалуе, лашчыцца да яе)*. Тайка, я згодзен на любыя ўмовы... Тайка, я... адчуваю ў сабе столькі моцы!.. Здаецца, ува мне сапраўды прачынаецца беркут.

Тайка. Які ты яшчэ малады...

Томбі. Мне саўсім нядаўна было так невыносна, так кепска. А цяпер...

Тайка. Цяпер я буду тваёй дзяўчынкай?

Томбі. Так, згодзен!.. Я... *(Цалуе Тайку, зноў прыціскаецца да яе.)* Чаго ты хочаш? Што трэба зрабіць?

Тайка *(нервова смяецца)*. Пасля той ночы ты больш ні разу не падыдзеш да мяне!.. І будзеш абыходзіць бокам...

Томбі *(аглушана)*. Я...

Тайка. Многія заўважаюць, што мы з табой часта побач. Хутка папаўзуць чуткі... Я не хачу, каб яны дайшлі да Басара. Зразумей: яму будзе вельмі балюча... Спадзяюся, нам хопіць адной ночы? Табе стане лягчэй... *(Цалуе знямелага Томбі.)*

Паўза.
Зверху спускаецца Ушэн.

Ушэн *(заўважае Тайку і Томбі)*. Гэта вы... А я чую, быццам нехта смяецца... Не саромейцеся, можаце і пры мне насміхацца са старога мудраца, якога ніхто не слухае, якога пхаюць і штурхаюць — дарма што ён недатыкальны... Мая філасофія тут нікому не патрэбная. Так здарылася... Так

здарылася... Што ж... Значыць, і я не патрэбен на гэтай скале... Сорамна. І як недарэчна...

Ушэн накіроўваецца да спуску ўніз.

Томбі *(суха)*. Мудрэц, пакажы Тайцы, дзе знаходзяцца гаючыя слёзы на скалах. Яна захварэла... І, здаецца, моцна.

Ушэн. Хутка скалы заплачуць чырвонымі слязьмі. Многія на іх спадзяюцца. Сцеражыся, малады арол... *(Тайцы.)* Пайшлі. Заадно дапаможаш мне спусціцца ўніз...

Тайка *(да Томбі)*. Не хадзі за мной.

Тайка, хістаючыся, ідзе да Ушэна, бярэ яго пад крыло, і яны выходзяць. Томбі застаецца адзін. На выступе з'яўляецца ўсхваляваны Кунар.

Кунар *(гукае)*. Добрага надвор'я табе, Сэкэ!

Сэкэ не адказвае. Павагаўшыся, Кунар збіраецца знікнуць за вяршыняй, але заўважае Томбі. Спускаецца да яго на пляцоўку.

Кунар. Ты таксама не хочаш размаўляць са мной?!

Томбі *(сам да сябе)*. Чаму ўсе такія злыя?

Кунар. Злосць кампенсуе шмат недахопаў, якія жывуць у нас. Злосць — гэта маска, якую мы нацягваем на сябе, калі знаходзімся ў поўным адчаі і не ведаем, што трэба рабіць.

Томбі. Дзіўна бачыць цябе такім, вольны арол.

Кунар. З чыйго дазволу Руф распачаў бойку з грыфамі?

Томбі *(з прыхаванай іроніяй)*. Яны самі выклікалі яго на паядынак.

Кунар. Што?! Прачніся, сын важака. Расплюшчы свае вочы, і ты ўбачыш, што творыцца наўкол.

Томбі. Я не сляпы.

Кунар. Да вас ляцелі пасланнікі з той чарады, каб ва ўсім разабрацца, каб усталяваць сярод скалаў цішыню і спакой!.. Рэшткі аднаго з іх ляжаць ля падножжа гэтай скалы!

Томбі. Што цяпер будзе?

Кунар. Сёння-заўтра пачнецца вайна! Гэта бясспрэчна. З мірам да вас грыфы больш не прыляцяць.

Томбі. Скажы гэта важаку.

Кунар. Я кажу табе — сыну важака! Няўжо цябе трымаюць у чарадзе накшталт пустога месца?

Томбі. Мяне ніхто не трымае! І наогул, я, можа, хутка знікну адсюль.

Кунар. Томбі, табе прыйдзецца застацца. Ты яшчэ не маеш ні належнай сілы, ні належнага спрыту. Каб паляваць аднаму, патрэбен вопыт.

Томбі. Я не збіраюся паляваць.

Кунар. Усё жыццё з мярцвячынай?

Томбі. Вярнуся назад — туды, адкуль без мае згоды забраў мяне бацька... Гэтыя камяні, гэтая воля... з трэніроўкамі... Я не разумею вас. Мне ўсё абрыдла.

Кунар. Назад вярнуцца немагчыма, Томбі.

Томбі. Чаму?

Кунар. Па-першае, гэтага не дазволяць беркуты: яны асцерагаюцца, каб двухногім не стала вядома, дзе знаходзіцца чарада. Па-другое, калі ты і зможаш уцячы да людзей, дык ніколі не ўздымешся ў грамадстве да іх узроўню. Яны будуць насміхацца, будуць кпіць... У лепшым выпадку ты станеш забаўкай для дзяцей...

Томбі *(пасля маўчання)*. Не веру, Кунар!

Кунар. Думай, як лепш.

Паўза.

Томбі *(са спадзяваннем)*. Вазьмі мяне да сябе.

К у н а р. Тады беркуты будуць лічыць нас абодвух сваімі ворагамі.

Т о м б і. Тут Закон! Кожны ў любы час можа выйсці з чарады. Толькі аб гэтым трэба паведаміць Савету.

К у н а р *(павагаўшыся)*. Можна паспрабаваць. Але крыху пазней. Цяпер галоўнае, каб не распачалася бойня. Ты мяне разумееш?

Т о м б і. Я баюся крыві. Бывае, што на паляваннях, калі беркуты дзяруць ахвяру, я губляю прытомнасць.

К у н а р. Гэта не так страшна, як ты думаеш, Томбі. Павер мне... Куды было б горш, калі б ад паху крыві ў цябе ўзнімаўся настрой... Ну?..

Т о м б і *(суха)*. Што ад мяне патрабуецца?

К у н а р. Ты павінен увесь час знаходзіцца побач з чарадой.

Т о м б і. Цяпер я імкнуся да адзіноты.

К у н а р *(настойліва)*. Ты будзеш побач з чарадой!!. Гэта страшна... але, калі ўсё ж беркуты выцягнуць кінжалы, ты дасі мне знак.

Т о м б і. Які?

К у н а р. Вунь там, наверсе, над самай прорвай навіс валун. Ён здаецца аграмадным, але ляжыць так, што калі добра штурхануць, то ён паляціць уніз... Ты папхнеш камень, і я гэта пачую... Зразумеў? *(Прыслухоўваецца.)* Ціха!.. Здаецца, сюды ідзе Фаран. Мне яшчэ рана з ім сустракацца. Я буду сачыць за грыфамі... *(Узбіраецца наверх.)*

Кунар спыняецца ля патрэбнага каменя і кладзе на яго крыло.

Томбі, не забудзься!

К у н а р знікае за выступамі.
Прыслухаўшыся, Т о м б і таксама збягае з пляцоўкі ўніз.
Убягаюць Ф а р а н і Р у ф, азіраюцца.

Руф (*гукае*). Сэкэ, дзе Кунар?!

Сэкэ. Толькі што адляцеў.

Руф. З кім размаўляў?

Сэкэ. З Томбі.

Фаран (*занепакоена*). Аб чым яны гаварылі?

Сэкэ. Не ведаю.

Фаран (*зрываецца на крык*). Як ты не ведаеш?! Ты павінна ведаць!

Сэкэ. Важак! Сэкэ — не вушы чарады, а вочы.

Фаран (*стрымліваецца*). Добра... Што ў чарадзе яшчэ?

Сэкэ (*павагаўшыся*). Больш нічога.

Фаран. Як там грыфы?

Сэкэ. Грыфы абселі ўсю скалу. Глядзяць у наш бок.

Руф. Няхай пяляцца, ідыёты!..

Фаран. Пільна сачы за імі.

Сэкэ. Зразумела, важак.

Фаран устрывожана ходзіць па пляцоўцы з канца ў канец.

Руф (*асцярожна*). Адзінотнік вельмі часта наведваецца да нашай скалы...

Фаран. Часта.

Руф. Невядома, якія ў яго мэты... Чарада пачынае бударажыцца.

Фаран. Было б выдатна, каб ён куды-небудзь знік!

Руф. Я магу паспрабаваць з ім свае сілы.

Фаран. А дзе яго знайсці?

Руф. Пустэльнік апускаецца на ноч да Шчарбатай скалы.

Фаран (*здзіўлена*). Адкуль у цябе такія падрабязнасці?

Руф. Я ведаю гэта дакладна.

Фаран (*пасля маўчання*). Ён вольны арол...

Сам палюе, сам сочыць за тэрыторыяй, хоць і не такой вялікай... Ты зможаш яго перамагчы?

Р у ф. Гэта моцны працаўнік... Але я не хачу, каб на яго глядзела чарада!

Ф а р а н *(спахмурнеўшы)*. Тады не трэба. Мы не можам рызыкаваць.

Р у ф *(узбуджана)*. Я не баюся паядынкаў! Вось і апошні...

Ф а р а н. А што апошні?

Р у ф. Гэта быў выдатны паядынак!

Ф а р а н. Але грыфы нават не абараняліся. Не спрабавалі адбіцца.

Р у ф. Яны збаяліся.

Ф а р а н. Калі ты збіў першага, другі кінуўся ўніз, каб падставіць параненаму крылы... Не паспеў.

Р у ф. І толькі з-за гэтага ты спыніў бойку?

Ф а р а н *(сцвярджальна)*. Запомні, беркуты не прывыклі змагацца з тым, хто гэтага не хоча! Руф, мы не забойцы!!

Р у ф. Заўтра ён знянацку ўчэпіцца табе ў спіну.

Ф а р а н. Няхай сабе...

Паўза.

Фаран выходзіць на сярэдзіну пляцоўкі
і пачынае ўспамінаць нейкі ўдар.

Ф а р а н. Нешта ніяк не ўспомню. Руф, дапамажы!

Руф падыходзіць да Фарана. Становіцца побач у баявую стойку.

Р у ф *(з задавальненнем)*. У гэтым удары галоўнае — кіпцюры!

Руф наносіць удар. Фаран раптоўна прысядае, кідаецца ўбок і рэзка б'е Руфа ў грудзі. Руф падае... Важак стаіць над ім.

Ф а р а н. Я забараніў табе распачынаць бой! Нават калі б грыфы рвалі на табе мяса — ты не павінен быў даставаць кінжалы!.. *(Падае крыло.)*

Руф (*сіпіць*). Ах-хах... (*Павольна і асцярожна распростваецца.*)

Фаран. Правільна ацэньвай праціўніка. Інакш можна прамахнуцца.

Руф (*спрабуе ўсміхнуцца*). Дзякуй... кх-х... што напомніў.

Уваходзяць Басар і Тайка.

Тайка (*Басару*). Вось ён. Перад табой.

Басар (*усхвалявана*). Руф?

Руф. Я тут, Басар...

Басар, выцягнуўшы крылы, навобмацак ідзе да Руфа.

Басар. Цэлы?

Руф. Цэлы...

Басар (*мацае яго*). Дзякуй!.. Дзякуй... Я чуў, як яны хрыпелі. Мне сказалі, што абодва ляжаць пад нашай скалой... Яны там, Руф?

Тайка ківае Руфу, каб ён не пярэчыў.
Руф выкручваецца з-пад абдымкаў Басара.

Фаран. Ляжаць, Басар, ляжаць.

Басар. Фаран?.. І ты тут?

Фаран. Побач з табой.

Басар. Ты трымаеш сваё слова. Так і патрэбна важаку.

Фаран (*спахмурнеўшы*). Як твае раны?

Басар (*расчаравана*). Ныюць. Асабліва вочы свярбяць.

Руф. Нічога. Хутка ўсё загоіцца, і ты будзеш адчуваць сябе лепш.

Басар. Я спадзяюся.

Тайка. Твае спадзяванні абавязкова спраўдзяцца.

Фаран (*прыглядаецца да Тайкі*). Што з табой адбываецца?

Тайка. Напэўна, захварэла.

Фаран. Не ў час... Хутчэй лячыся. Нам патрэбны твае вушы.

Тайка. Сёння сонца павінна разагрэць скальныя слёзы. Я іх вып'ю.

Басар *(заклапочана)*. А дзе Ушэн? Я, здаецца, яго пакрыўдзіў. Трэба папрасіць прабачэння...

Сэкэ раптам уздрыгвае наверсе і пачынае глядзець кудысьці ў адну кропку.

Тайка. Пасля папросіш. Ён павінен зараз нам сустрэцца.

Руф *(іранічна)*. Мудрэц ёсць мудрэц.

Басар. Не. Мне патрэбна да яго цяпер дакрануцца. Я хачу яго паслухаць... Тайка, адвядзі мяне ўніз.

Тайка абнімае Басара, і яны збіраюцца ісці.

Сэкэ. Пачакай, Басар. Усё роўна дарэмна спяшаешся.

Басар *(не разумеючы)*. Яснавокая, мне патрэбна ўніз... Я хачу пагутарыць з нашым філосафам.

Сэкэ гаворыць холадна. Яе словы разлятаюцца гулка, быццам рэха капяжу ў пустым скляпенні.

Сэкэ. Ты больш ніколі не сустрэнеш Ушэна на гэтай скале.

Фаран. Чаму?!

Сэкэ *(амаль афіцыйна)*. Філосафа беркутаў, старога мудраца Ушэна, прынялі ў сваю чараду грыфы.

Нямая паўза. Усе глядзяць на Сэкэ. Басару становіцца дрэнна — ён хапае ротам паветра, падае, хрыпіць.
Тайка ў роспачы схіляецца над ім, спрабуе як-небудзь дапамагчы.
Ашаломлены Фаран стаіць, як мармуровы слуп сярод пляцоўкі.

Знямелы Руф прыхінуўся да скалы, згорбіўся.
Такое ўражанне, што ён ад нечаканасці стаў у баявую стойку.
Сэкэ ўпэўнена стаіць наверсе. Яна спакойная.

Фаран. Руф... Збірай Савет...

Руф (*спярша паціху, а пасля з вар'яцкім нарастаннем*). Са-аве-ет... Са-вет... Савет... Савет! Савет!! Савет!! Савет!!!

Выбягае з пляцоўкі.

Зацямненне.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

На вяршыню скалы сабралася ўся чарада беркутаў, акрамя Ушэна. У іх постацях, рухах адчуваецца напружанасць і трывога. Фаран узвышаецца на выступе тварам да астатніх. Кожнае слова даецца яму з болем.

Фаран. Браты мае, вольныя птушкі, арлы!.. Сярод нас ёсць здраднік... Цяжка назваць яго імя, бо гэта наш... былы... мудрэц і філосаф.

Кароткая паўза.

Хто будзе наступным?! Хто яшчэ збіраецца пакінуць нашу скалу, святую для беркутаў, забароненую для грыфаў і невядомую двухногім?.. Гэтая скала аб'яднала нас. Яна абараняе чараду, адводзіць убок сіверныя вятры! І неба да яе значна бліжэй, чым да іншых скал!..

Руф. Дазволь мне, важак?..

Фаран (*павагаўшыся*). Гавары...

Руф. Так, Ушэн стары. І апошнім часам яго філасофія не вельмі адпавядала тым падзеям, якія адбываліся ў чарадзе. Але ж ён беркут! Ён не павінен быў!!. Ушэн плюнуў нам у твар і стаў

грыфам! Зараз, напэўна, ён стаіць з голай шыяй і мала чым адрозніваецца ад астатніх слізнякоў. Хіба што ўспамінамі... Браты мае! Не, грыфы не сталі мацнейшымі. Але ў іх прыбавілася ўпэўненасці. Хутка яна можа перарасці ў нахабнасць, а гэта небяспечна. Я стаўлю перад Саветам прапанову правучыць грыфаў.

Кароткая паўза. Збоку, на выступе, з'яўляецца змораны У ш э н.
Яго ніхто не заўважае, акрамя С э к э.
Мудрэц папярэджвае Сэкэ, каб яна маўчала.

Г о л а с з ч а р а д ы. Мы ім ужо адпомсцілі за Басара.

Р у ф. Так. А цяпер трэба адпомсціць за Ушэна. Няхай ведаюць, як забіраць тое, што належыць беркутам.

Ф а р а н *(перапыняе)*. Маўчаць, драпежнік!! Я здымаю тваю прапанову!

У ш э н *(зверху)*. Пабойцеся неба, вольныя птушкі!

Уся чарада паварочваецца на голас Ушэна.

За мяне не трэба помсціць, бо я жывы, я зноў тут і не з голай шыяй. Грыфы не насміхаюцца з вас.

Паўза.

Ф а р а н *(з непрыязню)*. Чаго ты наведваў тую скалу?!

У ш э н. Па сваіх справах.

Ф а р а н. Пакуль ты ў чарадзе, у цябе не магло і не можа быць лепшай справы, чым даваць беркутам парады.

У ш э н. Толькі ў тым выпадку, калі чарада прыслухоўваецца да гэтых парад.

Ф а р а н. Чаго ж ты вярнуўся? Хочаш выведаць, пра што будзе Савет, і паведаміць грыфам?

Ушэн. Я прыйшоў, каб сказаць вам праўду.

Руф (*рэзка*). У кожнага яна свая.

Ушэн (*Фарану*). А ты кажаш — парады...

Кароткая паўза.

Фаран (*да чарады*). Браты мае! Ушэн толькі што вярнуўся ад грыфаў. Дагэтуль мы слухалі яго і паважалі. Што скажа Савет цяпер?

Галасы. — Не патрэбен!..
— Няхай кажа!..
— Ён ужо не мудрэц!..
— Паслухаць!..
— Яшчэ раз!..

Фаран (*павагаўшыся*). Гавары. Чарада паслухае цябе апошні раз.

Ушэн. У такім выпадку я скажу крыху пазней.

Руф (*узрадавана*). Чаму? Твая праўда яшчэ не паспела?

Ушэн. Я хачу занатаваць свае думкі для апошняга выступлення.

Фаран. У галаве мудраца гармідар?

Ушэн (*сумна*). Старэю.

Фаран. Дай чарадзе слова беркута, калі ты яшчэ беркут, што ты больш ніколі не пойдзеш да грыфаў без ведама Савета.

Ушэн. Даю слова беркута.

Фаран. Добра. (*Чарадзе.*) Ушэн просіць адкласці Савет, каб падрыхтавацца і выступіць перад намі. Што вы скажаце на гэта, вольныя птушкі?

Чарада маўчыць.

Томбі. Мудрэц не хоча нам дрэннага.

Фаран. Ушэн, мы пакуль што адкладваем Савет, але ненадоўга. Паспяшайся... І будзь разумны, мудрэц! (*Чарадзе.*) На сёння пакуль што ўсё... Томбі, застанься.

Ч а р а д а павольна разбрыдаецца.
Нарэшце на скале застаюцца толькі Фаран і Томбі.

Ф а р а н. Сэкэ, спусціся на хвіліну ўніз.

Сэкэ знікае з выступу.

Т о м б і. Я слухаю.

Ф а р а н. Малайчына! Можна ганарыцца такім сынам. Ты мяне радуеш усё больш.

Т о м б і *(не разумеючы)*. А... менавіта чым?

Ф а р а н. Руф цябе хваліць. Кажа, вельмі здатны беркут. Сіла, спрыт... Віншую!

Т о м б і *(хмурна)*. Дзякуй.

Ф а р а н *(кпліва)*. На Савеце я чуў твой голас... Ён пакуль што ціхі, але затое надзвычай настырны.

Т о м б і *(холадна)*. Вучуся.

Ф а р а н *(з робленай ліслівасцю)*. І сябры новыя знаходзяцца. З чарады і не з чарады. У гэтым табе нават пашчасціла больш за мяне...

Т о м б і. Кожны мае права сябраваць з кім хоча. Закон дазваляе.

Ф а р а н. Ён дазваляе толькі ў тым выпадку, калі сяброўства ідзе на карысць чарадзе.

Т о м б і. Навошта ты мяне пакінуў?

Ф а р а н *(сурова)*. Хачу ведаць, аб чым ты размаўляў з Кунарам.

Т о м б і. Ён мне расказваў пра жыццё.

Ф а р а н. Дакладней.

Т о м б і. Дапамог расставіць кропкі там, дзе гэта неабходна, і ўсё стала на свае месцы.

Ф а р а н *(ледзь стрымліваючыся)*. Я бачу, ты разумнееш з кожным днём...

Т о м б і *(падладкоўваючыся пад ранейшы ліслівы бацькаў тон)*. Ну, дык я пабег на трэніроўку? Там жа няма падазроных сяброў?

Фаран даганяе Томбі, хапае за шыю і выцягвае кінжал.

Фаран *(з шаленствам)*. Калі ўбачу яшчэ хоць раз побач з адзінотнікам — заб'ю на месцы!! Зразумеў, герой?! Кіпцюры яшчэ не павырасталі, і ўжо дзярэшся?.. Марш уніз да чарады!!

Фаран штурхае Томбі наперад сябе.

Сэкэ!.. Сэкэ, сачы за грыфамі!

Важак з сынам знікаюць. На пляцоўку ўбягае Сэкэ і ўзбіраецца наверх. Чуцен голас Тайкі.

Тайка. Сюды, сюды... *(Яна выводзіць Басара.)* Ну, вось і добра...

Басар. Аб чым ты?

Тайка. Ушэн вярнуўся. Цяпер ты зможаш з ім пагаварыць. Мне здавалася, што ён павінен быць тут... Ты хацеў да яго дакрануцца.

Басар. Гэты... прадаўся грыфам!

Тайка. Няхай сабе і так. Але ж мову ён не страціў... Табе неабходна пагаварыць з ім.

Басар. Нам няма аб чым гаварыць! У мяне з ім больш не засталося агульных тэм... Дзе ён цяпер?

Тайка. Не ведаю. Напэўна, збіраецца з думкамі... *(Гукае.)* Сэкэ!.. Сэкэ, ці бачыш ты мудраца?

Сэкэ. Зараз... Так, бачу. Ён паляцеў прэч ад нашай скалы.

Басар. Скажы, яснавокая, які ў яго кірунак?

Сэкэ. Здаецца, ён ляціць да Шчарбатай.

Тайка. Але ж ён недалёка?

Сэкэ. Ужо далёка.

Тайка *(Басару)*. Шкада... Я магла б яго вярнуць. Ды не хачу пакідаць цябе аднаго.

Басар *(раззлавана)*. Чаму?

Тайка. Мала ці што...

Басар *(закрануты)*. Не бойся, я не дам, каб хто пакрыўдзіў цябе ці мяне... Усё будзе добра. Так павінна быць. Толькі трымайся Басара, арліца мая.

Не кідай калеку. Я ўжо прывык да цябе... Мне з табой шмат лягчэй.

Т а й к а. Не хвалюйся... *(Абдымае яго, цалуе.)*

Б а с а р. Мне вельмі пашчасціла з табой... Не ведаю, што і рабіў бы, каб не ты...

Т а й к а *(занепакоена)*. Ну... Ну, чаго ты? Зноў як хмара становішся! Усё ж добра.

Б а с а р *(адвярнуўшыся)*. Раны... У вачах сверб... Паскудства!.. У-у-у...

Спрабуе сарваць павязку з вачэй. Тайка яго стрымлівае.

Т а й к а *(праз слёзы)*. Ну, чаго ты зноў, Басар? Давай я зараз цябе палячу як-небудзь!.. Хочаш, я табе патанцую?

Б а с а р. Ты ж нічога не ўмееш, акрамя ваяўнічых скокаў!..

Т а й к а. Няпраўда.

Б а с а р. Усё роўна я не ўбачу.

Т а й к а. Ты адчуеш!

Тайка танцуе. Басар раптам насцярожваецца, затым падаецца да яе.

Б а с а р. Бліжэй... Падыдзі бліжэй, Тайка!.. І крыламі, крыламі больш.

Тайка танцуе, махае крыламі.

Я адчуваю... Вецер! Ты супакойваеш мае раны!.. О, Тайка!..

Шчаслівая Тайка спыняецца і туліцца да Басара.

Т а й к а *(праз слёзы)*. Вось... я ж табе казала.

Кароткая паўза.

Б а с а р *(горка і расчаравана)*. Няма ў помсце ніякага бальзаму. Няма...

Т а й к а. Мы з табой абавязкова сустрэнемся з Ушэнам і пагаворым з ім. У словах мудраца ёсць для цябе палёгка.

Б а с а р. Магчыма...

Т а й к а. Я не сумняваюся ў гэтым.

С э к э *(зверху)*. Тайка, цябе кліча да сябе Фаран.

Б а с а р *(занепакоена)*. Пойдзеш?

Т а й к а *(павагаўшыся)*. Трэба. Не хвалюйся, я хутка вярнуся. *(Цалуе Басара.)* Не сумуй.

С э к э *(зверху)*. Хутчэй, Фаран ужо чакае.

Т а й к а выбягае з пляцоўкі. Басар сядзіць на камені і асцярожна гладзіць свае раны.

С э к э *(зверху)*. Басар, ты пытаўся, дзе Ушэн... Ён цяпер ляціць да Белага Каменя.

Б а с а р *(трывожна)*. Чаго яму трэба?! Ах, стары шукае праўду.

С э к э. Ты хочаш, каб ён яе знайшоў?

Б а с а р *(уздрыгнуўшы)*. Я?.. Цяжка сказаць... Мудрэц хоча нешта выведаць. Можа, было б і лепш, каб так здарылася. Усё б стала на свае месцы.

С э к э *(спускаецца да Басара)*. Значыць, ты не любіш праўды?

Б а с а р. Яна бывае горшай за рану...

С э к э *(усміхаецца)*. Так... Вось табе і адзін з лепшых беркутаў.

Б а с а р *(ускоквае)*. Пра што ты гаворыш?!

С э к э. Я проста думаю, якія ж мы тады вольныя птушкі, калі цураемся вытокаў ісціны?

Б а с а р. Я не цураюся! Я, можа... прагну.

С э к э. Тады мне ёсць што сказаць табе, мужны Басар.

Б а с а р *(нецярпліва, з выклікам)*. Ну, кажы хутчэй, я слухаю.

С э к э. Спачатку сядзь. Для цябе гэта будзе лепш.

Басар робіць некалькі крокаў у бок Сэкэ, спыняецца.

Басар. Дарэмна... *(Сядае.)*

Сэкэ *(з робленай спагадай)*. Ты хацеў помсты, твае раны балелі... Як адчуваеш сябе цяпер?

Басар *(ускоквае, не стрымаўшыся)*. Ты здзекуешся з мяне!..

Сэкэ. Адно прашу — выслухай да канца і не пярэч.

Басар. Што ты мне хацела сказаць, яснавокая?

Сэкэ. Калі ад помсты раны супакойваюцца, то твае раны павінны яшчэ моцна ныць.

Басар. Чаму?

Сэкэ *(гнеўна)*. Цябе абманулі! Уся чарада прыкінулася, быццам ля падножжа нашай скалы ляжаць астанкі абодвух грыфаў. А там валяюцца рэшткі толькі аднаго. Фаран, якому ты дзякаваў, не дазволіў, каб забілі другога грыфа. Яго, бачыш, уразіла, што той кінуўся ратаваць свайго параненага суродзіча. Вось — твая праўда.

Паўза.

Басар *(знямела)*. Вядома, можна пасмяяцца са сляпога... *(Раптам узрадавана.)* Гэта Тайка!.. Як я не здагадаўся. Яна дзеля мяне ўгаварыла беркутаў зманіць! Яна клапоціцца, я адчуваю... Можа, й добра, што Руф не забіў другога грыфа... Ведаеш, Сэкэ, я не хачу больш ніякай помсты.

Сэкэ. Гэта бачна...

Басар. Я гатоў пакутаваць адзін, толькі каб не было больш крыві і каб са мною хтосьці знаходзіўся побач... Гэтыя грыфы... яны ж не вінныя, што прырода надзяліла іх такім жыццём...

Сэкэ *(пагардліва)*. Так! Падзёўбанае аблічча — вось і ўсё, што засталося ў цябе ад беркута.

Басар *(узрываецца)*. Ты заплоціш яшчэ за гэтыя словы! Я іх табе ніколі не дарую!

Басар вобмацкам ідзе да Сэкэ.
Сэкэ адступае, ухіляецца ад калекі.

Сэкэ. Толькі што казаў, быццам не хочаш больш крыві!.. А я буду чакаць тваё помсты.

Басар. І ты такая ж!.. Можна захапляцца маімі ўчынкамі і адначасова смяяцца мне ў твар. Усё роўна я нічога не ўбачу.

Сэкэ. Можна! Толькі гэта — не пра мяне. Асцерагайся іншых блізкіх сяброў.

Басар *(сцішана)*. Што ты хочаш сказаць?

Сэкэ. Твае вочы некалі былі вастрэйшымі, чым у мяне. Цяпер я паспрабую хоць на момант разагнаць цемень перад табой, каб ты зразумеў, што творыцца навокал.

Кароткая паўза. Басар застывае на месцы.

Басар. А я ведаю... не трэба разганяць. Мне пра ўсё расказвае Тайка...

Сэкэ. Табе расказвае, а сама, крадучыся, цалуецца з другім.

Басар. Што?.. З кім?

Сэкэ. З Томбі, сынам важака.

Басар. Ты маніш!! Не можа быць такога!

Сэкэ. Я вочы чарады. Цэлымі днямі стаю на выступе і шмат чаго бачу. Нават калі ад маіх вачэй спрабуюць схавацца.

Басар *(у роспачы)*. Не!.. Не!.. Ты лжэш!..

Сэкэ *(настойліва, выдзяляючы кожнае слова)*. Яны збіраліся падняцца як мага вышэй, спікіраваць да іншай скалы і правесці там ноч... Вось табе яшчэ адна праўда, Басар!

Басар знямогла апускаецца да каменя. Убягае Томбі.

Томбі. Дзе Тайка?

Сэкэ. З важаком. Ён яе паклікаў.

Томбі. Даўно?

Сэкэ. Нядаўна.

Томбі выбягае з пляцоўкі.

Басар (*пасля маўчання*). А я думаю, чаго ён усё ходзіць за намі... Ходзіць і ходзіць...

Сэкэ (*з цікавасцю*). Цяпер ты ведаеш усё, мужны Басар.

Басар. Ведаю... Ты сапраўды расплюшчыла мне вочы... Як там грыфы?

Сэкэ. Іду.

Басар (*рашуча*). Пачакай! Падыдзі да мяне... Падыдзі, падыдзі, не бойся...

Сэкэ асцярожна падыходзіць, бярэ Басара за крыло.

Адвядзі мяне наверх. Там добры вецер...

Сэкэ. Можа, пачакай крыху.

Басар (*адмоўна*). Раны... Яны ўсё ж не гояцца...

Сэкэ з Басарам узбіраюцца наверх. Сэкэ ідзе першая, Басар трымаецца яе.

Сэкэ (*узабраўшыся*). Асцярожна тут, Басар! У цябе адно крыло.

Басар. Сэкэ, ты каму-небудзь казала? Хто яшчэ ведае пра Томбі і Тайку?

Яны стаяць побач.
Сэкэ ціха адступае на крок у бок ад Басара.

Сэкэ. Пра гэта больш не ведае ніхто.

Басар выхоплівае кінжал і б'е туды, дзе павінна стаяць Сэкэ.

Басар (*прамахваецца*). А!.. Дзе ты?.. Гіена!!! (*Наносіць удары ў паветра.*)

Сэкэ падскоквае да Басара са спіны і штурхае яго ў прорву.

Голас Басара (*аддаляючыся*). Та-ай-ка-а-а...

Чуцен шум падаючага камення...
Пляцоўка застаецца пустой. Нарастае гул узбуджаных галасоў.

Голас Фарана. Хутчэй! Наверх!

Галасы.— Асцярожней!

— Яму цяпер усё роўна!

— Глядзі — з нажом!..

— Эх, шкада...

Беркуты выносяць акрываўленае цела Басара.

Фаран (*аглядае пляцоўку*). Кладзіце яго тут...

Цела кладуць збоку.
Усе беркуты запытальна глядзяць на важака.

Фаран (*гукае*). Сэкэ, што тут адбылося?

Сэкэ (*зверху*). Басар папрасіў, каб я дапамагла падняцца яму на выступ, пракляў грыфаў і кінуўся ў бяздонне.

Фаран. Ты магла быць крыху разумнейшай, яснавокая!

Сэкэ. Я дапамагла калеку, выканала ягоную просьбу. Можа, я зрабіла штосьці няправільна?

Фаран (*раздражнёна*). Хопіць!.. Добра...

Фаран азіраецца на чараду.
Бачна, што ён губляецца, не ведае, што рабіць.

Фаран (*да Руфа*). Забяры ў яго кінжал.

Руф падыходзіць, спрабуе вызваліць з крыла нож.

Руф. Нельга.

Томбі ўвесь час сочыць за Фаранам.

Фаран. Браты мае!.. Не стала мужнага Басара. Ён сам выбраў сабе шлях да спакою... Глыбокія раны больш не турбуюць яго пакалечанае цела.

Томбі (*перабівае бацьку*). Дзе Тайка?

Фаран (*працінаючы позіркам сына*). Дай сказаць важаку. А пасля мы паслухаем цябе.

Руф *(да чарады)*. У чым справа? З якога часу маладыя беркуты ўчыняюць допыт важаку?

Томбі *(не супакойваючыся, Фарану)*. Ты яе бачыў апошнім! Ты яе выклікаў!

Фаран. Ты можаш крыху патрываць?!

Руф *(пагрозліва)*. Не лезь, Томбі! Дай нам развітацца з Басарам. Яго боль застаўся ў кожным з нас.

Томбі. Добра, я пачакаю.

Фаран. Дык вось! Сонца спынілася ў зеніце над нашай скалой, сіверныя вятры мацнеюць з кожным днём, і настае час беркутаў!

На выступе з'яўляецца Тайка.
Яна стаіць так, што не бачыць Басара, і
і адчувае сябе няёмка пад поглядамі беркутаў.

Тайка. Няхай Савет даруе, што я спазнілася...

Руф *(нецярпліва)*. Ты паспела ў час.

Томбі. Тайка, ты яшчэ...

Фаран *(перабівае)*. Маўчы! *(Тайцы.)* Ідзі пашукай сабе скальных слёз.

Тайка. Добра... *(Аглядае чараду.)* А дзе Басар?.. Я чула, як ён мяне клікаў.

Кароткая паўза.

Тайка *(занепакоена)*. Ён, напэўна, там, ля падножжа?.. Я спушчуся ўніз, і мы хутка будзем на Савеце *(хоча пайсці)*. Сэкэ, ты ж яго бачыш?

Сэкэ. Бачу. Ён тут, побач з намі.

Тайка. Дзе?..

Тайка збягае ўніз, азіраецца,
заўважае акрываўленае цела Басара.

Тайка *(знямела)*. Басар!.. *(Кідаецца да яго.)* Што?.. Чаму?! Чаму кроў?! *(Здзічэла.)* Хто яго забіў?!! *(Стогне і плача ля нябожчыка.)*

Томбі (*падбягае, хоча супакоіць*). Не трэба, Тайка... Ён сам выбраў сабе дарогу...

Тайка (*у роспачы*). Не-е па-а-ве-еру-у!.. (*Да Фарана.*) Навошта ты мяне выпраўляў?!

Фаран (*перасцерагальна*). Тайка!

Тайка (*крычыць праз слёзы*). Я не паспела пачуць, аб чым размаўлялі Ушэн з Кунарам. Мудрэц адразу скіраваўся да Белага Каменя! Усё!! За тваё даручэнне я заплаціла Басарам...

На выступе з'яўляецца Ушэн.

Ушэн (*да Фарана*). Я гатовы, важак! За мной — апошняе выступленне.

Руф (*раззлавана*). Знайшоў сваю праўду?

Ушэн. Цяжка сказаць.

Фаран. Выступіш пасля. Цяпер не да цябе.

Томбі. А чарада хоча паслухаць!

Кароткая паўза.

Галасы з чарады.

— Кажы!

— Апошні раз!

— Няхай скажа!

— І сапраўды, важак!

Руф (*з шаленствам*). Што ён вам можа сказаць?

Фаран (*насцярожана*). Кажы, мудрэц.

Ушэн. Беркуты, у мяне для вас не шмат навінаў, доўга размаўляць не будзем. Па-першае, той злашчасны казёл разбіўся на Белым Камені і застаўся ляжаць на баку грыфаў. Руф з Басарам яго перацягнулі на сваю тэрыторыю. Грыфы гэта бачылі, гэта бачыў і Кунар.

Руф (*усхапіўшыся*). Не чапай Басара!.. Жывёліна абарвалася на нашай тэрыторыі!

Ушэн. А калі падляцелі грыфы, Руф спалохаўся і кінуў Басара аднаго. (*Да Руфа.*) Пасля цябе

сустрэла Тайка... Па-другое, грыфы адправілі да вас дваіх суродзічаў, каб прадухіліць кровапраліцце. Беркуты ўчынілі ім расправу. У бойцы Руф забіў мудраца грыфаў!

Паўза. Беркуты цiснуцца адзін да аднаго.

Руф (*уражана*). А-а... Што цяпер будзе?

Ушэн. Невядома. Я не хачу непатрэбнай крыві і таму папярэджваю Савет, што назаўжды іду да грыфаў... Вы забілі іх мудраца і за гэта аддасце свайго. Можа, неба вам і даруе. Здаецца, ад таго, што я пакіну скалу, беркуты не вельмі будуць пакутаваць. Мая філасофія не паспявае за філасофіяй чарады...

Ушэн хоча ісці. Раптам вяртаецца.

І яшчэ... Мы моцна сябравалі з Цісам. Былы важак сам разбіўся аб скалы... Перад смерцю ён сказаў мне... ён зразумеў і сказаў, што яму цяжка больш верыць у чараду як у сімвал волі...

Ушэн павольна ідзе прэч з пляцоўкі.

Руф. Ты канчаткова звар'яцеў! Падлу будзеш есці?! (*Кідаецца за Ушэнам.*) Як ты не разумееш?..

Томбі (*паўстае перад Руфам*). Ён недатыкальны.

Фаран (*наўздагон*). Мудрэц, а што кажа неба цяпер?

Ушэн (*азірнуўшыся на чараду*). Яно скавыча.

Ушэн выходзіць з пляцоўкі. Чарада пачынае хваляваца. Фаран доўгім, злым і запытальным позіркам глядзіць на Руфа. Руф не адводзіць вачэй. Бачна, што важак прымае рашэнне.

Руф (*да чарады*). Кожнаму сваё! Камусьці салодкі пах крыві, а некаму — смярдзючая мярцвячына...

Ф а р а н (*узбягае на выступ*). З кожным днём грыфы прыносяць нам усё больш і больш турботаў. Ад іх не стала жыцця. Да таго ж наша тэрыторыя бяднее дзічынай. Мы не можам жыць — чарада побач з чарадой... (*Рашуча.*) Браты мае, вольныя птушкі арлы! Прыйшоў час беркутаў!! Мы будзем гнаць грыфаў з гэтых скал, пакуль яны не апынуцца аж па той бок хрыбта! Толькі тады ў чарадзе з'явіцца спакой! Толькі тады. Я выцягваю свае кінжалы!! Хэц-кі!!!

Фаран выхоплівае абодва кінжалы.
У чарадзе чуюцца ваяўнічыя выкрыкі.
Гэта адзін за другім са звонам агаляюць сваю зброю беркуты.
Раптоўна Томбі зрываецца з месца і бяжыць наверх,
да каменя. Упіраецца ў яго, хоча зрушыць.

Ф а р а н (*заўважыўшы*). Назад!!

Падбягае да сына, хапае яго і шпурляе на пляцоўку.
Томбі коціцца па каменнях уніз.

Не чапаць яго! Я сам разбяруся!

Саскоквае на пляцоўку. Томбі марудна ўзнімаецца на ногі.

Ф а р а н. Паглядзім, што ты памятаеш з трэніровак.

Т о м б і. Я не дастану кінжалы!

Ф а р а н. Як табе лепей...

Важак наносіць удары. Томбі ўхіляецца ад іх, падае.
Устае, зноў падае, не вытрымлівае і дастае спачатку адзін,
затым другі нож.

Ф а р а н. Вось цяпер я бачу перад сабой беркута!

Р у ф (*задаволена*). І я таксама!

Ф а р а н. Паглядзім, чаго вартая наша моладзь!

Фаран зноў наносіць удары. Томбі няўмела іх парыруе.
Бачна, што важак наўмысна б'ецца не на поўную моц.

Ф а р а н *(з ударам)*. Больш упэўненасці!

Т о м б і *(парыруе)*. Не хвалюйся!

Ф а р а н *(з ударам)*. Каго ты хацеў папярэдзіць?

Т о м б і *(парыруе)*. Табе здалося.

Бацька і сын разлятаюцца ў бакі, ходзяць па крузе.

Ф а р а н. Хацелася б верыць!

Т о м б і. Супраць беркутаў ужо ніхто не зможа ўстаяць — у іх жа такая самаабарона!

Томбі спрабуе ўзабрацца да валуна, важак заступае яму дарогу.

Ф а р а н *(з ударам)*. Ты знюхаўся з грыфамі?!

Т о м б і *(ухіляецца і наносіць удар сам)*. Я сын важака!

Ф а р а н *(узрадавана парыруе)*. Малайчына!

Томбі з усяе сілы б'е бацьку нагой у бок. Фаран падае, а сын бяжыць да каменя, хоча яго зрушыць. Да яго з занесеным нажом узбіраецца Руф. З-за выступу з'яўляецца К у н а р, бачыць Руфа і бяжыць напярэймы. Ён робіць усё магчымае: накрывае сабой Томбі... Тайка з крыкам бяжыць з дальняга краю пляцоўкі ад Басара да натоўпу.

Т а й к а. Пе-рас-тань-це!!!

Усё перакрываюць раскацістыя грымоты каменяпаду. Беркуты змаўкаюць, застываюць кожны на сваім месцы.

Ф а р а н *(азіраецца і не бачыць на месцы валуна)*. Што?! *(Абводзіць чараду вачыма.)*

Беркуты адступаюць назад. Томбі нерухома ляжыць пад акрываўленым Кунарам каля таго месца, дзе ляжаў валун. Фаран заўважае яго, кідаецца да сына, адцягвае ўбок Кунара.

Ф а р а н. Томбі!.. Ну, што ты? *(Пераварочвае яго, заўважае кроў.)* Томбі!! *(Да чарады.)* Хто?!

Я пытаюся — хто?!! *(Спрабуе падняць сына.)* Ну, беркут!.. Томбі!!. Сы-но-ок!!!

Фаран паднімаецца і як у сне ідзе з нажом на Руфа. Бойка непазбежная. Тайка праз натоўп прабіраецца да Томбі, схіляецца над ім. Томбі стогне, нешта шэпча. У яго шок.

Т а й к а. Жывы, жывы ён!!. Толькі перапалохаўся!

Раптоўна з чарады зрываецца а р л і ц а, узбіраецца наверх і знікае за выступам.

Б е р к у т з ч а р а д ы. Сэкэ!.. Сэкэ!!

Сэкэ з'яўляецца на сваім выступе.

Б е р к у т з ч а р а д ы. Дзе арліца?!

С э к э *(азіраецца)*. Гвалт!! Я прагледзела!! Яна ляціць да грыфаў, важак! Фаран!!

Важак ні на што не рэагуе: яны з Руфам разыходзяцца па крузе.

С э к э. Руф, вярні яе!!

Руф няўцямна глядзіць на Сэкэ, а пасля, быццам нешта ўспомніўшы, кідае важака, хутка ўзбіраецца наверх і, распусціўшы крылы, падае ўніз. Фаран застаецца адзін, схіляецца над сынам.

С э к э *(каменціруе для чарады)*. Так!.. Руф ляціць хутчэй. Шмат хутчэй за яе!.. Даганяе! *(Раптам здрыгануўшыся.)* Грыф! Руф, ён у цябе збоку!! Сцеражыся грыфа! Ах... *(Сэкэ адварочваецца, глядзіць зноў.)* Малайчына... Ён збіў падлаеда адным ударам! *(З трыумфам.)* Гэй, слізнякі, бачылі?! *(Здзіўлена.)* Руф, што ты робіш?.. Кінь!! Ён злавіў у паветры дзіцяня... З такой голай шыяй. Малы зваліўся са скалы! Кінь!! Дурань... Ён паклаў яго ля падножжа! Ён вяртаецца назад... Якая ганьба!

Б е р к у т з ч а р а д ы. Дзе арліца?

С э к э *(грэбліва)*. На скале ў грыфаў.

На выступе з'яўляецца скрываўлены Руф.
Хістаючыся, спускаецца ўніз.

Руф *(вінавата чарадзе)*. Я не ведаю, як гэта атрымалася...

Руф знямогла апускаецца на пляцоўку.

Сэкэ *(страпянуўшыся наверсе)*. Грыфы ляцяць!! *(Мітусіцца па выступе.)* Іх шмат, уся чарада! І здрадніца з імі — арліца гэтая! Беркуты, будзем упэўненымі ў сабе!! *(Выхоплівае кінжалы.)* Важак, прыйшоў час! Важак, давай покліч!!

Чарада згуртоўваецца каля Фарана.
Усе, амаль усе беркуты з нажамі.
Фаран азіраецца на Сэкэ, аглядае чараду і павольна ўстае.

Томбі *(трызніць)*. Я сын важака... Я сын... Я сын...

Фаран *(ціха і значна)*. Беркуты... Схавайце кінжалы!.. Яны з мірам да нас... *(Сам сабе.)* Будзем спадзявацца...

Важака заглушае нарастаючы шум крылаў цэлай чарады.
Толькі бачна, як варушацца яго вусны. І ўжо незразумела,
што робіць Фаран — ці звяртаецца да беркутаў, ці моліцца небу...

Зацямненне.

*КАНЕЦ*

# ПА-ЗА ШКЛОМ СКАФАНДРА

## I

Субгалактычны разведчык зямлян «Фэд-14» змяніў накірунак і пайшоў да зоркавай сістэмы з пяці планет. Экіпаж карабля складалі двое: камандзір — датчанін Люіс Шэлмі і штурман — афрыканец Том Хаттан.

— Усё нармальна. Ляглі на курс,— камандзір суха і коратка паведаміў на Зямлю.

Адтуль праз трэск эфірных перашкод пачуўся далёкі барытон галоўнага штурмана Панамскага касмадрома:

— Далей трымайце сувязь кодавымі сігналамі... Вялікая адлегласць... Уцякаеце з зоны дзейнасці РЛС... З сістэмы не вярнуўся «Махс»... Паспрабуйце звязацца... хваля 37 Б 408706... праз сто дваццаць зямных дзён павінны ўвайсці ў поле дзейнасці РЛС... асцярожнасць... майцеся інструк... часлівага пал...

## II

Па шэрай, здзірванелай і амаль мёртвай планеце асцярожна ішлі два астранаўты. Яны павольна ступалі ў гарачы пясок, і на кожным кроку з-пад шырокіх свінцовых падэшваў юркалі ў бакі сыпучыя фантанчыкі. Навокал расло сухое нізкае кустоўе. Яго разлапістае голле распаўзалася ад каранёў ва ўсе бакі. Кожны куст пераплятаўся галінамі з суседнім,

ствараючы лапіны суцэльных зарасцяў няпэўнага бляклага колеру. У астранаўтаў гэтыя зарасці выклікалі асацыяцыі са злаякаснай пухлінай Сівых Гор. Яны знаходзіліся на дзвесце трыццаць пятым парсеку ад сузор'я Дзевы, калі стартаваць ад Спіка ў накірунку Весты. Там калісьці раскашавала база з турысцкімі гатэлямі і штучнымі аазісамі, пакуль аднойчы ў Сівыя Горы не ўрэзаўся метэарыт. Яго жалезнае радыеактыўнае цела, пакідаючы за сабой доўгі шлейф агню і пары, увайшло ў Сівыя Горы імкліва і лёгка — як уваходзіць квантавая іголка ў цюбік пайкавай пасты... Базу знішчылі, а супрацоўнікаў і касмічных валацуг, што засталіся жывымі, размеркавалі па анкалагічных цэнтрах. Цяпер на штурманскіх картах Сівыя Горы пазначаны асобным кодам, які засцерагае астранаўтаў ад наведвання гэтай планеты, біёлагі змагаюцца з жахлівай хваробай Сівых Гор: цёмнымі плямамі пухліны з сіняватым налётам, якія паступова ператвараюцца ў незагойныя язвы.

Астранаўты не ведалі, што ў нейкі момант яны падумалі пра адно і тое ж. Яны ішлі моўчкі, на адлегласці двух-трох метраў, напаўразвярнуўшыся адзін ад аднаго спінамі; чорныя рулі плазмераў старанна сачылі за наваколлем. «Напэўна, тут хвалявалася мора»,— падумаў адзін астранаўт, які ішоў крыху паперадзе другога, і скалануўся ад унутранага халадку, калі яўна пачуў плёскат хваляў. Праз хвіліну бакавым зрокам ён згледзеў, як страпянуўся яго напарнік. І сапраўды, тая даліна, на якой яны апынуліся, вельмі нагадвала марское дно. А можа, астранаўтам толькі гэтак падалося? Магчыма... Яны асцярожна рухаліся наперад, і колкія галіны не даставалі ім нават да каленяў. Воддаль, на невялікім пагорку, паблісквscore круглым бокам, быццам вялікая цыгара, ляжаў карабель. Яго радары асачылі

на планеце вельмі моцны згустак энергіі — упоравень энергіі цывілізацыі. Але чамусьці гэтая частка Сусвету павольна памірала. Колькі ёй засталося аганізаваць бляклай znічкай у халоднай пустоце, пакуль паверхню не сціснe празрыстым панцырам ледзяная скарынка? Адзін, два касмічныя гады?..

Радары ўпарта лямантавалі. І астранаўты наўмысна адключылі іх, каб знайсці якоесьці рашэнне. Пільныя прыборы змоўклі, і раптоўная цішыня ў рубцы навалілася на плечы невыносным цяжарам. Карабель закружыў вакол планеты таўстаскурай жывёлінай, а яго гаспадары да болю ў вачах углядаліся ў ілюмінатары фотакамераў. І тут заміргалі ружовыя дэтэктары на серабрыстых касцюмах экіпажа. Дэтэктары мелі невялікую магутнасць і рэагавалі на жывых істот пры абследаванні паверхні. Праз хвіліну карабель застыў над шырокай далінай на вышыні некалькіх кіламетраў. Ён прайшоўся над раёнам, дзе рэагавала ружовае святло, і мякка лёг на гарачы пясок. Экіпаж узброіўся плазмерамі і праз шлюзавы адсек выйшаў на паверхню...

«Ты, мой любы камандзір, камандзір, камандзір, падары мне свой мундзір — падары мундзір!» — астранаўты спыніліся разам. Штосьці ім падалося незвычайным,і штосьці іх насцярожыла яшчэ больш. Гэтая песня, якая, быццам вогненная камета, пранеслася ў галаве кожнага, пасварыла іх у правінцыйным шынку «Піва Дыназаўра», дзе экіпаж адпачываў напярэдадні старту. Тады, пад модны шлягер, які ўжо добра паспеў надакучыць, у залу быццам уплыла чарнявая прыгажуня. Яна выконвала нейкі танец на тэму космасу і захавання асобы. Дзяўчына прыглянулася астранаўтам, і яны яе не падзялілі. Назаўтра, збянтэжаныя і крыху напалоханыя, абодва прыбеглі да псіхіятра, які быў іх добрым сябрам. Ён згадзіўся адключыць гіпнозам учарашні

выпадак з іх памяці — стрэліў у падсвядомасць кожнага імпульсам карабельнага кода: «Ты не маеш права гінуць!..» Камп'ютэрны тэст перад палётам астранаўты здалі.

«Падары мундзір!..» — зноў прагучаў абрывак песні. Астранаўты павярнуліся адзін да аднаго, быццам два бліскучыя галавасцікі. Кожны спацеў пад празрыстай бурбалкай скафандра, і ў кожнага напагатове быў узведзены плазмер. Нейкае імгненне яны стаялі і быццам абрыўкамі нямога кіно ўспаміналі хмельную валтузню на бруднай бамбукавай падлозе шынка. І гэтак жа, як і тады перад бойкай, у аднаго пачалі ўздрыгваць на пашчэнках жаўлакі, а ў другога да пераносся збегліся жорсткія маршчыны. Наўмысная смерць на невядомай планеце пакідала амаль незаўважныя сляды і здымала падазрэнні з таго, хто заставаўся ў жывых. Чамусьці гэтая думка прыйшлася даспадобы абодвум, і невядома, што здарылася б, калі б нечакана не міргнулі чырвоным вокам дэтэктары, і тады дзве постаці ў серабрыстых касцюмах востра адчулі, што для гэтага месца галактыкі яны вельмі чужыя. Астранаўты развярнуліся і прыселі, выставіўшы перад сабой зброю. Цяпер з нізкіх кустоў тырчэлі толькі скафандры і плечы. Навокал нікога не было, але з гэтым не хацелі пагаджацца дэтэктары. Астранаўты асцярожна падняліся і пачалі прыглядацца да кустоўя. І калі з аднаго боку ледзь заўважна варухнуліся крывыя галіны, чорныя рулі рэзка тузануліся ўніз і застылі ў напружаным чаканні. Спачатку з кустоў паказалася прадаўгаватая пыса з чорнымі пацеркамі вачэй, пасля выпаўзла ўся істота. Густая капа доўгіх іголак на спіне нагадвала дзікабраза ці вожыка. Калі да яе нахіліліся два засяроджаныя твары, істота чмыхнула і схавала пысу пад калючкі — напэўна, дала зразумець, што ў яе няма агрэсіўных

намераў. Адзін астранаўт распрастаўся і пачаў насцярожана азірацца. Другі паспрабаваў дакрануцца да істоты. Яму падалося, што яна ў чаканні дотыку напружылася кожнай іголкай. Ён паклаў руку на калючае паўшар'е. Тут жа бясшумная фосфарна-сіняя маланка працяла далонь і абвіла пальцы. Астранаўт ірвануў руку на сябе і пачуў прыглушаны стрэл. Гэта зламалася адна з іголак, за якую зачапілася пальчатка камбінезона. Перад вачыма астранаўтаў раптам паплылі каляровыя малюнкі. Акурат як на выставе ў дзіцячым садку касмічнага цэнтра: выцягнутыя твары з высокімі брывамі, белыя рамонкі, чырвоныя збудаванні невядомай і нелагічнай, на першы погляд, архітэктуры... Гэтыя карцінкі пастулова пачалі ажываць, і перад шклом скафандраў яскравымі ўспышкамі азначыўся цэлы перыяд жыцця нейкай абшчыны ці воласці...

Зялёнае мора млела ў салодкай дрымоце і ляніва напаўзала на бераг шапатлівымі хвалямі. Дзве жанчыны стаялі каля самай вады, кудысьці напружана ўглядаліся. За іх плячыма чырвонымі гмахамі ўзбіралася на пагорак селішча. Лёгкі вецер перабіраў доўгія чарнявыя валасы адной і заблытваўся ў белых пышных пасмах другой. Жанчыны былі апрануты ў празрыстыя балахоны, і праз матэрыю праглядваліся правільныя абрысы загарэлага цела. Жанчыны кагосьці чакалі, бо калі на гарызонце з'явілася ледзь заўважная кропка, твары іх пасвятлелі. Праз хвіліну да берага падплыла круглая ўвагнутая пласціна. З яе сышоў мужчына ў блакітным балахоне, ад якога сыходзілі празрыста-імклівыя промні. У мужчыны на руках апынулася істота з доўгімі зіхатлівымі іголкамі. Чарнявая жанчына расчыніла шкатулку, якую дагэтуль трымала ў руках, а бялявая дастала адтуль

бліскучастую іголку — такую ж, як у істоты. Мужчына ўзяў яе і ўваткнуў да астатніх, злавіўшы рукой сінявы зігзаг, пасля ступіў на пласціну, і яна павольна паплыла да гарызонта.

Жанчыны павярнуліся і пайшлі да селішча. Праз імгненне пачарнела неба, а мора застыла, быццам халодны воск. Аднекуль прыляцелі едкія пранізлівыя вятры — і рознакаляровая галька на ўзбярэжжы адразу выцвіла. Чырвоныя збудаванні селішча пачалі асыпацца шэрым пяском...

Астранаўты сядзелі і няўцямна глядзелі перад сабой. Побач валяліся непатрэбныя плазмеры. Ачуняўшы, экіпаж схаваў зброю, з хваляваннем, у чатыры рукі, падняў калючага напатканца і панёс да карабля. Дзве постаці ў бліскучых касцюмах былі падобныя да дзвюх рыбін — тых, што калісьці, даўным-даўно, на адной з планет ужо вынеслі розум з мора на сушу. Але там розум быў яшчэ недасканалы і неразвіты...

Карабель лёгка адштурхнуўся ад планеты, якая пачынала страчваць сваё прыцяжэнне, і бела-агністай стралой увайшоў у чарнату космасу. Цёмнаскуры астранаўт сядзеў у рубцы за штурвалам, адбываючы сваю змену, пакуль напарнік драмаў у спачывальні. Незвычайны госць сядзеў пад шкляным каўпаком. Бартавыя камп'ютэры ўтаропіліся на яго круглымі, блакітнымі маніторамі і ціха шчоўкалі. Астранаўт крыху расслабіўся і пачаў гадаць, якую ж узнагароду яны атрымаюць, калі ўсё абыдзецца добра ў гэтым рэйсе. Але тут рэзка і востра, быццам хтосьці адным узмахам увагнаў у патыліцу метанавы цвік, у яго вушах прагучала: «...камандзір, камандзір, камандзір, падары мне свой мундзір...» А ўслед за гэтым п'яны твар напарніка сцятымі да белых плямаў вус-

намі закрычаў перад самымі вачыма: «Ты, малпа! Чарнамазая малпа!!. Не лезь да маіх дзевак!» І чарнаскуры астранаўт забыў раптам, дзе ён знаходзіцца: ці то ў караблі, ці то ў шынку з такой з'едлівай назвай «Піва Дыназаўра». Ён павольна, быццам у сне, замяніў плазмеру энергаблок і ўвайшоў у спачывальню, шчыльна прычыніўшы за сабою дзверы. Калі там каротка і дробна сакатнуў плазмер, на верхнім паверсе пульта, быццам бы сама сабой, утапілася вузкая чырвоная клавіша. Спачывальню растрыбушаным ашмёткам выкінула ў адкрыты космас карабельная катапульта. І белыя прасціны ў чорнай пустаце яшчэ доўга даганялі карабель, усё роўна як забытыя кімсьці харугвы. А ў рубцы разам лопнулі ўсе маніторы, і на мяккі ворс падлогі ціха асыпаліся крывыя аскепкі шклянога каўпака...

* * *

Аднойчы на арбіту Зямлі з зашкаленымі радарамі і безупынным кодавым сігналам выйшаў даўні карабель, якога Яна стамілася чакаць. Карабель зрабіў некалькі імклівых віткоў, не адказваючы на запыты касмапортаў і, калі яго паспрабавалі пераняць, увайшоў у раён Чорных Прорваў і знік там. Толькі ў эфіры яшчэ доўга, незразумела чаму, гучаў кодавы сігнал, які цяпер маладыя пілоты нават не вывучаюць. А Зямля, як і раней, засталася чакаць вяртання даўняга карабля сярод шматлікіх вяртанняў іншых, шмат найноўшых караблёў, у спадзяванні, што калісьці зноў пачуе ў эфіры: «...я не маю права гінуць... я не маю права гінуць... я не маю права гінуць...»

## III

Лу-1 і Лу-2 сядзелі ў не вельмі элегантным і камфортным шынку «Метэарытны блюз» і смакавалі кіславатае піва. Апошнім часам Кіраўніцтва Касмічнага Цэнтра зрабіла добрай традыцыяй перад складанымі і далёкімі палётамі адпраўляць пілотаў на кароткачасовы адпачынак у правінцыю. Такія адпачынкі ў далечыні ад шумнай мітусні і забетанаваных вуліц дапамагалі астранаўтам набываць душэўны спакой і пранікацца большай любоўю да сваёй планеты. Магчыма, так думалі ў Цэнтры. Але браты Лу-1 і Лу-2 ірваліся ў палёт і былі з гэтым не згодны. Яны рыхтаваліся на караблі-амфібіі даследаваць малавядомыя раёны Чорных Прорваў. Пакуль там бывалі толькі лічаныя астранаўты. Падрыхтоўка да старту заканчвалася на вачах, калі ім выдалі два рэйсавыя квіткі і літаральна ўвапхнулі ў аэрафак. Тут, на Канарскіх астравах, ім падалося вельмі сумна. Увесь час яны сядзелі ў «Метэарытным блюзе», абстаўленыя півам, і не зводзілі вачэй з электроннага таймера. Ён адлічваў хвіліны іх правінцыйнага арышту... Калі загучаў папулярны матыў, браты не звярнулі на яго асаблівай увагі, хоць і ўспомнілі, што чырванашчокі гаспадар шынка сёння абяцаў ім нейкі сюрпрыз. Але праз хвіліну Лу-1 і Лу-2 ледзь не праглынулі адным разам па піўным пакеце. У залу ўбегла лёгкая і спрытная бландзінка. Святло патухла, і ў раптоўнай цемнаце толькі лыпаў здзіўлены таймер, а ў скрыжаванні двух пражэктараў скакала дзяўчына. Пышныя бялюткія валасы калыхаліся ў такт яе рухаў, узрываліся безліччу залацістых іскрынак, калі яна грацыёзна падскоквала і прысядала. Магутнае святло не адпускала яе, і праз тонкую вуаль праглядваліся плаўныя абрысы маладога, гнуткага цела. Калі скончылася музыка, калі ўспых-

нулі нечакана колкія неонавыя лямпы, браты толькі згледзелі, як у дзвярным праёме знікла тонкая вуаль. Лу-1 зірнуў на Лу-2 і ўбачыў на яго твары разгубленасць і захапленне. Лу-2 сустрэўся позіркам з братам і паспеў заўважыць у яго вачах салодкае прадчуванне флірту. Пілоты павольна ўсталі, не зводзячы адзін з аднаго позіркаў, і адкінулі ўбок стол. Піўныя пакеты з ціхім шапаценнем пакаціліся па бамбукавай падлозе. Браты не згодны былі саступаць адзін аднаму...

# ЦЕНІ МЫЛЬНЫХ БУРБАЛАК

* * *

Аднойчы, калі я выходзіў з пад'езда, мой сусед па восьмым паверсе Ізя Якаўлевіч упусціў мне на галаву тэлефон. Тэлефон жалобна дзынкнуў аб мой непрычасаны кацялок, рассыпаўся дробяззю запчастак і пластмасавай трухой.

— Казала табе — шапку надзень! — заенчыла з балкона жонка.— А ты зноў за сваё: снегу ўжо не будзе, бо каровы ў хлявах папрачыналіся. На, во табе — будзеш ведаць, як не слухацца жонку. Прыдурак!

І жонка папусціла ў мяне нашым тэлефонам. Ён ляцеў да мяне, такі знаёмы і родны, так лагодна матляў кароткім хвастом абрэзанага кабеля, з такой цікаўнасцю выгінала сваю доўгую змеепадобную провад-шыю трубка, што я аж заплакаў ад нечакана агарнуўшых мяне пачуццяў... Тэлефон бразнуўся аб мой ужо трохі прыглушаны кацялок і таксама разляцеўся шрапнеллю аскабалкаў. Я памацаў галаву і з гонарам зазначыў, што яна цэлая і на месцы.

— А-а, што ты робіш?! — перавесіўся з балкона Ізя Якаўлевіч і напусціўся на маю жонку.— Як мы цяпер будзем збіраць тэлефоны? Разам?! Там мае запчасткі перамяшаліся з вашым смеццем. Дзе справядлівасць? Яе не было ў трыццаць трэцім, калі я нарадзіўся, яе няма і цяпер.

— Прыцэльвацца трэба лепей было,— прабасіла

жонка, і цэлы квартал патануў у Тарзанавым клічы, якія яна гэтак хораша падрабляла.

Я заплюшчыў вочы, каб не палопаліся барабанныя перапонкі, і прычасаўся. «Разбірайцеся сабе як хочаце, а тэлефоны вам больш рамантаваць не буду!» — падумаў я і рушыў на працу.

Вечарам, калі вяртаўся дамоў, дык застаў на прыступках пад'езда Ізю Якаўлевіча. Ён сядзеў, абхапіўшы галаву рукамі, шаптаў штосьці пра Майсея і ў роспачы пaглядаў на параскіданыя навокал дэталькі. Ізя Якаўлевіч быў стараваты і даволі лянівы чалавек — таму не працаваў, і яму ўжо не было дзе ўзяць іншы тэлефон. А я адчуваў сябе досыць маладым і, мабыць, з гэтай нагоды паклаў сабе ў партфель новы апарат, які абрэзаў у кабінеце начальніка. Сусед злавіў мой пераможны позірк, памацаў раздзьмуты партфель і заплакаў. Да нас падбег завэдзганы Колька з суседняга пад'езда. Колька меў шэсць гадоў, і ў руках ён трымаў папяровую галаву коніка на белым драўляным кіёчку.

— Дзеду,— па-змоўніцку падміргнуў Колька,— не плач, дзеду. Я табе коніка падалую. Ён незвычайны, ён зацалаваны. Конік сена не плосіць. Толькі з ланіцы яму тлэба зубы пастай цысцыць...

Колька пабег у двор, а Ізя Якаўлевіч ускочыў конна на кіёчак, узмахнуў кволай рукой, быццам шабелечкай, і, цокаючы языком, ганарліва пагарцаваў на восьмы паверх. Пры гэтым ён раз-пораз вінавата азіраўся на мяне, быццам прасіў прабачэння за свае нечаканыя слёзы.

* * *

Неяк аднаго разу, калі мне было сумна і я вываліўся з сёмага паверха, дзесьці паміж трэцім і другім мне ў галаву прыйшла дзіўная думка: «А што з мяне

атрымаецца пасля таго, як ляснуся на асфальт?» Я ўявіў сабе гэтую карціну, і мне зрабілася крыўдна, што такі добры хлопец, як я, нечакана можа трапіць у няёмкае становішча. Ведаеце, гэтыя людзі ў белых халатах чамусьці заўсёды палохалі мяне каменнымі тварамі. Для такога зарэзаць чалавека — што плюнуць. «Ай!» — падумаў я і выпусціў закрылкі. Маё цела выйшла з піке каля самай зямлі — я нават паспеў ухапіць зубамі кімсьці згублены чырвонец і вярнуўся на знаёмы балкон сёмага паверха. Я сядзеў і думаў пра багацці цара Саламона, калі зверху цяжкім камяком прасвістаў уніз Ізя Якаўлевіч. «Ну, Ізя закрылкаў не мае. Гэта дакладна»,— падумаў я і, павесялеўшы, пачаў прыслухоўвацца. Свіст абарваўся, штосьці гучна спружыніла і зноў засвістала. Я хацеў паглядзець, ці на шмат змяніўся мой сусед, але знізу раптам павольна ўзняўся Ізя Якаўлевіч з абярэмкам нейкіх пакункаў і ўкуліўся на свой балкон. Нарэшце я зірнуў уніз: там з напятым брызентам стаялі мужчыны ў белых пальчатках.

У мяне зноў сапсаваўся настрой.

* * *

Дзеду Піліпу вельмі падабалася дзяцей частаваць. Настэвіць, шэльма, з ночы капканаў ды самастрэлаў, ямаў накапае, а як толькі віднець пачынае ды дзеці папрачынаюцца, дык ён іх і зазывае яблыкамі частавацца да сябе ў сад, як Стрыжыка ў жыта. І нахабны ж быў такі дзед-барадзед: сядзіць на ганку ды аж лекаціць, аж трасецца ўвесь, каб дзіцёнак які ў яму ўваліўся ці ў капкан убіўся. І рагоча тады на ўсю вёску — пакоціцца на спіну ды нагамі дрыгае ў лапцях разбэрсаных. Гэтак ужо яму смешна, дурню сівому.

Але аднойчы расшчодрыўся. Убачыў Піліп дзяцей

у садзе ноччу, сабак паспускаў і сам як выскачыць з-за хаты з сякераю вялізнаю наперавес! І ну махаць, быццам Хведар Набілкін:

— Хто ж так яблыкі крадзець?! Вось як патрэбна-та!..

Цяп-цяп і ссек такую яблыню, што днём, можа, і сам не здолеў бы рукамі абхапіць.

— Ну, што ж пасталі, дзеткі? Ешце ж яблычкі, ешце! Яны сма-ачныя...

Так да раніцы дзеткі яблыкі і елі. У адных жываты бурчэлі, а ў другіх пашчэнкі звяло.

* * *

Надакучыла дзеду Піліпу сад вартаваць. Дык ён прытаіўся за плотам з касою ў руках і цікуе, хітрун стары. А тут Родзька на фурманцы, з кветкаю ў капелюшы, да Гарбяліхі ў сваты бярэцца.

— Тпру-у, здыхатая,— дзед на вуліцу выскачыў, касою жах-жах — аброці-супоні перарэзаў.

Падсадзіў ён (дабрадушны быў часам чалавек) Родзьку кассём на каня. Родзька бухнуўся задам наперад, давай рукі ад удзячнасці дзеду цалаваць. Добра, што барада расла калматая, а то пачырванеў бы ад сораму дзед-барадзед. Сцёбнуў ён каня, той і панёс Родзьку туды, куды Макар цялят не ганяў. А Піліп Гарбяліху паклікаў і падмануў яе: кажа, давай, Гарбяліха, з табой у лес паедзем ды будзем сок спускаць. Гарбяліха і пагадзілася. Хлэпнулі яны па руках. Запрог дзед бабу ў аглоблі, умастаколіўся сам на пусты бляхан у возе, тузануў лейцы — і паехалі яны ў няблізкі свет да лесу сок спускаць.

Вось прыехалі. Піліп адразу давай па старой звычцы бярозы сячы: ссячэ і адразу пад камель бляхан валачэ. Гэтак ужо яму соку хочацца. Цягаў

Піліп бляхан, цягаў ад аднаго пня да другога, пасля — зірк, а ў бляхане суха. Пачухаў Піліп патыліцу: паўгектара бяроз высеклі, а соку няма, камары яго брыкалі. Тут Гарбяліха падышла і шчыра ва ўсім прызналася:

— Восень жа цяпер...

Агледзеўся Піліп — і праўда, восень навокал. Хацеў ён разгневацца на Гарбяліху, а пасля перадумаў: вар'ятка ж, грэх сердаваць. Ведала, што восень, і маўчала.

— Давай тады хоць смалу спускаць, каб паражняком не ганяцца. Кашу ёй будзем скварыць.

І пайшлі яны хвойкі сячы. Дзед з сякерай знізу, а Гарбяліха па суках скок-скок на самую вершаліну, быццам вавёрка, ды гайдае дрэва з боку ў бок, пакуль перасечаны камель не зламаецца. Вось так рана ці позна, а паўбляхана смалы яны назбіралі. Напрыканцы іхняй працы Гарбяліха хацела салютаваць дзвюма зламанымі хвойкамі, але, седзячы на адной, не дацягнулася да суседняй і бразнулася вобзем. Тут у яе спіна і распрасталася, а горб знік. «Ну, няхай цяпер п'яніца Родзька паспрабуе да мяне пасватацца. Я яму бельмы прачышчу»,— падумала Гарбяліха і пацягнула бляхан да воза. Упрог яе зноў Піліп у аглоблі, усеўся на бляхан, лейцы тузануў, а баба з месца крануцца не можа. Раптам з-за кустоў ляснік выскачыў з дубальтоўкай і ў касцы. Ідзе такі злы-злы, такі варожы-варожы і крычыць сіпла:

— Аўсвайс!.. Аўсвайс!..

Піліп, доўга не думаючы, бярозу падняў і папусціў у лесніка. Яна яго да зямлі прыціснула. Ляжыць ляснік, каску зняў, дубальтоўку пераламаў — без патронаў аказалася.

— Свой я, свой! — рагоча.— Але ж я вас і напалохаў!

— Ну й дурань жа! Восень навокал, а ты ўсё ў адных кальсонах ды басяком. Калісьці заснеш і прастудзішся,— уздыхнуў Піліп.

На воз ён не палез. Раптоўна да Гарбяліхі ў яго якаясьці павага і пяшчота прачнулася. Таму ўскочыў ёй на плечы, абхапіў за шыю. Гарбяліха, вясёлая, наўскапыта воз і паімчала. Толькі пыл закурэў.

* * *

Кастусю Худовічу і Хведару Жыровічу надта ж рыбы захацелася. А рыбакі з іх былі, скажам, нягеглыя ды недасведчаныя. Не тое што п'яніцы. П'яніцы з іх атрымаліся надзвычай рэдкія і каштоўныя: піцейны нюх, вопыт і стаж стварылі мужчынам добрую славу ганаровых наведвальнікаў элітарных бараў, піўных забягалавак і шматкроп'я прыватных фірм па здабычы самагонкі. Але ж рыбы мужчынам захацелася да няўцерпу.

— Паехалі,— пракаўтнуўшы сліну, кажа Хведар Жыровіч,— на рэчку, там і будзем рыбу лавіць.

— А ты ў ёй разбіраешся? — пытаецца Кастусь Худовіч, і бачна, што ён аж млее без рыбы.— Рыба, брат, што грыбы: адзін у кошык кладзеш, другі нагой футболіш. А так выцягнеш мухамора — і з капытоў.

— Не, я разбіраюся! — узгараецца Хведар Жыровіч.— Значыцца, так: добра падсоленую воблу, кільку ў таматнай падліве і мінтая ва ўласным саку будзем пакідаць, астатняе выкідаць.

— Ат, можна абмануцца з гэтай драбязой. Лепш злавіць што-небудзь адно, але вялікае.

— Сома! Давай сома зловім. Ён з вусамі — не зблытаеш. Дзед мой на смажанага вераб'я лавіў іх,— аж заскакаў ад радасці і звярынага апетыту Хведар Жыровіч.

— А што мы з ім будзем рабіць? — таксама пачаў скакаць Кастусь Худовіч, прадчуваючы, як цэлымі кавалкамі ён будзе глытаць разварыстае мяса.

— Засолім! А пасля з півам!! Па цэлым слоіку піва і — паміж намі засолены сом! Га, братка! Ляжыць, што парсюк, толькі вусы параскіданыя ў бакі, як вёслы. Вах, вах!..— Хведар Жыровіч заплюшчыў вочы і хутка-хутка заторгаў кадыком.

— Дурань! — падскочыў да яго Кастусь Худовіч.— Дзе твой нюх? Ён жа, сом гэты, усохне!! Усохне!!! Будзе не большы, чым жывы бычок у тамаце.

— Не ўсохне!..— прахрыпеў Хведар Жыровіч, адчуваючы, што ў яго проста з рота забіраюць кавалак салёнага сома, і схапіў сябра загрудкі.— Не ўсохне!

Так яны стаялі і тузалі адзін аднаго, пакуль Кастусь Худовіч не знайшоў выйсце:

— Трэба лавіць кіта. Калі ўсохне, дык будзе як жывы сом, а калі не ўсохне — як жывы кіт.

На гэтым і пагадзіліся. Ну, калі сома ловяць на смажанага вераб'я, дык кіту, напэўна, смажаны певень будзе ў самы раз. Злавілі яны чырвонабародага пеўня і зрабілі з яго пеўня-грыль. Пасля змайстравалі разборную вуду-гармату, пагрузілі яе на цягнік і паехалі ў Расею да мора. Там укапалі вуду ў бераг, утрамбавалі добра камянямі вудзільна, прычапілі сяміпудовае грузіла і чыгунны крук. На крук навесілі пеўня. Праўда, пакуль ехалі, грыль з'елі, і ад пеўня застаўся толькі шкілет. Прыцэліліся яны як мага далей і пульнулі з вуды-гарматы кіламетраў на сорак у мора. Сядзяць дзень, сядзяць другі. На трэці дзень пачало кляваць. Паплявалі мужчыны на рукі ды давай круціць махавік. Круцяць дзень, круцяць другі. На трэці дзень бачаць — ад гарызонта хваля ідзе агромністая. І к вечару выцяг-

нулі на бераг такога здаравеннага кіта! Чорны ўвесь, доўгі, тупаносы і гарбаты.

— Ну й наямося! — глытае сліну Кастусь Худовіч.

— Зараз будзем саліць! — вар'яцее ад радасці Хведар Жыровіч.

Тут з рыпеннем расчыняецца люк і вылазіць з кіта дзядок у засаленым мундзіры афіцэра і пакамечанай фуражцы.

— Мы ведалі, трыццаць гадоў спадзяваліся і верылі,— кажа ён, ляскаючы ад холаду пашчэнкамі і трасучы ад хвалявання нейкай картай,— што нас не пакінуць у бядзе і паднімуць з дна марскога. Тэлеграфуйце ў Маскву — заданне выканана. Куба й найдалей пойдзе сацыялістычным шляхам...

Вось табе і на! Прыгледзеліся мужчыны — побач знак стаіць: «Рыбная лоўля забаронена!» Запіхнулі яны дзядка назад, люк завінцілі ды пульнулі лодку зноў на сорак кіламетраў у мора.

Так яны рыбы і не паелі. Мацюкнуліся з інтанацыяй ды пайшлі ракаў лавіць.

# БЛЮЗ АСЕННІХ ВЯТРОЎ

Восень — пара ўспамінаў і настальгіі.

На вуліцы калючы вецер зрывае з дрэў апошнюю лістоту; сцюдзёныя кроплі дажджу гучна разбіваюцца аб шыбы, і нам нікуды не хочацца ісці, нічога не хочацца рабіць. Мы падыходзім у сваёй адзіноце да акна і можам бясконца ўглядацца невідушчымі вачыма ў мокрыя шыбы. А з Таго Боку за намі асцярожна цікуе Самотная гаспадыня. Яна глядзіць, як на вільготным шкле, быццам нямое кіно, пракручваюцца нашыя развагі, сумненні, вобразы, успаміны...

А яшчэ Восень свішча ў застрэшках, вые ў пад'ездах, шапаціць у парках, скуголіць па вакзалах — яна іграе свой блюз. Гэта цудоўная музыка — музыка настальгіі.

* * *

Я сніў...

Перада мною на каленях стаяла дзяўчына з апушчанай галавою. Я не бачыў яе твару: пасмы валасоў хавалі яго. Але бачыў прыгожыя рукі: бялюткая скура, танклявыя доўгія пальцы з ружовымі пазногцямі. Стуленыя далонямі рукі дзяўчына трымала перад сабой і штосьці ціха шаптала. Я чуў неразборлівыя перарывістыя словы. Гэта нагадвала шапа-

ценне лістоты ў восеньскім парку. Чароўныя гукі... Мне да няўцерпу захацелася зазірнуць дзяўчыне ў твар, але я не мог варухнуцца. Я адчуваў, як у маіх грудзях расце і шырыцца нейкае невядомае, няўцямнае, глыбокае і радаснае пачуццё да яе. То было Каханне. Я зразумеў гэта — і мне раптам зрабілася сорамна: на каленях павінен быў стаяць я, [redacted] не яна. Паспрабаваў пераадолець сваё здранцвенне, але тут дзяўчына перастала шаптаць, крыху памаўчала, а потым узняла галаву і зірнула на мяне. Яе твар быў увесь пабіты глыбокімі маршчынамі. Іх непрыхаванасць сведчыла, што дасягнуты той узрост, калі жанчыну перастае турбаваць яе выгляд. Напэўна, я жахнуўся, бо ў яе вачах з'явіўся адчай.

Яна раптоўна зніякавела, заплюшчыла вочы, і з-пад доўгіх веяў, пакідаючы за сабой мокрыя сляды, пакаціліся слёзы. Яны збягалі па шчоках і мяккаападалі на пажоўклае лісце, што ўсцілала зямлю...

Я прачнуўся...

У пакоі было халаднавата, і я з прыемнасцю адчуў цёплую важкасць коўдры. Па даху глуха і працяжна, быццам размаўляў сам з сабою нейкі п'яны чалавек, барабаніў дождж. Яго марудная ленасць упаўзала праз шчыліны ў дом, напускала млявасць і дрымоту. Неўзабаве я перамог сябе і ўстаў з ложка, падышоў да акна. Мяне сустрэў празрысты подых халоднага шкла.

Па вільготных шыбінах пракладалі сабе крывыя сцежкі буйныя кроплі.

* * *

У горад аднекуль прыцягласа стомленая старая. Яна блукала па брудных вуліцах, нікому не патрэбная, са спадзяваннем углядалася ў твары стрэчных. Людзі абыходзілі яе: рабілі выгляд, што не заўва-

жаюць. Старая ў роспачы падалася на стадыён: там хтосьці ж павінен яе пазнаць. Але на стадыёне якраз быў канцэрт, і нейкая жанчына выгуквала ў мікрафон, што мае сто сяброў, а цяпер хоча займець яшчэ і сто першага. Стадыён быў запоўнены людзьмі, і кожны чалавек хацеў стаць гэтым сто першым сябрам. Старая зноў адчула сваю нікчэмнасць і сышла. Нікім не чаканая госця, яна паклыпала ў стары завулак, зашылася ў цёмны кут і пачала марнець.

У тым завулку жыў я. Убачыўшы знямоглую жанчыну, я крыху павагаўся, расчыніў дзверы і выйшаў на ганак.

...Мы сядзелі пасярод узаранага поля за белым столікам і пілі гарбату. Ішоў ціхі дробны дождж, але над намі проста ў паветры вісеў вялікі парасон, і на мой белы гарнітур, на шырокі капялюш не трапіла ніводная дажджынка. Мне было спакойна. Жанчына сядзела насупраць і маўчала. Мне заўсёды падабалася, калі хтосьці не крычыць, не чапляецца з дакучлівымі пытаннямі, а маўклівай прысутнасцю стварае пэўны настрой. Я думаў пра свае недапісаныя апавяданні і раптам пачаў разумець, як іх трэба пісаць далей. Зірнуў на сваю спадарожніцу, але ўбачыў на яе месцы чалавека ў белым гарнітуры і капелюшы.

— Ну вось, нарэшце мы і пагаворым,— сказаў мой двайнік і паглядзеў на мяне блакітнымі вачыма.

У яго быў незвычайны, быццам акрылены незразумелым натхненнем, твар. Я падумаў, што ў мяне тады, напэўна, твар ідыёта.

— Пагаворым...— я ўцягнуў галаву ў плечы і сцяўся, адчуваючы, як пабеглі па скуры дрыжыкі, хоць у душы быў вельмі рады, што настала, урэшце, непазбежная размова.

— Апошнім часам ты ад мяне ўцякаеш... Што з табою робіцца?

— Так атрымліваецца... — мармытаў я, нервова папраўляючы гальштук,— так атрымліваецца... Жыццё такое.

— Табе не сорамна? — у знаёмым голасе чуліся роспач і бяссільная пагроза.

— Абрыдла ўсё...— ціха сказаў я.

— Навошта табе гэта? — мой двайнік сарваў з галавы капялюш, скамячыў і выкінуў.

Капялюш трохі пракаціўся, пэцкаючыся ў чарназём, кульнуўся набок і застаўся зыбець пад дажджом. Я апусціў галаву.

Нейкі час мы сядзелі моўчкі. А пасля я пачуў чыесьці крокі. Да нас, хлюпаючы па гразкім полі, ішоў сіваваты мужчына. Мутныя кроплі збягалі па мокрых валасах яму за каўнер, і мужчына ўвесь час крывіўся. Я пазнаў яго: гэта быў акцёр, які так даўно не выходзіў на сцэну, што забыў усе свае маналогі. Ён трымаў у руках паднос, на якім пад шкляным каўпаком стаяў чырвоны тэлефон. Акцёр паставіў паднос перад намі, зняў каўпак і зноў пайшоў у непагадзь.

Праз хвіліну тэлефон зазваніў. Мой двайнік ускінуў галаву і праціяў мяне ўчэпістым позіркам, але мая рука звыкла пацягнулася да трубкі.

— Слухаю...— ледзьве прагаварыў я.

— Слухаю, слухаю,— перадражніла мяне знаёмая дзяўчына дзесьці на другім канцы дроту.— Восень на дварэ, а ты зноў зачыніўся ў сваім катуху.

— Можа, напішу што...

— Давай лепш сходзім паслухаем, як падаюць каштаны.

— Давай,— выдыхнуў я і паклаў трубку.

...Я аблёгся на пісьмовы стол, завалены пажоўклымі аркушамі недапісаных апавяданняў, і нама-

гаўся штосьці ўспомніць. Побач стаяў тэлефон, і знятая трубка азывалася кароткімі гудкамі. Расчыненыя напята дзверы маёй кватэры рыпелі, быццам па кімсьці галасілі. Гэта старая... Яна сышла, яе не было. І раптам я ўспомніў, што калісьці даўным-даўно я добра ведаў і разумеў яе. Толькі неяк незаўважна мы згубілі адно аднаго, а пасля доўга шукалі сустрэчы, каб больш ніколі не развітвацца.

Да мяне прыходзіла Адзінота.

* * *

Па тратуарнай дарожцы ішлі двое. Ён глядзеў на яе танклявую паставу і не мог адвесці вачэй. Яна адчувала спінай цеплыню і пяшчоту ягонага позірку і прыслухоўвалася да ўзбуджанага тахацення свайго сэрца. На яе даўно так не глядзелі: у вачах шматлікіх кавалераў успыхвала галодная пажада, а не шчырыя пачуцці. Нават ва ўчэпістых позірках сустрэчных мужчын з'яўлялася паспешная нецярплівасць — быццам яны распраналі яе. А гэты позірк сагравaў. Ёй і сапраўды зрабілася ўтульна і цёпла сярод шэрай абыякавасці дамоў і вуліц. Дзяўчына спынілася і азірнулася. Да хлопца было далекавата, але яна ўбачыла, як засвяціліся ягоныя вочы. Дзяўчына падумала, што гэта, напэўна, і ёсць той чалавек, якога яна так чакала, а пасля і шукала. Хлопец упіўся доўгім позіркам ёй у твар і ледзь не самлеў, бо пазнаў тую, якая штоночы прыходзіла да яго ў снах. Яны памкнуліся адно да аднаго, але раптам пагрозліва забурчэла вуліца, што ляжала паміж імі. І тады, ні на што не зважаючы, заплюшчылі вочы і кінуліся насустрач...

Калі перасталі віскатаць шыны і лямантаваць клаксоны, калі ўсё сцішылася, хлопец з дзяўчынаю агледзеліся. Яны стаялі ў абдоймах пасярод вуліцы,

а вакол сабралася мноства машын. Але чамусьці ніхто не кінуўся да парушальнікаў з папрокамі і лаянкай. Людзі сядзелі ў кабінах і глядзелі, як цалуюцца закаханыя. Людзі ўспаміналі такія моманты ў сваім жыцці, і ў іх святлелі вочы. Успаміналі, што яны — людзі і што жыццё, якое б яно горкае і кепскае ні было, ёсць самае каштоўнае, што дадзена ім на гэтым свеце. Яны не спяшаліся заводзіць машыны і шалёна імчацца кудысьці ў зманлівую невядомасць. Людзі сядзелі і ўспаміналі сваё дзяцінства.

І толькі белы «сітраэн», нецярпліва сігналячы, асцярожна выбіраўся са стракатага скопішча.

* * *

— Дачушка,— сказала маці Восень маленькай Дажджынцы,— ты паляціш на Зямлю і будзеш прадвесніцай Вялікага Дажджу.

— Добра,— пагадзілася Дажджынка, выпала з блакітнага акенца свайго паветранага палаца і паляцела ўніз. Яе дагнаў дзядуля Вецер, ласкава пагаладзіў барадой, а пасля пасадзіў на шырокую далонь і панёс да Зямлі. Дажджынка доўга не магла выбраць, куды лепш упасці. Блізка-блізка падляцела яна да Зямлі. І калі ўжо не было куды дзявацца, раптам убачыла статую параненага воя...

Каля помніка стаяла жанчына з маленькім хлапчуком. Гэта быў даўні помнік. П'едэстал, на якім схіліўся вой, быў вышчарблены і патрэсканы. Жанчына часта прыходзіла сюды з сынам. Яго бацька загінуў на апошняй вайне — так і не ўбачыў свайго нашчадка. Але нейкім цудам, які жанчына не магла растлумачыць, вой зрабіўся вельмі падобны да мужа: рысы твару, пастава, нават разварот плячэй нагадвалі ёй каханага чалавека. Яна заўважыла гэтае

падабенства на другі дзень пасля пахавання і ад свайго нечаканага адкрыцця страціла прытомнасць. І цяпер, калі глядзела на воя, ёй здавалася, што гэта яе мужу страла прабіла даспехі і ўпілася ў бок.

Жанчына нарэшце адвяла вочы ад помніка, узяла сына за руку і сабралася адыходзіць.

— Мама, мама! — раптам здзіўлена заверашчала дзіця.— Глянь: рыцар плача!

Жанчына азірнулася. Па скрыўленай ад болю каменнай шчацэ параненага воя цякла скупая сляза.

* * *

Спелыя антонаўкі падаюць у мокрую пасля дажджу траву і свецяцца адтуль, як заплаканыя сонцы.

Бабулька ў залатаных гумавых ботах прывалакла з лесу кошык зялёнак, села на ганак і стомлена развязвае хустку.

На гародах паляць учарнелыя ламбы бульбяніку, і густы белы дым цягнецца па зямлі доўгім шлейфам.

Бацька накляпаў касу, занёс у хлеў і павесіў на сцяну — да вясны.

У паветры пахне першым снегам.

# ЗМЕСТ


Музыкаў хлеб — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — г. 3
Капэла весялосці — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 11
Бацька — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 31
Валетавы радасці — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 35
Кацяня — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 45
Гуліс — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 52
Паўлюк — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 56
Муха — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 61
Бранзалет — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 65
Лаліта і кактус — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 71
Дрэва, Душ і Пёрка — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 76
Халодная хлюпкая восень — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 80
Не жартуй з кампосцерам — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 86
Час, калі плавіцца Сонца — — — — — — — — — — — — — — — — — — 103
Той, хто будуе горад — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 110
Сістэма Баслі — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 121
Чацвёртыя ад Рэгула — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 143
Беркуты (*трагедыя-прыпавесць у дзвюх дзеях*) 149
Па-за шклом скафандра — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 197
Цені мыльных бурбалак — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 206
Блюз асенніх вятроў — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 214

**Клімовіч У.**

К 49 Той, хто будуе горад: Апавяданні, трагедыя-прыпавесць.— Мн.: Маст. літ., 1997.— 221 с.— (Першая кніга празаіка).

ISBN 985-02-0023-5.

У фантастычнай трагедыі-прыпавесці «Беркуты» аўтар даследуе, што можа здарыцца, калі штучна стварыць ізаляванае звышграмадства. Вольнаму беркуту Басару грыфы выдзеўблі вочы. Хоць важак чарады Фаран імкнецца цвяроза разважаць, каб дазнацца праўду і выкрыць ману, урэшце і ён пачынае грэбаваць парадамі мудраца Ушэна і паддаецца агульнаму псіхозу. Чарада беркутаў рыхтуецца да вялікай бойкі з чарадой грыфаў...

Малады празаік смела выступае і ў складаным жанры кароткага апавядання, дзе на сямі-васьмі старонках неабходна паспець завалодаць увагай чытача, раскрыць сюжэт і знайсці самыя яскравыя рысы для герояў, каб стварыць каларытныя вобразы.

**ББК 84(4Бен)6**

Літаратурна-мастацкае выданне

**Клімовіч Уладзімір Аркадзьевіч**

ТОЙ, ХТО БУДУЕ ГОРАД

Апавяданні, трагедыя-прыпавесць

Рэдактар А. П. Рыбак. Мастак Р. С. Сітніца. Мастацкі рэдактар А. І. Цароў. Тэхнічныя рэдактары Л. М. Шлапо, М. Ц. Папкова. Карэктар Я. А. Бебель.

Здадзена ў набор 06.01.95. Падп. да друку 05.06.97. Фармат 70×100 1/32. Папера афс. № 1. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 9,10. Ум. фарб.-адб. 9,43. Ул.-выд. арк. 8,78. Тыраж 2000 экз. Зак. 1615.

Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1996

*Набывайце і чытайце новыя кнігі маладых беларускіх празаікаў*

## В. Праўдзін

БОЛЬ (СПОВЕДЗЬ МІЛІЦЫЯНЕРА)

*Аповесць, апавяданні*

## Н. Прокопчик

КАТАСТРОФА В СОЗВЕЗДИИ ДЕВЫ

*Рассказы*



1967 г.— нарадзіўся ў вёсцы Ігнаткаўцы на Лідчыне;
1984 г.— выпускнік Голдаўскай дзесяцігодкі, студэнт акцёрскага аддзялення Беларускай акадэміі мастацтваў;
1986 г.— радавы Ваенна-паветраных сілаў;
1989 г.— старшыня літаратурнага аб'яднання «Крыніца»;
1990 г.— кіраўнік школьнай тэатральнай студыі, дыпломнік Акадэміі мастацтваў;
1991 г.— загадчык аддзела літаратуры ў часопісе «Зрок»;
1992 г.— адказны сакратар штотыднёвіка «Культура»;
1993 г.— на творчай працы.
Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка «Пад знакам Стральца». Выдаў кнігу прозы «Выратаванне бездані» ў серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць».